АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1974

Ж11
С(Бел)Ф



Уступны артыкул, укладанне,
сістэматызацыя тэкстаў і каментарыі
**А. С. Ліса**

Уступны артыкул, укладанне
і сістэматызацыя напеваў
**В. І. Ялатава**

Ж 11 **Жніўныя песні.** Рэд. А. С. Фядосік. Мн., «Навука і тэхніка», 1974.

816 с. з нот. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Том уключае зажынкавыя, уласна жніўныя і дажынкавыя песні. Сярод іх вылучаюцца песні з ярка выяўленай антыпрыгонніцкай тэматыкай. Прыводзяцца шматлікія запісы напеваў, многія з якіх адносяцца да тэкстаў, змешчаных у томе. Том суправаджаецца ўступнымі артыкуламі, навуковым каментарыем, геаграфічнымі паказальнікамі.— Літ. у падрадк. заўвагах.

Ж $\frac{0743\text{-}122}{М316\text{-}74}$ 209-73 С(Бел)Ф

# ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

Сярод песень гаспадарчага календара — гэтай залатой скарбніцы беларускай народнапесеннай культуры — жніўным песням належыць асабліва значнае месца. Складаючы разам з купальскімі і пятроўскімі адзіны летні цыкл гадавога круга песень, яны ў адрозненне ад іншых відаў вытворча-абрадавай паэзіі найвыразней выявілі сувязь з працай, што дало падставу фалькларыстам (А. Рыпінскаму, а пазней А. Шлюбскаму і інш.) назваць жніўную песню рабочай песняй, песняй працы.

Жніўная песня была звязана з адным, самым адказным этапам у жыцці селяніна — са зборам ураджаю азімых. І хоць яе сувязь з абраднасцю не намнога меншая, чым у іншых відаў каляндарна-абрадавых цыклаў, не абрадавы, дакладней, не столькі абрадавы, колькі вытворчы, працоўны аспект вызначае спецыфіку жніўнай песні, робіць яе асабліва каштоўнай з пункту гледжання таго, як адлюстраваны ў ёй народнае жыццё, працоўны быт, перажыванні і ўяўленні даўніх беларусаў.

Не выпадковая жывая неаслабная ўвага да жніўнай беларускай паэзіі збіральнікаў і даследчыкаў фальклору, а таксама паэтаў, кампазітараў, мастакоў.

Першым аддаў належнае беларускай жніўнай песні, пачаў збіраць яе Зарыян Даленга-Хадакоўскі — фалькларыст і даследчык славянскіх культур [1].

У вядомым парыжскім выданні А. Рыпінскага «Białoruś» ужо ёсць апісанне асноўных момантаў жніўнага абраду і пададзена некалькі ўзораў жніўнай песні [2].

У 30-я гады XIX ст. на Навагрудчыне і Міншчыне жніўныя песні запісвалі Ян Чачот, Рамуальд Падбярэзскі. Запісы Падбярэзскага не пабачылі свету. Трагічны лёс збіральніка перашкодзіў іх публікацыі. Аднак запісы не згінулі і нядаўна знойдзены ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве ў архіве П. Бяссонава [3]. Жніўныя песні, запісаныя Чачотам, надру-

[1] Л. А. Малаш-Аксамитова. З. Доленга-Ходаковский (Адам Чарноцкий) и его наследие. «Lud», 51, 1967.

[2] Aleksandr Rypiński. Białoruś. Kilka słów o poezii prostego ludu... Paryż, 1840.

[3] Цэнтральны Дзяржаўны гістарычны музей СССР, аддзел пісьмовых крыніц, ф. 56 (неапрацаваны).

каваны ў беларускім дадатку да 4-га выпуску яго «Piosenek wieśniaczych» і ў 6-м выпуску гэтага ж выдання (14 тэкстаў)[4].

Яўстафій Тышкевіч у кнізе «Апісанне Барысаўскага павету» даў замалёўку жніўных абрадаў і прывёў некалькі тэкстаў песень, у асноўным ужо вядомых з выданняў Рыпінскага і Чачота[5].

Некалькі жніўных песень з Быхаўшчыны пададзена ў зборніку «Беларускія народныя песні» Е. П. (1853).

У 1853 г. вельмі каштоўную публікацыю па жніўных абрадах і песнях Міншчыны і Віцебшчыны зрабіў вядомы фальклярыст, этнограф і пісьменнік П. М. Шпілеўскі[6]. У гэтым жа годзе ў ліку іншых народных твораў 5 тэкстаў жніўных песень Дзісеншчыны надрукаваў С. П. Мікуцкі[7].

А. Кіркор у артыкуле «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» прывёў яшчэ некалькі новых тэкстаў жніўнай песні[8]. Запісы жніўнай паэзіі знайшлі месца і ў зборніках П. Гільтэбрандта і М. Дзмітрыева[9]. Паадзінкавыя тэксты жніўных песень апублікавалі М. Рубяроўскі, П. Чубінскі, А. Булгакаў, П. Авенарыус, Я. Карскі[10].

Кароткі нарыс жніва і жніўнага абраду па паўночна-заходніх беларускіх этнічных узмежках даў хтосьці І. К.[11] Больш шырокае апісанне жніў-

---

[4] Jan Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny z dołączeniem pierwotwornych w mowie słowiano-krewickiej. Wilno, 1844; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, niektúre przysłowia i idiotyzmy w mowie słowiano-krewickiej s postrzezeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.

[5] Eustachy Tyszkewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

[6] П. Шпилевский. Обряды поселян Витебской и Минской губерний при уборке хлеба с полей. «Пантеон», т. 9, кн. 6. СПб, 1853.

[7] Белорусские песни и загадки, записанные в Витебской губернии в имении Зябки Дриссенского уезда, сообщенные С. П. Микуцким. «Известия имп. Академии наук по отделению русского языка и словесности», т. 2. М., 1853.

[8] Этнографический сборник, вып. III. СПб, 1858.

[9] П. Гильтебрандт. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильна, 1866; М. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869.

[10] «Виленский вестник», 1867, № 76; П. П. Чубинский. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край..., т. III. СПб, 1872; Памятники народного творчества в Минской губернии, собранные А. М. Булгаковым. «Виленский вестник», 1881, № 146, 147; Образцы белорусского наречия разных местностей, доставленные П. Авенариусом. Сборник отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, т. 46. СПб, 1890; Е. Карский. Белорусские песни деревни Новоселок-Затрокских Виленской губернии Трокского уезда. «Русский филологический вестник», т. XXIII. Варшава, 1889.

[11] И. К. Жатва у белорусов. «Ковенские губернские ведомости», 1890, № 39. Приложение к неофициальной части.

най абраднасці і звязаных з ёю народных уяўленняў знаходзім у М. Нікіфароўскага і Ю. Крачкоўскага [12].

Каля двух дзесяткаў песень з Магілёўшчыны ёсць у А. С. Дамбавецкага [13]. Значную колькасць тэкстаў жніўных песень можна знайсці ў выпушчаных у 90-я гады зборніках Д. Булгакоўскага, М. Доўнар-Запольскага, публікацыях М. Янчука [14].

Некалькі папоўнілі калекцыю фальклорнай жніўнай беларускай паэзіі публікацыі, зробленыя ў канцы XIX і пачатку XX ст. у польскіх навуковых выданнях К. Тышкевічам, А. Гурыновічам, А. Чэрным, Э. Кліхам, К. Машынскім [15]. Не абмінуў сваёй увагай беларускай песні, у тым ліку і песні жніўнай, вядомы чэшскі збіральнік і даследчык славянскіх культур Людвіг Куба [16].

Аднак асноўны фонд жніўнай паэзіі пачынаючы з 80-х гадоў XIX ст. быў сабраны дзякуючы нястомнай збіральніцкай працы фалькларыстаў новай школы, такіх, як І. Насовіч, П. Шэйн, Е. Раманаў, З. Радчанка, М. Федароўскі, С. Сахараў [17] і інш.

Сярод апублікаваных у пачатку XX ст. песенных матэрыялаў жніўная паэзія ёсць у зборніках У. Дабравольскага, С. Малевіча, І. Сербава [18], у публікацыях А. Розенфельда, Я. Ляцкага, А. Пшчолкі, М. Косіч, Н. Бела-

[12] Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья. Витебск, 1897; Ю. Крачковский. Быт западнорусского селянина. М., 1874.

[13] А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 1. Могилев-на-Днепре, 1882.

[14] Д. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический сборник. СПб, 1890; М. Довнар-Запольский. Белорусское Полесье, вып. I. Песни пинчуков. Киев, 1895; Н. А. Янчук. Доклад о поездке в Белоруссию. «Известия общества любителей естествознания, антропологии и этнографии», вып. 61, кн. 9. М., 1887.

[15] Konstanty Tyszkiewicz. Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871; Adam Hurynowicz. Zbiór rzeczy białoruskich..., Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XVII, cz. II, 1893; Adolf Černy. Pieśni białoruskie z powiatu Dzisnieńskiego... Zbiór wiadomości, t. XVIII, 1895; Edward Klich. Texty białoruskie z powiatu Nowogródskiego. Materyjały i prace Komisyi językowej, t. II. Kraków, 1903; Kazimierz Moszyński. Poliesie Wschodnie. Warszawa, 1928.

[16] Ludwig Kuba. Slovianstvo ve svych spewech. Kh. IV. Praha, 1885.

[17] Белорусские песни, собранные И. Н. Носовичем. Записки имп. Русского географич. общества по отделению этнографии, т. V. СПб, 1873; Белорусские песни, собранные П. В. Шейном. СПб, 1873; П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887; Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. I и II. Киев, 1886; яго ж. Белорусский сборник, вып. 8. Вильна, 1912; З. Радченко. Гомельские народные песни. СПб, 1888; С. Сахараў. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940; Michał Federowski. Lud białoruski, t. V. Warszawa, 1958.

[18] В. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, т. IV. СПб, 1903; С. Малевич. Белорусские песни. СПб, 1907; И. Сербов. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.

царкаўца [19], сумеснай публікацыі І. Белановіча, А. Сніткі, А. Радзялоўскай [20], у выдадзеных пад рэдакцыяй Е. Раманава «Матэрыялах па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (1911).

Зборнікі А. Грыневіча, другі зборнік З. Радчанкі, 7-ы выпуск «Белорусского сборника» Е. Раманава [21] далі некалькі ўзораў жніўных мелодый. Першыя навуковыя публікацыі традыцыйных жніўных песень у савецкі час належаць А. Сержпутоўскаму, А. Шлюбскаму, М. Гарэцкаму і А. Ягораву [22].

Каштоўныя запісы жніўнага меласу дае першы том «Песень беларускага народа», выдадзены напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны [23]. Некалькі новых тэкстаў жніўных песень ёсць у зборніку «Жанчына ў беларускай народнай творчасці» (1940).

У ліку іншых жанраў фальклору жніўныя песні ў пасляваенны час апублікавалі Р. Шырма, М. Чуркін, Г. Цітовіч [24].

Паадзінкавыя музычныя запісы жніўнай песні ёсць у публікацыях В. Ялатава, Э. Ледаховіча [25].

Упершыню для даследавання беларускі жніўнапесенны матэрыял быў прыцягнуты рускімі філолагамі XIX ст. Больш шырока факты жніўных

---

[19] А. Розенфельд. Белорусские народные песни. Сборник отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, т. XXVII, № 3, 1904; Е. Ляцкий. Материалы по белорусской словесности и языку. «Известия отделения русского языка и словесности имп. Академии наук», IV. СПб, 1904; А. Пщелко. Зажинки и обжинки. «Витебские губернские ведомости», 1903, № 207, 240, 283; М. Косич. Белорусы-литвины Черниговской губернии. «Живая старина», III—IV. СПб, 1901; Н. Белоцерковец. Жатвенные песни в Борисовском уезде Минской губернии. Записки Северо-Западного отдела имп. Русского географич. общества, кн. 3. Вильна, 1912.

[20] А. И. Родзяловская, А. К. Снитко и И. Белановия. Сказки, легенды, песни. «Минская старина», вып. II, 1911.

[21] A. Hrynievič. Biełaruskije piesni z notami, t. I. Pieciarburh, 1910; А. Грыневіч. Народны спеўнік. Вільня, 1920; З. Радченко. Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. Гомельского уезда Дятловицкой волости. СПб, 1911; Е. Романов. Белорусский сборник, вып. 7. Вильна, 1910.

[22] А. К. Сержпутовский. Отчет о поездке в Гомельскую губернию. Минск, 1926; А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 1. Мінск, 1927; М. Гарэцкі і А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928.

[23] М. Я. Грынблат. Песні беларускага народа, т. I. Мінск, 1940.

[24] Р. Шырма. Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі. Мінск, 1947; яго ж. Двести белорусских песен. М., 1959; яго ж. Беларускія народныя песні, т. III. Мінск, 1962; М. Чуркін. Беларускія народныя песні і танцы. Мінск, 1949; яго ж. Беларускія народныя песні. Мінск, 1959; Г. Цітовіч. Песні беларускага народа. Мінск, 1959; яго ж. Анталогія беларускай народнай песні. Мінск, 1968.

[25] В. І. Елатаў. Ад песні да песні. Мінск, 1961; Э. Ледаховіч. Песні Гродзеншчыны. Мінск, 1962.

абрадаў беларускіх, самі жніўныя песні былі выкарыстаны ў працы польскага этнографа Я. Ст. Быстраня [26].

Як асобны від народнай паэзіі беларуская жніўная песня ўпершыню даследавалася акадэмікам Е. Ф. Карскім у яго фундаментальнай працы «Беларусы» (1916). Праўда, не лішне агаварыцца, што жніўнай песні ў параўнанні з іншымі відамі каляндарна-абрадавай паэзіі вучоны ўдзяліў менш увагі. І ўсё ж ён даў кароткае апісанне найважнейшых кампанентаў жніўнага абраду, ахарактарызаваў у асноўным тэматыку жніўных песень, спыніўся на вытлумачэнні асобных момантаў абраднасці і звязаных з ёй уяўленняў.

Агульную характарыстыку жніўных песень знаходзім у П. Каравая [27].

Яшчэ адным доказам, які багаты і ўдзячны матэрыял для росшукаў у галіне народных уяўленняў аб працы складае беларуская жніўная песня, з'яўляюцца даследаванні рускіх савецкіх этнографаў Д. Зяленіна і Н. Ціханіцкай.

Зяленін засяродзіў увагу ў асноўным на адным з момантаў жніўнага абраду, вядомым пад назваю «барада», або «спасава барада», як часцей называюць яго на Украіне [28]. Даследчык не схільны падтрымліваць пашыраную ў навуцы думку аб тым, што пад «барадой», або «спасавай барадой», старажытны чалавек разумеў казлападобных духаў нівы. Між іншым гэта думка, якая ўзыходзіць да Мангардта, падтрымлівалася Патабнёй, падзяляў яе і акадэмік Карскі. Услед за ўкраінскім этнографам і гісторыкам першабытнага грамадства К. Капяржынскім Зяленін бачыць у гэтым абрадзе «імітацыю, магічнае сеянне хлеба на будучы год» [29]. Вучоны разглядае розныя віды гэтага абраду і спыняецца асобна на ўплыве, які аказалі на «спасаву бараду» іншыя абрады, напрыклад абрад продкаў, вясельны.

Н. Ціханіцкая падрабязна спынілася на адным з характэрных момантаў жніўнай абраднасці — спарышы — двайным коласе [30]. Вывады даследчыцы зводзяцца ў асноўным да наступнага.

З развіццём земляробства магічныя прыёмы забеспячэння росту збожжа старажытным чалавекам былі развіты ў цэлы комплекс абрадаў. Анімістычная форма мыслення зрабіла спарыш жывой зоаморфнай істотай, здольнай забяспечыць спор — дабрабыт у гаспадарцы. Прынос спарыша ў хату ў выглядзе снапка ці вянка і заклінанне спору — магічны акт. Пры звароце да спарыша як да адухоўленай істоты заклінанне ператваралася ў просьбу.

---

[26] J. S. Bystroń. Zwyczaje żniwiarskie w Polsce. Kraków, 1916.

[27] П. Каравай. Беларуская народная вусная творчасць. «Адраджэнне», сш. 1. Мінск, 1922.

[28] Д. Зеленин. Спасова борода. Східнеслов'янські хліборобські обряд жнівярскі. «Етнографічний вістник», III. Київ, 1929.

[29] Там жа, стар. 119.

[30] Н. Тихоницкая. Спорине в жатвенных обрядах и песнях, преимущественно белорусских. «Язык и литература», т. 8. Л., 1932.

На першым часе, паводле думкі Ціханіцкай, магічнае дзеянне спарыша распаўсюджвалася толькі на вытворчы працэс. З цягам часу значэнне яго ў народнай практыцы пашырылася і звязаныя з ім паняцці набылі сэнс пры варажбе, лячэнні і г. д. Са спарышом, нарэшце, пачалі звязваць уяўленне пра шчасце наогул.

Ціханіцкая адна з першых сярод этнографаў звярнула ўвагу на той факт, што прыгонныя адносіны найбольш выразна «выявіліся ў беларускіх матэрыялах»[31]. Да яе пра выразны сацыяльны аспект жніўных песень гаварылі Максім Гарэцкі[32] і Змітрок Бядуля[33]. Больш падрабязна антыпрыгонніцкія матывы беларускай жніўнай паэзіі разгледзеў ва ўступным артыкуле да зборніка «Жанчына ў беларускай народнай творчасці» М. Я. Грынблат.

У апошнія гады беларуская савецкая навука аб фальклоры зрабіла пэўны крок у сваім развіцці. Аб'ектам даследаванняў становяцца розныя яго жанры, у тым ліку каляндарная паэзія.

Агульную характарыстыку беларускай жніўнай песні знаходзім у «Нарысах па беларускаму фальклору» (1963) К. П. Кабашнікава, у падраздзеле «Абрадавая паэзія», напісаным П. П. Ахрыменкам для вучэбнага дапаможніка «Беларуская вуснапаэтычная творчасць». Крыху шырэй разглядаецца яна М. Грынблатам у раздзеле «Каляндарна-абрадавая паэзія» з калектыўнай манаграфіі «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967).

Прынцыпова важнымі для пазнання мастацкай прыроды жніўнай песні, паўнейшага раскрыцця яе сацыяльнай функцыі з'явіліся даследаванні музыказнаўцаў З. Эвальд[34], В. Ялатава[35]. Цікавыя звесткі аб сучасным стане жніўнай песні на Палессі, умовах яе бытавання і асаблівасцях стылю дае манаграфія З. Мажэйкі[36].

Як можна бачыць з гэтага кароткага агляду прац, прысвечаных беларускай жніўнай песні, у іх закрануты і ў той ці іншай ступені асветлены некаторыя аспекты яе жанравай прыроды, функцыянальнай ролі. Зразуме-

---

[31] Н. Тихоницкая. Спорине в жатвенных обрядах и песнях..., стар. 72.

[32] М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. М.—Л., 1924.

[33] Змітрок Бядуля. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках. Мінск, 1924.

[34] З. В. Эвальд. Социальное переосмысление жнивных песен белорусского Полесья. «Советская этнография», 1934, № 5.

[35] В. І. Ялатаў. Ладава-меладычныя асаблівасці беларускіх жніўных песень. Беларускае мастацтва, вып. II, 1960; яго ж. Ад песні да песні. Мінск, 1960; яго ж. Ладовые основы белорусской народной музыки. Минск, 1964; яго ж. Ритмические основы белорусской народной музыки. Минск, 1966.

[36] З. Можейко. Песенная культура Белорусского Полесья. Минск, 1971.

ла, аднак, што жніўная песня застаецца яшчэ не вывучанай так, як яна таго заслугоўвае.

Жніўная паэзія — адзін з самых старажытных пластоў беларускай народнай творчасці. Карэнні яе сягаюць у тыя далёкія часы, калі прашчуры сучасных беларусаў узяліся за рала і на адваяваных у леса дзялянках пачалі сеяць збажыну. Сведчанне таму — паасобныя рэліктавыя з'явы радавога грамадства, што засталіся ў жніўных абрадах і песнях. У эпоху феадалізму ўжо цалкам склаліся жніўныя абрады і адпаведны ім цыкл жніўных песень.[37] Аднак развіццё жанру ішло далей, і ў эпоху разлажэння прыгонных адносін, усяго феадальнага ладу адбыліся значныя змены ў сацыяльнай функцыі гэтага віду народнай песнятворчасці.

Хоць ужо А. Рыпінскі даў у агульных рысах уяўленне пра абрады беларускага жніва, але толькі ў Шпілеўскага знаходзім больш поўнае апісанне бытавання беларускай жніўнай песні ва ўмовах і асяроддзі, што яе спарадзілі.

Этнаграфічныя запісы П. Шэйна, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, Ю. Крачкоўскага і іншых дапаўняюць некаторыя моманты, канкрэтызуюць дэталі абрадаў па розных мясцовасцях. Усе разам яны даюць магчымасць узнавіць карціну жніўных абрадаў і звязанай з імі песнятворчасці на ўсім беларускім абшары.

Усе этнографы, як правіла, у адпаведнасці з этапамі жніва называюць два асноўныя моманты жніўнага абраду, або асобныя жніўныя абрады: зажынкі (зажон) і дажынкі (дажон, абжынкі). Само жніво, або ўласна жніво, не было абстаўлена абраднасцю. Тут выступаў сам працэс працы, напружанай, цяжкай, які не пакідаў месца нічому лішняму, ніякаму цырыманіялу.

Пачатку жніва звычайна папярэднічалі так званыя агледзіны жыта. Гаспадар выпраўляўся на палетак, каб даведацца, ці даспеў колас, ці пара пачынаць жніво [38].

У адрозненне ад іншых этнаграфічных крыніц у нарысе Шпілеўскага «Абрады сялян Віцебскай і Мінскай губерняў пры ўборцы хлеба з палёў» гаворыцца яшчэ аб адным абрадзе, што адбываўся ў пярэдадзень жніва,— пакрыванні поля.[39] На золку ў поле выходзіла маладзіца, найчасцей з тых, што нядаўна выйшлі замуж, і ў прысутнасці некалькіх дзяўчат нажынала невялікі снапок жыта. Абхінуўшы яго світкаю, ручніком або кавалкам новага палатна, падкідала ўгору прыгаворваючы:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку.
Парадзі, божа, наша збожжа!

---

[37] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Мінск, 1967, стар. 76.
[38] П. В. Шейн. Материалы..., стар. 328.
[39] «Пантеон», т. 9, кн. 6, 1853, стар. 19—34.

Дзяўчаты, лёгка кружачыся, ёй падпявалі:

Крыта, крыта!
Поўна жыта!..[40]

Апошнія словы спявалі, прыйшоўшы ў хату. Маладзіца аддавала снапок гаспадыні, а тая дарыла ёй палатно і грошы. Гаспадар, да якога маладзіца падыходзіла з паклонам, частаваў яе гарэлкай і запрашаў на дажынкі. Па сведчанню Шпілеўскага, праз два дні пасля пакрыцця поля пачыналіся зажынкі.

У абрадзе пакрывання поля выразна праступаюць рысы анімістычных уяўленняў, прыкметы аграрнай магіі, заснаванай на веры ў моц слова. У падкіданні снапка ўгору некаторыя даследчыкі бачылі магічнае дзеянне, накіраванае на тое, каб выклікаць рост на другі год[41]. Пакрыванне снапка палатном, наміткаю і інш., мабыць, звязана з уяўленнем аб самім сэнсе і назве абраду і мае, бясспрэчна, магічную аснову. Слова «пакрыццё» добра вядомае ў беларускай мове: укладзенае ў яго паняцце звязваецца з апладненнем хатняй жывёлы. Пакрыццё поля — імкненне забяспечыць яго пладнасць.

Зажынкі, як аб гэтым сведчаць усе друкаваныя этнаграфічныя крыніцы, найчасцей пачыналіся ў суботу надвячоркам з тым разлікам, каб нажаць на цэлы мэтлік (бабку, дзесятку) і каб захад сонца застаў жняю ў палавіне работы[42].

Перад выхадам на зажон начыста вымывалі ў хаце, стол засцілалі белым абрусам. Выбіралася на ніву гаспадыня адна або з дочкамі ці нявесткамі. Пры гэтым трэба было быць апранутым у чыстае адзенне. Зажынальніца брала з сабой акраец хлеба і спецыяльна для зажынак адціснуты сыр[43]. У іншых месцах з сабою бралі хлеб, соль, кавалак сала, свечку[44]. Хрысціянства за доўгія гады адклала свой адбітак на гэты старажытны абрад, аднак не змяніла сэнсу яго, закрануўшы толькі форму.

Падышоўшы да нівы, зажынальніца віталася з ёй: «Добры дзень, ніўка, ядраное жыта! Я к табе прыйшла!»[45] Нажаўшы першы сноп, яна спачатку ставіла яго прыгаворваючы: «Стаўлю сноп на сто коп, на тысячу мерак»—і затым клала яго на ржышча, падкладваючы пад ніз прынесены хлеб і сыр[46]. Потым ужо жала без перапынку. Нажаўшы не больш 10—

---

[40] «Пантеон», т. 9, кн. 6, 1853, стар. 19.

[41] Н. Тихоницкая. Спорине в жатвенных обрядах и песнях..., стар. 62.

[42] Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья, стар. 110; П. В. Шейн. Материалы..., стар: 239.

[43] П. В. Шейн. Материалы..., стар. 239.

[44] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 239.

[45] Там жа.

[46] П. В. Шейн. Материалы..., стар. 239—240.

20 снапоў і паставіўшы бабкі, з песнямі вярталіся дамоў. Першы нажаты малюсенькі снапок зажынальніца несла з сабой і стаўляла дома на покуце [47].

Этнаграфічныя запісы Шпілеўскага, зробленыя на чвэрць стагоддзя раней запісаў Шэйна, які не без жалю канстатаваў, што 20 год таму жніўныя абрады яшчэ захоўваліся цалкам, дазваляюць не толькі паўней уявіць сам абрад, але і так неабходную канкрэтную сувязь песень з ім. Сведчанні Шпілеўскага праліваюць святло на ідэйна-сэнсавую сутнасць, функцыянальную ролю і тых песень, якія асобна ад абраду выглядаюць проста імправізацыйнымі ўрыўкамі з невыразным сэнсавым і вобразным зместам. Таму варта падрабязна спыніцца на сведчаннях гэтага фалькларыста-збіральніка.

Паводле Шпілеўскага, на зажон пад захад сонца выпраўлялася гаспадарова дачка з сяброўкамі. Выходзячы з хаты, дзяўчаты спявалі:

Выпраўляюцца малажайкі
На спраўленне зажынак...

Гаспадыня давала зажынальніцам з сабою яешню, сыр, гарэлку. Падмацаваўшыся ўжо на ніве, дзяўчаты па каласку нажыналі першы невялічкі сноп — гаспадар, з ім і адпраўляліся дахаты. Па дарозе спявалі:

Галубок снапок
Нажалі малажайкі
Да іх белыя ручанькі.
Месяц, месячыку!
Свяці ж нам дарожаньку,
Што б мы не заблудзілі,
Снапочка не згубілі...

Увайшоўшы ў хату, гаспадарова дачка з паклонам падносіла бацьку снапок-гаспадарок. Гаспадар падкідаў яго ўгору і ставіў на покуце, падкладаючы пад ніз некалькі медных манет. Тым часам зажынальніцы спявалі:

Слаўся, гаспадарку, слаўся,
Што малажаек не стыжаўся,
Як яны не стыжалі,
Ніўку тваю зажыналі...

Урачыстасць выказаных у абрадзе зажынак абставін, у якой хлебароб прыступаў да найважнейшага моманту сваёй працоўнай дзейнасці — збору збожжа, сведчыць перш за ўсё пра яго павагу, пашану да хлеба, пра своеасаблівы культ хлеба, і ў гэтым ужо праявілася працоўная гаспадарчая аснова жніўнай абраднасці. Змяшчэнне першага снапа ў самым ганаровым месцы хаты як бы сімвалізавала тое значэнне, якое надавалася хлебу,

---

[47] Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья, стар. 112.

догляду за ім у жыцці селяніна. Такія моманты абраду, як зварот да нівы быццам да жывой істоты, прынос на поле акрайца хлеба, сыра, солі ды выбар самога часу зажону, сведчылі пра іх аграрна-магічнае прызначэнне. У выбары ж галоўнай жняі — пастацянкі (ад назвы занятай адной жняёй паласы — постаці; ад зажынальніцы вымагалася, каб яна была нестарая, лёгкая на руку, чыстая, спрытная) праглядвае стыхійна-матэрыялістычнае, падказанае жыццёвай практыкай бачанне зарукі паспяховага жніва.

Больш выразна рысы абраднасці і ранніх, анімістычных форм мыслення, якія яе абумовілі, выступалі ў перыяд дажынак — на апошнім, заключным этапе жніва. Дажынкі, гэта сапраўднае сялянскае свята, спраўляліся не ўсюды аднолькава. У адных мясцовасцях іх рабілі ў канцы ўсёй уборкі, у іншых — і так было найчасцей — у дзень заканчэння жытняга жніва. Маючы на ўвазе два віды дажынак, А. Рыпінскі пісаў: «Дажынкі гэтыя ў нас на Беларусі звычайна бываюць падвойныя, г. зн. малыя і вялікія. Малымі называюць тыя, якія спраўляюцца адразу па зняцці з поля жыта, што як азімы пасеў даспявае раней за ярыну і раней збіраецца; вялікімі называюць агульную бяседу ўвосень пасля поўнага сканчэння яравога жніва» [48]. У апошні, дажынкавы дзень жніва жнеі звычайна ў канцы зжатай нівы пакідалі несцятых сярпом каліў трыццаць жыта на завіванне «барады» [49]. «Бараду» зверху, ля каласоў, перавязвалі чырвонай жычкаю. Гаспадыня або першая жняя-пастацянка палола між сцяблін «барады» начыста траву і клала на выпалатае месца хлеб, соль. Тым часам дзяўчаты, спяваючы, спляталі вянок з каласоў і палявых кветак. Парадзіўшыся, выбіралі са сваёй грамады самую маладую і прыгожую дзяўчыну несці вянок. Абранніцу называлі багіняю, у іншых месцах — талакой, як і сам звычай збірацца ў дзень дажынак на бясплатную дапамогу гаспадару — талаку. Палольніца, выпалаўшы «бараду», падразала яе як мага ніжэй і, трымаючы ў руцэ, другой кідала з усёй сілы серп у процілеглы ад жней бок. Затым вянок адзявалі на галаву «багіні» і, узяўшы апошні дажынкавы сноп, у сярэдзіну якога клалі зжатую «бараду», з песнямі вясёлым гуртам адпраўляліся ў двор таго гаспадара, чыё поле дажалі [50]. Апошні, дажынкавы, або «барадаты», сноп, паводле сведчання адных этнографаў, ставілі на покуць, дзе ўжо стаяў «гаспадар» [51]. Па сведчанню ж другіх, яго клалі ў застаронак у гумне асобна, дзе ён ляжаў да часу сяўбы азімых, калі яго даставалі і выбітыя зерні рассявалі па полі [52]. У некаторых мясцовасцях, напрыклад на Гродзеншчыне, «бараду» — жменьку жыта — пакідалі нязжатай для птушак, бо ве-

---

[48] Aleksandr Rypiński. Białoruś, s. 186.

[49] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 265. У іншых мясцовасцях «бараду» называлі кустам.

[50] Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья, стар. 114.

[51] А. Шлюбскі. Матэрыялы..., стар. 140.

[52] П. В. Шэйн. Материалы..., стар. 269—270.

рылі, што якраз ім, птушкам, абавязаны людзі распаўсюджаннем зерня на зямлі [53].

У апошні дзень жніва на просьбу гаспадара, а часам і добраахвотна да яго збіраліся жнеі — талака. Старэйшая між жанчын, пачынальніца, размяркоўвала, каму дзе стаць — заняць постаць. Іншыя жнеі былі яе памагальніцамі. Пачынальніца бралася за работу з песняй:

Наша ніўка залатая,
Нашы сярпы вострыя... [54]

Памагальніцы падхаплівалі:

Ой, чыё ж то поле
Зажаўцелае стаіць?
— Петрусёва поле
Зажаўцелае стаіць!..

Праз нейкі час, нажаўшы па дзесятку снапоў, жнеі запявалі:

Добрая ніўка была,
Сто коп жыта зрадзіла
І яшчэ хваліцца,
Што на капу калоссе валіцца...

Калі наступаў час палуднаваць (10—11 гадзін), гаспадар прывозіў яду і пітво. Палудзень цягнуўся доўга. Вясёлая шумная размова, рогат, песні, жарты не змаўкалі. З песень пры абедзе на ніве Шпілеўскі падае толькі адну жартоўную, адзначыўшы, што «абедныя песні» не маюць асобага значэння. Пасля палудня зноў прымаліся жаць і зноў з песнямі.

Гадзіны ў тры па палудні падвячоркавалі халоднымі стравамі і закускамі. Падвечар жнеі асабліва налягалі на работу, падганяючы адна адну жартамі, і прыгаворвалі:

Сонейка нізка,
Вячэрайка блізка,
Ай, не выжнем!
Пташкі, злятайце,
Снапочкі знашайце...

Нарэшце, калі зажыналі ўжо апошні загон, кожная жняя адкладала па каласку для апошняга снапа — дажынкавага. Пасля гэтага жнеі дзяліліся на дзве групы: старыя і замужніцы зносілі і складалі ў копы снапы, а дзяўчаты, сабраўшыся кружком, раіліся, каго выбраць «багіняю». Выбраўшы самую прыгожую з сябровак, дзяўчаты дажыналі рэшту жыта і з яго спля-

---

[53] Пра гэта нават было паданне. П. В. Шэйн. Матэрыялы..., стар. 270.
[54] «Пантеон», т. 9, кн. 6, 1853, стар. 23.

талі вялікі вянок, аздабляючы яго кветкамі і стужкамі. Старэйшыя жнеі тым часам спявалі:

У нас сягоння вайна была:
Усё поле зваявалі,
Змялі поле мяцёлкамі,
Ідзём дамоў вясёлкамі.
Ніўка наша, ніўка,
Аддай нашу сілку.
Мы свайму гаспадару
Да зрабілі славу:
Жытачка пажалі,
У снапы павязалі,
У копы паскладалі.

У той жа час дзяўчаты, дажынаючы жыта для вянка, пелі:

Канец ніўцы, канец,
Упляцём гаспадару вянец...

Звіўшы вянок, дзяўчаты адзявалі яго на галаву «багіні», давалі ёй у рукі дажынкавы сноп, пакрыты доўгім белым пакрывалам. Самі ж акружалі абранніцу, узяўшыся за рукі і ўтварыўшы круг, і танцавалі, прыпяваючы:

Кружком, дзевачкі, кружком,
К гаспадару з паклонам,
Не самі мы ідзём,
Мы вяночак нясём...

У гэты час да дзяўчат далучаліся старыя і замужнія жнеі і на чале з «багіняю» ўсе разам адпраўляліся ў хату гаспадара. Пры гэтым спявалі:

Да гудзець поле, гудзець,
Багіня з поля ідзець.
Гаспадарку, не ўлякайся,
У святлічку не схавайся,
Выкаці бочку піва,
А другую гарэлкі...

Пачуўшы песню, гаспадар выходзіў з хаты і сустракаў жней на падвор'і з хлебам-соллю. «Багіня» выступала наперад і, пакланіўшыся гаспадару, клала ля яго ног сноп, а вянок аддавала ў рукі прыгаворваючы: «Паздароў, божа, гаспадару! Прыняслі табе вянок з шырокага поля, з ядранага жыта. Гаспадар свайго гаспадарства не страціць, нам за вянок заплаціць, хоць чырвоныя боты для нашай ахвоты,— жыту на ўраджай, а гаспадару на доўгі век. Гаспадару вянок, а нам гарэлкі збанок».

У той час, як абранніца жней вітала гаспадароў, астатнія спявалі:

Прынеслі вам плён
З усіх чатырох старон,
Прынеслі вам збор
З-пад зялёных гор...

З'яўляўся музыка і гаспадары вялі «багіню» ў хату. Вянок і дажынкавы сноп несла іншая дзяўчына. У хаце яго стаўлялі на покуць. «Багіню» садзілі на першым месцы.

Гаспадыня прыносіла гарэлку, і гаспадар, пачынаючы з «багіні», частаваў жнеек. Музыка тым часам іграў «розныя п'есы сваёй кампазіцыі», як зазначаў Шпілеўскі. Час ад часу жнеі спявалі прыпеўкі, урыўкі ці па некалькі слоў з песень.

Пасля вячэры старэйшыя жнеі і гаспадары заставаліся ў хаце, а дзяўчаты і маладзіцы разам з гаспадаровай дачкой выходзілі на падворак, дзе наладжвалі гульні, танцы. Музыкай і танцамі распараджалася «багіня». Танцавалі найчасцей «Талакуху», «Жураўля», «Мяцеліцу», «Скакуху».

Пасля гэтага дзяўчаты садзіліся каля «багіні». Гаспадар тым часам выносіў ім закусіць. Танцы цягнуліся да глыбокай ночы. «Багіня» першая напаміна жнеям, што пара дахаты, і ўсе пачыналі развітвацца з гаспадаром.

На развітанне гаспадары яшчэ раз частавалі, дзякавалі жнеям і прасілі іх прыйсці дапамагаць на будучы год.

Жнеі ў сваю чаргу дзякавалі гаспадарам за пачастунак. «Багіня», звяртаючыся да гаспадара, гаварыла: «Дай божа табе, нябожа, абсяваць, насяваць, а нам жаць, дажынаць!»

Гаспадар пасля гэтага накідаў на галаву «багіні» пакрывала з дажынкавага снапа і дарыў яе пшанічным хлебам. Музыка праводзіў жней з песнямі дахаты.

З гэтага разгорнутага малюнка беларускіх дажынак сярэдзіны XIX ст. можна бачыць, што ў іх ужываліся побач з'явы, народжаныя працоўнай практыкай і прымхлівай фантазіяй старажытнага чалавека. У той павазе, якой акружалася на дажынках галоўная жняя, пастацянка, «багіня», выявіліся два аспекты адносін да яе: адзін — практычна жыццёвы, што ішоў ад простай удзячнасці за працу, і другі — абрадавы, які вынікаў з таямнічасці з'яўлення жывога цуда — хлеба. І хоць пазней селянін, пазбавіўшыся прымхлівага ўспрымання светабудовы, і прымаў плён як дар за працу сваю, у глыбіні свядомасці доўга захоўваў уяўленне, што хлеб — гэта нейкі незвычайны дар прыродных сіл. Ён шанаваўся як святыня. Антрапамарфічнае светаўспрыманне выступае асабліва выразна ў абрадзе «завівання барады».

Паводле вераванняў амаль усіх еўрапейскіх народаў, душа нівы, увасобленая ў казлападобную істоту, хаваецца ў апошняй лапінцы нязжатых каласоў. Хлеб з соллю, якія клалі ля асновы «барады»,— гэта ахвяра духам

нівы, тым казлападобным істотам, якія, паводле ўяўленняў старажытных людзей, іх міфалогіі, з'яўляюцца пладаносным пачаткам.

Услед за Мангардтам і Патабнёй Карскі ды і іншыя вучоныя схільны былі лічыць гэты абрад за магічнае дзеянне, накіраванае на задабрэнне духаў нівы.

Сувязь жа самой жніўнай песні з абраднасцю праступае не заўсёды выразна. Не будзе памылкай сказаць, што пераважная большасць жніўных песень зусім не выяўляе гэтай сувязі. Ужо сама назва песні — жніўная, якую ёй даў народ, хутчэй указвае на яе працоўную, чым магічную аснову. У розных мясцовасцях Беларусі яе называюць «жніўная», «летняя», «жніво», «жытняе жніво», «аржаное жніво», «жнейная», «жнейская», «паджытняя», «жнівеньская», «пажонная», «лета» і інш.

Такім чынам, народная назва жанру ўказвае і на пару бытавання песні і на характар працы, пад час якой яна спяваецца, і на хлебную культуру, з уборкай якой песня звязана. І ўжо ўсім сваім зместам, вобразнай сістэмай, меладычна-рытмічным ладам жніўная песня выяўляе непасрэдную залежнасць ад умоў жыцця і працы, свету перажыванняў і ўяўленняў свайго стваральніка — беларускай сялянкі. Іменна сама праца ў час жніва, цяжкая, часта паднявольная, сямейныя ўзаемаадносіны, якімі яны праяўляліся ў гарачую пару ўборкі хлеба, сацыяльныя адносіны складалі асноўны ідэйна-тэматычны змест жніўнай паэзіі. Шырокая гама пачуццяў ад скаргі на цяжкую працу, нядолю да радасці, якую дае сабраны плён, жыве, гучыць у жніўнай песні.

Пры ўсёй нейкай своеасаблівай старажытнай эпічнасці гучання напеву па жанравай прыродзе жніўная песня — лірычная. Праца жней, якая шмат у чым вызначае змест жніўнай песні, паказана ў ёй апасродкавана: праз думкі, перажыванні жняі. Анімістычнае ўспрыманне прыроды, характэрнае для ўсёй народнапаэтычнай творчасці, у жніўных песнях набывае асаблівую выяўленчую моц. Размова зажынальніцы з даспелай нівай у песні «Дабранач табе, шырокае поле» якраз дзякуючы адухаўленню гэтай нівы перарастае ў паэтычны дыялог высокай мастацкай пераканальнасці. Мастацкая арганічнасць такіх паэтычных вобразаў ішла ад арганічнай злітнасці жыцця іх стваральнікаў з жыццём прыроды:

— Дабранач табе, шырокае поле,  
Жыта ядраное.  
— На здароўе, жнеі маладыя,  
Сярпы залатыя.  
Прыходзьце заўтра раненька,  
На ўсход сонейка,  
Паспрыяйце майму полю,  
Жыту ядраному, каласочку налітому.

У цэнтры жніўнай песні — вобраз працаўніцы-жняі, той, што «дзень да вечара ў полі стаяла, калоссем махала». Праз маналог, зварот да ветру,

сонца, хмар тонка перадаюцца перажыванні жняі, гаворыцца аб жніўнай цяжкай працы:

Не ляжы, ветру, у полі,
Між гор у разоры.
Да ўстань памаленьку,
Да й павей паціхеньку,
Ох, давай халадочку
Майму сэрцу, жываточку...

Размова жняі з сонейкам, якое яна папракае за неспагадлівасць,— класічны матыў жніўнай песні, дзе ўжо знаходзяць выказ сацыяльныя адносіны прыгоннай пары:

— Ах ты, сонца-сонейка!
Я на цябе віну маю,
Віну маю вялікую:
Што ты раненька ўсходзіш,
Што ты позненька заходзіш?

У сонцавым адказе з лаканічнасцю, уласцівай песні, ускрываецца рэальная прычына, называецца сапраўдны віноўнік непасільна цяжкай працы прыгоннай жняі. Выяўлена гэта ў простых, але пластычных вобразах:

— Ах ты, дзеўка, дзеванька!
Не вінуй жа ты мяне,
А вінуй ты свайго пана:
Хоць я раненька ўзыйду,
Цябе на ніўцы знайду,
Хоць я позненька зайду,
Цябе на ніўцы пакіну.

Цікавы прыём пераасэнсавання становішча жняі параўнальна са становішчам сонца бачны ў варыянце гэтай песні, дзе жняя гаворыць:

Сонейка, сонейка,
Ці было ты ў бога ў наймах?

У вобразе гэтым — вельмі своеасаблівая паралель і адпаведна праламленне класавых адносін.

Даволі пашыраны матыў — скарга жняі на цяжкую працу. Жнейка жаліцца, што ў яе разбалелася сярэдзіна, жнучы неўрадлівае невысокае жыта, а тым часам няма ні маці, ні старэйшай сястры, якія б дапамаглі ёй, стомленай, постаць падагнаці. Яна нават зайздросціць тым жанчынам, што вымушаны прынесці на пожню немаўлят. Бо яны могуць адпачыць хаця тады, калі кормяць ці закалыхваюць іх у прыстроеных на таганах (трохножны рагач) калысках:

Да я жала да вечара,*
Баліць мая сярэдзіна.
Каб я мела дзіцятачка,
Каб у мяне маленькае,
Мажа б яно заплакала,
Дык я б яго скалыхнула —
Сярэдзінка б адпачнула.

Тэма бязрадаснай паднявольнай працы на пана-прыгонніка праходзіць праз усю жніўную паэзію, надаючы ёй яркую сацыяльную афарбоўку. У песні народ стварае вобразы пана-прыгнятальніка і панскага прыслужніка-прыганятага. Ва ўласна жніўнай песні пан звычайна падаецца ў выглядзе дэспатычнага ўласніка, які вярхом на кані раз'язджае па полі і толькі дбае пра тое, каб жнеі хутчэй жалі. Вельмі часты матыў жніўнай песні — зварот жней да пана з просьбай не трымаць іх да ночы, уважаючы на «дамы далёкія, пераходы вялікія». Прычым зварот гэты ўвасабляецца ў яскравай паэтычнай форме, дзе апісальныя прыёмы змяняюцца дасканалым упадабненнем, метафарычнымі вобразамі:

Пусці, пане, дадому:
Старых бабак ручкі зябнуць,
Маладачак дзеткі плачуць,
На дзевачках вянкі вянуць.

Акрэсленую сацыяльную характарыстыку памешчыка-эксплуататара дае пашыраная ў свой час песня «У нашага пана нядобрая слава». Недвухсэнсава выказаны ў ёй і адносіны прыгонных жней да свайго гаспадара:

Да ў нашага пана
Да нядобрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зорах копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто дахаты не пушчае
Да на полі нас трымае.

Праклён прыгнятальніку, які гучыць у гэтай песні, перарастае ў грымотнай моцы праклён у песні «Бадай пану ў двары страшна», дзе класавая свядомасць селяніна выяўляецца надзвычай выразна. Песня «За гарою за крутою» ўжо заклікае да фізічнай расправы з панам-крыўдзіцелем.

Вобраз жа прыгоннай жняі даецца і праз паказ яе ўнутранага стану на полі:

Ой, за лес сонца,
Ды за лес.

* Кожны радок спяваецца двойчы.

Ой, нарабіліся ручанькі,
Ой, нахадзіліся ножанькі
Дый насвяціліся вочанькі!..

і праз абмалёўку яе знешняга вобліку як запрацаванай заклапочанай жанчыны:

Я ж, малада, з прыгону йшла,
Пад паяском сярпок нясла,
За плячыма калысачку...

Сямейна-бытавыя матывы жніўных песень дзесь пераклікаюцца з сацыяльнымі, хоць і не набываюць вастрыні і моцнага ідэйнага гучання. Жніўныя песні сямейна-бытавога плана ў асноўным распрацоўваюць тэму ўзаемаадносін нявесткі і свекрыві і свёкра. Тэма гэта вельмі шырока і багата вар'іруецца. Асноўны сэнс сямейных адносін вобразна-лаканічна выяўлены ў песні «Добры вечар, да халодная хатка»:

Добры вечар, да халодная хатка
Да няродная матка.
Не пытае, ці востры сярпочкі,
Ці не баляць вашы ручкі,
Да пытае, ці багата нажалі,
Ці ў копы паклалі.
Добры вечар, да цёплая хатка
Да родная матка.
Не пытае, ці багата нажалі,
Ці ў копы паклалі,
Да пытае, ці востры сярпочкі,
Ці баляць вашы ручкі.

Неспагадлівае, чэрствае стаўленне да нявесткі-жняі з боку мужавай сям'і зноў жа з дапамогай прыёму кантрасту паказана ў асабліва пашыранай песні «Пайду я дарогаю». Яркая метафара «пушчу голас дуброваю», словазлучэнне «голас галасуіць» робяць выяўленчую палітру песні асабліва сакавітай, звонкай. Зрэшты, усімі сваімі кампанентамі твор гэты сведчыць аб арганічным пачуцці мастацкага:

Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дубровaю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай татанька чуіць:
— Калі маё дзіця пяець,
Няхай пяець, красуецца,
У чаравічкі абуецца,
На кірмаш гатуецца!
А калі нявестунька —
Няхай яна ўгамоніцца,
У лапцікі абуецца,
На прыгон гатуецца!

У песні «А я ў полі жыта жала» сюжэт распрацоўваецца ў гумарыстычным плане. Свякроў узбіраецца на плот, каб паглядзець здалёку, як жне яе нявестка. Углядаючыся з-пад рукі на ніву, яна трацiць раўнавагу і валіцца ў крапіву. «Не жаль мне свякровачкі, а жаль мне крапівачкі»,— выказвае нявестка свае адносіны да свекрыві. У песнях «Ой, зелена, зелена ў лузе трава» і «За цёмным лесам трава павяла» развіваецца тэма адносін мужа і жонкі, паказваецца жыццё жанчыны «за благім мужам» і «за добрым мужам». Нярэдка пра жыццё маладой жанчыны ў чужой сям'і расказ у жніўнай песні набывае драматычнае гучанне. У адных песнях маладая жняя з жалем успамінае на пожні пра «бацькаву негу», асабліва калі думае пра сустрэчу яе ў свёкравай хаце. У іншых, як, напрыклад, шматварыянтнай «Не пайду дамоў», яна гатова начаваць у полі, толькі б не ісці ў свёкраву хату, дзе няма для яе ані слова ласкі, спагады, а толькі горкія папрокі ды загады прынесці вады, гатаваць вячэру.

У адлюстраванні сямейных адносін жніўная песня часам дасягае высокай паэтычнасці, мастацкай пераканальнасці, як, напрыклад, у песнях «Пара, жонкі, дамоў ісці», «Закурыўся ціхі дробны дожджык» і інш.:

Пара, жонкі, дамоў ісці,
Пацярала зара ключы,
А з месяцам гукаючы,
А з сонейкам гуляючы.
А ўзыдзіце, ясны зоркі,
А знайдзіце ключы звонкі,
Пара зямлю адмыкаці,
Пара расу выпушчаці.
А першую лядовую,
А другую мядовую.
Лядовая свякраткава,
Мядовая таткавая,
Лядовая каля плоту,
Мядовая каля стала,
Лядовую калом праб'ю,
Мядовую з людзьмі пап'ю.

Ёсць сярод жніўных беларускіх песень значная група лірычных, сямейна-бытавых, тэматычна не звязаных ні з самім жнівом — працай у полі, ні з жніўнымі абрадамі. І ўсё ж гэты пласт не выпадкова прымеркаваны ў народзе да жніўных. Адна з прычын з'яўлення гэтых песень ляжыць у самой прыродзе чалавека, яго пачуццяў. Лірычныя перажыванні спадарожнічалі чалавеку заўсёды, у тым ліку і ў яго вытворчай дзейнасці. Былі, відаць, і больш непасрэдныя прычыны. Як, вядома, даўней у Беларусі вяселлі найчасцей спраўляліся ўвосень, калі заканчваліся палявыя работы і хата мела пэўны дастатак. Аднак нямала вяселляў прыпадала і на летнюю пару, якраз напярэдадні ўборкі. Бацькі, жэнячы сына, у той жа час думалі і аб падмозе якраз у самую гарачую пару.

Меўшы месца ў жыцці, з'ява гэта знайшла адбітак і ў народнай паэзіі. Узнікаючы ў час, калі пераважалі жніўныя матывы і тэмы, гэта паэзія арганічна ўлілася ў рэчышча жніўнай. Яна ўзяла ад уласна жніўнай ладава-інтанацыйную аснову, часткова слоўна-вобразную форму і тым самым характэрныя жанравыя адзнакі жніўнай песні. Прыкладам таго, наколькі любоўная жніўная песня па сваёй вобразнай структуры блізкая да ўласна жніўнай, можа быць песня «Гаварыла ядраное жыта»:

Гаварыла ядраное жыта
У полі стоячы:
— Я й не магу ў полі стаяці,
Каласком махаці.
Толькі магу я ў полі капамі,
А ў таку тарпамі.
Гаварыла маладая Ганначка
Із сваім татулькам:
— Я ж не магу ў татачкі быці,
У татачкі быці, татачку гадзіці,
Толькі магу ў мілога быці,
Мілому гадзіці.

Сярод любоўных, сямейна-бытавых песень жніўнага паходжання трапляюцца класічныя ўзоры паэзіі з багатай выяўленчай палітрай. Яны звычайна выяўляюць тонкі паэтычны густ, выключны мастацкі такт складальнікаў-творцаў:

Віліся пчолачкі,
Віліся каля лозачкі.
Паволі вы війцеся,
Паволі садзіцеся —
Не абламіце сучайкаў,
Не абтрасіце лісцікаў!
Віліся хлопчыкі,
Віліся малойчыкі
Каля маладой Мальвінкі.
Паволі вы, хлопчыкі,
Паволі, малойчыкі,
Паволі вы війцеся,
Паволі вы садзіцеся —
Не абламіце золата,
Не абтрасіце серабра!

Сямейна-бытавы пласт жніўных песень разнастайны па сваіх матывах, як разнастайнае само жыццё. І лёс сіраты і ўдовіна доля знайшлі тут вобразнае ўвасабленне, нечым ледзь улоўна адметнае ад таго, як гэта падаецца ва ўласна сямейна-бытавой, сямейна-абрадавай паэзіі. Амаль усюды ў Беларусі некалі спявалася на матыў жніўных песень і так зафіксавана фалькларыстамі песня «Гула пчолка, гула». Пластыка паэтычных вобразаў, уся яе выяўленчая фактура надзвычай выразныя:

Гула пчолка, гула пчолка,
Да па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
— Ой, горкі мой мядок, горкі
Да без мае грамаданькі.
Усеняк свой мёд патраціла,
Сама ў борцю не трапіла.
Ох, заплакала ўдованька,
Да па садочку ходзячы,
Вячэраньку гатуючы:
— Горка ж мая вячэранька
Да без майго міленькага.
Сама сяду процi стала,
Дзеткі ж мае па застоллю,
На покуці нікога нет.
Такая вячэра, такі і абед...

Як уласна жніўныя, так і сямейна-бытавыя песні жніўнага цыкла нярэдка адзначаюцца мяккім гумарам, маюць жартоўны тон. Часам адна і тая ж тэма, рэалізаваная ў адным і тым жа сюжэце, мае ў сваёй заключнай частцы іншы паварот, які надае новы каларыт усяму твору. Так, у песні з Гомельшчыны «Да, здаецца, не лянюся» жняя скардзіцца, што няма маці ці сястрыцы, якія б дапамаглі «постаць падагнаці». Канцоўка ж гучыць па-новаму, крыху нечакана для такога тыпу песень: «А я б пастаяла да варон пастраляла».

Лёгкай насмешкай з гультаяватай жняі гучаць песні «А ў полі ніўка», «Ішла дзеўка жыта жаці». Тонам незласлівых кпінаў эдзекваецца адна група жней з другой у песні «Дрэмка поле, дрэмка поле»:

Дрэмка поле, дрэмка поле!
А чыё ж поле дрэміць?
А Ракацяўскае поле дрэміць!
Там жнеечкі — усе старыя,
У іх сярпочкі — дзераўныя!
Там жнеечкі падрамалі
І сярпочкі паламалі.
Звонка поле, звонка поле!
Да й чыё ж там поле звонка?
Варонкаўскае поле звонка:
Там жнеечкі — маладыя,
У іх сярпочкі — залатыя.
Там жнеечкі заспявалі —
У іх сярпочкі зазвінелі.

Гумар — асабліва часты госць у дажынкавых песнях. Пеючы дажынкі пану, жнеі ў велічальны тон вельмі па-майстэрску ўпляталі здзеклівыя ноткі («Дажалі жыта», «А ў нашага пана» і інш.). Падобнае вельмі рэдка сустракаецца ў дажынкавых песнях, адрасаваных селяніну, дзе гумар мае найчасцей добразычлівы характар, хоць гэта не значыць, што ён менш дасціпны.

Дажынкавыя песні складаюць адметную групу сярод усіх жніўных. «Ніводзін абрад не багаты так песнямі, як абрад дажынак»[55],— пісаў у свой час Шпілеўскі. Акадэмік Я. Ф. Карскі, падагульняючы свае назіранні над жніўнай паэзіяй, адзначаў: «З разгляду жніўных, асабліва дажынкавых, песень можна бачыць, што яны носяць некалькі іншы характар, чым другія абрадавыя песні: ад іх вее здаволеннем, цяплом летняга вечара і водарам толькі што зжатай нівы»[56].

Калі песні самога жніва пераважна мінорныя па характару (успомнім купалаўскае «Хто прыслухаўся, людзі, аб чым жнейка галосе?!»), то песні дажынак маюць мажорны настрой. У іх паэтызуюцца жніўная праца і асабліва яе плён, гучаць велічальныя матывы ў гонар гаспадара, гаспадыні ды саміх работніц-жнеек, што «ўсё поле рачком сышлі, пад мяжою вянок знайшлі». Іменна ў дажынкавай песні ствараецца алегарычны вобраз самога жніва, які падаецца ў вобразе вайны. Калі ў песні, што гучала на панскім полі, і былі моманты ўзвелічэння пана (на тое і велічальны матыў і адпаведны яму стыль), не было ценю самапрыніжэння. У песнях дажынкавага вянка, наадварот, чуюцца кпіны з самога пана-гаспадара, якога грамада жней просіць не палохацца і не хавацца ад іх пад лаўку, у пакой і г. д.:

У нас сягоння вайна была.
Усё поле зваявалі,
Да пану жыта пажалі.
Пане ж, не ўлякайся,
Да ў пакой не хавайся,
Бо мы ёсць не жаўнеркі,
А панскія жнейкі.
Да выходзь, пане, выходзь
Да віна бочку выкоць
І белы сыр на талеркі,
Частуй жа свае жнейкі.
Да ўмеў жа нас прыганяць,
Умей цяпер частаваць.

У некаторых дажынкавых песнях іронія зводзіць на нішто ўсхваленне пана, і сапраўдныя адносіны прыгонных ці нанятых жней да сваіх паноў-гаспадароў не выклікаюць сумнення.

Элементы старажытнага светапогляду, аграрнай магіі можна заўважыць у тых дажынкавых песнях, дзе гіпербалізуецца сабраны ўраджай — гэта зарука дабрабыту сям'і. Дажаўшы жыта, жнеі звяртаюцца да вятроў, каб яны павеялі па чыстым полі і неслі весці гаспадару, што «жыта дажалі поле незмяронае, наклалі копы незлічоныя». У дажынкавай песні «А ці поўна арэхава чара?» ствараецца вобраз такога багатага жытняга збору ў гаспадаравым гумне, што нельга ў гэта гумно «ні з канём уехаць, ні пехатою ўйсці, а толькі можна сокалу ўзляцець, дабро паглядзець». Да дажын-

[55] «Пантеон», т. 9, кн. 6, 1853, стар. 24.
[56] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, вып. I, стар. 205.

кавых песень адносіцца адна з самых лепшых песень усяго жніўнага цыкла — «Ці не выйшла цёмная хмара». Запіс аднаго з найпаўнейшых яе варыянтаў зрабіў у свой час на Полаччыне вядомы збіральнік беларускага меласу Антон Грыневіч. Каб адчуць хараство, мастацкую гармонію, выяўленыя і ў вобразах і ў рытміцы твора, прыводзім яго цалкам:

Выхадзіла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Выхадзіла.
Ды не вышла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Ды не вышла.
Толькі ціхім прыгнала ветрам
Дробненькага дажджу,
Толькі ціхім.
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па шырокім полі,
Ах, павейце!
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па ядраным жыце,
Ах, павейце!..
Выхадзіла к нам гаспадынька
Раненька на ніўку,
Ды не вышла.
Толькі слала сыноў-сакалоў,
Дачок-перапёлак,
Толькі слала.
Толькі слала дачок-перапёлак,
Нявестак-лябёдак,
Толькі слала.
Пажынайце, нявесткі-лябёдкі,
Дочкі-перапёлкі,
Пажынайце!
Паспрыяйце шыроканькай ніўцы,
Ядраному жыту,
Паспрыяйце!

Як дажынкавы абрад «завівання барады» ды звязаныя з ім песні, задалі задачу для вучоных і так званыя спарышовыя песні. У раздзеле дажынкавых яны складаюць асобную падгрупу. Шэйн у сваіх «Беларускіх песнях» вылучае іх у асобны падраздзел [57]. У некаторых мясцовасцях гэты від песень называлі «раёк» [58]. Польскі этнограф Я. Ст. Быстрань аб адной з райковых песень гаварыў тонам захаплення і ўдзячнасці народу, які стварыў такі шэдэўр [59].

У мэтах высвятлення сутнасці абраду спарыша і звязаных з ім народных уяўленняў больш цікава прывесці, хоць можа трохі і менш паэтычны,

[57] П. В. Шейн. Белорусские песни, стар. 493—499.
[58] А. Шлюбскі. Матэрыялы..., стар. 140.
[59] J. S. Bystroń. Zwyczaje żniwiarskie..., s. 139—140.

чым цытаваны Быстранем, варыянт песні «Хадзіў Спарыш па вуліцы». Песня была запісана Шэйнам у Чашніках ад адной з самых таленавітых яго інфарматарак — Каткавічанкі. У творы моцна адчуваецца эпічная аснова:

Хадзіў Спарыш па вуліцы,
Па вуліцы па шырокай,
Па мураўцы па зялёнай.
А ніхто Спарыша ў двор не завець.
Выйшла, выехала Хвядорыха:
— Хадзі, Спарыш, ка мне на двор,
Ка мне на двор, за цясовы стол.
У мяне сталы пазасціланы,
Віном кубкі паналіваны.
У мяне пірагоў панапечана,
У мяне мёду панасычана,
Сядзь, Спарыш, на покуце,
На покуце, да на золаце,
Пі, Спарыш, зеляно віно.
Спары, божа, у маім гумне,
У маім гумне, у маім дварэ:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падход,
А ў печы рост, ■ на стале сыццё.

Цікавая народная інтэрпрэтацыя вобраза Спарыша ў дажынкавай песні «Якушанька-гаспадарок» (вядомай у запісе Шлюбскага), дзе спарыня мае алегарычны сэнс, выступае як зоаморфная істота. У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі і сведчанне Федароўскага пра спешку-спарышку, якую як апякунскае боства выклікае жняя, зажынаючы загон [60].

Н. Ціханіцкая ў цытаванай вышэй працы выказала меркаванне аб паходжанні абраду спарыша і звязаных з ім вераванняў. Яна звярнула ўвагу на пашырэнне ў беларускай мове форм слова «спарыш», якое ў прамым сэнсе азначае падвойны плод: двайны колас, арэх і да т. п. Форм гэтага слова значна больш, чым адзначыла Ціханіцкая. Ад слова «спарыш», мабыць, утвораны *споры* — руск. обильный; *спорыцца*; пажаданні *спору* ў працы; *спор* у дзяжу і інш.[61]

На падставе аналізу беларускіх народных уяўленняў аб спарышу, запісаных М. Федароўскім, А. Сержпутоўскім, а таксама тыпалагічнага матэрыялу, узятага з народных культур балгараў, сербаў і іншых, даследчыца зрабіла вывад, што «завіванне барады» — гэта магічнае дзеянне, накіраванае на штучнае стварэнне «спарыша» — падвойных каласоў [62]. Вывад гэты, трэба думаць, заслугоўвае ўвагі.

Цікава, што ў некаторых дажынкавых песнях Спарыша замяняе іншы вобраз. Уласна новы ён толькі па сваёй назве — раёк, рай. Апошні ж — проста метафара. Жнеі, якія, па адной запяваючы, далучаліся да дажынка-

---

[60] M. Federowski. Lud białoruski, t. I. Kraków, 1897, s. 270—271.
[61] И. Носович. Словарь белорусского наречия, стар. 607.
[62] Н. Тихоницкая. Спорынья..., стар. 62.

вага гурта, натуральна, па асацыяцыі выклікалі параўнанне з роем пчол[63]. У іншых жа спарышовых песнях сустракаецца вобраз бога, Дабра. Можна не без падставы дапусціць, што спарышовыя песні перажылі пэўную вобразную эвалюцыю. На пачатку, у язычніцкую пару, Спарыш уяўляўся чалавеку міфічнай істотай, якая ўвасабляла сілу ўрадлівасці. Паступова вобраз гэты пераасэнсоўваўся. Хрысціянства на месцы язычніцкага Спарыша эмясціла бога. А яшчэ пазней, калі абрад страціў ранейшае функцыянальнае значэнне, ператварыўся ў звычай, персаніфікаваны вобраз сілы ўрадлівасці Спарыш быў пераасэнсаваны ў вобраз Дабра.

Беручы пачатак у працы, жніўная песня і мастацкай формай цесна звязана з гаспадарчым вопытам хлебароба, з прыродай, якую ён пазнаваў і пераўтвараў у працэсе працы. Асноўныя вобразы жніўнай паэзіі — жняя, гаспадар, пан — узяты непасрэдна з жыцця. І абмалёўка іх рэалістычная. Вобразы ж навакольнай прыроды: жытняга поля, сонца, лесу і іншыя, што найчасцей сустракаюцца ў жніўных песнях,— спецыфічныя па сваёй мастацкай прыродзе. Яны ўзніклі на анімістычнай стадыі мыслення, калі жыццё чалавека праходзіла ў непасрэдным кантакце з прыродай. Мастацкая форма гэтых вобразаў аказалася трывалай і не пазбаўленай выяўленчай яскравасці, прынамсі, яна перажыла тое светаразуменне, што яе спарадзіла.

З навакольнай прыроды, ад самога жыцця, што праходзіла ў працы, брала жніўная песня мастацкую палітру. Яе выяўленчыя сродкі ў аснове сваёй не адрозніваюцца ад арсенала сродкаў агульнафальклорнай паэтыкі. Можна заўважыць хіба толькі тое, што для яе мала характэрны вобраз-сімвал. Толькі дзе-нідзе ў дажынкавых песнях выкарыстоўваюцца выразы *сыны-сакалкі, дочкі-перапёлкі, нявесткі-лябёдкі.* І то тут яны не столькі сімвалы, колькі эпітэты, выказаныя ў форме прыдатку. Жніўная песня, акрамя агульных, мае і свае сталыя эпітэты. Да ўласцівых іншым жанрам фальклору эпітэтаў *роўнае, чыстае, шырокае* поле, *ціхія* вятры, *ясныя* зоры, *белы* дзень жніўная паэзія дадае *ядраное* жыта, поле *нязмяронае*, копы *незлічоныя*, сярпы *залатыя*, жнейкі найчасцей *маладыя*, раса *мядовая* і г. д.

Метафарычнасць народнага мыслення, якая спадарожнічала анімістычнаму погляду на прыроду, у жніўнай паэзіі, як і ва ўсёй народнай песнятворчасці, выяўляецца вельмі наглядна, пераканальна. Недажатая постаць уяўляецца жняі мядзведзем, што разлёгся на ніве («Я думала—дажалася»); апошнія промні сонца — гэта страчаныя зарой ключы. У жніўнай песні сонца «коціцца» за лес, голас «ідзе» дарогаю або па дуброве, жытні вянок — гэта «вясёлы пасол», што «ідзе» з поля, раса «падае», «упала на постаці».

Што датычыцца вершаванай формы жніўнай песні, то страфа яе найчасцей двухрадковая. Кожны радок часта мае пасярэдзіне паўзу — вялікую

---

[63] Гл. запіс Л. Салавей, зроблены ў 1971 г. на Пастаўшчыне. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, л. 17.

цэзуру. Стапа пераважна двухскладовая, ямбічная, нярэдка і трохскладовая (анапест і амфібрахій).

У мастацкіх адносінах жніўная песня дасягае часам рэдкай гармоніі ўсіх выяўленчых кампанентаў. Так, вобразны лад песні «Выхадзіла цёмная туча» і рытмаарганізацыя яе такія, што перадаюць нават павольны рух хмары. Музычная і слоўная пластыка выяўлены тут са здзіўляючым пачуццём мастацкай меры.

Неблагі мастацкі эфект дасягаецца ў жніўных песнях праз ужыванне таўталагічных, або, як называюць іх лінгвісты, парных злучэнняў: *зоранька зарае, голас галасуе, вечар вечарэіць*. Не чураецца жніўная песня і паралелізму, хоць ёй ён менш уласцівы, чым, скажам, народнай лірыцы, любоўнай паэзіі, вясельнай.

Неразгорнуты паралелізм сустракаецца крыху часцей. З'явы прыроды, якія параўноўваюцца са з'явамі чалавечага жыцця, бяруцца непасрэдна з працоўнай жніўнай практыкі:

Ой, рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала, рада, рада,
Ой, рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажала, рада, рада...

Разгорнуты, псіхалагічны паралелізм сустракаецца галоўным чынам у лірычных, сямейна-абрадавых песнях жніўнага цыкла, найчасцей жа — у дажынкавых:

Лятала шэрая перапёлка
Па жоўтаму полю,
Шукала шэрая перапёлка
Свайго гняздзечка,
Ідзе ляжала яе яечка,
Ідзе дзеткі сядзелі
І ў палёт паляцелі.
Хадзіла бедная сірацінка
Па багатаму полю,
Шукала бедная сірацінка
Свайго роднага бацькі,
Не знайшла бедная сірацінка
Свайго роднага бацькі...

Прыклад псіхалагічнага паралелізму, які вельмі арганічна ўплятаецца ў мастацкую тканіну твора, дае песня «Закурыўся ціхі дробны дождж»:

Закурыўся ціхі дробны дожджык
Ды па жытняму полі,
Зажурыўся мой татачка родны
Па маёй горкай долі.

— Не курыся, ціхі дробны дожджык,
Ды па жытняму полі,
Не журыся, мой татачка родны,
Па маёй горкай долі...

Вобразы *жоўтае поле, сіні лес, сіняя дуброва,* што сустракаюцца ў жніўных песнях, сведчаць аб узмацненні абагульнення, асацыятыўнасці ў мастацкім мысленні народа.

Жніўная песня больш, чым іншыя віды каляндарна-абрадавай і сямейна-абрадавай паэзіі, аказала ўплыў на прафесійнае мастацтва: паэзію, музыку, жывапіс.

Творчае пераасэнсаванне жніўнай народнай паэзіі знаходзім ужо ў В. Дуніна-Марцінкевіча [64] і А. Гурыновіча [65]. Янка Купала яшчэ ў дарэвалюцыйную пару стварыў цыкл вершаў — своеасаблівую варыяцыю на жніўныя матывы. У адным з іх паэт даў рамантызаваны маляўнічы вобраз беларускай жняі:

Як сама царыца
У залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.
З каласкоў вяночак —
Моладасці сведка —
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.
На грудзях шчаслівых
Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак
Зублены, сталёвы.
Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.
Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзявіцца ігруша
На мяжы зялёнай.
А яна — царыца —
Весела, шчаслівa
Карануе песняй
Залатое жніва.
Смела йдзе у сонцы,
Уся сама — як сонца,
Гэта жнейка наша
У нашаей старонцы.[66]

---

[64] В. І. Дунін-Марцінкевіч. Збор твораў. Мінск, 1958, стар. 242.

[65] А. Гурыновіч. Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя. Мінск, 1971, стар. 275, 277.

[66] Я. Купала. Збор твораў у сямі тамах, т. 3. Мінск, 1973, стар. 45—46.

Тэму жніўнай працы ў сацыяльным аспекце Купала творча асэнсоўвае ў вершах «Зажынкі», «Жнеям», «Жніво», «Песня жнеяў» і інш.

Купалаўскую традыцыю ў распрацоўцы тэмы жніва ў савецкай паэзіі развівалі Язэп Пушча, Паўлюк Трус, Тодар Кляшторны, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Рыгор Барадулін і інш. Матывы жніўнай працы знайшлі мастацкае адлюстраванне ў творчасці Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, Васіля Каваля, Міхася Зарэцкага, Янкі Брыля, Івана Мележа і інш.

Кампазітары таксама не абышлі ўвагай беларускіх жніўных мелодый. Яны выкарыстаны і ў «Літоўскай рапсодыі» Мечыслава Карловіча, і ў «Беларускай рапсодыі» Людаміра Рагоўскага, і ў творчасці беларускіх савецкіх кампазітараў: Мікалая Чуркіна, Рыгора Пуксты, Аляксея Туранкова і інш.

У беларускім жывапісу XIX ст. тэму жніва таленавіта ўвасобіў Казімір Альхімовіч. Варта прыгадаць яго карціны «Жніво», «Дажынкі» і іншыя, каб пераканацца ў гэтым. Карціна «Дажынкі» ёсць у Ф. Рушчыца.

Беларускія савецкія мастакі не раз звярталіся да тэмы жніва, да дажынкавага звычаю. Адным з пачынальнікаў яе быў графік А. Вало, які стварыў досыць яскравы твор «Беларускія дажынкі». На беларускім матэрыяле тэмы жніва распрацоўвала вядомая руская мастачка А. Галубкіна [67], карціну «Агляд жыта» напісаў Т. Гальмаджаян [68]. Жніўную тэматыку і зараз інтэрпрэтуюць графікі І. Немагай, В. Шаранговіч, жывапісцы А. Шыбнёў, П. Сергіевіч і інш.

Арганічная сувязь з жыццём працаўніка-селяніна, высокая паэтычнасць забяспечылі жніўнай песні доўгае жыццё. Нават сёння, калі зніклі вытворча-гаспадарчыя асновы, што жывілі жніўную песню, калі страцілася функцыянальная роля жніўнай песні, яна даволі поўна захоўваецца ў памяці старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Запісы жніўных песень маюць даволі значную ўдзельную вагу ў агульных запісах фальклорных экспедыцый Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У фальклорным архіве інстытута, фонды якога складаюцца толькі з пасляваенных матэрыялаў, захоўваецца больш тысячы тэкстаў жніўных песень. У тым ліку шмат магнітафонных запісаў.

Старую жніўную песню моцна трымаюць працоўныя традыцыі. За гады Савецкай улады яна сацыяльна пераасэнсавалася ў адпаведнасці з новымі, карэнным чынам змененымі ўмовамі. З усяго жніўнага абраду да нашага часу ў выглядзе звычаю захаваліся толькі дажынкі. Яшчэ да вайны фальклярысты зафіксавалі факты прыстасавання старой дажынкавай песні да сацыяльна новых абставін. Змены былі нязначныя: зварот да гаспадара найчасцей замяняўся зваротам да старшыні калгаса, брыгадзіра, і адпаведна з гэтым рабіліся нязначныя карэктывы ў тэксце. У пасляваенны час

---

[67] Гл.: Сучаснае беларускае мастацтва. Мінск, 1929, стар. 19.
[68] Т а м ж а, стар. 20.

Г. І. Цітовіч адзначыў пэўныя змены і ў музычнай форме гэтых, прыстасаваных да новых умоў дажынкавых песень[69].

І зараз нярэдка спраўляюцца імправізаваныя дажынкі. Ініцыятыва іх звычайна належыць жнеям, якія ці то дажынаюць жыта на недаступных камбайнам участках, ці ўвогуле займаюцца ўборкай пры камбайне. Па-ранейшаму сплятаюць вянок і нясуць яго цяпер ужо на калгасны або саўгасны двор. Паколькі заканчэнне ўборкі каласавых — значная працоўная перамога, праўленне калгаса, яго кіраўнікі ідуць насустрач ініцыятыве жанчын, і адбываецца своеасаблівае свята, на якім разам з новымі савецкімі песнямі гучаць і традыцыйныя жніўныя.

* * *

Гэты том песень мае на мэце пазнаёміць шырокія колы грамадскасці з асноўнымі здабыткамі народнай культуры з раздзела песень працы.

Пры класіфікацыі песеннага матэрыялу ўкладальнікі сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасцямі. Асноўная з іх заключалася ў вызначэнні крытэрыяў жанравай прыналежнасці. Асабліва тады, калі твор не меў ярка выяўленай жніўнай тэматыкі. На жаль, не заўсёды ёсць магчымасць з поўнай верагоднасцю ўстанавіць, ці песня традыцыйна, стала прымеркавана да жніва, ці выпадкова трапіла ў арбіту жніўнага цыкла. Тут шмат залежыць ад мясцовай традыцыі. Калі жанравая прыналежнасць твора пацвярджалася некалькімі аўтарытэтнымі крыніцамі, вырашаць было проста. Паадзінкавыя ж запісы лірычна-сямейнай тэматыкі, нягледзячы на іх «адрасаванне» ў жніўныя песні, давялося за невялікім выключэннем апусціць, хоць яны, магчыма, і распеты пад жніўныя.

Пэўную складанасць уяўляе і размежаванне з песнямі асенняга жніва. Некаторыя збіральнікі іх не вылучалі асобна, бо не ведалі музычнай прыроды апошніх і не ўлічвалі яе. Да таго ж розныя мясцовыя традыцыі дапускалі тут адхіленні. Меў месца і суб'ектыўны фактар: недакладнае азначэнне носьбітаў-інфарматараў.

У канчаткова апрацаваным выглядзе том «Жніўныя песні» ўключае 1055 тэкстаў і 301 мелодыю. Тэксты падаюцца паводле функцыянальна-тэматычнага прынцыпу. Раздзел «Жніво» мае два падраздзелы. У другім згрупаваны пераважна творы, якія народная традыцыя прымеркавала да жніва. Невялікае адступленне ад функцыянальна-тэматычнага прынцыпу зроблена для таго, каб вылучыць на першы план песні сацыяльна актыўныя, антыпрыгонныя. У размежаванні некаторых зусім тэкстуальна зблїжаных зажынкавых і дажынкавых песень укладальнікі кіраваліся напевам.

*А. ЛІС*

---

69 «Советская музыка», 1952, № 7, стар. 55.

# МУЗЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ЖНІЎНЫХ ПЕСЕНЬ

У беларускай традыцыйнай песнятворчасці няма, бадай, жанру, які б так стабільна выяўляў асаблівасці сваёй музычнай структуры, як жніўныя песні. Стабільнасць гэта выклікана ў першую чаргу канкрэтнымі функцыянальнымі задачамі жніўнай песні, яе ідэйна-эмацыянальным і вытворча-прыкладным значэннем, а таксама пэўнай псіхафізіялагічнай абумоўленасцю выканання. Жніўная песня — песня працы. Многія яе інтанацыйныя асаблівасці, рытмічныя і меладычныя «незвычайнасці» тлумачацца іменна характарам працэсаў працы і тымі прыёмамі гуказдабывання, якія магчымы ва ўмовах гэтай працы.

Песні жніўнага цыкла — адзін з старадаўніх жанраў каляндарнай паэзіі. Хоць і не самы старадаўні. Як вядома, эпосе земляробства ва ўсходніх славян папярэднічалі іншыя стадыі вытворчай дзейнасці са сваім колам песеннай тэматыкі. І зараз зрэдку сустракаюцца асколкі рэпертуару таго часу, якія, у прыватнасці, адлюстроўваюць паляўнічую стадыю гаспадарчага жыцця продкаў беларусаў. Аднак іменна земляробства з даўніх часоў стала асноўным заняткам усходніх славян, і песні, звязаныя з гэтым відам дзейнасці, трывала занялі сваё месца ў паэтычным працоўным календары.

Пэўныя гістарычныя і сацыяльныя ўмовы садзейнічалі таму, што найбольш поўна песні жніўнай тэматыкі захавалі сваё значэнне ў песнятворчасці беларусаў. Сустракаюцца жніўныя песні і ў рускіх і ў украінцаў, але зноў-такі пераважна ў тых раёнах, якія непасрэдна мяжуюць з Беларуссю: Пскоўскай, Смаленскай, Бранскай абласцях РСФСР, Чарнігаўскай вобласці УССР і шматлікіх раёнах Украінскага Палесся. Такім чынам, распаўсюджанне і, што асабліва важна, сучаснае бытаванне жніўных песень выяўляе пэўны арэал, гістарычна даволі ўстойлівы. Поўнае ўяўленне пра гэту гістарычную ўстойлівасць, натуральна, атрымаць нельга. Аднак параўнанне першых запісаў жніўных песень, якія адносяцца да 2-й палавіны XIX і пачатку XX ст., з запісамі, зробленымі ў нашы дні, вельмі красамоўна сведчыць пра гэту ўстойлівасць. Асабліва ўражвае супадзенне запісаў, зробленых у адной і той жа мясцовасці з інтэрваламі ў 40—60 гадоў (такія запісы прыводзяцца ў томе). Тут мы маем справу з праяўленнем пэўнай «формульнасці», г. зн. тыповасці напеву, якая замацавалася ў адным вытворча-эмацыянальным значэнні. Тым больш што ў напевах гэтых захаваліся многія рысы, характэрныя для першапачатковага этапа развіцця музычнага мастацтва

(этап «эмацыянальнай тыпізацыі» [1]). Як вядома, важнейшыя музычна-выяўленчыя сродкі, уласцівыя для гэтага этапа, у найменшай ступені падвяргаюцца эвалюцыі, прыкладам чаго і з'яўляецца жніўная песня.

Акрамя гістарычнай, жніўныя песні выяўляюць таксама стабільнасць і ў тэрытарыяльных адносінах. Пры ўсіх сваіх рэгіянальных адрозненнях, іншы раз вельмі значных, асноўная «формульная» структура жніўных напеваў застаецца адзінай для ўсяго арэала іх бытавання. Нават наяўнасць у некаторых раёнах самага простага шматгалоснага распеву жніўных песень не выводзіць іх з кола характэрных інтанацыйна-ладавых і інтанацыйна-рытмічных сродкаў. Праўда, сустракаюцца песні, якія выходзяць за рамкі структурных заканамернасцей жанру. Больш дэталёвае абследаванне выяўляе, аднак, іх адзінкавую сутнасць, своеасаблівую выключнасць, якая пацвярджае агульнае правіла.

Разам з асаблівасцямі інтанавання, якія вынікаюць з працоўных абставін, немалаважную ролю ў захаванні стабільнасці структуры жніўных напеваў адыгрывае абрадавы бок.

Праца і абрад у старажытнай вытворчай практыцы ішлі звычайна побач. Музычная лексіка жніўнай песні таксама абагульніла інтанацыйныя сродкі, якія адлюстроўвалі і працоўны і магічны бакі. Гэта, зрэшты, датычыцца не ўсяго жніўнага цыкла, а толькі таго яго тэматычнага кола, які прысвечаны падрыхтоўчаму і завяршаючаму этапам жніўнага перыяду, г. зн. калі ідэйна-маралізуючая частка пачынае перавышаць непасрэдна вытворчую. Трэба заўважыць, што абраднасць, нягледзячы на неабходную ўстойлівасць дзеянняў, у музычна-структурных адносінах праяўляецца даволі разнастайна. Мясцовыя адрозненні тут больш значныя. Да таго ж на Беларусі сустракаюцца раёны, дзе абраднасць не праяўляецца зусім, хоць, магчыма, у свой час яна мела месца.

Калі працоўныя працэсы аказваюць самы непасрэдны ўплыў на характар інтанавання жніўных песень, то элементы абраднасці праяўляюцца ў ім менш прыкметна і пастолькі, паколькі яны сустракаюцца ва ўсіх астатніх жанрах традыцыйнай песнятворчасці (вясельныя, купальскія, калядныя і інш.). Таму наўрад ці можна тут вылучыць спецыфічныя, характэрныя толькі для гэтага жанру музычна-выразныя сродкі (як гэта было магчымым са сродкамі, якія абапіраюцца на працоўныя працэсы), хоць пэўную перавагу некаторых з іх можна адзначыць і тут.

І ўсё ж беларуская жніўная песня засталася б толькі прыватнай з'явай у агульнай эвалюцыі музычнай выразнасці, калі б яна не набыла з цягам часу значнага сацыяльнага сэнсу. Гэта датычыцца галоўным чынам уласна працоўнай песні, якая стала песняй вялікага жалю і вялікага гневу.

Цікава, што абрадавыя песні, асабліва дажынкавыя, неяк абышлі гэту тэматыку. Больш таго, у іх захавалася пэўная ідэалізацыя існуючага ладу:

---

[1] Гл.: В. И. Елатов. Мелодические основы белорусской народной музыки. Минск, 1970, стар. 32—45.

праслаўленне пана-гаспадара, чаканне ад яго ўзнагароды. Бадай, гэта і натуральна. Сэнс абраднасці — у замацаванні і захаванні тых ці іншых жыццёвых установак, фетышызацыі пэўных ідэалагічных асноў. Умовы ж працы, асабліва працы эксплуатуемай, ясна і адразу ж высоўваюць новыя ідэйныя ўстаноўкі («быццё вызначае свядомасць»). І жніўная працоўная песня — яскравы прыклад гэтага.

У наш час тэрмін «жніўная песня» ў навуковай і папулярнай літаратуры атрымаў двоякі сэнс. Больш шырокі — маюцца на ўвазе ўсе песні, якія выконваюцца ў перыяд жніва; больш вузкі — песні ўласна жніўныя, г. зн. песні працоўныя, якія выконваюцца толькі ў палявых умовах. Такая двоякасць паняцця існуе і ў народнай тэрміналогіі, але ў кожнай асобнай мясцовасці аддаецца перавага якому-небудзь аднаму азначэнню жанру.

Іншы раз нюанс паміж рознымі жанравымі падцыкламі адчуваецца ў такіх азначэннях, як «пяюць, як жнуць», «як жыта зажынаюць», «як ідуць са снапом дадому» і г. д. Есць мясцовасці (у прыватнасці, Петрыкаўскі, Рагачоўскі, Светлагорскі і некаторыя іншыя сумежныя з імі раёны Гомельскай вобласці), дзе тэрмін «жніво» ўвогуле не ўжываецца. Замест яго выкарыстоўваецца тэрмін «талака». У якасці сіноніма жніўных песень выкарыстоўваюцца таксама азначэнні «лета», песні «летнія», «жытнія», «жнейскія», «абжынскія» і інш.

Вельмі часта, акрамя назвы «песні жніўныя», ужываецца назва «песні летнія» ці проста «лета». Да апошніх адносяцца песні іншых жанраў, выкананне якіх прымеркавана да лета. Тут сустракаюцца песні вясельныя, веснавыя, восеньскія, баладныя, лірычныя. З лірычных асабліва распаўсюджаны такія, што апавядаюць пра цяжкі лёс жанчыны, у чым нельга не ўлавіць падабенства іх з уласна жніўнымі песнямі, таксама багатымі на тэмы пра цяжкае становішча жанчыны-працаўніцы.

Уся гэта тэрміналагічная разнастайнасць даволі ўскладняе навуковую класіфікацыю і першапачатковую пашпартызацыю песень жніўнага цыкла, асабліва калі пры гэтым знікаюць з поля зроку музычныя асаблівасці і дакладнае функцыянальнае значэнне кожнай канкрэтнай песні.

Паказчыкам функцыянальнага сэнсу жніўных песень з'яўляецца ў першую чаргу напеў. «Формульнае» значэнне напеву дакладна дыферэнцыруе песні жніўнага цыкла на тры асноўныя падцыклы: песні зажынкавыя, песні ўласна жніўныя і песні дажынкавыя. Зажынкавыя і дажынкавыя песні тыпова абрадавыя па свайму сэнсаваму і меладычнаму значэнню. Жніўныя песні — ядро цыкла — працоўныя.

Вядома, строгіх стылістычных межаў паміж гэтымі падцыкламі зараз няма, яны існавалі, відаць, у мінулым. З цягам часу эвалюцыя жанру стварыла рад пераходных форм, якія аб'ядноўваюць меладычныя прыкметы двух і нават трох падцыклаў. У наш час вельмі адчуваецца і ўнутрыжанравае зліццё. У некаторых раёнах зажынкі і дажынкі спяваюць «на адзін голас» (г. зн. напеў). Нярэдка ў час зажынак выконваюць жніўныя песні,

а ў час жніва — песні з дажынкавай тэматыкай. Так, тыпова дажынкавы сюжэт «Рада, рада перапёлка» вельмі часта спяваецца на жніўны напеў, а песня «Гаварыла поле шырокае» на аднолькавых правах абслугоўвае і зажынкі, і жніво, і дажынкі. У некаторых раёнах Беларусі сустракаецца песня, якая адносіцца і да зажынак і да дажынак, толькі з заменаю аднаго слова: «Сягоння ў нас зажыначкі» або «Сягоння ў нас дажыначкі».

Асабліва распаўсюджана тэндэнцыя «распеву» зажынкавых і дажынкавых песень на жніўны манер[2]. Гэта заканамерна таму, што і зажынкавыя і дажынкавыя песні ўключаюць таксама песні, звязаныя з працоўнай тэматыкай: і пачатак і канец жніва адбываюцца ў тых жа ўмовах, што і само жніво. Некаторыя дажынкавыя песні захавалі і ў распеве жніўнага тыпу свае першасныя жанравыя адзнакі. Так, песня «Вечар вечарэе» (82)[3] мае кадэнцыю на II ступені, як убачым далей, вельмі нехарактэрную для жніва і тыповую для дажынак. Хутчэй за ўсё і цыкл песень-велічанняў «Ой, багат наш пан» (181—184) таксама з'яўляецца распетым у «жніво» варыянтам дажынкавай песні.

З другога боку, тыпова жніўныя песні, сутыкаючыся з тэматыкай зажынкавай і асабліва дажынкавай, не трацячы сваіх інтанацыйных якасцей, значна трансфармуюцца іншы раз метрарытмічна і структурна.

Разам з тым і да цяперашняга часу сустракаюцца раёны (Віцебская вобласць), дзе дажынкавыя і жніўныя песні дакладна дыферэнцыраваны па асноўных выразных сродках: ладу, рытму, мелодыцы, структуры.

Што датычыцца песень «летніх», якія перайшлі ў кола жніўных з іншых жанраў, то многія з іх набылі таксама і адпаведныя рысы. У сваю чаргу праз такія песні, як вясельныя, у жніўным цыкле атрымаў распаўсюджанне нехарактэрны для яго прыём псіхалагічнага паралелізму.

І ўсё ж большасць «летніх» песень нельга аднесці да жніўных ні па тэматыцы, ні, самае галоўнае, па меладычных асаблівасцях. Яны не ўваходзяць прама ў жанр жніўных песень, а з'яўляюцца хутчэй толькі пэўным рэпертуарам, які выконваецца ў летні перыяд (з'ява гэта шырока распаўсюджана ў беларускай народнай песнятворчасці і ў адносінах да іншых цыклаў). Песні «летнія» пераважна выконваюцца ў вольны ад працы час па дарозе на поле ці з поля. Сярод іх шмат і такіх, якія, паводле слоў выканаўцаў, можна пачуць і на вяселлі. Ёсць мясцовасці, дзе песні «летнія» наогул пераважаюць. Аб гэтым сведчаць матэрыялы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці, змешчаныя ў зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава. Шмат тут вясенніх лірычных песень з характэрным для іх гукарадам — мінорным пентахордам з прапушчанай II ступенню. Ёсць песні любоўнай і іншай тэматыкі, аж да вядомай на Беларусі карагодна-бытавой песні «Ох, і сеяла Ульяніца лянок».

---

[2] Пры аднясенні напеву пераасэнсаванай песні ў той ці іншы паджанравы раздзел мы ўлічвалі музычныя якасці, пэўны «формульны» распеў.
[3] Лічбы ў дужках адносяцца да парадкавых нумароў нотных прыкладаў.

Цікава адзначыць, што песні гэтыя іншы раз выконваюцца не як дапаўненне, а замест жніўных. Магчыма, тут мы можам зарэгістраваць рэдкі выпадак жанравага пераасэнсавання — пранікнення лірычных матываў у традыцыйна-вытворчую тэматыку. Такі працэс быў заўважаны фалькларыстамі даўно. Ужо даваенныя запісы ўзораў беларускага музычнага фальклору дазволілі З. Эвальд сцвярджаць, што «з прычыны моцнай семантычнай сувязі традыцыйных каляндарных напеваў з пэўным колам лірычных тэм і вобразаў у склад каляндарных песенных цыклаў паступова ўцягвалася вялікая колькасць нанава ствары́ўшыхся (ці тых, што прыйшлі з іншых жанраў.— *В. Я.*) песень, якія не мелі ўжо ніякай, нават генетычнай, сувязі з абрадамі ці з каляндарнай працай»[4].

Сапраўды, пранікненне лірычнай тэматыкі стварыла даволі стракаты малюнак каляндарна-абрадавай песнятворчасці і, па словах той самай З. Эвальд, «замарудзіла тэматычную дыферэнцыяцыю песень і разам з тым збяднiла раздзел «уласна лірычных песень», г. зн. не замацаваных за календаром»[5].

Праўда, не ва ўсіх традыцыйных жанрах змяшанне з лірычнай тэматыкай рабіла блытаніну. У жніўным цыкле «тканкавая несумяшчальнасць» дзякуючы дакладнай «формульнасці» напеву адразу кідаецца ў вочы і без цяжкасцей выяўляюцца чужародныя элементы.

Неабходнасць дыферэнцыраванага падыходу да жніўных песень і «лета» абумоўлена яшчэ і тым, што першыя прыкладна ў адной і той самай тэматыцы выконваюцца па ўсім арэале распаўсюджання гэтага жанру. «Летнія» ж песні ў кожнай мясцовасці бываюць свае, складаюцца ў кожным асобным выпадку з розных жанраў і маюць розную ступень прымацаванасці да пэўнага перыяду часу. Больш таго, ёсць раёны (напрыклад, поўдзень Палесся), дзе ў час жніва ўвогуле не выконваюць іншых песень акрамя традыцыйных жніўных. Такім чынам, апошнія і ў гэтым выпадку выяўляюць сваю тыповую жанравую ролю.

Да раздзела жніўных песень іншы раз адносяць і так званыя талочныя песні. Аднак даследаванне паказала, што рэдка дзе гэтыя песні прымацоўваюцца іменна да жніўнага перыяду У большасці выпадкаў талочныя песні пераходзяць, у залежнасці ад пары года, ад аднаго цыкла да другога. Як песні ў большасці сваёй святочна-застольныя, яны выконваюцца пры завяршэнні розных відаў калектыўнай працы: пры вывазцы гною, пры завяршэнні ўборкі ўраджаю і г. д.

Тыповую жніўную меладычную структуру набываюць некаторыя песні, блізкія ім па функцыі, але якія выконваюцца ў іншы час. Да іх адносяцца так званыя касарскія песні. Вельмі распаўсюджаная сярод іх песня «За гарою касец косіць» у многіх мясцовасцях выконваецца як жніўная. З іншых

---

[4] Белорусские народные песни. М.—Л., 1941, стар. 112.
[5] Там жа, стар. 113.

песень, блізкіх па меладычнаму стылю да жніўных, трэба адзначыць вясеннія заклічкі-галашэнні, а таксама некаторыя льняныя.

На спецыфічныя рысы музычнай структуры жніўнай песні фалькларысты звярнулі ўвагу яшчэ ў XIX ст., хоць гэта спецыфіка не была асэнсавана поўнасцю. Вельмі незвычайнай паводле паняццяў таго часу была яе інтанацыйная будова, якую іншы раз зусім немагчыма было зафіксаваць сістэмай 12-ступеннай тэмперацыі. Больш ці менш дакладна былі адлюстраваны ладавыя асаблівасці жніўных песень: вузкі ладавы амбітус і субкварта як характэрная ладавая прыкмета. Значныя цяжкасці сустракалі фалькларысты пры запісу метрарытмічнай будовы жніўнай песні. Напаўімправізацыйны склад яе, нераўнамерна тэмпераваны строй, незвычайныя метрычныя групы і складаныя распевы, якія ўключаюць і музычныя і моўныя інтанацыі,— усё гэта не садзейнічала больш ці менш правільнай фіксацыі гэтых напеваў. Асабліва пашкодзіла «прымусовая метрызацыя» некаторых з іх. З цягам часу, ужо ў XX ст., даследчыкі прыйшлі да вываду аб нястрогай метрарытмічнай структуры жніўных напеваў, аб іх своеасаблівай пластычнай зменлівасці, якая дапускала ў шырокіх межах варыяцыйныя пераўтварэнні.

Значную цяжкасць уяўляе класіфікацыя жніўных напеваў. Выключаючы найбольш простую — тэматычную (уласна змест), якая далёка не заўсёды супадае з сэнсам напеву, у навуковым ужытку часцей за ўсё выкарыстоўваюць класіфікацыю ладавую. Сапраўды, лад — найбольш даступны элемент музычнага стылю жніўных песень. Аднак гэта занадта абагульнены і, самае галоўнае, не заўсёды аб'ектыўны кампанент, асабліва калі гаворка ідзе пра запісы мінулых гадоў. Як гаварылася вышэй, фалькларысты часта апускалі ці выпраўлялі незвычайныя для еўрапейскага прафесійнага слыху высотныя дублі ступеней. Дарэчы, па-за ўвагай маглі застацца і найбольш істотныя прыкметы. Так, відаць, атрымалася з гетэрафоніяй, сапраўды даволі незвычайнай для прафесійнага ўяўлення формай шматгалосся. Але, як паказалі запісы апошніх дзесяцігоддзяў, для некаторых мясцовасцей яна мае вялікае значэнне ў стылістычнай характарыстыцы песнятворчасці.

Класіфікацыя напеваў па іх вобразна-інтанацыйнай будове шмат у чым супадае з класіфікацыяй па лакальнай прыкмеце, але патрабуе больш тэрытарыяльна шчыльнай, чым гэта назіраецца ў дадзеным томе, сеткі даследавання жанру. Да таго ж тут павінна ісці гаворка пра комплекснае, у аб'ёме ўсёй песнятворчасці, даследаванне мясцовых стылістычных асаблівасцей.

Як нам уяўляецца, асновай класіфікацыі напеваў, якая рэдка скажаецца пры фіксацыі і разам з тым наглядна выяўляе кантрастныя моманты, павінна з'яўляцца структура тэкставай страфы.

Наогул музыка ведае дзве сферы выразнасці: інтанацыйную і структурную. Як паказалі даследаванні народнай песнятворчасці, першая сфера — інтанацыйная — найбольш рухомая, узаемапераходная. Калі адзін бок яе — музычная мова — параўнальна ўстойлівы, то другі — тэматызм і метады яго

развіцця — мае схільнасць да хуткага пераўтварэння. Яркі прыклад гэтага — жніўная песня. Нават у аднаго і таго ж выканаўцы адна і тая ж песня ў розны час гучыць па-рознаму, нават мяняецца ладавае нахіленне (іменна ў гэтых багатых варыянтамі зменах прыгажосць такога сціплага на ладавыя сродкі жанру, як жніўная песня). Разам з тым структура жніўных песень рэдка дэфармуецца. Гэта, бадай, адна з найбольш устойлівых канстант жніўнага напеву, якая дае магчымасць выдзеліць пэўныя тыпы песень жніўнага цыкла. Да таго ж гэтыя тыпы выяўляюць узаемасувязь структуры з інтанацыйнымі выразнымі сродкамі, а таксама маюць тэндэнцыю канкрэтызавацца ў пэўных жа лакальных умовах. Толькі зажынкавыя песні мы імкнуліся класіфікаваць па іх меладычна-вобразнаму сэнсу, таму што яны, нягледзячы на сваю малалікасць, аб'ядноўваюць даволі супрацьлеглыя па эмацыянальна-вобразнаму складу напевы.

Вядома, у аснове нашай класіфікацыі ляжаць найбольш агульныя, стабільныя структурныя прыкметы, без уліку тых адхіленняў «ад нормы», якія заўсёды ўносяць разнастайнасць нават у самыя традыцыйныя песенныя жанры.

**Зажынкавыя песні** складаюць, як мы адзначылі, невялікі працэнт ад агульнай колькасці песень жніўнага цыкла. У некаторых мясцовасцях Віцебшчыны іх увогуле не ведаюць і ў час абраду зажынак выконваюць звычайныя жніўныя песні або ўжываюць, адпаведна змяніўшы тэкст, дажынкавыя песні. Іншы раз абрад зажынак суправаджаецца песнямі святочнага, застольнага характару. Так, П. Шэйн піша (на жаль, не ўказана дакладна мясцовасць), што «ўвесь першы дзень зажынак... неаднаразова паўтараюцца выпіўкі і скокі» [6]. Відаць, пры гэтым гучалі і адпаведныя песні.

У некаторых вёсках (паўднёвыя раёны) зараз ужо не памятаюць самога абраду зажынак. Аднак у З. Радчанкі [7] прыводзяцца тэксты тыповых зажынкавых песень, якія маюць дакладныя метрычныя напевы. Па словах той жа З. Радчанкі, зажынкавыя песні спяваюць і хорам і паасобку (таксама як і жніўныя ў той жа мясцовасці).

Да зажынкавых непасрэдна далучаюцца песні, якія суправаджаюць абрад «агледзін жыта». Яны змыкаюцца з юр'еўскімі песнямі і наогул з песнямі позняй вясны і прысвечаны заклінанню «добрага ўраджаю». На поўдні Беларусі (Брэсцкая вобласць) іх пачынаюць спяваць у канцы мая ці пачатку чэрвеня. Жанчыны, апрануўшыся па-святочнаму, выходзяць у поле, дзе ўжо пачынае каласіцца жыта, і спяваюць адпаведныя песні. Песні гэтыя тыпова заклінальныя як па зместу, так і па мелодыцы:

Ой, лета, лета,
Зарадзі, божа, жыта

(у больш ранніх варыянтах — «Зарадзі, сонца, жыта»).

---

[6] П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887, стар. 239.
[7] З. Радченко. Гомельские народные песни. СПб, 1888.

Змешчаныя ў томе зажынкавыя песні ў асноўным запісаны на захадзе Беларусі, але ёсць звесткі пра існаванне такіх песень і ў іншых месцах. Запісы ў большасці даволі канкрэтныя па ладавай і метрычнай структуры, у чым не апошнюю ролю адыграла іх абрадавае функцыянальнае прызначэнне.

Па свайму сэнсаваму значэнню, якое знаходзіць непасрэдны адбітак у інтанацыйнай структуры, зажынкавыя песні падзяляюцца на тры тыпы: заклінальныя, велічальна-ўрачыстыя і працоўныя.

Песні *заклінальнага* характару часцей за ўсё адносяцца да пераджніўнага перыяду, калі толькі закладваюцца асновы будучага ўраджаю. Аснова тэматызму іх — «замова» ўраджаю. Заклінальная функцыя зажынкавых песень абумоўлівае паўтарэнне метрычна дакладных кароткіх папевак, якія маюць магічны сэнс (тыповы прыклад — песня 1). Трохразовы паўтор адной і той жа папеўкі сапраўды стварае ўражанне настойлівай замовы. Нягледзячы на тое, што песня мае жніўны лад, нават з субквартай, яна дзякуючы дакладнаму метру ў жанравых адносінах цалкам самастойная:




Больш развітая ў меладычных і структурных адносінах другая песня гэтага тыпу (3). Фаршлагі, глісанда, складараспевы некалькі набліжаюць яе да працоўных жніўных песень. Аднак і ў яе аснове ляжыць шматпаўторная папеўка «магічнага сэнсу» — сыходзячы ход ад тэрцыі лада да ўстоя.

Песні *велічальна-ўрачыстага* характару абслугоўваюць пачатак жніва — сам па сабе ўрачысты момант. Абраднасць тут мае ўжо некалькі іншы змест. Гэта — усллаўленне, падзяка сілам прыроды. Напевы песень падобнага тыпу больш развітыя, чым заклінальных, хоць таксама маюць характэрную інтанацыйную структуру. Яны, як правіла, выразна метрычныя, лад пераважна мажорны і больш шырокі — пентахорд (іншы раз з секстай), але ёсць і традыцыйная «жніўная» структура з субквартай. Па некаторых прыкметах песні гэтага тыпу блізкія да велічальных вясельных. Той жа ўздым настрою, асэнсаванне значнасці падзеі, своеасаблівая размашыстая манера выканання:




Калі ў зажынкавых заклінальных песнях элементы заклінання ёсць і ў тэксце і ў напеве, то велічальныя напевы часта суправаджаюць змест іншага сэнсу, як правіла, зноў-такі заклінальнага.

Песні *працоўныя* выконваюцца непасрэдна ў час зажынак і паколькі яны не абрадавыя, то амаль па ўсіх прыкметах супадаюць з жніўнымі песнямі. Бадай толькі тэкст можа падказаць, да якога этапа жніва яны адносяцца. Песень гэтага тыпу мала, і, як сведчаць выканаўцы, тут ужо часцей за ўсё пачынаюць спяваць уласна жніўныя песні.

**Жніўныя песні** — самы багаты па колькасці і разнастайнасці мясцовых варыянтаў жанр жніўнай тэматыкі, класіка беларускай раннетрадыцыйнай каляндарнай песнятворчасці, якая выяўляе рысы не толькі жанру, але і многія заканамернасці пэўнага этапа музычнага мыслення.

Нягледзячы на свае параўнальна небагатыя ладава-меладычныя рэсурсы, жніўная песня ўвабрала ў сябе шырокае кола вобразных асацыяцый. Як ні ў якой іншай народнай песні, у жніўнай сканцэнтраваны напеўныя, «вакалізуючыя» элементы манодыі (гл., напрыклад, песню 95). У гэтых адносінах беларуская жніўная песня ў некаторай ступені блізкая да ўсходніх макамаў, якія таксама праяўляюць свой меладычны пачатак у стыхіі вакалізацыі. Багацце інтанацый «эмацыянальнай тыпізацыі», лірычны па сваёй сутнасці аспект раскрыцця навакольнага свету, вырашэнне самых затоеных душэўных перажыванняў — усё гэта садзейнічала фарміраванню ў жніўным напеве выключна гнуткіх інтанацыйных комплексаў. У мелодыцы жніўнай песні, нават не пачуўшы слоў, можна ўлавіць найтанчэйшыя адценні эмацыянальнага стану выканаўцы, адчуць узровень яго духоўнай выхаванасці і мастацкага густу.

Выканаўцамі жніўных песень з'яўляюцца пераважна жанчыны, што вызначаецца гаспадарчым укладам старой беларускай вёскі, дзе асноўная цяжкасць уборачнай працы ўскладвалася на яе плечы. У сувязі з гэтым трэба звярнуць увагу на своеасаблівы тэмбрава-фанічны эфект спеваў. Песня, якая выконваецца «на волі», пад гарачымі праменнямі сонца (і ў нязручным стане), гучыць нібыта ад самой глебы. Нізкі жаночы голас (іншы раз контральта) сцелецца, як гукавое марыва. І толькі пусціўшы «Гу-у-у» па ўсяму полю, амаль да вёскі, спявачка як бы дае выхад сваім непасрэдным эмоцыям.

Зараз ужо рэдка можна пачуць жніўную песню ў час самой працы. У некаторых мясцовасцях увогуле не памятаюць, як яе выконвалі ў такіх умовах. Аднак у многіх вёсках, асабліва на поўдні Беларусі (Петрыкаўскі, Быхаўскі, Рагачоўскі, Жыткавіцкі, Гомельскі і іншыя раёны) яшчэ даволі падрабязна могуць расказаць, як гэта адбывалася. Зрэшты, нават не чуўшы гэтых апавяданняў, а толькі слухаючы напеў, можна адзначыць у ім рад момантаў, якія ніякімі іншымі прычынамі, акрамя працоўных намаганняў, растлумачыць нельга. Сюды адносяцца і асобнага тыпу глісанда, і шматлікія уханні, эханні, і абрывы слоў, і іншыя элементы натужлівых спеваў. Большая частка напеваў, змешчаных у дадзеным томе, выконваецца ў час адпачынку ці ў дарозе. Сярод іх ёсць таксама шырокараспетыя, але большасць выяўляе элементы метрычнай перыядызацыі.

Магчыма, сама манера выканання песні залежыць шмат у чым ад умоў выканання. У многіх фалькларыстаў функцыя жніўнай песні часта вызначаецца так: «як жнуць жыта». Ці сам працэс жніва тут маецца на ўвазе, ці час жніва наогул — цяжка сказаць. Ва ўсякім выпадку тыя песні, якія былі зафіксаваны або проста пачуты ў працэсе жніва (К. Квітка, Г. Цітовіч і інш.), не даюць падставы сумнявацца ў іх натуральнасці [8].

Стабільнасць меладычных асаблівасцей жніўных песень з'яўляецца прычынай таго, што яны нячаста з тым самым напевам выконваюцца ў іншых умовах. Больш таго, ад многіх спявачак наогул цяжка запісаць «жніво» не ў пару (выкананне жніўных песень «абы так» з'яўляецца для вясковых пясняpак даволі кур'ёзнай справай).

Характэрнай з'явай для жніўных песень стаў так званы тыповы напеў, дакладней, абагульненая лада-меладычная схема, па якой выконваецца мноства (да 20) тэкстаў [9]. Розніца паміж асобнымі варыянтамі тыповага напеву вызначаецца або складовай колькасцю розных радкоў тэксту, у сувязі з чым некалькі змяняецца метрарытмічная канва напеву, або варыяцыйным майстэрствам выканаўцы, якая можа знаходзіць тонкія нюансы для кожнага слоўнага вобраза. Дарэчы, гэта варыяцыйнасць праяўляецца і ў паўторах той жа песні, і ў розных строфах адной песні, і нават у адной і той жа страфе, якая выконваецца паўторна. Звычайна такіх тыповых напеваў у выканаўцы 1—3, радзей больш. Часта ва ўсіх выканаўцаў адной вёскі існуе адзін тыповы напеў жніўнай песні, аднак у залежнасці ад майстэрства і эмацыянальнага ўзроўню выканання гэты напеў можа вар'іравацца ў даволі шырокіх межах.

У аснове ладавай будовы жніўных песень ляжыць тэрцавы лад з субквартай — адзін з самых распаўсюджаных ладоў старадаўняй беларускай народнай музыкі. Тэрцавы лад з субквартай сустракаецца часта і ў іншых жанрах раннетрадыцыйнай песнятворчасці, але ў жанры жніўных песень ён праяўляецца найбольш паслядоўна, устойліва і разнастайна. Нездарма некаторыя даследчыкі называюць гэты лад «летнім гукарадам». Тэрцавая ладавая рамка іншы раз пашыраецца ўверх да кварты. Пры гэтым квартавы гук часцей за ўсё мае дапаможнае значэнне: гук апявання, прад'ёму. Амаль ніколі пашырэнне не даходзіць да квінты. Калі ж гэта здараецца, прыкметы ладавай характарнасці настолькі кардынальна і прынцыпова мяняюцца, што вядуць да з'яўлення зусім іншага лада-меладычнага стылю, не ўласцівага традыцыйнай жніўнай песні.

Знізу тэрцавую ячэйку лада абслугоўвае гук, які знаходзіцца ад тонікі на кварту ўніз (субкварта). З'яўленне гэтага гуку хутчэй за ўсё абумоўлена працэсамі працы. Тым больш што субкварта не заўсёды праяўляецца

---

[8] Фоназапісы гутарак са спявачкамі пра выкананне жніўных песень ва ўмовах працы захоўваюцца ў архіве ІМЭФ АН БССР, ф. 2, воп. 10, стуж. 50 і 96; ф. 20, воп. 72, стуж. 22 і інш.

[9] В. Елатов. Ладовые основы..., стар. 67.

ў дакладным высотным значэнні. Вельмі часта гэта глісандыраваны адкат ці падкат (ці проста прыдыхальны гук) на няпэўную вышыню. Наяўнасць ці адсутнасць субкварты — магчымы вынік мясцовых асаблівасцей манеры спявачь. Але нам здаецца, што ўсё ж субкварта адыгрывае большую ролю, чым гэта зафіксавана ў напевах, асабліва ў публікацыях мінулых гадоў. Справа ў тым, што не ўсюды гэты гук вымаўляецца ясна і па вышыні і артыкуляцыйна. Многія фалькларысты проста маглі не ўлічваць наяўнасць гэтага гуку, вельмі праблематычнага з пункту гледжання прафесійнага вакалу. Субквартавы гук не заўсёды інтануецца і выканаўцамі, якія спяваюць спецыяльна для запісу: адсутнічаюць умовы для праяўлення гэтага вакальна-тэхналагічнага прыёму. Субкварта звычайна застаецца незапоўненай; нават калі і запаўняецца, дык толькі VII ступенню, уводным гукам, натуральным або гарманічным. Наяўнасць VI ступені ў гэтым ладзе таксама з'яўляецца вядомай стылістычнай супярэчнасцю. Ёсць ладавыя схемы, у якіх VII ступень прысутнічае і без субкварты. У гэтым выпадку яна таксама часцей за ўсё мае дапаможны характар.

Такім чынам, ладавая структура беларускіх жніўных песень укладаецца ў восем наступных схем, якія вельмі рэдка парушаюцца дадатковымі ўняеннямі:



Вельмі своеасаблівае ў жніўных песнях ладавае нахіленне. Увогуле можна сказаць, што для іх найбольш характэрны натуральны мажор і натуральны мінор. Аднак тэрцыя лада вельмі часта мае так званую нейтральную характарыстыку, г. зн. нешта сярэдняе паміж мажорам і мінорам. «Нейтральная» тэрцыя няўстойлівая і ў працэсе выканання песні можа пераходзіць то ў мажор, то ў мінор. Іншы раз гэта блуканне працягваецца амаль да канца страфы, але сам канец гучыць заўсёды ясна — ці ў мажоры,

ці ў міноры. Блуканне тэрцыі лада паміж двума пэўнымі нахіленнямі больш за ўсё характэрна для першай страфы. Выканаўца як бы шукае неабходны для яе эмацыянальны ўзровень. Узровень гэты, як мы казалі, канчаткова ўстанаўліваецца ў канцы першай страфы і далей прысутнічае ў астатніх.

Дарэчы, ёсць выпадкі няўстойлівага значэння тэрцыі для наступных строф. Іншы раз і заканчэнні іх бываюць рознымі па нахіленню. Канчатковым праяўленнем гэтай тэндэнцыі з'яўляецца пераменнае выкананне строф то ў мажоры, то ў міноры (253). Сама аснова такога ладавага каларыравання ўзыходзіць, відаць, да старадаўніх прыёмаў музычнага асэнсавання рэчаіснасці і звязана з эпохай, калі мажор і мінор не былі дакладна дыферэнцыраваны[10]. На Беларусі яшчэ і зараз сустракаюцца раёны, дзе лад жніўнай песні (і не толькі жніўнай) залежыць ад настрою выканаўцы. Напрыклад, калі паўднёвыя жніўныя песні, г. зн. песні, якія выконваюцца ў час працы, схільныя да мінору, то песні вячэрнія, якія выконваюцца па дарозе дамоў,— да мажору. У якасці прыкладу можна назваць песні 49 і 86, запісаныя амаль у ідэнтычных высотна-меладычных і рытмічных контурах (тыповы напеў). Але першая з іх «А я жала, прыжалася», поўная сумных адчуванняў,— у міноры, другая «Жнеечка дамоў ішла» прыўзнятага настрою — у мажоры. Да таго ж першая выконвалася ў тэмпе Lento, другая — ужо ў тэмпе Moderato.

Агульныя суадносіны жніўных напеваў мажорнага і мінорнага лада прыкладна аднолькавыя. Што датычыцца іх тэрытарыяльнага існавання, то даследчыкі аддаюць перавагу мінору для паўднёвага ўсходу Беларусі, мажору — для паўночнага захаду. Дарэчы, гэта датычыцца не толькі самаго лада, але і агульнай эмацыянальнай манеры выканання. Так, мінорны лад жніўных напеваў гучыць больш «мінорна» на Палессі, чым, напрыклад, на Віцебшчыне.

Фіксацыя «нейтральнай», або «блукаючай», тэрцыі пачалася фальклерыстамі параўнаўча нядаўна. Так што ў адносінах да большай часткі апублікаваных запісаў мы не можам арыентавацца на чыста колькасны бок гэтай ладавай асаблівасці. Думаем, аднак, што яна наўрад ці з'яўляецца вынікам навейшых утварэнняў у народным меладызме.

Такім чынам, можна сказаць, што для жніўных напеваў самай характэрнай і, відаць, выключнай з'яўляецца аднайменная мажорна-мінорная пераменнасць. Сярод запісаў, змешчаных у томе, толькі дзве выяўляюць паралельную пераменнасць, але не ўнутры адной страфы, а паміж суседнімі. Адзін з гэтых запісаў (107) наогул з'яўляецца унікальным. Танальныя суадносіны асобных строф — ля-мінор — до-мажор — ля-мінор — утвараюць трохчасткавую форму з ярка выражанай рэпрызнасцю. Нават у больш раз-

---

[10] Пераход мажору ў мінор або да «нейтральнага» значэння лада іншы раз адбываецца па чыста суб'ектыўных прычынах. Пры выкананні шматстрофнай песні, асабліва калі яна выконваецца ў высокай тэсітуры, можа проста паступова асядаць голас.

вітых жанрах беларускай народнай песнятворчасці пры пераходзе танальнасці ў сваю паралель адваротнага вяртання звычайна не адбываецца. Відаць, тут мы маем справу са своеасаблівай мутацыяй унутры жанру, мутацыяй, накіраванай на далейшае развіццё яго структурных якасцей. У другой песні (70) адбываецца пераход з мажору ў паралельны мінор і замацаванне ў ім.

Акрамя тэрцыі, у «жніўным ладзе» пераменнае значэнне мае VII ступень (калі яна ёсць). Тут не заўсёды ясна выражанае натуральнае або гарманічнае значэнне ўводнага тону. Яго ладавае значэнне звычайна адбываецца ў залежнасці ад меладычных умоў выкарыстання. Аднак больш адпаведным стылю з'яўляецца натуральны ўводны тон.

Зрэдку ў жніўных напевах сустракаецца II паніжаная ступень — своеасаблівы элемент фрыгійскага лада. Яна таксама мае пераменнае значэнне ў залежнасці ад меладычнага руху: пры сыходным руху яна паніжана, пры ўзыходным натуральная. Эпізадычна сустракаюцца ў жніўных песнях і іншыя ладавыя схемы, аж да трыхордавых. Магчыма, гэта рэдкая мясцовая асаблівасць або вынік зусім блізкага кантакту з якім-небудзь іншым жанрам.

Ладавыя магчымасці жніўных песень параўнальна абмежаваныя: трычатыры гукі. Праўда, малая колькасць у значнай ступені кампенсуецца якасцю: пераменным значэннем некаторых ступеней, асабліва тэрцыі. І ўсё ж нават у гэтых умовах жніўныя напевы засталіся б у многім стандартнымі, калі б не іх найбагацейшая, вынаходлівая, іншы раз вытанчаная рытміка.

Наўрад ці ёсць магчымасць сістэматызаваць асобныя рытмічныя ўтварэнні — яны надта разнастайныя і пераменлівыя. Часта зменлівы метрарытм робіць уражанне вялікага прастору, прыцілегласці. Рытміка жніўных напеваў развіваецца, можна сказаць, у пастаянных дыялектычных супярэчнасцях. Метрычныя перабівы, несіметрычныя рытмічныя матывы, незвычайнае чаргаванне кароткіх і працяглых доляў цяжка паддаюцца дакладнаму метрычнаму ўліку. Таму ў натаванні жніўных напеваў часта адсутнічаюць абазначэнні метра або гэты метр індывідуальны для кожнай фразы.

Большасць публікуемых запісаў падзяляецца толькі па паўстрофах, хоць іншы раз магчымы і больш дробныя падзелы. Раннія публікацыі часта давалі адзіную метрычную канву, уніфікаваную з пункту гледжання прафесійных норм. Трэба сказаць, што да многіх напеваў гэта сістэма дастасавальная. Напевы з дакладнай метрычнай структурай характэрны як для некаторых раёнаў, так і для пэўнага кола песень увогуле. Тут таксама значную ролю адыгрываюць умовы, у якіх выконваецца песня. Натуральна, што чыста працоўныя песні слаба выяўляюць рэгулярную метрычнасць; песні, якія выконваюцца ў час адпачынку і ў дарозе, выяўляюць яе больш адчувальна. Праўда, і тут ёсць свае мясцовыя традыцыі, якія патрабуюць часцей за ўсё «цягнуць» жніўную песню, у якіх бы ўмовах яна ні выконвалася.

Метрарытмічнай гнуткасці жніўных напеваў у многім садзейнічаюць інтанацыйныя ячэйкі, звязаныя з перахопліваннем дыхання, і шматлікія ферматы, якія з'яўляюцца важнейшай стылістычнай прыкметай гэтых напеваў. Фермата — паказчык майстэрства выканаўцы, прыём, які садзейнічае павышэнню эмацыянальнага накалу спеваў. Працягласць ферматы дасягае іншы раз 16 асноўных рытмічных адзінак (пры восьмай — дзвюх цэлых нот). Фермата ў той жа час — паказчык члянення формы. Іменна на ёй заканчваецца паўстрафа ці значная фраза ўнутры яе. Гэта нібы астраўкі чыстай вакалізацыі сярод драматычных або апавядальных меладычных эпізодаў. Усё рытмічнае (і меладычнае) развіццё накіравана да ферматы. Яна — кульмінацыя (пры адсутнасці гукавысотнай вяршыні ў тэрцавым ладзе) гукавой хвалі. Таму папярэдняе рытмічнае развіццё часта мае паскораны характар. Асабліва звяртаюць увагу недацягнутыя «да цотнасці» рытмічныя долі. Так, сярод чвэрцяў трапляецца аднолькавая восьмая або чвэрць з кропкай, якая не мае свайго падаўжэння:




Паскораная рытмічная пульсацыя праяўляецца і ў частым выкарыстанні трыольных пабудоў, у тым ліку тых, што маюць так званую ламбардскую структуру:



і інш.

Вельмі часта рытмічная канва першай страфы ў жніўных песнях не супадае з наступнымі. Акрамя рознага складабудавання верша вялікую ролю тут адыгрывае чыста суб'ектыўны момант — мастацтва выканаўцы. Але і пры гэтым важнейшыя раздзелы формы, у прыватнасці кадэнцыі, маюць, як правіла, ідэнтычны рытмічны малюнак.

У цэлым рытміку жніўных напеваў можна аднесці да «нерэгулярна часавымяральнай». Акцэнт галоўным чынам выяўляецца ў доўга вытрыманых гуках. Нерэгулярнасць — у спалучэнні квадратных і неквадратных рытмічных пабудоў. Да таго ж у жніўнай песні мноства і такіх цяжкіх для адліку рытмічных фігур, як наступныя:



і інш.

Увогуле ўзнаўленне жніўнага напеву па скрупулёзна дакладнаму запісу з'яўляецца амаль безнадзейнай справай. Аднак больш просты запіс таксама не перадае ўсіх яго інтанацыйных нюансаў. Вядома, што па-сапраўднаму зразумець і ацаніць народную песню можна толькі тады, калі пачуеш яе натуральнае гучанне. Ні да якога іншага жанру беларускага фальклору гэта так не адносіцца, як да жніўнага.

Чыста меладычныя асаблівасці жніўных напеваў у многім вызначаюцца асаблівасцямі іх ладавай структуры. Але як і рытміка, мелодыка таксама прыцягвае шмат дадатковых сродкаў выразнасці. Да апошніх у першую чаргу адносіцца арнаментыка. Мелодыка жніўных песень адрозніваецца ў гэтых адносінах ад іншых жанраў багаццем мардэнтаў, вібрата, фаршлагаў (адзіночных і падвойных), групета і інш.

Найбольш тыповая структура жніўнага напеву — дзве меладычныя хвалі. Абедзве яны сваімі краямі абапіраюцца на танічны гук:



У канцы і ў пачатку кожнай фразы-хвалі можа прысутнічаць субкварта або яе прыдыхальныя намёткі. Акрамя таго, канец страфы часта суправаджаецца глісандыраваным уздымам уверх (радзей уніз) на фіксаваную або няпэўную вышыню, амаль да актавы. У калектыўным выкананні гэты канчатак гучыць як своеасаблівы веер разыходзячыхся ўверх і ўніз ліній (124). Заключны ўздым на глісанда адбываецца або на галоснай апошняга складу тэксту, або на ўстаўках «гэй», «у», «гу». Два апошнія выклічнікі характэрны таксама і для вяснянак. Выкарыстанне «гуканняў» назіраецца не ўсюды, а ў асноўным у паўднёва-ўсходняй частцы рэспублікі, дзе яны пераклікаюцца з аналагічнымі «гуканнямі» ў суседніх абласцях РСФСР і Украіны [11].

Асновай распеву абедзвюх меладычных фраз-дуг з'яўляецца лада-меладычная формула, упершыню выведзеная З. Эвальд [12]:




Дакладнае ўвасабленне гэтай формулы можа быць рознабаковым, але галоўны яе інтанацыйны сэнс — хуткі пад'ём да тэрцыі лада і затым павольны ад яе адхіл — можна прасачыць у большасці напеваў.

---

[11] Пра гэта гл.: К. Квитка. Об областях распространения некоторых типов белорусских календарных и свадебных песен. Зб. «Белорусские народные песни». Склад. З. В. Эвальд. М.—Л., 1941.

[12] З. В. Эвальд. Социальное переосмысление жнивных песен белорусского Полесья. «Советская этнография», 1934, № 5, стар. 22.

Часцей за ўсё два асноўныя распевы ў паўстрафе, своеасаблівыя кульмінацыі, знаходзяцца на апошнім і трэцім ад канца складах. Ёсць таксама распевы прыватнага значэння, як бы паступовы падыход да кульмінацыі. Больш важкім па працягласці і акцэнтнасці з'яўляецца апошняе ў паўстрафе зацягванне гуку; трэці ад канца склад іншы раз не вылучаецца зусім. Распевы (тут мы маем на ўвазе і простае падаўжэнне гуку — фермату) часцей за ўсё адбываюцца на I і III ступенях лада. Пры гэтым першы распеў прыходзіцца на III ступень, апошні — на I. У агульным інтанацыйным развіцці выкрышталізоўваецца тэрцавы зверху ўніз ход, які звычайна асацыіруецца ў старадаўняй мелодыцы з заклікамі. Радзей сустракаюцца размяшчэнні абодвух распеваў у паўстрафе на I ступені і яшчэ радзей — на III. Сустракаюцца таксама прыпынкі на II і нават на VII ступенях. У апошнім выпадку, у мінорным ладзе, у напеў уводзяцца элементы секундавай пераменнасці, якая ў канцы напеву амаль ніколі не замацоўваецца. Калі ў напеве ёсць ярка выражаны апошні субквартавы гук, то распеў можа быць і на ім.

Вельмі стабільнымі ў жніўных напевах па свайму меладычнаму малюнку з'яўляюцца пачатковыя папеўкі і асабліва кадэнцыі. Сэнс пачатковай папеўкі — адразу накіраваць меладычны рух з нізкай зоны лада ў высокую. Імкліваму руху ўверх вельмі садзейнічае наяўнасць пачатковай субкварты. У выніку меладычна разгортваецца квартсекстакорд у сваім чыстым выглядзе або з праходзячымі гукамі:



Дасягненне самага высокага гуку лада іншы раз адбываецца не адразу, а з дапамогай мясцовых распеваў: апяванняў, прад'ёмаў і інш.:





Падыход да першага кульмінацыйнага распеву, а затым адыход ад яго адбываюцца ў выглядзе такога ж гнуткага, але яшчэ больш развітага меладычнага малюнка.

Што датычыцца кадэнцыі, то ў аснове яе ляжыць супрацьлеглы пачатковай папеўцы меладычны ход: рух ад тэрцавага гуку лада да тонікі і далей

да субкварты (калі яна ёсць). Меладычны малюнак тут менш развіты, чым у пачатку напеву, і мае дзве асноўныя формы:



У агульным жа меладычным развіцці паўстрафы выяўляецца вельмі ясная сіметрыя, якая зноў падкрэслівае тэрцавы сыходны рух:



Сустракаюцца кадэнцыі, у якіх VII ступень вырашаецца ў I. Ужо само гучанне тут даволі незвычайнае з пункту гледжання меладычнага стылю жніўнай песні і з'яўляецца хутчэй за ўсё вынікам уплыву іншых жанраў. Гэта пацвярджае і той факт, што падобныя кадэнцыі часцей за ўсё прысутнічаюць не ў традыцыйных жніўных песнях, а ў песнях іншай тэматыкі, перайшоўшых у жніўны цыкл.

Меладычны матэрыял, які запаўняе прастору паміж пачатковай папеўкай і кадэнцыяй, вельмі разнастайны. Вынаходніцтву выканаўцы тут няма межаў, і даводзіцца толькі здзіўляцца, як пры такіх сціплых ладавых рэсурсах можна атрымаць такое багацце інтанацыйных нюансаў.

Як мы ўжо казалі, складараспевы ў беларускіх жніўных песнях выконваюцца больш шчыра, чым у іншых жанрах. Колькасць гукаў на адзін склад можа даходзіць да 4—6. Асабліва багатыя і рознабаковыя апяванні з выкарыстаннем прыёму rubato. У радзе раёнаў Беларусі гэтыя раздзелы меладычнай структуры гучаць у рэчытатыўна-дэкламацыйным стылі.

Беларуская жніўная песня — гэта стыхія манадычнага распеву. Аднагалоссе з'яўляецца ў ёй спецыфічнай прыкметай стылю. І нават тыя формы прасцейшага шматгалосся (двухгалосся), якія ў ёй сустракаюцца, таксама закліканы падкрэсліць асаблівасці манадычнага інтанавання.

Такіх відаў шматгалосся беларуская жніўная песня ведае два: бурдоннае двухгалоссе і гетэрафонія. Абедзве формы сустракаюцца на поўдні Беларусі. Бурдоннае двухгалоссе — у Рагачоўскім, Петрыкаўскім, Светлагорскім, Жлобінскім, Любанскім раёнах. Гетэрафонія — далей на поўдні.

Прыкладам бурдоннага двухгалосся з'яўляецца песня 120. Па сутнасці верхні голас нічым не адрозніваецца ад звычайных аднагалосных жніўных напеваў. Бурдануючы голас трымае асноўны ўстой лада, толькі ў рэдкіх выпадках перад завяршэннем меладычных фраз спускаючыся на VII ступень.

Значна часцей сустракаецца пастаяннае вытрымліванне бурдону на адной вышыні (44). Такі бурдон звычайна цягнуць некалькі спявачак. Прымацоўваецца бурдануючы голас да асноўнага не адразу, а недзе ў сярэдзіне паўстрафы, што садзейнічае вылучэнню ладавай «формулы» ў па-

чатку напеву. Ва ўказаных напевах амаль не назіраецца жорсткіх гучанняў, секунда паміж галасамі тут з'яўляецца на слабых долях у момант распеву.

Больш напружаным і па-свойму даволі каларытным з'яўляецца гетэрафонны стыль шматгалосся. Прыкладам падобнага шматгалосся можа быць напеў 112. Тут ужо часта сустракаюцца секундавыя злучэнні на моцных долях, вырашэнні секунды ў прыму. І ўся фактура напеву ўспрымаецца як «патоўшчаная мелодыя». Пры полірытмічным тыпе спявання напеў усё ж не хаатычны ў рытмічных адносінах, складамеладычныя зоны ў абодвух выканаўцаў роўныя, рытмічныя варыяцыі ідуць толькі ў межах зон. Таму слова ўспрымаецца асабліва выразна.

У падобных напевах гетэрафонія мае прынцыповы характар, г. зн. успрымаецца і ўтвараецца як неабходны элемент пэўнага стылю. У іншых выпадках гетэрафонныя моманты носяць выпадковы характар і з'яўляюцца часцей за ўсё вынікам няспетасці выканаўцаў.

Больш развітых шматгалосных форм беларуская жніўная песня не ведае. Нават утора, у якой распяваюцца многія лірычныя песні ў тых жа мясцовасцях, дзе бытуюць бурдон і гетэрафонія, не аказвае на жніўныя напевы амаль ніякага ўплыву.

У тэкставых адносінах страфічная будова жніўных песень выяўлена недакладна. Гэтыя песні — тыповы жанр «моўнай дынамікі» з сінтаксічнымі перыядамі празаічнага характару. Страфічную дакладнасць жніўным песням надае ў асноўным напеў, які складаецца з дзвюх ясна адмежаваных меладычных сінтагм. Унутры сябе сінтагмы рэдка падзяляюцца на паў- і чвэрцьсінтагмы. Наяўнасць апошніх сведчыць аб пэўных міжжанравых пераходах. Напрыклад, верш, які мае перыядычны складовы састаў 7+3, безумоўна з'яўляецца вынікам уплыву на жніўны жанр вясельнай тэматыкі.

У аснове большасці жніўных песень ляжыць страфа з двух радкоў, якая мае выгляд 8+8. Даволі часта гэта складовая формула або пашыраецца, або змяншаецца. Пашырэнне ідзе за кошт розных выклічнікаў:

Ой, салдатачка да жыта жала (10),

за кошт паўтарэння слоў:

Ой, я жыта, эй, да я жыта жала (11)

і, нарэшце, за кошт больш доўгіх радкоў:

Бабы, дамоў, печы паліці (9),
Гаварыла поле шырокае (10) і інш.

Больш кароткі радок верша з'яўляецца варыянтным ад асноўнага і ўключае часцей за ўсё або 7, або 6 складоў. Ёсць строфы роўнаскладовыя: 8+8, 8+8 і г. д. Ёсць строфы няроўнаскладовыя, але з такой складовай формулай, якая паўтараецца ў кожнай страфе: 8+7, 8+7. Ёсць, нарэшце, строфы ўвогуле з няроўнаскладовымі радкамі: 8+6, 9+8, 7+8 і г. д.

Строфы з трыма радкамі маюць прыкладна той жа самы складовы састаў для кожнага радка. Звычайна колькасць складоў у суседніх радках не адрозніваецца больш чым на 1—2. Сіметрыю або, наадварот, асіметрыю стварае і напеў. Апошні нават пры роўнаскладовых радках мае іншы раз меладычныя сінтагмы, якія адрозніваюцца адна ад адной на 5—8 асноўных рытмічных адзінак.

Выключна рэдка сустракаецца ў жніўных песнях рэфрэн або паўтарэнне часткі радка, якое мае сэнс рэфрэна (пра адзін характэрны выпадак будзе сказана далей).

Сярод страфічных структур беларускай жніўнай песні найбольш распаўсюджаны тры: AA, AB і AAB. З усіх запісаў, змешчаных у гэтым томе, яны складаюць прыкладна 90%. Астатнія 10% прыкладна ў роўнай прапорцыі падзяляюцца паміж структурамі ABB і ABCA. Трапляюцца структуры, якія знешне не супадаюць ні з адной з вышэйпералічаных, але пры падрабязным іх разглядзе з'яўляюцца некалькі дэфармаванымі варыянтамі асноўных.

*Страфа AA* іншы раз з'яўляецца часткай пашыранай страфы AB, у якой кожны элемент (A і B) паўтараецца двойчы (14, 16).

Суадносіны тэкставага і меладычнага зместу ў страфе AA розныя: ад дакладных суадносін AA-aa (39) да кантрастных супастаўленняў меладычных фраз AA-ав (14). Найбольш часта другая меладычная фраза з'яўляецца варыянтам першай AA-aa[1] (22). Варыянтныя змены могуць датычыцца толькі кадэнцыйных завяршэнняў, але часта яны захопліваюць і іншыя раздзелы напеву. Варыянтнай можа быць рытміка і мелізматыка пры адной і той жа меладычнай лініі, варыянтнай можа быць і сама меладычная лінія, у асноўным за кошт распеваў.

*Страфа AA* ў адрозненне ад іншых асноўных некалькі больш метрызавана. Паколькі двойчы паўтараецца той самы тэкст, у ёй часцей назіраецца міжвершавы рытмічны паралелізм:

Яр_ ка сон_ ца за бор, за бор.

яр_ ка сон_ ца за бор, за бор.

Іншы раз у страфе АА назіраецца асіметрыя музычных фраз. Цэзура паміж імі падзяляе надвае другі радок перад самым яго канцом. Па сутнасці другая меладычная фраза ў дадзеных умовах гучыць як своеасаблівая кода (27):




*Страфа АВ* у адрозненне ад АА часта няроўнаскладовая, і таму ў ёй радзей сустракаецца паралелізм метрарытмічны і адпаведна меладычны. У страфе АВ, як правіла, другі радок карацей за першы: найбольш тыповымі складовымі суадносінамі з'яўляецца 10+6 і яе варыянты 10+7 і 11+6. У чыста лірычнай тэматыцы сустракаецца формула 5+5+6, што ў парным спалучэнні дае тыповую для пазнейшых лірычных песень страфу:

5+5
6
5+5
6

У гэтым выпадку ўзнікае як бы складаная страфа АА=АВ АВ. Такі пераходны ад двухрадковага да чатырохрадковага тып страфы сустракаецца нярэдка ў гэтай структуры. Па тэксту яна сапраўды бывае чатырохрадковая, па напеву — двухрадковая, пра што сведчаць у першую чаргу кадэнцыйныя завяршэнні.

Сапраўдную стыхію распеву маюць песні з вершаванай *структурай ААВ*. Спецыфічнай асаблівасцю гэтай структуры з'яўляецца трохчасткавая тэкставая сінтагма, якая мае двухчасткавую сінтагму меладычную. Цэзура падзяляе другую частку прыкладна напалову, утвараючы пры гэтым наступную схему страфы:




Схема гэта ў нейкай ступені нагадвае схему, якая сустракаецца ў структуры АА (гл. схему уверсе). У адрозненне ад яе ў структуры ААВ абедзве меладычныя фразы прыкладна аднолькавыя па працягласці і цэзура паміж імі больш глыбокая і значная. Іменна ў гэтым месцы адбываюцца часцей за ўсё словаабрывы. Паўтарэнне першага радка з іншым меладычным суправаджэннем надае форме дынамічны характар. А цэзура, якая падзяляе музычную думку на дзве часткі, робіць уражанне своеасаблівага эмацыянальнага тормаза. Структура ААВ увогуле больш працяглая, чым папярэднія. Таму ў ёй асабліва ясна праяўляюцца моманты, звязаныя з перахопліваннем дыхання. У сярэдняй цэзуры адбываецца глы-

бокі ўздых, да якога выканаўца дабіраецца з вялікім напружаннем, настолькі вялікім, што іншы раз, як кажуць, няма сіл закончыць слова:




На жаль, і гэта асаблівасць структуры AAB не заўсёды фіксавалася раней. У магнітаграмах апошніх год яна амаль заўсёды прысутнічае.

З менш распаўсюджаных структур цікавасць уяўляе мікраструктура ABCA. Сустракаецца яна ў асноўным на паўночным захадзе Беларусі (Астравецкі, Ашмянскі, Дзісенскі, Навадзвінскі, Лепельскі, Пастаўскі і некаторыя іншыя раёны) і супадае з ідэнтычнай структурай дажынкавых песень, якія распаўсюджаны ў тых жа раёнах. (У дажынках, праўда, яна выглядае некалькі інакш — RABR, г. зн. у яе ўтварэнні ўдзельнічае пастаянны рэфрэн). Абапіраючыся на гэту структуру, многія жніўныя песні ва ўказаных раёнах перайшлі ў раздзел дажынкавых і, наадварот, дажынкавыя — у жніўныя. Гэта ж структура з'явілася прычынай таго, што ў некаторых жніўных напевах гэтай мясцовасці сустракаюцца кадэнцыі не на I, а на II ступені — таксама тыповы прыём у дажынкавых песнях.

Вельмі часта жніўныя і дажынкавыя песні са структурай ABCA сутыкаюцца і па вобразна-функцыянальнаму сэнсу: і песні дажынкавыя, і большая частка песень жніўных гэтага тыпу суправаджаюць заканчэнне працы. Песні дажынкавыя завяршаюць уборку ўраджаю ўвогуле, песні жніўныя спяваюцца пры заканчэнні дзённай працы (таму іх часта называюць «вячэрнія жніўныя песні»), г. зн. маюць часткова дажынкавы характар. Ад астатніх жніўных песень яны адрозніваюцца большай метрычнасцю.

Выкарыстанне той або іншай структуры мае ў асноўным лакальны характар і не залежыць ад тэкставага зместу песні. Так, песня «Пара жнеям ісці» сустракаецца і ў структуры AA і ў структуры AAB. Песня «Я ў полі жыта жала» — у AA, AB і AAB і г. д.

Адна і тая ж спявачка прытрымліваецца аднаго і таго ж тыпу строфікі. Але ёсць і выключэнні: у адным і тым тыповым напеве выкарыстоўваецца розная строфіка. Толькі зрэдку сустракаюцца выканаўцы, якія ў адной і той песні выкарыстоўваюць розныя тыпы страфы. (212) [13].

---

[13] Пры сістэматызацыі падобных песень мы ўлічваем структуру першай страфы.

Разам з тым нельга не адзначыць, што ў гэтым спалучэнні рознай строфікі праяўляецца пэўнае майстэрства і мастацкі густ выканаўцы. Радкі, якія маюць адносна большую, у параўнанні з іншымі, сэнсавую і эмацыянальную нагрузку, паўтараюцца двойчы; радкі, якія маюць апісальны або рэзюмуючы характар, ідуць у больш сціслым страфічным выглядзе.

Найбольш тыповай для ўсёй Беларусі структурай жніўных песень з'яўляецца структура АВ. Яна сустракаецца паўсюдна і прытым амаль раўнамерна тэрытарыяльна, з'яўляючыся, такім чынам, як бы агульным структурным фонам жанру. На гэтым фоне ярка выступаюць іншыя дзве, больш прыватнага значэння, структуры — АА і ААВ. Апошняя з іх лакалізуецца ў паўночнай частцы Беларусі, у асноўным у Віцебскай вобласці. Арэал распаўсюджання структуры АА некалькі шырэй: побач з Віцебскай захоплівае Магілёўскую, поўнач Мінскай і часткова Гомельскую вобласці. Паўднёвая мяжа распаўсюджання гэтай структуры амаль супадае з лініяй чыгункі Вільнюс—Мінск—Гомель (гл. карту).




*1* — структура АВ, *2* — структура АА, *3* — структура ААВ

Прыводзячы карту распаўсюджання структурных тыпаў жніўных песень, мы маем на ўвазе, зразумела, пераважнасць распаўсюджання той ці іншай структуры. Напрыклад, з вядомых у цяперашні час і публікуемых у томе запісаў песень са структурай AAB толькі адзін з Магілёўскай вобласці, у Гомельскай не зарэгістравана ніводнага.

З трох указаных вышэй структур беларускіх жніўных песень — АА, АВ і AAB — пазнейшая па паходжанню хутчэй за ўсё апошняя AAB. У параўнанні з іншымі дзвюма яна мае больш складаную канструкцыю страфы і нясе сляды ўплываў іншанацыянальных. Пра пазнейшае яе ўзнікненне гаворыць таксама і значнае, зноў-такі параўнальна з іншымі структурамі, пранікненне ў песні, асновай якіх яна з'яўляецца, чыста лірычнай тэматыкі, ніяк не звязанай са жнівом (41% змешчаных у дадзеным томе песень з гэтай структурай; песень з будовай АА і АВ — адпаведна 25 і 28), больш складаная паэтыка, наяўнасць развітых сюжэтаў.

Што датычыць гістарычнага прыярытэту структур АА і АВ, то тут менш зразумеласці. Структура АА прасцейшая за АВ. Але іншыя характарыстыкі: метрарытм, паэтыка, мелодыка — бадай, аднолькавыя. І ўсё ж шырокі арэал бытавання структуры АВ, яе марфалагічная базіснасць дазваляюць лічыць яе і больш базіснай у гістарычным сэнсе. Да таго ж у песнях са структурай АВ найбольш поўна і markdown разнабакова прадстаўлена ўласна жніўная тэматыка. У ёй сустракаюцца (з песень, змешчаных у дадзеным томе) 25 асноўных сюжэтных «кустоў», якія так ці інакш адлюстроўваюць розныя сітуацыі і абставіны гэтага каляндарна-працоўнага перыяду (у АА і AAB адпаведна 12 і 15 сюжэтных «кустоў»). У песнях структуры АВ, дарэчы, канцэнтруецца ў асноўным уся антыпрыгонная тэматыка. Што датычыць прастаты структуры АА, то яна з'яўляецца часта, так сказаць, прастатой іншага парадку, г. зн. простым ускладненнем страфы АВ, калі кожны яе член паўтараецца двойчы.

Увогуле ж трэба сказаць, што калі на поўдні жніўная песня значна багацейшая ў меладычных адносінах (шматгалоссе, мелізматыка, распевы), то паўночная жніўная песня адрозніваецца разнастайнасцю і развітасцю сваёй структуры.

**Дажынкавыя песні.** Агульны каларыт дажынкавых песень радасна прыўзняты, падкрэслена абрадавы. У гэтых адносінах яны змыкаюцца з велічальнымі зажынкавымі песнямі. І ў тых, і ў другіх ясна адчуваецца элемент урачыстага шэсця. Як паведамляе П. Шэйн, пасля заканчэння працы жнеі «накіроўваюцца да дому гаспадара павольным крокам і дарогаю співаюць жніўную песню» [14].

Маршавы характар дажынкавых песень можна адчуваць у напевах 253, 258, 260, 263. Прыпеў у гэтых песнях тыпу «Плён нясём, плён нашаму пану ў двор» або «Збор жытка, збор нашаму пану ў двор» і г. д.

[14] П. В. Шейн. Материалы..., стар. 264.

Ёсць дажынкавыя песні застольнага характару, якія, відаць, выконваюцца ў поўных умовах (294), танцавальныя (262), карагодна-ігравыя (269), заклінальныя (242). Паколькі ў абрад дажынак уваходзіць і праца на полі (апошні дзень жніва), сярод дажынкавых песень сустракаюцца песні з тыпова жніўнай структурай (275), а таксама з «гуканнямі» (282).

Ладавую аснову дажынкавых песень складаюць квартавыя лады, у асноўным мажорныя (каля 70% ад усёй колькасці публікуемых запісаў). Прыўзняты, святочны характар песень вызначае мноства гукальных інтанацый, аднак у большасці выпадкаў не за кошт субкварты. Субкварта сустракаецца тут значна радзей, чым у жніўных песнях. Дакладная метрычнасць і вольнае выкананне, не звязаныя з працэсам працы і з эмоцыямі «жалю», здымаюць з дажынкавых песень многія мелодыка-арнаментальныя асаблівасці, звязаныя з фізіялогіяй спеваў. Калі ў напеве прысутнічае субкварта, то яна часта запаўняецца VII і VI ступенямі і гучыць энергічна і высотна дакладна.

Акрамя квартавага ў дажынкавых песнях сустракаюцца тэрцавы і нават секундавы, а таксама квінтавы і секставы гукарады. Апошнія два даюць магчымасць праявіць лірычны настрой, асабліва ў мінора, і некаторыя песні красамоўна гэта падкрэсліваюць (252).

Больш разнабаковыя, чым у жніўных песнях, пачатковыя папеўкі і кадэнцыі. Мелодыя дажынкавых песень часта пачынаецца з III або з II ступені. Характэрнай асаблівасцю гэтых песень з'яўляецца завяршэнне не на I, а на якой-небудзь іншай ступені, часцей за ўсё на II. Сустракаецца падобная кадэнцыя ў асноўным у мажоры, утвараючы тыповую секундавую мажорна-мінорную пераменнасць (у жніўных песнях падобная пераменнасць узнікала з дапамогай I і VII натуральных ступеней у мінора). У публікуемых запісах дажынкавых песень амаль палавіна кадэнцый не на I ступені. Завяршэнне на іншых ступенях, асабліва на II, садзейнічае звязнасці паміж строфамі. Адна страфа нібы чапляецца за другую, утвараючы даволі дынамічную, быццам бы вярчальную партытуру цэлага.

Не менш характэрнай асаблівасцю дажынкавых песень з'яўляецца іх метрычная дакладнасць, аднак не заўсёды гэта дасягаецца з дапамогай цотных або простых метраў. Вельмі распаўсюджаны тут 5- і 6-дольныя тактавыя пабудовы, прычым як у злучэнні на базе асноўнай метрычнай долі — 5/4+4/4, так і са зменай яе — 5/8+4/4; 5/4+6/8 і інш. Метрычнасць распаўсюджана нават на многія песні ў «жніўным» ладзе. Метрычная схема аднатыпна звычайна для абедзвюх паўстроф (рытмічны паралелізм).

Важнай стылістычнай прыкметай большасці беларускіх дажынкавых песень з'яўляецца прысутнасць у іх рэфрэна (R). Рэфрэны бываюць пастаянныя («Раю, мой раю», «Плён нясём, плён» і інш.) і непастаянныя (іншы раз проста паўтараецца пачатковая фраза). Рэфрэны падключаюцца да строф па-рознаму. Сустракаюцца рэфрэн-абрамленне (RABR), рэфрэн-заключэнне (ABR), рэфрэн-уключэнне (ABRB, AARB і інш.). У залежнасці

ад тыпу рэфрэна страфа дажынкавай песні выяўляе пераважныя для яе інтанацыйныя і метрарытмічныя асаблівасці.

Страфа з *рэфрэнам-абрамленнем* (RABR). Абрамляючым рэфрэнам, акрамя пастаянных, часта бываюць пачатковыя словы страфы: «Рада, рада», «Ніўка, ніўка» і інш. Страфа з рэфрэнам-абрамленнем мае тыповую складавую структуру 4+6+6+4 (варыянт 4+5+6+4) і такую ж тыповую рытмічную сінтагму:

для рэфрэна

Ра – да, ра – да...
Ніў – ка, ніў – ка...

вар. а) б)

для сярэдзіны страфы

А ў ка – ша – га па – на
ся – гон – ня да – жын – кі

вар. а) б)

Як відаць з прыкладаў, і для рэфрэна, і для сярэдзіны страфы асноўным метрам з'яўляецца 4/4. Метр 5/4 атрымліваецца ў выніку падаўжэння аднаго з гукаў. І канцовы і пачатковы рэфрэны пры розным меладычным змесце рытмічна заўсёды аднолькавыя (рытмічны паралелізм).

Даволі стабільныя ў страфе гэтага тыпу суадносіны кадэнцый. Калі пачатковы рэфрэн заканчваецца гукам якой-небудзь пэўнай ступені, то гэта ж ступень будзе завяршаць рэфрэн у канцы і першую фразу сярэдняй часткі страфы (А). І толькі другая фраза (В) — кульмінацыйная (яна трэцяя ў агульнай структуры страфы) будзе мець у заключэнні іншую ступень. Такім чынам, амаль усе напевы маюць наступныя кадэнцыйныя суадносіны:

| R | A | B | R | |
|---|---|---|---|---|
| IV – | IV – | (III) – | IV | (229) |
| II – | II – | (I) – | II | (234) |

$$\text{III} - \text{III} - (\text{VII}) - \text{III} \qquad (236)$$

$$\text{I} - \text{I} - (\text{V}) - \text{I} \qquad (237)$$

Страфа з *рэфрэнам-замыканнем* (ABR) мае больш разнастайную рытмічную структуру, чым папярэдняя. Але ў ёй можна вылучыць адзін найбольш распаўсюджаны від строфікі: 7+7+R з тыповай рытмічнай сінтагмай:




вар. а)  (6)

б)  (8)

в)  (7)

Сустракаюцца структуры тыпу 5+5+R (запісы Р. Шырмы ў Заходняй Беларусі). Метрарытмічная структура рэфрэна менш стабільная.

Страфа з *рэфрэнам-уключэннем* яшчэ больш разнастайная па метрычнай будове. Часта сустракаюцца роўныя па складу перыяды — 4+4+4+4; 6+6+6+6 (варыянты: 4+4+4+5; 4+4+5+4 і інш.). Аднак пры ўсёй разнастайнасці строфікі шмат якія напевы гэтага тыпу выяўляюць блізкасць да карагодаў, асабліва ў характары рытмічнага развіцця, у аснове якога ляжыць своеасаблівая «пагойдваючая» рытмічная фігура (напевы 266, 274):



Чатырохскладовасць гэтай структуры служыць прычынай з'яўлення ў ёй такіх жа кадэнцыйных суадносін, як і ў структуры RABR (гл. апошнюю схему на стар. 57).

Ёсць у дажынкавых песнях строфы, якія не маюць рэфрэна. У адрозненне ад структур з рэфрэнам у іх адсутнічаюць стабільныя метрарытмічныя формы. Апошнія часта супадаюць са структурай песень іншых жанраў, з якімі яны хутчэй за ўсё звязаны генетычна. Так, структура AB яўна супадае з адпаведнай структурай жніўных песень. Яе складовая формула:

8+8, 8+9, 9+7 і г. д. І агульным каларытам падобныя дажынкавыя песні блізкія да жніўных (275, 282).

У адрозненне ад песень з рэфрэнам, песень пераважна сілабатанічнага тыпу вершаскладання, песні без рэфрэна ў большасці сваёй маюць танічны верш (зноў-такі як і жніўныя). Значна радзей сустракаюцца ў іх заключныя кадэнцыі не на І ступені. Разнавіднасцямі структуры АВ з'яўляюцца ААВ, АВВ, ААВВ.

У дадзеным томе сабраны музычныя запісы жніўных песень, зробленыя на працягу апошніх 90 гадоў, пачынаючы ад публікацый З. Радчанкі (1881 г.) і канчаючы запісамі экспедыцыі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР 1973 г.

Вядома, якасць матэрыялу, які размяшчаецца ў такіх шырокіх храналагічных рамках, далёка не аднолькавая. З пункту гледжання сучаснай методыкі, першыя запісы маюць шмат недахопаў (у першую чаргу схематызм). Значную ролю пры гэтым адыгралі старыя ўяўленні пра народную песню, як пра з'яву творчасці, якая падпарадкоўваецца тым жа законам, што і прафесійнае мастацтва: абавязковая раўнамерная тэмперацыя і перыядычная метрыка.

Запісы апошніх дзесяцігоддзяў паказалі, наколькі багатая жніўная песня, асабліва імправізацыйнага складу, рытмічнымі і меладычнымі нюансамі. Важную ролю тут адыграла гуказапісваючая апаратура: фанограф, пазней магнітафон. Запісы жніўных песень у выглядзе расшыфровак з фонаваліка з'явіліся ў 30-я гады. Неаднаразовыя праслухоўванні аднаго і таго ж замацаванага эпізоду дазвалялі фіксаваць найтанчэйшыя зігзагі ў інтанацыйнай структуры напеву. Падкрэсліваем, замацаванага, таму што паўтарэнні аднаго і таго ж эпізоду ў жывым выкананні заўсёды нечым адрозніваюцца.

Цяпер пераважаюць два віды запісаў — абагульнены і, калі можна так сказаць, індывідуалізаваны. Першы дае ўяўленне пра агульныя меладычныя рысы напеву, яго тэматычны змест, другі побач з тэматызмам падкрэслівае мясцовыя, а іншы раз і індывідуальныя асаблівасці выканання. Прыкладам падобных запісаў з'яўляюцца напевы 33 і 122.

У сувязі з тым, што класіфікацыя напеваў па рытма-структурнай прыкмеце не супадае з сюжэтна-тэматычнай групоўкай тэкстаў, напевы гэтыя прыводзяцца ў томе асобна і маюць самастойную нумарацыю.

Адсутнасць спасылкі да тэксту азначае яго адсутнасць наогул, што выклікана наступнымі прычынамі: 1) увесь тэкст прыведзены ў падтэкстоўцы да напеву; 2) сам па сабе тэкст не мае самастойнай каштоўнасці (наяўнасць кантамінацыі, блытаніна ў строфах, скарачэнне) і можа быць суаднесены з больш якаснымі варыянтамі, якія прыводзяцца ў томе.

Самастойная музычная класіфікацыя выклікана і тым, што ў ёй магчыма ў пэўных межах лакальная дыферэнцыяцыя, якая амаль адсутнічае ў паэтычным матэрыяле.

Жніўныя напевы ў пераважнай большасці маюць ясную мажорна-мінорную структуру. Таму ключавыя знакі той ці іншай танальнасці выстаўляюцца намі поўнасцю.

Пры безметрычным запісу падзел страфы ажыццяўляецца па паўстрофах з дапамогай пункцірнай тактавай лініі. Зыходзячы з таго што метрарытмічная канва 1-й страфы часцей за ўсё не супадае з наступнымі і пры паўімправізацыйнай манеры выканання можа мяняцца нават у адной і той страфе, рытмічная разбіўка ў нотных прыкладах не ўлічвае варыяцый для тэксту астатніх строф.

Пры выкананні некаторых жніўных песень выкарыстоўваецца шмат дынамічных, агагічных і іншых нюансаў, звязаных з фізіялагічнымі асаблівасцямі спеваў і своеасаблівай інтанацыйнай і наогул гукавысотнай будовай народнай песні. Таму ў розных аўтараў запісаў з'яўляецца рад знакаў, якія дапаўняюць нотнае пісьмо. Не спакушаючыся на дакладнасць запісу тых або іншых нюансаў, мы палічылі ўсё ж патрэбным звесці іх абазначэнні да адзінага віду:

— прыблізная вышыня,

— няпэўная вышыня,

— глісанда,

(𝄽), (𝄾) — нетэматычная паўза, якая звязана з момантам глыбокага ўздыху і не ўваходзіць у асноўную метрычную структуру напеву,

+ павышэнне гуку менш чым на 1/2 тона,

— паніжэнне гуку менш чым на 1/2 тона,

V — глыбокая цэзура, перахопліванне дыхання,

( ) — у дужках даюцца дадатковыя да асноўнага тэксту фанемы (паўгалосныя, прадыктавыя і інш.), якія ў тэкставай частцы не ўлічваюцца.

*В. ЯЛАТАЎ*

## 1. РАДЗІ, СОНЦА, ЖЫТА І ПШАНІЦУ

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
Радзі ярыну капамі.

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу
Поўны гумны стагамі.

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу
Поўны гумны снапамі.

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу
Поўны клеці карабамі.

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу
Поўны печы пірагамі.

## 1а. РАДЗІ, БОЖА, ЖЫТА

Радзі, божа, жыта
На другое лета,
Радзі, божа!
На другое лета,
Лепшае за гэта,
Радзі, божа!
На полі снапамі,
А ў гумне тарпамі
Радзі, божа!
У гумне тарпамі,
У свірне засекамі
Радзі, божа!

## 1б. РАДЗІ, ПОЛЕ, ЖЫТА

Радзі, поле, жыта,
Радзі пшаніцу,
Ўсякую ярыцу.

## 1в. ЗАРАДЗІ, БОЖА, ЖЫТА

Зарадзі, божа, жыта *
Да на прышлае лета,

Каласом каласіста,
Каранём караніста,

Каб у трубы павілося,
А нам жаць не далося.

## 2. ПОЙДЗЕМ, ДЗЕЎКІ

Пойдзем, дзеўкі, **
Каля жыта.
Ці не нойдзем
Каго ў жыце:
Ці коніка
Варанога,
Ці малайца
Маладога.
На коніку
Пагарцуем,
А з малойцам
Патанцуем.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

** Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 2а. ПОЙДЗЕМ, ДЗЕУКІ, КАЛЯ ЖЫТА

Пойдзем, дзеўкі, каля жыта,
Ці не ўбачым каго ў жыце:
Ці коніка варанога,
Ці малойчыка маладога.
Калі коніка — лавіць будзем,
Калі хлопчыка — жаніць будзем.

## 3. ДОБРЫ ДЗЕНЬ ГОСПАДУ БОГУ

— Добры дзень господу богу,
Жыту ядраному,
Хадзяіну палявому!
— Здароў, здароў, жнеі
маладыя,
Сярпы залатыя!

## 3а. АЙ, ДОБРА НОЧ!

Ай, добра ноч,
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, добра ноч!
На здароўе,
Жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя,
На здароўе!
Прыхадзіце
Заўтра раненька,
Як сонейка ўзойдзіць,
Прыхадзіце!
Прынасіце
Адзін гаршчок кашы,
А другі сыраквашы,
Прынасіце!
Вы сажніце

Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Да сажніце!
Пастаўляйце
У полі капамі,
А ў лузе стагамі,
Пастаўляйце!
— А мы зжалі.
І поле нажалі,
І пастаўлялі
У полі капамі.
У полі капамі,
А ў гумне стагамі
Пастаўлялі.

## 36. ДОБРАЯ НОЧ ГАСПАДАРУ БОГУ

Добрая ноч гаспадару богу,
Жыту ядраному,
Хадзяіну палявому!
— На здароўе! Жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя!
Прыхадзіце заўтра раненька,
Як сонейка ўзойдзе.
Я ж таго люблю, хто рана
прыходзе,
Позна ў двор уходзе;
Я ж таго не люблю, хто позна
прыходзе,
Рана ў двор ўходзе.
Адчыняйце цясовы вароты,
Ідуць жнеі з работы,
Не так жа з работы,
Як з жаркай пякоты.
Вечар вечарэе —
Душа весялее,
Зорынька зарае —
Душа занывае,
Што трэба ісці на работу,
Не так жа на работу,
Як на жарку пякоту.

## 3в. ОЙ, ДАБРАНАЧ, ШЫРОКАЕ ПОЛЕ

— Ой, дабранач, шырокае поле!
— На здароўе, жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя!
Прыхадзіце заўтра параненьку,
Як сонейка ўзойдзець.
Прынясіце па буханцы хлеба,
Па беламу сыру
І па маλому сыну.
Сонейка ўзыйшло,
Расіца апала.
Расіца апала,
Жнеек не бывала.

## 3г. НА ДАБРАНЕЦ, ДА ШЫРОКАЕ ПОЛЕ

— На дабранец, да шырокае
поле,
Жыта ядраное!
— На здароўе, жанцы маладыя
Да сярпы сталяныя!
Вы прыходзьце заўтра рана,
Штоб я ў полі не стаяла.
Не магу я да ў полі стаяці,
Каласом махаці,
Толькі магу я — у полі копамі,
А ў гумне стагамі,
А ў клеці засекамі,
А на таку варахамі,
А на стале пірагамі.

## 3д. ДАБРАНАЧ ДА ЧЫСТАМУ ПОЛЮ

Дабранач да чыстаму полю,
Шырокай пастаці.
Вечар добры свёкру, свякрові

Да нялюбаму мужу.
— Ой, пайдзі-ка, чужое дзіцяця,
А наша нявестка,
Ужо ж пара жытушка жаці!
— Ці не баялась у чыстым полі
паляваць,
Сярпом ваяваць?
Ці не баялась лютага звера,
Злога чалавека?
— Не баялась звера, злога
чалавека,
Толькі баялась да цёмненькай
ночкі,
Да сільнага дажджу.

## 3е. ГАВАРЫЛА ПОЛЕ ШЫРОКАЕ

Гаварыла поле шырокае,
Жыта ядраное:
— Жнейкі, жнейкі, мае маладыя,
Сярпы залатыя,
Прыхадзіце ка мне заўтра рана,
Каб я не стаяла.
Не хачу я ў полі стаяці,
Коласам махаці,
А толькі хачу — у полі снапамі,
А ў гумне — капамі.

## 3ж. ДОСЫЦЬ, ДОСЫЦЬ ЯДРАНОМУ ЖЫТУ У ПОЛІ СТАЯЦІ

Досыць, досыць ядраному жыту ў полі стаяці,
Досыць, досыць.
Пара, пара ядраному жыту снапамі на полі стаяці,
Пара, пара.
Пара, пара ядраному жыту ў таку тарпамі,
Пара, пара.

Пара, пара ядраному жыту ў дзяжы падходам,
Пара, пара.
Пара, пара ядраному жыту ў печы падрастацi,
Пара, пара.

### 4. ОЙ, ДАЙ, БОЖА, ДАЙ, БОЖА

Ой, дай, божа, дай божа,
Цёпленькае лета,
Зарадзi, божа, зарадзi, божа,
Гусценькае жыта:
Наша Галенка мала —
Штоб стоячы жала,
Хвартушка не ўмарала,
Серпiка не зламала.
Хвартушок беленькi,
Сярпочак навенькi,
Хвартушка мамка вытча,
Серпiка каваль зробiць.

### 5. ДАЙ, БОЖА, ПАГОДАЧКУ

Дай, божа, пагодачку
Да на нашу работачку.
Мы работку рабiць будзем,
Мы пагодку хвалiць будзем,
Мы работкi нарабiлiся,
Мы пагодкi нахвалiлiся.
Павей, ветрык, павей
Па роўненькiм полi,
Па сiненькiм моры.
Сiне мора пасiнее,
Поле роўна параўнее.

## 6. КАМУ СЁЛЕТА ЖЫТА ЗАЖЫНАЦІ?

Каму сёлета жыта зажынаці?
Зажынаці жыта Іванісе:
Яе ніўка радлівая,
Яе ручка шчаслівая!

## 7. ПОЛЕ МАЁ ШЫРОКАЕ, ЖЫТА МАЁ ЯДРАНОЕ!

Поле маё шырокае,
Жыта маё ядраное!
Не з кім стаці, пастаяці,
Жыта ядраное пажынаці:
Братцы мае па заслужжу,
А сястрыцы па замужжу!

## 8. САМ БОГ ЖЫТА ЗАЖАЎ

Сам бог жыта зажаў,
Вялікія снапы вязаў,
Частыя копы стаўляў:
Што горачка, то й копачка,
Што лажочак, то й стажочак.

## 9. У НАС СЁННЯ ЗАЖЫНАЧКІ

У нас сёння зажыначкі,
Прынясе гаспадар гарэлачкі,
Гарэлачкі з піўной бочкі,
Бо мы маміны дочкі.
Наш гаспадар маладзенькі,
У яго конік вараненькі.
Наша поле шырокае —

Сівым канём не аб'едзіш,
Белым сырам не абдзеліш:
Сівы конь уморыцца,
Белы сыр паломіцца.
Наш гаспадарок маладзенькі,
Ў яго канёк вараненькі,
На коніку паязджае,
Сваіх жнеек падганяе:
— Жніце, жнейкі, не ляжыце,
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Не еўшы, спаць не ляжаце.

## 9а. СЯГОННЯ У НАС ЗАЖЫНАЧКІ

Сягоння ў нас зажыначкі:
Жнейкі жыта зажыналі,
У снапочкі павязалі,
Свайго гаспадара
Снапамі звязалі.
Наш гаспадарок маладзенькі,
Яго конік вараненькі.
Ён на полі паязджае,
Сваіх жнейкаў аглядае:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
А сажаўшы, снапочкі павяжыце.
Наш гаспадарок маладзенькі,
Яго конік вараненькі,
Ён на полі паязджае.
Усё поле аб'ехаўшы,
Сваіх жнейкаў да й гукае:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
А пажаўшы, аддыхніце.

•

## 10. У НАС СЁННЯ ЗАЖЫНАЧКІ

У нас сёння зажыначкі,
Дадуць жанкам гарэлачкі
І сыр на талерачцы.

Будзем, сёстры, жыта жаць
І ў жыце бога іскаць.
Нашлі бога за барылачкай,
З краснай гарэлачкай.
Будзем, сёстры, жыта жаць
І ў жыце саву іскаць.
— А нам сава не нада,
А нада нам кугакала,
Як прыдзём дамоў,
Каб хазяйка спужалася,
Спужалася й заплакала.

## 11. У НАС СЯГОННЯ ЗАЖОН, ЗАЖОН

У нас сягоння зажон, зажон, *
Да дасць нам пан ражон, ражон,
А мы пана ганіць будзем:
У пана жыта недажана,
І ў копачкі не стаўляна,
І ў торпы не складана,
І ў засекі не ссыпана —
Пану слава не даказана.

## 12. У НАС СЯГОННЯ ЗАЖЫНАЧКІ

У нас сягоння зажыначкі,
Дасць панок нам гарэлачкі.
Наш паночку-каралёчку
Да прынясе нам гасцінчыку:
Белага сыру ў паперы,
А цукерак ў кішэні.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 13. ДА ЗЯЛЕН ХМЕЛЮ, ЗЯЛЕН

Да зялён хмелю, зялён,
Ой, да зялён хмелю, зялён
Над усімі хмялямі.

Да вясёл наш пан, вясёл,
Ой, да вясёл наш пан
Над усімі панамі.

Паночку-галубочку, ой,
Да выкаці віна бочку,

А другую гарэлачкі, ой,
А другую гарэлачкі
Да напой свае жнеечкі.

## 14. ОЙ, ЦЯПЕР У НАС ЗАЖЫНКІ

Ой, цяпер у нас зажынкі,
Прынясі нам, пане, гарэлкі!
Ой, мы гарэлкі не хочам,
Наймі нам музыку — паскачам.
Не шкадуй нам, пане, жарэбца,
Паедзь па музыку да Бярэсця,
Не шкадуй нам, пане, кабылкі,
Паедзь на сяло па дзеўкі.
Будуць музыкі іграці,
А малады дзеванькі гуляці.

## 15. А Я ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

А я жала, не ляжала,
А я жала па шчырай праўдзе,
Да не давайце па чарачцы,
А давайце па цэлай кварце.

Бо чарачка — не п'яначка,
А чарачка — пахмяляначка:
Ад чарачкі не нап'юся,
Ад квартачкі паваλюся.
А я п'яна-п'янюсенька,
Напілася, паваліλася.
Мая мамка падбягае,
Падушачкі падкладае:
— Сюды, сюды, маё дзіцятка,
Каб жа не забілася.

## 15а. ЖАЛА Я ЖЫТА ДА НЕ ЛЯЖАЛА

Жала я жыта да не ляжала,
Ой, я жала па шчырай праўдзе.
Да не давайце да па чарачцы,
Да давайце ж па цэлай кварце,
Й ад чарачкі я не ўп'юся,
Й ад квартачкі ж да не паваλюся.
Ой, я ж табе, мой бацюхна,
Йшчэ ж дзянёк да пажынаю.
Да лугамі ж йду, песні ж пяю,
Й аж лужочкі разлягаюцца.
Да сялом іду сільна плачу,
Варожачкі ж пацяшаюцца:
— Да пацяшайцеся, да варожачке,
Да й на свае ж да бяздолейка,
Ах, я ж пецьму ж да й гуляцьму,
Калі ж маё да й здароўечка.

## 16. А ЎЖО ЖЫТА ПАЛАВЕЕ

А ўжо жыта палавее,
А ўжо жыта палавее.
Наш паночак багацее,
Наш паночак багацее.
Наш паночак хлеба мае,

Нам нікому не давае.
А ўжо жыта палавее,
Наш паночак багацее.
Нас паночак гоніць жаці,
Яму жыцейка вязаці.

## 16а. ДА УЖО ЖЫТА ПАЛАВЕЕ

Да ўжо жыта палавее,
А ў гультая сэрца млее.
Да ўжо жыта ў каласочку,
Шукае гультай халадочку.

## 16б. ДА УЖО ЖЫТА ПАЛАВЕЕ

Да ўжо жыта палавее,
Э-э, да ўжо жыта палавее,
Гультаёва сэрца млее.
Яно млее, вымлявае,
Э-э, яно млее, вымлявае,
Што мілога не відае.

## 17. ГАВАРЫЎ ІЛЬЯ З ПЯТРОМ

Гаварыў Ілья з Пятром:
— Табе, Ілья, жанцы трэба,
А мне, Пятру, касцы трэба,
А табе, Спасу, няма часу:
Трэба поле пагараці
І ў пару засеяці.

## 17a. КЛІКАЛА ПЯТРО ІЛЬЮ

Клікала Пятро Ілью:
— Хадзем, Ілья, пагуляці!
— А гуляй, Пятро, твая пара;
А мне, Ільі, няма калі:
Жанцы ў полі, касцы ў балоце
Ды пры цяжанькай рабоце.

## 18. ОЙ, ПАРА НАМ ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара нам дамоў, пара,
Сцюдзёная раса пала,
Сцюдзёная раса пала,
Цёмная ночка настала.
А ў нас няма параднічка —
Ні пана, ні ўраднічка.
Некаму рады радзіці,
Нас дамоў адпусціці.
Дадзім пану паўбарана,
Можа, пусце дамоў рана.
Бадай яго з нашым панам:
З'еў нашага паўбарана,
З'еў нашага паўбарана,
Бадай пана разарвала,
Бадай пана разарвала,
Не пусціў нас дамоў рана.
Вяліць прысці світаючы,
А пушчае змяркаючы.

## 19. ДА У НАШАГА ПАНА

Да ў нашага пана
Да нядобрая слава:
Па месяцу жыта жалі,
Па зорам копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто дахаты не пушчае,
Да на полі нас трымае.
Да мы позна з поля йдзём,
Да прыганятага клянём.

## 19а. А У НАШАГА ПАНА ДЗІВА

А ў нашага пана дзіва,
Што па месяцу — жніва,
Зоры ўсходзяць — снапы зносяць,
Куры пяюць — копы кладуць,
Світаначкам дадому йдуць.

## 19б. ПА МЕСЯЦУ ЖАНЦЫ ЖАЛІ

Па месяцу жанцы жалі
Да на мяжы сярпы клалі.
Каторая свой серп знайшла,
Тая дадому пайшла,
Каторае сярпа нету,
Тая шукае да свету.

## 19в. У СЛАЎНАГА ПАНА

У слаўнага пана
На зары жыта жала,
Па месяцу копы клала,
Дадому пайшла па ночы,
Вячэрала пры свечы,
У белым свеце спаць лягла.
Лажылася, гаварыла:
— Божа мой, калі я запачыну!
Ужо ж свет за гадзіну.

## 19г. У НАШАГА ПАНА

У нашага пана
Нехарошая слава:
Жалі, жалі па сонейку,

А цяпер жнем па месяцу.
Як па сонейку жалі,
Дык сярпоў не гублялі,
Як па месяцу жалі,
Дык сярпы пагублялі.
Каторая сярпок найшла,
Дык тая дамоў пайшла,
А каторая пацярала,
Тая ўжо ў постаці начавала.

## 19д. У ДОБРАГА ПАНА

У добрага пана
Пры месячку жыта жала.
Бадай яму кроўна,
Што пускаў дадому цёмна.
Бадай яму горка,
Што пускаў дадому зоркай.

## 19е. МЫ ПРЫ МЕСЯЦУ ЖАЛІ

Мы пры месяцу жалі,
І пры зорах ў копы клалі
І сярпочкі пацяралі.
А дзевачкі-падружачкі,
Бярыцеся за ручачкі,
А пойдзем жа мы гуляючы
І сярпочкі шукаючы.
А хто нашы сярпы знойдзець,
Той у восень замуж зойдзець.
А Хоўрачка сярпы знайдзець,
Яна ўвосень замуж зайдзець.

## 20. КАЛІ Ж ТАЯ СЕРАДА ПРАШЛА

Калі ж тая серада прашла,
Як няеўшы на прыгон пашла,
Ўвесь дзень жала, не лянілася,
Злому войту пакланілася.
А цяпер жа не а чом тужыць
І войт п'яны у карчме ляжыць.

## 21. А Я У ПАНА ЖЫТА ЖАЛА

А я ў пана жыта жала,
Задам калыску калыхала.
У пана сэрца авечае,
Дзяржыць мяне да вечара.
Пакарміці — як папала,
А ў загончык зазірае.
— Бадай тваё, пане, ўсё прапала,
Як я ў цябе заняпала.

## 22. ДАЙ, БОЖА, ТАГО ПАНА

Дай, божа, таго пана,
Што пушчае дамоў рана.
Заслонь, божа, таму вочы,
Хто пушчае апаўночы.

## 23. ДАЙ ТАМУ, БОЖА, ЛЕГЕНЬКА

Дай таму, божа, лёгенька,
Хто нас пускае раненька,
А хто нас дзяржыць да ночы,
Каб не нагрэўся й на печы.
Ой, час-пара дадоманьку,
Ўпала раса на пожаньку,

Старым бабам ручкі баляць,
У маладзічак дзеці плачуць,
А ў дзевачак краса йграе —
Пан дадому не пускае.

## 24. ДА ІГРАЛА СОНЕЙКА, ІГРАЛА

Да іграла сонейка, іграла,
Нямнога ж яно іграла,
У хмарку схавалася,
Дожджу баялася.
Камарочкі мае, не кусайце мяне,
А кусайце паноў,
Не пускаюць што дамоў.

## 25. НАШ ПАН БАРАН, БАРАН

Наш пан баран, баран,
Не пускае дамоў зарань. *

Наша пані авечая,
Дзяржыць жнеек да вечара.

— Пусці, пані, дадому:
Старых бабак ручкі зябнуць,

Малодачак дзеткі плачуць,
На дзевачках вянкі вянуць.

## 25а. ТЫ НАШ ПАНЕ — БАРАНЕ

Ты наш пане — баране,
Пускай дамоў заране.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Наша пані авечая,
Дзяржала нас да вечара.
Дымна ў полі, дымна
Да й нічога не відна.
Наша пані затапіла,
Нам вячэры наварыла.
Наварыла баршчу
І накідала хвашчу,
І наварыла сачавіцы,
Накідала й чамярыцы —
Хоча жніцаў патравіці.

## 256. ДА НАШ ПАН — БАРАН, БАРАН

Да наш пан — баран, баран,
Да наша пані — авечачка, *

Да пагубіла ключыкі
Да на шырокай вуліцы,

З панічамі жартуючы.
— Да й панічык-кралянічык,

Да й аддай жа мне ключык,
Да мае ключы свірнёвыя.

Да будзем свіран адмыкаці,
Да сваіх жнеек частаваці,
Да гарэлачку ўпіваці.

## 26. БАДАЙ ПАНУ У ДВАРЫ СТРАШНА

Бадай пану ў двары страшна,
Як нам ў полі сонца зашла.
Сонца зашло — мы шчэ жнемы,
Пры месяцы снапы носімо,

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Пры зораньках копы кладземо,
Апоўначы дадому ідземы,
На світанні вечэраемо,
У дзень белы знову ідземы.
Бадай пана не схавалі,
Каб сабакі разарвалі,
Пахавалі пры даліне,
Каб па яму ваўкі вылі.
Бадай пана громы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.

## 27. ПАН НАС МУЧЫУ, ПАН НАС ПЛЕЦЦЯМІ СЦЯБАУ

Пан нас мучыў, пан нас плеццямі сцябаў,
Дужа рана на работу выганяў,
Выйду, выйду я да рэчанькі крутой,
Клікну, клікну шэрых ваўкоў за сабой:
— Сабярыцесь, шэры воўкі, ды з бара,
Вы бяжыце ды да панскага двара,
Забяжыце вы да панскага двара.
Як узойдзе толькі ясная зара,
Вы запейце песню страшнае таскі,
Разарвіце цела пана на кускі,
Разарвіце, закапайце за сялом,
Каб аб пану ўспамінаў не было.
На тым месцы, дзе закопаны быў пан,
Расці будзе палын горкі і бур'ян.

## 28. А, ДОБРЫ ПАНЫ, ДОБРЫ

А, добры паны, добры,
Прыганятыя ліхі:
Дамоў рана не пушчаюць,
За постаці заганяюць,
А мы постаці сажнём,
Прыганятага ражном.

## 28а. ДОБРЫ, ДОБРЫ НАШЫ ПАНЫ

Добры, добры нашы паны,
А прыказнікі ліхія:
Дамоў рана не пускаюць,
За постацькі заганяюць.
Нашы двары высокія,
А постацькі шырокія!

## 29. А У НАШАГА ПРЫГАНЯТАГА

А ў нашага прыганятага
Ды з гарэх галава,
З гарэх галава, па яблыку вочы,
Што дзяржыць да паўночы.
Ой ты, сонейка, да ты яснае,
Неспагадлівае,
Ой, ты рана ўсходзіш,
Не спагадуеш.
Да ўжо нашы сталяны сярпочкі
Прытупіліся,
Ды ўжо нашы да белыя ручкі
Прытаміліся,
Ой, да нашы ды прыганятыя
Прыбрахаліся.

## 30. ПОЙДЗЕМ МЫ ДАМОВАЧКІ

Пойдзем мы дамовачкі
З гэтае няволечкі.
Нам няволя надакучыла —
Серадзіначку адмучыла,
Нам няволя надаела,
Рукі, ногі адбалелі.

## 30а. АЙ, ПОЙДЗЕМ МЫ ДАМОЕЧКІ

Ай, пойдзем мы дамоечкі
Із гэтае няволечкі.
Нам няволя надаела,
Нам няволя надакучыла,
Нас работа замучыла.

## 30б. ОЙ, ДЗЕВАЧКІ-ЛЯБЁДАЧКІ

Ой, дзевачкі-лябёдачкі,
Пойдзем разам дамовачкі
З гэтай нівы-няволечкі,
З гэтай нівы-няволечкі.
Нам няволя надаела,
Сярэдзінка набалела,
Нам няволя здакучыла,
Сярэдзінку намучыла,
Нам няволя горка стала,
А сярэдзінка калом стала.

## 30в. А БАБАЧКІ-ЛЯБЁДАЧКІ

А бабачкі-лябёдачкі,
А пойдзем жа мы дамовачкі
А з гэтае няволечкі.
Нам няволя надаела,
Сярэдзінка забалела.
А каб жа нам кугакала,
Яно б ў хвасце заплакала.
Мы ж бы яго скалыхнулі,
Нашы б сярэдзінкі аддыхнулі.

## 31. ДА ТАТАРЫН-БАЯРЫН

Да татарын-баярын *
У нядзельку жанцоў наняў,
У чыста поле жаць паслаў:
— Жнеце, жэнчыкі, жнеце,
Я пайду на палудзень.
Да жэнчыкі жнуць, жнуць,
Баярына не ждуць, не ждуць —
Баярына вязуць, вязуць.
Яго рукі звязаны,
Яго вочкі закрыты,
Яго вочкі накрыты
Чорнаю кітайкаю.
— Да вей, ветрык,
Адкінь гэту кітаечку,
Я пагляджу на жэнчыкаў.

## 31а. ДА НАНЯЎ КАЗАК ЖНЕЕК

Да наняў казак жнеек,
Маладзюсенькіх дзевак,
Ды сам пайшоў у лясочак
На маленькі часочак.
Ды дзевачкі як жнуць ды жнуць,
Казачанькі як ждуць ды ждуць,
Да ўсё жыта пажалі,
Казачэнькі не даждалі.
Назаўтра ранюсенька
Казачаньку з лесу вядуць.
Ручкі яго звязаныя,
Ножанькі скаваныя.
Ды вот табе, казачаньку,
За ранняю абедзейку,
За познаю вячэрачку.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 32. ЗАШЛО СОНЦА, УЗЫШОЎ МЕСЯЦ

Зашло сонца, ўзышоў месяц,
А нашага пана вядуць вешаць,
Вядуць яго на паветра,
Няхай жа ён праветрае,
Няхай жа ён праветрае,
Мо назаўтра палепшае.

## 33. ОЙ, НЕ ЛЯЖЫ, ВЕТРУ, Ў ПОЛІ

Ой, не ляжы, ветру, ў полі,
Паміж горачак ў разоры,
Да ўстань, ветру, памаленьку,
Павей, ветрык, паціхеньку,
Развей хмарачку цямненьку —
Маю тугу цяжаленьку.
Каб я, малада, жыта жала
І сярэдзіну сваю не зажала.
Панічыку, а панонiку,
Пусці мяне дадоміку.
У мяне дома дзетак многа:
Што куточак, то сыночак,
На пакуці дзевяць дочак.

## 33а. ОЙ, ПАДУЙ, ВЕЦЯРОЧКУ

Ой, падуй, вецярочку,
Ды падай халадочку
Майму сэрцу й жываточку,
Штоб я жала, не ляжала,
Па тры капы ў дзень клала.

## 33б. ДА ПАВЕНЬ, ВЕТРЫК, ПАВЕНЬ

Да павень, ветрык, павень,
Э-э, да павень, ветрык, э, павень
Да дадай халадочку,
Да дадай халадочку,
Э-э, да дадай халадочку
Майму сэрцу, жываточку:
Каб я жала, не пацела,
Э-э, каб я жала, не пацела
Да дадому не хацела.

## 33в. ПАВЕЙ, ВЕТРЫК, ПАВЕЙ

Павей, ветрык, павей
А па нашаму полю,
А па жыту ядранаму.
А дай жа нам халадочку
Сэрцу нашаму, жываточку.

## 34. ПАВЕЙ, ВЕЦЕР, ПА РОЗІ

Павей, вецер, па розі,
Па шырокай дарозе.
Да павей вецярысты,
Дзе жыта ядраніста
Да колас каласісты.

## 35. ОЙ, ГУДКІ ҐУДУЦЬ ДА ГУДУЦЬ

Ой, гудкі ґудуць да гудуць,
А ўсе людкі палуднуюць.
— Вы гудзеце не гудзеце,

Мы палуднаць не будзема,
Бо наш пан жа ж вельмі злосны,
Наш палудзень будзе позны.

## 35а. ОЙ, ГУДЦЫ ГУДУЦЬ

Ой, гудцы гудуць, гудцы гудуць,
Усенькі людзі палуднуюць.
— Ці гудзеце не гудзеце,
Палуднаці не будзеце.
Ваш прыстава развусенькі,
Вы жэнчыкі маладыя,
Ў вас сярпочкі залатыя:
А як сталі — заспявалі,
А як селі — зазвінелі.

## 35б. ПАЛУДНІЧКІ ЗАГУДЗЕЛІ

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Наша пані маладая,
Яна нам спагадае:
Бохан хлеба для голаду,
Бочку піва для холаду,
Белы сыр на талерку.
Белы сыр для голаду,
Яечка для голасу.

## 35в. ДА ГУДУЦЬ ПАЛУДНІЧКІ

Да гудуць палуднічкі,
Да палуднаваць хочуць.
Наш пан не пускае нас:
— Альбо вы нам падажнеце,

Альбо вы нас падаждзеце,
Бо я жнуся, не дажнуся,
Пад постаццю павалюся.

## 35г. ПАЛУДНІЧКІ ЗАГУДЗЕЛІ

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
— Хоць гудзеце не гудзеце,
Палуднаваць не будзеце.
Наша пані маладая
Няхай жа нам спагадае,
Няхай жа нам спагадае,
Палуднаваць прысылае:
Бочку піва аржанога,
Булку хлеба пшанічнога.
— Сядзьце, жнейкі, ў халадочку,
Піце піва па кубочку,
Піце піва па кубочку,
Ешце хлеба па кусочку.
Піце піва, не выпівайце,
Майму пану пакідайце,
Бо мой пан у дарозе,
Дапамажы яму, божа!

## 35д. ГУДУЦЬ, ГУДУЦЬ ПАЛУДНІЧКІ

Гудуць, гудуць палуднічкі
Да хочуць ужо палуднаці.
— Хоць гудзеце не гудзеце,
Палуднаваць не будзеце.
Да торбачка завязана,
Палуднаваць не казана.
Ох, маладая ключнічка
Да пагубіла ключыкі,
З каралём жартуючы,
Гарэшкамі цатуючы,

Яблычкамі гуляючы,
Пярсцёначкі мяняючы.
Гарэшкі да дробненькія,
Яблычкі да кругленькія,
Пярсцёначкі да срэбненькія.

## 35е. ШУМЯЦЬ, ГУДЗЯЦЬ ПАЛУДНІЧКІ

Шумяць, гудзяць палуднічкі,
Яны хочуць палуднаваць.
Торбачка завязана,
Палуднаваць не сказана.

## 35ж. ПАЛУДНІЧКІ

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
Самі сабе не пазніце.
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Не даеўшы, не ляжыце.
— Не дажаўшы, пойдзем,
Не даеўшы, ляжам.

## 35з. ПАЛУДНІЧКІ ЗАГУДЗЕЛІ

Палуднічкі загудзелі,
Жнейкі піць захацелі.

— Хоць гудзіце не гудзіце,
Не сажаўшы, не пойдзеце.

Жніце, жнейкі, не стаіце,
Палуднаваць не пойдзеце.

## 35і. ПАЛУДНІЧКІ ЗАГУДЗЕЛІ

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
Наша пані маладая,
Палуднаваць гатавала.
Наша пані-дабрадзея,
Злавіла верабейка,
На тры кухні гатавала,
На сем сталоў выдавала,
На сем сталоў выдавала,
Сваіх жнеек частавала.

## 35к. ПАЛУДНІЧКІ ЗАГУДЗЕЛІ

Палуднічкі загудзелі,
Палуднаваць захацелі.
— Не гудзіце, палуднаваць
не будзеце.
Наша пані маладая,
Яна нам спагадае,
Палуднаваць прысылае:
Бочку піва маладога,
Булку хлеба аржанога.
— Ешце, жнеі, не з'ядайце,
Толькі пані пакідайце.

## 36. СОНЕЙКА КАЛЯ ЕЛІ

Сонейка каля елі,
Мы яшчэ нічога не елі.
Сонейка каля дубу,
Я палуднаваць буду.
Сонейка на заходзе,
Я ў двор на выходзе.
Сонейка за бярозку,
Я ў двор на дарожку.

Сонейка заходзіць,
Свой свайго знаходзіць,
А я свайго не знайду
Ні ў полі на сене,
Ні ў доме на пасцелі;
А мой міленькі ў полі
На вараным коні.

## 37. А ЖУРАВАЧКА КРАЧА

А журавачка крача,
Палуднаваць хоча,
А маленькі журавок
Палуднаваць прывалок,
Ой, нуце, мы
Да з добрымі людзьмі.

## 38. ДЗЯКУЙ, БОЖА, ЗА ПОЛУДЗЕНЬ

Дзякуй, божа, за полудзень,
Ні сыт, ні голадзен,
Пасядзела гадзіначку,
З'ела хлеба скарыначку.
Да дай, божа, мне мядзвежу сілу:
Галовачка, як бочачка,
А бачкі, як дошчачкі.

## 38а. ОЙ, НІ СЫТ, НІ ГАЛОДЗЕН

Ой, ні сыт і ні галодзен,
Дзякуй богу за палудзень,
Да за барылачку піва
І за баханачку хлеба.

З'елі хлеба скарыначку,
Выпілі піва па кубачку.
Баханачка накарміла,
Барылачка напаіла...

## 39. А МАЛОДАЧКА ЖЫТА ЖАЛА

А малодачка жыта жала,
Пад мяжою дзіця клала.
Прыйшоў к ёй мядзведзіку:
— Маладая малодачка,
Вазьму тваё дзіцятачка.
— Ой ты, сівы мядзведзіку,
Пабяжы ў дубровачку,
Пабяжы ў дубровачку,
Вазьмі маю каровачку:
Чорная, бязрогая —
То то мая дарованая,
Чорная падласая —
То то мая пасажная.

## 39а. Я ПАД БОРАМ ЖЫТА ЖАЛА

Я пад борам жыта жала,
Пад мяжою дзіця клала,
Пад мяжою дзіця клала,
Выбягае мядзведзь з лесу:
— Памагай бог, малодачка!
Чаму тваё дзіця плача?
— Мядзведзюхна, мой бацюхна,
Вазьмі яго на ручанькі,
Нясі яго ў дуброваньку,
Падой чорну карованьку,
Ой, чорную, падласую,
Майго бацькі уласную.
— Ой, рад бы я панасіці,
Ды баюсь, каб не ўкусіці,

Ой, рад бы я із ім сесці,
Ды баюся, каб не з'есці,
Ой, рад бы я й калыхаці,
Ды баюся, каб не ўдраці!

## 39б. І ЭЙ, ДА ЗА БЕЛЫМ БЯРЭЗНІЧКАМ

І эй, да за белым бярэзнічкам
Малодачка жыта жала,
І эй, да прыйшоў к ёй
З лесу мядзведзь:
— Памагай бог, малодачка,
І эй, памагай бог, малодачка,
І чаго ж тваё дзіця плача?
І эй, узяў бы яго панасіць,
Ды баюся, каб не ўкусіць,
І эй, узяў бы яго пакалыхаць,
Да баюся, каб не ўвадраць.

## 39в. МАЛАДЗІЦА МАЛАДАЯ

Маладзіца маладая
У шчырым бару жыта жала,
Мала дзіця калыхала.
А прыйшло к ёй да тры ваўкі,
Да тры шэрыя.
Адзін кажыць:— Пазыбаю,
Другі кажыць:— Пазабаўлю,
Трэці кажыць:— Пацалую.
Цалавалі, мілавалі —
Ї мала дзіця разарвалі.
Стала яна тужыць, плакаць,
Белы рукі ламаючы,
Дробныя слёзы раняючы.

## 39г. ПАСЫЛАЛА МЯНЕ МАЦЬ

Пасылала мяне маць
Ў поле жыта жаць адну.
Ой, люлі, палюлі,
Ў поле жыта жаць адну.
А я жала, малада,
Дзень да вечара адна,
Снапы ў копы зносіла,
Дзіця адно бросіла,
— Ой, ты дзе ж, маё дзіця,
Дзіця маленькае.
Як пайду я, малада,
Ды па сцежцы ў цёмны лес.
Як сустрэла я, млада,
Ды трох шэранькіх ваўкоў.
— Вы, ваўкі, мае ваўкі,
Воўкі шэранькія.
Ці не бачылі, ваўкі,
Дзіця маленькае.
Адзін воўк ёй сказаў:
— Я дзіця не відаў.
Другі воўк ёй сказаў:
— Я дзіця калыхаў.
Трэці воўк ёй сказаў:
— Я дзіця разарваў.

## 39д. Й ЗА ГАРОЮ ВЕЦЕР ВЕЕ

Й за гарою вецер вее,
Жыцейка палавее.
Й маладая маладзіца
За гаем жыта жала.
Жала яна, спазнілася,
Дзіцятка забылася.
Прыляцелі тры й анёлы
Дзіця й калыхаці.
Адзін кажа: — Калышэмо,
А другі: — Падзяржэмо.
Трэці кажа: — Долю дайма,
Да й самі ўцякайма.

### 39е. НАВОКАЛА БАЛОЦЕЙКА

Навокала балоцейка,
Там жала малодачка
З маленькім дзіцятачкам.
Ішоў Міколачка,
Забраў яе дзіцятачка.
— А мой жа ты, Міколачка,
Аддай маё дзіцятачка.
А пайдзі ў дубровачку,
Вазьмі маю каровачку.
Каровачку падласую,
Маю пасажоную.

### 39ж. МАЛАДАЯ МАЛАДЗІЦА

Маладая маладзіца *
Пры дарозе жыта жала,

Пры дарозе жыта жала,
З гусямі размаўляла:

— Ах, вы серыя гусі,
Ці вы з маёй старoccupied?

Калі з маёй старonачкі,
А ляціце ж вы назад.

Скажыце ж вы майму татачку,
Ці я тут запрададзена?

Ці я тут запрададзена,
А ці замуж аддадзена?

Калі я тут прададзена,
Няхай мяне выкупляе;

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Калі замуж аддадзена,
Няхай мяне адвядае

З крэпкімі цымбаламі,
З маладымі ўдалымі.

## 40. ЖАЛА Я ДЫ ЖЫЦЕЧКА

Жала я ды жыцечка пры дарозе,
Павесіла калысачку на бярозе.
Вісі, вісі, калысачка, не хітанíся,
Спі, мая дзяцінанчка, не прачніся.
Жала я ды жыцечка пры даліне,
Павесіла калысачку на каліне,
Вісі, мая калысачка, не цяніся,
Спі, мая дзіцятачка, не павярніся.

## 40а. ОЙ, Я ЖАЛА ЖЫТА ПРЫ ДАРОЗЕ

Ой, я жала жыта пры дарозе,
Павесіла калысачку на бярозе.
Як жала жыта пры даліне,
Павесіла калысачку на каліне.
Ох, я жну палоску, жну другую,
Крычыць маё дзіцятачка, а я чую.
Паспі, не плач, дзіцятачка, мая доню,
Дай дажаці наша жыта — сваю долю.
Слухай лепей песню жураўліну,
Там яны табе збіраюць журавіну.
Сонца грэе, вецер вее — голас носіць,
Бацька наш на сенажаці сена косіць.
За балотам ў цёмным лесе ваўкі выюць,
Голас майго дзіцятачка яны чуюць.
Пакуль жала жыта і арала,
Там ваўчыха із калыскі дзіця ўкрала.

## 41. ПАВЕЙ, ПАВЕЙ, ВЕЦЯРОЧАК

Павей, павей, вецярочак,
Пад мой белы палажочак,
Калышы ж майго дзіцятку,
Што ж ба маё дзіця спала,
А я, малада, жыта жала.

## 42. ЭЙ, ДАЛЕЙ, ДАЛЕЙ

Эй, далей, далей,
Мой загонку маленькі!
А хто це гараў?
— Хлопчык маладзенькі.
— Эй, далей, далей,
Мой загонку пляскаты!
А хто це гараў?
— Ратайчык смаркаты.
— Эй, далей, далей,
Мой загонку шырокі!
Хто цябе гараў?
— Волік белабокі.
— Эй, далей, далей,
Мой загонку высокі!
А хто ж це гараў?
— Хлопец чарнавокі.
— Эй, далей, далей,
Мой загонку цукаты!
А хто ж це гараў?
— Ратай трыбухаты.

## 42а. ОЙ ЗАГОН, ЗАГОН ДЫ ЗАГОНЧЫК МОЙ

Ой, загон, загон ды загончык мой,
Да мой жа ж ты да шырокі,
Хто цябе гараў, хто баранаваў?
— То ж гаспадар адзінокі.

Ён мяне гараў, ён баранаваў,
Да не было калі стаць.
Пусціў волікі палавенькія
На папову сенажаць.
А сам да й пайшоў да міленькай
На ўсю ночаньку гуляць.
Ляжыць мілая чарнабрывая
У пярынушках нежыва,
Аднож мілая чарнабрывая
Сыночка парадзіла.
— Бадай ты, сынок, да малюсенькі,
Ой, каб ты не радзіўся,
Як я з мілаю, з чарнабрываю
На векі разлучыўся.
— Мой ты татанька, мой ты родненькі,
Чаму цяжка заклінаеш?
Табе, татанька, табе, родненькі,
Будзе жонка малада,
А мне, сыночку, мне, маленькаму,
Будзе матка не така.
Ой, табе, татанька, жонка ў вянку,
А мне, татка, у пяску.

## 426. ОЙ, НА ГАРЭ, ГАРЭ БЕЛ-МАЛОЙЧЫК АРЭ

Ой, на гарэ, гарэ бел-малойчык арэ,
Арэ, барануе, на дамочак паглядае:
— Усе людзі абед нясуць,
Маёй жаны не відаць,
Пакіну я валы ў ярме,
А сам пайду дамоў к жане,
А прыйду я к вароцечкам,
Вароцечкі закручаны,
А прыйду я ў новы сені,
Вядзёрачкі сухі стаяць,
Мае дзеткі хмурна сядзяць.
— Дзеткі ж мае міленькія,
Да дзе ж ваша маці?
— Матка сына нарадзіла,
Парадзіўшы, сама умёрла.

— О, божа, мой божа! Вазьмі
мае валы ў ярме,
Вярні маю жану ка мне!

## 42в. ОЙ, ДАЛЕЙ, ДАЛЕЙ, МОЙ ЗАГОНЧЫК ШЫРОКІ

Ой, далей, далей, мой загончык шырокі,
Да цябе гараў ратаік адзінокі.

Ой, далей, далей, мой загончык вузенькі,
Да цябе гараў ратаік маладзенькі.

Ой, ён гараў да чорнымі валамі,
Узяў сабе дзеўку з чорнымі брывамі.

## 43. Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

Я у полі жыта жала,
Дома ў мяне бяда стала:
Узлезла свякроў на тын глядзець,
Ці добра нявестка жнець,
Звалілася свякроў з тыну
Ды ў зялёную крапіву.
Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне крапівачкі:
Крапіўка зялёная,
Свякроўка шалёная,
Крапіўка цвісці будзе,
Свякроўка гнісці будзе.

## 43а. МАЛАДАЯ МАЛОДАЧКА

Маладая малодачка,
Стала табе прыгодачка:
Упала твая матка з печы,

Забіла сабе плечы.
— Каб я тую бяду знала,
То б я пасцельку слала:
Пад бочанькі пярынанькі,
Пад галоўку падушачкі.
Маладая малоданька!
Стала табе прыгоданька:
Упала твая свякроў з тыну
У жыжку крапіўку.
— Каб жа я тое знала,
То б я пасцельку слала:
Пад бочанькі паленанькі,
Пад галоўку каменейка.

## 43б. ОЙ, Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я ў полі жыта жала,
Ў мяне дома шкода стала,
Ў мяне дома шкода стала,
Што свякруха з плота ўпала,
Што свякруха з плота ўпала,
Ўсю крапіву паламала.
Не шкада мне свякрухначкі,
Ды шкода мне крапівачкі,
Бо свякруха — бяда мая,
А крапіўка — яда мая.

## 43в. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў полі жыта жала,*
Ў мяне ў дварэ бяда стала:

Звалілась свякрова з тыну,
Паламала ўсю крапіву.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне крапівачкі,

Свякровачку ў гроб кладуць,
Крапівачку свінням ірвуць.

### 43г. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў полі жыта жала,*
Прышла дамоў, бяда стала:

Узлезла свякроў на тын глядзець,
Ці добра ёй нявестка жнець.

Звалілася свякроў з тыну
Ды ў зялёную крапіву.

Не жаль жа мне свякровачкі,
Ды жаль жа мне крапівачкі.

Свякровачку праклінаюць,
А крапіўку паліваюць.

Свякровачка ўжо не ўстанець,
І крапіўка уся звянець.

Крапівачку звязуць на ніўку,
А свякроўку ў магілку.

Ад крапіўкі жытцо ўзыйдзець,
Без свякроўкі жыццё будзець.

### 43д. ОЙ, Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я ў полі жыта жала,
У мяне дома навіна стала:
Да свякроўка з печы ўпала.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Каб я ж знала, што яна ўпадзе,
Я б паслала ўсё карэнейка,
Пад галоўку ўсё каменейка.
Ой, я ў полі жыта жала,
У мяне ў хаце навіна стала:
У мяне мамка з печы ўпала.
Каб я знала, што яна ўпадзе,
То я б паслала ўсе дзяружачкі,
А пад галоўку ўсе падушачкі.

### 43е. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў полі жыта жала,
У мяне ў доме бяда стала:
Свёкар з печы зваліўся,
У карыта ўтапіўся,
У карыта ўтапіўся,
Мякінаю ўдавіўся.

### 43ж. ОЙ, Я У БАРЫ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я ў бары жыта жала,
А мне дома бяда стала:
Узлезла свякроўка на тын
глядзець,
Ці скора нявестка жнець.
Павей, ветрык, каля тыну,
Скінь свякроўку у крапіву.
Звалілася свякроў з тыну,
Стоць галавой у крапіву!
Сабе шыі не зламала,
Мне крапіўку патаптала.
Не жаль жа мне свякровачкі,
Ды жаль жа мне крапівачкі:
Крапівачка — яда мая,
Свякровачка — журба мая.

## 43з. ШТО ЗА ЕЛЬНІЧКАМ, ЗА БЯРЭЗНІЧКАМ

Што за ельнічкам, за бярэзнічкам,*
Ды там жнеечка да жыта жала,

Ды ў яе ў доме ды шкода стала:
Ды свякровачка ды з тыну ўпала,
Ды крапівачку паламала.

Ды не жалка ёй свякрухначкі,
А жалка ёй ды крапівачкі.

А крапівачка ды як лён ляжыць,
А свякрухначка ды як конь бяжыць.

## 43і. А У НАС СЕННЯ БЯДА СТАЛА

А ў нас сёння бяда стала: **
Свякраванька з тыну ўпала,
З тыну, з тыну ды ў крапіву,
Крапівушку паламала.
А не жаль жа мне свякровушкі,
Ай, жаль жа мне крапівушкі:
Свякровушка ў магілушку,
Крапівушка на нівушку,
Свякровушку памінаць буду,
Крапівушку паліваць буду.

## 43к. ХАЛОДНАЯ РАСА ПАЛА

Халодная раса пала,
Пусці мяне дамоў, паня!
Ў мяне дома бяда стала:
Звалілася свякроў з тыну,
Ды ў зялёную крапіву.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

** Кожны радок паўтараецца двойчы.

Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль мне крапівачкі:
Крапівачка ўстаніць —
Жаць будуць.
Свякровачка ўстаніць —
Журыць будзіць,
Што не часценька снапочкі
вязала,
Што мала бабачак стаўляла,
А толькі сваё дзіцё калыхала.

## 43л. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў полі жыта жала,*
А ў мяне дома бяда стала:
Свякроўка з тыну зваліласяь,
На барану прабілася.
Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне бароначкі:
Бароначка пахаць будзе,
Свякровачка хварацъ будзе.

## 44. КУДРАВЕНЬКІ БЕЛ-МАЛОЙЧЫК

Кудравенькі бел-малойчык,
Ай, да не стой ты у постаці.
Не ўгаварвай нашых дзевак.
А нам, дзевачкі, самім трэба
Ядраное жыта жаці,
Ай, вялікі копы класці:
Дзе горачка — там копачка,
А дзе лажочак — там стажочак.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 45. ОЙ, ТУЧЫЦЦА-ХМАРЫЦЦА

Ой, тучыцца-хмарыцца,
Дваранін дзеўцы хваліцца:
— Я табе, дзяўчына, сноп
нажну,
— Я табе, дваранін, лоб паб'ю.
Ой, пайшоў дваранін плачучы,
А за ім дзяўчаты скачучы:
— Дваранін, дваранін, вярніся,
Вазьмі кубак вады памыйся,
На коліку ручнік — утрыся,
У куфорку грэбень —
прычашыся.
Дваранін, дваранін, адвяжыся,
К нам ў поле на жніво не з'явіся.

## 46. ЖЫЦЕЧКА МАЛЕНЬКА

Жыцечка маленька,
Баліць мая сярэдзінка.
Сярэдзінка не гнецца,
Постаць валачэцца.
Няма маёй маці
Постаць падагнаці.
Яна б падажала,
А я б пастаяла
Да варон пастраляла...

## 46а. БАЛІЦЬ МАЯ СЯРЭДЗІНКА

Баліць мая сярэдзінка,
Што жыта маё рэдзенька,
Сярэдзінка не гнецца,
Постаць мая валачэцца.

Няма маёй маці
Мне постаці падагнаці,
Няма маёй сястрыцы,
Маёй большай памочніцы.
Сястрыца б постаць падагнала,
А я трохі пастаяла
Да й варон пастраляла.

## 47. А НА ДВАРЭ ВЕЧАРЫНКА

А на дварэ вечарынка,
Баліць мая серадзінка.
Свякратунька не татунька,
Не вытапіць ён лазеньку,
І не папарыць сярэдзінку.

## 47а. МАЁ ЖЫТА РЭДЗЕНЬКА

Маё жыта рэдзенька,
Баліць мая сярэдзінка,
Мой свёкарка дагадлівы —
Ды вытапіў ён лазеньку,
Выламаў бярэзінку,
Выпарыў сярэдзінку.
Бярэзінка — зялёная,
Сярэдзінка — здаровая.

## 47б. КУДРАВАЯ РАБІНУШКА

Кудравая рабінушка,
Баліць мая серадзінушка.
А чаго ж ёй не балець,
Калі некаму пажалець:

А свёкар жа да не бацюшка,
А свякроўка да не матушка —
Не вытапюць мне лазеньку,
Не папарацъ серадзінушку.
Пайшоў свёкар у лядзінушку,
Адсёк свёкар дубінушку —
Парыць маю серадзінушку,
А свякроўка за гарэлачкай —
Мачыць маю сярэдзінушку.

## 47в. А НА ДВАРЭ ВЕЧАРЫНКА

А на дварэ вечарынка,
Баліць мая серадзінка.
А чаму ж ёй не балець,
Калі некаму жалець:
А свёкар не бацюшка,
А свякроў не матушка —
Не вытапюць лазеньку,
Не папаруць серадзінку.
Пашоў свёкар к краінку,
Як і выразаў дубінку
Ды на маю серадзінку.
Як начаў мяне парыць,
Серадзіну маю правіць,
А чорт гэта — не парыння,
Толькі горшы разбалення,
А дубінка сырошанька,
Серадзінка сінёшанька.
А мой татухна чуіць.
Ён мне лазню гатуіць
Із духам, із венічкам,
Із цёплай вадзіцай.
А мая мамка чуіць,
Мне вячэру гатуіць,
А сястрыца дажыдаіць,
Белу ложу засцілаіць,
А брацілка дажыдаіць,
За варотам пераймаіць.
А вячэра смачная,
А пасцелька мяккая!

## 47г. МАЕ ЖЫТА РЭДЗЕНЬКА

Маё жыта рэдзенька,
Баліць мая сярэдзінка.
Не з кім стаці жыта жаці:
Стаць са старым — загаруешся,
Стаць з малым — загуляешся,
Стаць з малайцом—загукаешся.

## 47д. УЖО СОНЕЙКА — НЕ РАНЕНЬКА

Ужо сонейка — не раненька,
Іду дамойкі радзенька —
На цёплую вячэру,
На мяккую пасцелю.
Маё жыта рэдзенька,
Баліць мая сярэдзінка.
Мая матка дагадліва —
Выцэпліла лазеньку.
Ды выцэпліўшы лазеньку,
Наламала бярэзнічку,
Наламаўшы бярэзнічку,
Папарыла сярэдзінку.
Сярэдзінка памягчэла,
Маё жыцейка пагусцела.

## 47е. МАЁ ЖЫТА РЭДЗЕНЬКА

Маё жыта рэдзенька,*
Баліць мая сярэдзінка,
Не магу адагнуцца
І назад аглянуцца.
Я, здалося, нажалася,
А мне кажуць — наляжалася.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 47ж. ЖАЛА, ЖАЛА ДА ВЕЧАРА

Жала, жала да вечара,
Баліць мая сярэдзіна.
Я й жала, не ляжала,
За дзень капы не нажала,
Я й думала тры капы,
Аглянуся — от тры снапы.

## 47з. ПАЖАЛЕЙЦЕ МЯНЕ, МАЯ МАМАЧКА

Пажалейце мяне, мая мамачка,
Я ўтамілася,
Баляць мае ручачкі і ножачкі,
Баліць мая сярэдзінка.
Вытапі баньку, пазаві бабку,
Папар маю сярэдзінку;
Сярэдзінку да й бярэзінкай,
Што б яна не балела.
Няхай яна тады баліць,
Як у доме сядзіць.

## 47і. КАЛЫХ, КАЛЫХ БЯРОЗАНЬКА

Калых, калых бярозанька,*
Баліць маё й сэрданька.
Каб жа было кувакала,
Можа б яно заплакала,
Я б жа яго скалыхнула,
Сардэчанька аддыхнула.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 47к. МАЕ ЖЫТА РЭДЗЕНЬКА

Маё жыта рэдзенька,*
Баліць мне сярэдзінка.

Не магу адагнуцца,
Да матулі адклікнуцца...

## 47л. ЖЫТА МАЕ РЭДЗЕНЬКАЕ

Жыта маё рэдзенькае, **
Баліць жа мне сярэдзінка,
А мой мужык дагадлівы
Наламаў бярэзнічку,
Папарыў мне сярэдзінку.

## 48. А МЫ У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛІ

А мы ў полі жыта жалі **
І ў снапочкі павязалі,
І ў бабачкі пастаўлялі.
Ужо сонейка на скаце,
А пан грошыкаў не плаце,
А нам жаці надаела,
Сярэдзінка забалела.
Каб жа было кугакала,
Дык бы яно заплакала,
А я б пайшла, скалыхнула б,
Сярэдзінка аддыхнула.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

** Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 48а. ДЫ Я ЖАЛА ДА ВЕЧАРА

Ды я жала да вечара,*
Баліць мая сярэдзіна.
Каб я мела дзіцятачка,
Каб у мяне маленькае,
Можа б яно заплакала,
Дык я б яго скалыхнула,
Сярэдзінка б адпачнула.

## 49. ОЙ, У ПОЛІ БЯРЭЗІНКА

Ой, у полі бярэзінка,
Баліць мая сярэдзінка.
Ой, дайце мне паджэнчыка:
Ён за мною снапок звяжа,
Ён са мною спаці ляжа.

## 49а. ОЙ, ДАЙЦЕ МНЕ ЗАГОН-РАЗГОН

Ой, дайце мне загон-разгон,
Маладога павязнечка:
Ён са мною снапы звяжа,
Ён са мною спаці ляжа,
Снапы звяжа, памацуе,
Спаці ляжа, пацалуе.

## 49б. ПАЖАЛІСЯ, ПАКІНУЛІ

Пажаліся, пакінулі,
Як вутачкі, паплынулі.
Альбо ж мяне падажніце,
Альбо сядзьце падаждзіце,
Альбо дайце павязнічка:
Да ён мае снапы звяжа,
Да са мною спаці ляжа.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 49в. ЦІ Я Ў ПОЛІ НЕ ЖНІВАЧКА

Ці я ў полі не жнівачка,
Ці за мною не жменечка.
Ой, дайце павязнога,
Не старога да не малога,
Не старога да не малога,
Харошага й маладога.
Ён за мною снапка звяжа,
Ён мне усю праўду скажа.
Снапка звяжа да й падойме,
Спаці ляжа да й абойме,
Снапка звяжа, памацуе,
Спаці ляжа, пацалуе.

## 49г. ОЙ, ЖАЛА Я, НЕ ЛЯЖАЛА

Ой, жала я, не ляжала,
Тры снапочкі нажала,
А хто за мною снапка звяжа,
Той са мною спацькі ляжа.
Снапка звяжа цяснюсенька,
Ляжа спаці шчылюсенька,
Снапка звяжа да й падыме,
Спаці ляжа да й абдыме,
Снапка звяжа, памацуе,
Ляжа спаці, пацалуе.

## 50. ВЕЧАР ВЕЧАРЭІЦЬ

Вечар вечарэіць,
Душа весялеіць:
Ідзець ночка на аддыханне,
А мужык на гараванне.
А ранняя зара зараіць,
І душа тагды унываіць:
Ідзець дзянёк на работу
І на жаркую пякоту.

## 50а. ВЕЧАР ВЕЧАРЭІЦЬ, ДУША ВЕСЯЛЕІЦЬ

Вечар вечарэіць, душа весялеіць:
Спадзяваецца на аддыханне.
Ау-у-у! *

Зорачка зараець, душа ўныываець:
Спадзяваецца на работу.

Ані так на работу, як дзень
На спякоту, як свякроўцы на журботы.

Свякроўка журлівая, цэлы дзень журыла,
А прышоўшы ў двор, дый набіла.

— Жні, шэльма, не ляніся,
На казе не цягніся.

— А баляць мае ручкі, ножкі,
Сярэдзінка баліць.

А жну, не лянюся,
На казе валакуся.

## 51. САШЛІ, БОЖА, ТУЧКІ

Сашлі, божа, тучкі,
Адпачынуць ручкі.
Дай, божа, дождж.
Дай, божа, пагодку,
На нашу работку.
Нашлі, божа, дождж.
Ручкі забалелі,
Ножанькі самлелі,
Дай, божа, дождж.

---

* Паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 51а. НАНЯСІ, БОЖА, АБЛАЧЫНКУ!

Нанясі, божа, аблачынку!
На тры дні адпачынку:
Адзін дзень — малоць, талоч,
А другі дзень — ваду насіць,
А трэці дзень — дзяжу мясіць!

## 51б. ДА ПАСТУКІВАЕ, ДА ПАГРУКІВАЕ

Да пастуківае, да пагруківае,
Ці не дасць бог дажджу.
Ой, дай, божа, нягоду
Да верхавую воду
Да й на тры нядзелі,
Каб дома сядзелі,
Да й на тры дзянёчкі,
Ці не пашылі б сарочкі,
Да на тры панядзелкі,
Ці не пагулялі б дзеўкі,
Да й на тры аўторкі,
Ці не памылі б сарочкі,
Да на тры суботы,
Што б не было работы.

## 51в. ДАЙ, БОЖА, ДОЖДЖ, ДОЖДЖ

Дай, божа, дождж, дождж
Да на тры нядзелі,
Каб мы пасядзелі,
Дождж, божа, дождж.
Дай на чатыры,
Каб мы адпачылі,
Дай, божа, дождж.
Хоць і на пяці,
Каб нам паспаці,
Дождж, божа, дождж.

На руту, на мяту,
На бабску салату
Дождж, божа, дождж.

## 51г. ДАЙ, БОГ, ДОЖДЖ

Дай, бог, дождж!
Да на тры нядзелі,
Каб людзі сядзелі,
Дай, бог, дождж!
Будзім мы сядзеці,
Будзім аддыхаці,
Дай, бог, дождж!
Будзім аддыхаці
Да многа пяяці,
Дай, бог, дождж!
Будзім мы пяяці,
А жыта не жаці,
Дай бог, дождж!

## 51д. ДАЙ, БОЖА, ДОЖДЖ

Дай, божа, дождж,
Дай, божа, дождж
Да на тры нядзелі,
Каб мы пасядзелі.
Дай, божа, дождж,
Дай, божа, дождж
На руту, на мяту,
На дзевера хату,
Дай, божа, дождж.
Баба дзеда хвартушком,
А дзед бабу кажушком.

## 51е. ДЫ ДАЙ, БОЖА, ПАГОДАЧКУ

Ды дай, божа, пагодачку
На нашаю работачку.
Пагодачка качаецца,
Работачка спяшаецца.
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
Не сажаўшы, не пойдзіце.
Да ўжо ж вечар вечарэе,
Да ўжо наш пан весялее,
Коні свае запрагае,
Жнейкі свае падганяе:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
Не сажаўшы, не пойдзіце.
Не пад'еўшы, не ляжыце,
Не паспаўшы, не ўстаніце.

## 51ж. РАЗГАНІ, БОЖА, ХМАРКУ, ГЭЙ!

Разгані, божа, хмарку, гэй!
Ды ў чужую старонку.
Дай, божа, пагодачку, гэй!
На нашу старoначку.
Работку рабіці будзем, гэй!
Цябе, божа, хваліць будзем.

## 52. ЖНУ Я, ПАЖЫНАЮ

Жну я, пажынаю,
На сонейка пазіраю:
Ці высока сонейка,
Ці далёка ойчанька.
Ой, высока сонейка!
Ой, далёка ойчанька!

## 52а. ОЙ, ЖЫТА ЖНУ, ПАЖЫНАЮ

Ой, жыта жну, пажынаю,
На дарожаньку пазіраю,
Да ці скора маці ісціме,
Мне абедаць нясціме?
Нясе хлеба булачку
І мядочку ў кубачку.
Я жыта жну, пажынаю,
На дарожаньку пазіраю,
Да ці скора свякроў ісціме?
Нясе хлеба скарыначку
І вадзіцы ў чарапочку.

## 52б. А Я ЖНУ, ПАЖЫНАЮ

А я жну, пажынаю
І да дому пазіраю,
Ці ідзе мая родна мамачка,
Ці нясе мне есці.

Ой, ідзе мая родна мамачка
І нясе мне есці.
Нясе хлеба бандушачку,
Яшчэ й масла ў гарнушачку.

А я жну, пажынаю
І да дому пазіраю,
Ці ідзе мая свякрованька,
Ці нясе мне есці.

Ой, ідзе мая свякрованька
І нясе мне есці.
Нясе хлеба скарыначку,
Яшчэ й солі драбіначку.

## 52в. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў полі жыта жала
Ды ў бок я паглядала,
Ці не ідзе мая мамачка,
Ці не нясе мне палуднёвічак.
Ідзе ж, ідзе не мамачка,
А ідзе свякровачка,
Ідзе, ідзе з нізкім сонцам,
Ідзе з ліхім слоўцам:
— Чаму ж ты, нявестачка,
Мала зжала?
Ці не пад снапочкам
Ты ляжала?

## 53. ЗАГЛЯНУЛА МАЁ ВОЧКА

Заглянула маё вочка,
Што краёчак недалёчка,
А ў тым краю маладзенькі,
Нежанаты, халасценькі.
А дай, божа, дажаціся,
З халасценькім абняціся.

## 53а. ВІДЗІЦЬ МАЁ ВОЧКА

Відзіць маё вочка,
Што край недалёчка,
Відзіць і другое,
Што йшчэ ганей трое...
Сярпы зазвінелі,
Двору захацелі!
А звоньце не звоньце,
Пастаць перагоньце...
Чые ж гэта жнеі,
Жнеі маладыя,
Сярпы залатыя?

Іванавы жнеі маладыя,
У іх сярпы залатыя.
Пархвіравы жнеі старыя,
У іх сярпы лубяныя.

## 53б. БАЧЫЦЬ МАЕ ВОЧКА

Бачыць маё вочка,
Што край недалёчка,
Бачыць і другое,
Што йшчэ гоней трое.

А ў краю, краёчку
Сядзіць у брылёчку;
Мы да яго дажнёмся —
Па чарцы уп'ёмся.

## 53в. ОЙ, Я ЖНУ, ПАЖЫНАЮ

Ой, я жну, пажынаю,
Ў бережок паглядаю.
Ў беражку прыганяты —
Малады, нежанаты.
Жаць тры гаты.
Дай божа дажаціся,
Дай божа дажаціся,
З прыганятым абняціся.

## 53г. ГЛЯДЗІЦЬ, ГЛЯДЗІЦЬ МАЁ ВОЧКА

Глядзіць, глядзіць маё вочка —
Беражочак недалёчка,
А на гэтым беражочку
Стаіць прыганяты
Здаровы, чубаты,
Судзі, божа, мне дажаць,
Бо ён скуру можа зняць.

## 54. ДА СОНЕЙКА, СОНЕЙКА

Да сонейка, сонейка,
Да заходзь ты борздзенька.
Да ўзыходзь ты позненька!
Не бывала ты ў найме,
І не спагадаеш ты мне.
Каб ты ў найме пабывала,
То б ты мне спагадала.
— А дурная ты, дзеванька!
Не дзівуйся на сонейка,
Але дзівуй на свайго пана:
Хоць я позненька ўзыйду,
Цябе на полі знайду,
Хоць я раненька зайду,
Цябе ў полі пакіну:
Снапочкі не нажаны,
Жменькі не вязаны,
І дадому ісці не казана.

## 54а. СОНЕЙКА, СОНЕЙКА

Сонейка, сонейка,
Эй, закаціся скоранька,
Ты мне ўжо надакучыла,
Эй, раненька ўзыходзячы,
Позненька заходзячы.
— Малада-малодачка,
Не крыўдуй на сонейка,
Да крыўдуй на свякроўку,
Што рана выпраўляе,
Што позна пераймае.
Як я раненька ўзыйду,
Цябе на ніве застану.
Як я позненька зайду,
Цябе на ніве пакіну.

## 54б. ЗА БОР СОНЦА, ЗА ДУБРОВУ

За бор сонца, за дуброву,
За высокую гору.
Да ўжо ж ты мне надаела,
Да раненька ўзыходзячы,
Да пазненька заходзячы.
— Маладая малодачка,
Не дзівуй на сонейка.
Я й раненька ўзыходзячы,
Цябе ў полі находзіла,
І пазненька западала,
Цябе ў полі пакідала.
— У мяне свёкар не войчанька,
Мяне рана пабужае,
Рана ў поле выпраўляе.

## 54в. СОНЕЙКА, СОНЕЙКА

— Сонейка, сонейка,
Ці бывала ты ў найме?
Ці бывала ты ў найме,
Ці спагадаеш ты мне?
Каб ты ў найме пабывала,
Ты ж бы мне спагадала:
Позненька ўзыходзіла,
Раненька заходзіла!
— Малада малоданька,
Не дзіві ты на сонейка.
Не дзіві ты на сонейка,
Ды дзіві ты на пана:
Я й раненька ўзыйду —
Цябе ў полі знайду,
Я й позненька зайду —
Цябе ў полі пакіну!

## 54г. ТЫ ЗАРА МАЯ, ЗАРА

Ты зара мая, зара,
Зараначка мая,
Эй люлі, люлюшэнькі,
Ты зараначка мая.
Што ты раненька ўсходзіш,
Што далёканька заходзіш,
Эй люлі, люлюшэнькі,
Што далёканька заходзіш?
Цераз лес, цераз поле,
Цераз сінее мора,
Эй люлі, люлюшэнькі,
Цераз сінее мора.

## 54д. ДЫ СОЎНЕНЬКА-СОЎНЕНЬКА

Ды соўненька-соўненька,*
Закаціся скоранька,

Ці ты ў найме не бывала,
Што ты мне не гадала?

Каб ты ў найме пабывала,
Дык ты бы мне спагадала:

Ды позненька паўсходзіла,
Ды раненька заходзіла.

— Ты дзяўчына маладая,
Не вінуй жа ты мяне,

Не вінуй жа ты мяне,
Ды вінуй жа свайго пана,

Што раненька пабуджаець
Ды позненька дажыдаець.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 54е. ДЗЕВАНЬКА-СІРОТАНЬКА

Дзеванька-сіротанька
За борам жыта жала,
За борам жыта жала
І з сонейкам размаўляла:
— Ох ты, сонейка маё,
Не бываеш ты ў мяне,
Не бываеш ты ў мяне
І не спагадаеш мне.
Хоць раненька ўзойдзеш,
Мяне на полі знойдзеш,
І позненька зайдзеш,
Мяне на полі кінеш.
— Чым жа я таму вінавата,
Што твая гаспадынька
Цябе рана пабуджаіць
І на поле высылаіць?

## 54ж. СОУНЯЙКА, СОУНЯЙКА

Соўняйка, соўняйка,
Не было ж ты ў найме,
Не спагадаеш ты мне;
Каб жа ты пабывала,
Ты ба мне спагадала.
У нас полі далёкія,
У нас хлябы пуховыя,
Да ў нас свёкра зласлівыя.
— Бязумна маладзіца,
Неразумна гаворыш,
Віна твая — гаспадыня:
Да я раненька ўзыйду
І цябе ў полі знайду,
Да я позненька зайду
І цябе ў полі пакіну.

## 54з. А СОНЦА, СОНЕЙКА

А сонца, сонейка,
Ды зайдзі ты скоранька,
Ужо ты нам дакучыла,
Раненька ўсходзячы,
Раненька ўсходзячы,
Позненька заходзячы.
— А дзеванькі-жневанькі,
Не крыўдуйце на мяне,
А крыўдуйце на пана,
Што рана выганяе
Ды позна распушчае!

## 54і. ЗАХОДЗЬ, ЗАХОДЗЬ, СОНЕЙКА

Заходзь, заходзь, сонейка,
Ды за гару бордзенька.
Можа вечар барджэй будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.
— Не горся, малодачка,
На яснае сонейка,
А горся, малодачка,
На сваю свякрованьку:
Бо я раненька сыходжу,
Цябе ў полі знаходжу,
А позненька забягаю,
Цябе ў полі пакідаю.

## 54к. ДЗЯЎЧЫНА-СІРАЦІНА

Дзяўчына-сірацiна *
За гарой жыта жала,

За гарой жыта жала,
З сонейкам размаўляла:

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Сонейка ты яснае,
Не ўсхадзі раненька,

Да хоць раненька ўзойдзеш,
Мяне на ніўцы знойдзеш.

Сонейка ты яснае,
Не заходзь позненька,

Да хоць позненька зойдзеш,
Мяне на ніўцы пакінеш.

У мяне мамка чужая,
Раненька выпраўляець,

Раненька выпраўляець,
Позненька пераймаець.

Позненька пераймаець,
Вады, дроў пасылаець.

Прынясу вады ўночы,
Залью я ёй вочы,

Каб яна не глядзела,
Можа б я пасядзела.

## 54л. ЖНУ Я, ЖНУ, ПАЖЫНАЮ

Жну я, жну, пажынаю, *
На сонейка паглядаю.

— Сонца маё яснае,
Да ўзыйдзі ж ты раненька,

Да ўзыйдзі ж ты раненька,
Абагрэй сіротаньку.

— Хоць я раненька ўзыйду,
Цябе на ніўцы знайду.

Хоць я позненька зайду,
Цябе на ніўцы кіну.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 55. ДА УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Да ўжо вечар вечарэе,
Наш пан весялее,
На постаці паяэджае,
Свае жнеі прыганяе:
— Жніце, жніце, жніце,
Сябе не пазніце,
Майго каня варанога,
Мяне, пана маладога,
Майго каня стракатага,
Мяне, бана багатага.
Да ўжэ вечар вечарэе,
Наша пані весялее,
На постаці пахаджае,
На пагоду паглядае:
— Малю бога за пагоду,
Што мае жніцы ў полі,
Касцы мае на балоце,
Усе людзі на рабоце!

## 55а. ОЙ, ЗЯЛЁНЫ ГАРЭШНІК

Ой, зялёны гарэшнік
Па ценю палягае,
З-пад таго гарэшніка
Сівы конь выбягае.
Не сам ды выбягае,
Пан на ём выязджае,
Жэнчыкаў прыганяе:
— Жнеце, жэнчыкі, жнеце,
Самі сябе не пазнеце!
— Мы жалі, не ляжалі
Ды па сем коп нажалі.
Паночку, наш каролічку,
Пусці нас дадомачку!
У нас хаты далёкія
І маткі чужэнькія,
Пасылаюць па вадзіцу
Да гаю ў крыніцу.

## 55б. ДА ЗНАЦІ ПАНА, ЗНАЦІ

Да знаці пана, знаці
Да праміж усімі панамі:
Ён на коніку паязджае,
На коніку паязджае,
Да й жэнчыкаў прыганяе:
— Жнеце, жэнчыкі, жнеце,
Жнеце, жэнчыкі, жнеце!
Ды самі сябе не пазнеце,
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Да тут начаваць не будзеце.

## 55в. ДА УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Да ўжо вечар вечарэе,
Наша пані весялее,
Па постаці пахаджае,
На пагоду заглядае.
— Дзякуй богу за пагоду,
Што мае жанцы ў полі,
Касцы мае на балоце,
Усе людзі на рабоце.

## 55г. ОЙ, У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ

Ой, у лузе, лузе
Там каліна жаркая.
У нашага пана
Пані гаваркая.
Як яна загаворыць,
Як у званы зазвоніць,
Па дварочку паходзіць,
Як зоранька зыходзіць.
Па дварочку пахаджае
І жончыкі прыганяе:

— Жніце, жончыкі, жніце,
Самі сябе не пазніце,
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Без вячэры не будзеце.
Вам вячэра — галушачкі,
Пасцель бела — падушачкі,
Шчука-рыба ў перцы,
Белы сыр на талерцы,
І піражанькі ў масле,
Бо жончыкі красны.
Мы жончыкі маладыя,
Ў нас серпікі залатыя.

## 55д. УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Ужо вечар вечарэе,
Наш пан весялее,
На коніку паязджае,
Сваіх жнеек паганяе:
— Жніце, жнейкі, не стаіце,
Самі сябе не пазніце,
Майго каня не марыце,
Майго каня варанога,
Мяне, пана маладога.
Пара каню да стаінькі,
Мне, панічу, да паненкі.
Пара каню авёс есці,
Мне, панічу, ў крэсла сесці.

## 55е. НАШ ПАН МАЛАДЗЕНЬКІ

Наш пан маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
Па полю паязджае,
Сваіх жнеек прыганяе:

— Жніже, жніце, жнейкі,
Прынясу вам гарэлкі,
Буду ў рад усіх садзіці,
Гарэлачкай паіці.
— Мы б гарэлкі не хацелі,
Лепей дамоў паляцелі.

## 55ж. ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Вечар вечарэе,
Наш пан весялее,
Па постаці пахаджае,
Сваіх жанцоў падганяе:
— Жніце, жанцы, жніце,
Мяне, пана, не пазліце.
Мяне, пана маладога,
Майго каня варанога.

## 55з. ЖНІЦЕ, ЖНІЦЕ, ДА НЕБАЖАТА

Жніце, жніце, да небажата,
Наша ж ніва не зжата,
Не сажнеце, то не пойдзеце,
Без вячэры спаць не ляжаце.
— Добры вечар, да хазяюшка,
Ці ты жыва, ці здарова,
Ці ты жыва, ці здарова,
Ці нам вячэра гатова?
— Сем печ дроў стапіла,
Вам вячэры не зварыла,
А восьму я запаліваю,
Вячэрыначку даварываю.
Наварыла нам бацвіння,
Пасадзіла з намі Марціна,
Нам бацвіння не хочацца
Да з Марцінам рагочацца.

## 56. А НАШ ПАН КАРОЛІКУ

А наш пан каролiку
Прыехаў на конiку,*
Па пастацi аб'язджае,
Сваiх жнеек аблiчае,
Цi многа жыта зжалi,
Цi многа коп настаўлялi.
Нашчыталi сто чатыры,
А болей не злiчылi.

## 57. У МЯЖУ, ЖНЕЙКІ, У МЯЖУ

Ў мяжу, жнейкi, у мяжу.
Ды ў мяжы падганяты,
Наш Васiлька нежанаты.
На конiках паязджае.
Сваiх жнеек падганяе:
— Жнiце, жнiце, жнейкi,
не стаiце,
Самi сябе не пазнiце,
Не дажаўшы не пойдзеце,
Не дайшоўшы, не ляжаце.

## 57а. У МЯЖУ, ЖНЕЙКІ, У МЯЖУ

У мяжу, жнейкi, у мяжу.
Ды ў мяжы прыганяты,
Малады, нежанаты,
На конiку паязджае,
Сваiх жнейкаў прыганяе:
— Жнiце, жнейкi, не стаiце,
Не пажаўшы, не пойдзеце,
Палуднаваць не будзеце.

---

* Другi радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 57б. ДА МЯЖЫ, ЖЭНЧЫКІ, ДА МЯЖЫ

Да мяжы, жэнчыкі, да мяжы,
Ужо ўзышлі пірагі ў дзяжы.
Да краю, жэнчыкі, да краю,
Пойдзема дадому, да раю.
Да конца, жэнчыкі, да конца,
Пойдзем дадому, да сонца.

## 57в. ДА У МЯЖУ, ЖНЕЙКІ, У МЯЖУ

Да ў мяжу, жнейкі, ў мяжу, *
Да ў мяжы прыганяты,
Да й малады, нежанаты.
А як ён ажэніцца,
З натуркі зменіцца.

## 57г. ДА У НАШАГА ПАНА

Да ў нашага пана,
Э-э, да ў нашага пана
Да дзевяць жанцоў жала,
А дзесяты прыганяты,
Э-э, да дзесяты прыганяты,
Маладзенькі, нежанаты.
Да калі б ён ажаніўся,
Э-э, да калі б ён ажаніўся,
За дзеўкамі б не ганіўся.

## 57д. ДА У МЯЖУ, ЖНЕЙКІ, У МЯЖУ

Да ў мяжу, жнейкі, ў мяжу,
У мяжы стаіць прыганяты,
Ён малады, нежанаты.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Каб ён ажаніўся, можа б адмяніўся.
Ён на жнеек не глядзеў бы,
Дома б з дзетак пацяшаўся.
Да ў мяжу жнейкі, ў мяжу,
У мяжы пірагі ў дзяжы.
Пірагі пшанічныя,
Нашы жнейкі атлічныя.
Пірагі аржаныя,
Нашы жнейкі маладыя.

## 57е. ХУТЧЭЙ, ЖНЕЕЧКІ, ДА МЯЖЫ

Хутчэй, жнеечкі, да мяжы,
Бо стаіць пrыганяты.
Ой, які ж пrыганяты,
Малады, нежанаты.
Ён стаіць, паглядае,
Жнеечак падганяе,
Жнеечак падганяе,
Бізуном патрасае.

## 58. ЖНІЦЕ, ЖОНАЧКІ, ЖНІЦЕ

Жніце, жоначкі, жніце,
Знайдзіце саву ў жыце!
— А нам сава не надабі,
Нам надабі бочачка з гарэлкай!
— Жніце, жаночкі, жніце,
Знайдзіце бога ў жыце!
— А нам бог не надабі,
Нам надабі кугакала,
Што б часценька заплакала,
Мы ж бы яго скалыхнулі,
Нашы б серадзіны аддыхнулі!

## 58а. ЖНІЦЕ, ЖНІЧКІ, ЖНІЦЕ

Жніце, жнічкі, жніце,
А лавіце саву ў жыце.
— Нашто нам сава тая?
А трэба нам кугакала,
Да каб яно заплакала,
Мы ж бы яго скалыхнулі,
Сярэдзінкі б аддыхнулі.

## 58б. ПА ЗАГОНЧЫКУ, ЖАНЦЫ, ЖНІЦЕ

Па загончыку, жанцы, жніце,*
Там гарэлачка ў жыце.
Праворная паджалася,
Бяздольная асталася.
Праворная паджалася,
Гарэлачкі напілася.
У праворнае доля скача,
У бяздольнае дзіця плача.
У праворнае нянькі, мамкі,
У бяздольнае няма й мамкі.

## 58в. ЖНЕМА, ЖНЕМА ДА ЗАМЕЖКА

Жнема, жнема да замежка,
Там стаяла гуркоў дзежка.
Як нажнема па снапочку,
То й возьмема па гурочку.
Жнема, жнема да замежка,
Там стаяла мёду дзежка.
Як нажалі па снапочку,
То й паелі па кусочку.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 58г. ОЙ, ЖНІЦЕ, НЕБАЖАТА

Ой, жніце, небажата,
Ужо постаці небагата,
Ды дажнёмся да дуба,
Да палуднаваць будзем,
Да дажнёмся да хвоі,
Наядзімся даволі,
А дажнёмся да крыніцы,
Дык нап'ёмся вадзіцы.

## 58д. ЖНІЦЕ, ЖНІЦЕ, МАЕ МІЛЫ ЖНЕЙКІ

Жніце, жніце, мае мілы жнейкі!
Прынясу гарэлкі чатыры бутэлькі,
Сама пакаштую й гасцей пачастую!
Жніце, жніце, мае мілы пташкі!
Навару вам кашкі!
Жніце, жніце, мае мілы-любы,
Навару вам бульбы!

## 59. А ВЫ, ЖНЕЕЧКІ, ЖНІЦЕ

А вы, жнеечкі, жніце
Да падводачкі ждзіце,
Прыехала падводачка,
Залатая павозачка
Да конік вараненькі,
Казак маладзенькі.

## 59а. ПЕРАГОНІМ ГОНКІ

Перагонім гонкі,
Ідзіце дамоў, жонкі,
Перагонім другія,
Ідзіце дамоў, маладыя,

А вы, дзевачкі, жніце
Да падводачкі ждзіце.
Прыедзе к вам падводачка,
Конік вараненькі
І хлопчык маладзенькі.

## 60. ДЫ ЎЖО НА ДВАРЭ ЗМЯРКАЕЦЦА

Ды ўжо на дварэ змяркаецца,
Сямейка дамоў збіраецца
На цёплую вячэру,
На мяккую пасцелю.
Лошкі, міскі — пад лавішчай,
Заросшы муравішчай.

## 61. ЗАКАЦІСЯ, ЖАРКАЕ СОНЕЙКА

Закаціся, жаркае сонейка,
За шэры бор,
А мы пойдзем вячэраці
У багаты двор.
У багатым двары
Пірагі на стале,
Міскі, талеркі,
Тры вядры гарэлкі.

## 62. ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Пара дамоў, пара,
Халодная раса пала,
Халодная раса пала,
Нам дамоў пара стала.
— Ой, чуйце дома, чуйце,
Нам вячэрку гатуйце.

На вячэрку рыбку з перцам,
Легчы спаць пад акенцам.
Легчы спаць пад акенцам,
Эй, з маладым кавалерцам,
Эй, з маладым кавалерцам,
Эй, да на белай пасцельцы.

## 63. УЖО, ЖНЕЙКІ, ДАМОЎ ПАРА

Ужо, жнейкі, дамоў пара,
Вячэрняя раса пала,
Вячэрняя раса пала,
Цёмная ночка настала!
Дзе мы будзем начаваць,
Што мы будзем вячэраць?
— Начаваць будзем пад капой,
Вячэраць будзем хлеб з вадой,
Начаваць будзем пад каберцам,
Вячэраць будзем рэдзьку з перцам.

## 64. НЕ ВЕЙ, ВЕЦЕР, У ЛУЗІ

Не вей, вецер, у лузі,
Павей па дарозі,
Няхай маці чуе,
Вячэру гатуе.
Калі не гатова —
Не сядзі, маці, дома,
А калі гатованька —
Сядзі харашэнька,
Сядзі харашэнька,
Ножкі падабраўшы,
Ножкі падабраўшы,
Рукі склаўшы.

## 64а. ОЙ, ДУМАЙ, МАТКО, ДУМАЙ

Ой, думай, матко, думай,
Што я буду вячэраці,
З кім я ляжу спаці?
Вячэраці буду гарох,
Ляжу спаці удвох.

## 65. НАША МАЛА ПАНІ ПАШЛА ДАМОЎ РАНА

Наша мала пані пашла дамоў рана.
Пакуль яна дойдзе, і сонейка зойдзе,
Пакуля збярэцца, і вечар мінецца,
Пакуль нагатуе, дак і заначуе,
Пакуль вады сходзе, і сонейка ўзойдзе.
Наварыла баршчу, накідала хвашчу,
Наварыла пампушак, пакідала лягушак,
Наварыла кашы, накідала сажы,
Паставіла на прыпячку — муха праліла.
— Бадай цябе, мая муха, пераламіла,
Што ты маіх жнічак пагаладзіла!

## 65а. НУЦЕ ЖАЦЬ, НЕ ЛЯЖАЦЬ

Нуце жаць, не ляжаць!
Ай, мелася гаспадыня
Нам вячэраць даць:
Наварыла гаршчок кашы
І нам не дала...
Паставіла на прыпечку —
Муха разліла.
Багдай цябе, мая мушачка,
Пераламіла!
Як ты маіх маладых жнеек
А ўгаладзіла.

## 65б. ЭЙ, НУЦЕ ЖАЦІ ДА Й НЕ ЛЯЖАЦІ

Эй, нуце жаці да й не ляжаці,
Вы жнеечкі маладыя.
Ой, наймелася наша гаспадыня
Нам абедаці даці.
Ай, наварыла гаршчок буракоў,
Накідала чарвякоў,
Наварыла гаршчок галушак,
Накідала лягушак,
Ай, наварыла гаршчок кашы,
Яна нам не дала.
Ой, паставіла да й на прыпечку,
Яе мошка ураніла.

## 66. ДА ЎЖО Ж НАС НІВА ПАТАМІЛА

Да ўжо ж нас ніва патаміла
І нам вячэранька няміла.
Да наварылі баршчу-чаршчу,
Да наварылі кашы ў кадзі —
Да будзе ж пану і чалядзі.
Чаляданька збіралася,
Да наша пані схавалася.
Чаляданька за стол, за стол,
Да наша пані на двор, на двор.

## 67. СОНЕЙКА ЗА БЯРОЗКУ

Сонейка за бярозку,
А мы на дарожку.
Да сонейка за гаёчак,
А мы і ў дварочак.
Вечар вечарэе,
Мая душа весялее.
На зору занімае,
Мая душа заўнывае.

## 68. А СОНЕЙКА КОТАМ, КОТАМ

А сонейка котам, котам,
А мы скора дамоў пойдзем,
А сонейка за лясочкам,
А мы выйдзем на пясочак,
А сонейка за бярозу,
А мы выйдзем на дарогу.

## 68а. ДА СОНЕЙКА Ж КОТАМ, КОТАМ

Да сонейка ж котам, котам,
А мы дамоў пойдзем, пойдзем.
Да сонейка ж за бярозку,
А мы выйдзем на дарожку...

## 69. ДОЖДЖЫК КУРЫЦЬ

Дождҗык курыць,
Нас дадому турыць,
А ўжо жа мы снапоў не насілі,
А раса парасіла.
Да пара снапы зносіць,
Да й раса росіць,
Да й сонейка заходзіць,
Пара снапы звозіць.

## 70. ЯК НА ДВОРЫ ЗМЯРКАЕЦЦА

Як на дворы змяркаецца, *
За мной татка пытаецца:

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— А дзе ж мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца?

— У прыгоні, у няволі,
Прыганяюць, ды не знаюць,
Рана дамоў не пускаюць.

Нашы дамы далёкія,
Пераходы вялікія,

Пераходы вялікія,
Ручаёчкі глыбокія!

Як пайду я па памёці,
Голас пушчу па балоці,

Няхай голас галасуіць,
А мой татка няхай чуіць,

У бяседзі седзючы,
У шкляніцу гледзючы:

— Ідзець мая работніца,
Ідзець мая прыгонніца!

А ў прыгоні прыганяюць,
Рана дамоў не пускаюць!

## 70а. А НА ДВАРЭ ЗМЯРКАЕЦЦА

А на дварэ змяркаецца,*
Сям'я ў ізбу збіраецца,
Толькі няма прыгонніцы,
Прыгонніцы-нявольніцы;
А ў прыгоні многа няволі,
Забаляць рукі ад работы,
Сярдзечухна ад пякоты,
Галовухна ад жароты.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 70б. СОНЕЙКА У БОР, У БОР

Сонейка у бор, у бор,
Пусці, ніўка, у двор, у двор.
А на двары змяркаецца,
Сям'я ў хату збіраецца.
За мной татка пытаецца:
— А дзе мая работніца,
А дзе мая заботніца?
— Работніца на рабоце,
Заботніца на забоце.

## 70в. МЯНЕ МАМУНЬКА ЖДАЛА

Мяне мамунька ждала,
Вароцечкі адчыняла:
— Ідзе мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца,
Не дзень была — нядзелечку,
Не мёд піла — гарэлачку,
Не 'тдыхала ні гадзінкі,
Баліць яе серадзінка.

## 70г. МЯНЕ МАМЕНЬКА ЧАКАЛА

Мяне маменька чакала,
Вароцейкі адчыняла:
— А йдзець мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца.
Не дзень была — нядзелечку,
Не мёд піла — гарэлачку,
Не аддыхала ні гадзінкі,
Баліць яе серадзінка.

## 70д. НАДВОР'ЕЙКА ЗМЯРКАЕЦЦА

Надвор'ейка змяркаеццa,
Ой, надвор'ейка змярка-змяркаеццa,
За мной татка пытаеццa,
За мной татка пыта-пытаеццa:
А дзе мая работнічка,
А дзе мая рабо-работнічка,
Усяму полю прыборнічка,
Усяму полю прыбо-прыборнічка.

## 71. РАДА, РАДА Я, МЛАДЗЕНЬКА

Рада, рада я, младзенька,
Што дзянёк прайшоў,
Што вечарок зайшоў.
Надаела мне жаркая пякота,
Жаркая пякота і цяжкая работа.
А мой жа муж наровісты
І свякроў ліхая:
Як прыду дамоўкі,
Вазьмусь за работу,
А свякроў за варкоту.
Не пытаіць:
А ці баляць плечкі,
А ці баляць ручкі?
А пытаіць:
А ці многа зжала,
А ці многа нажала?
А я зжала гору і даліну
І круглую ніву,
Я ж нажала,
Дзе лог — там стог,
Дзе гара — там капа.

## 71а. НАДАЕЛА ЖАРКОТА-ПЯКОТА

Надаела жаркота-пякота,
Цяжкая работа,
Дзень да вечара ў полі стаяла,

Калоссем махала,
Пад дом паглядала:
Надаела жаркота-пякота.

### 71б. НАДАЕЛА ЖАРКОТА, ПЯКОТА

Надаела жаркота, пякота,
Цяжкая работа,
Надаела.
Надаела няшчасная доля,
Благое замужжа
Надаела...

### 72. ЗА БОР СОНЦА, ЗА БОР

За бор сонца, за бор,
Да за гай зялёненькі,
Да за сад вішнёвенькі.
Няхай сонца ніжэй будзе,
Няхай вечар бліжэй будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.

### 72а. НЯХАЙ ВЕЧАР БАРДЖЭЙ БУДЗЕ

Няхай вечар барджэй будзе,
Майму сэрцу лягчэй будзе.
Мой міленькі з таргу едзе,
Мне, маладой, гасцінец вязе:
Пярсцёначак залаценькі,
А вяночак руцвяненькі.
У пярсцёначку жыта жаці,
А ў вяночку красаваці.

## 73. ЧАС-ПАРА ДАДОМАНЬКУ

Час-пара дадоманьку,
Упала раса на пожаньку.
Ў старых бабак ручкі баляць,
Малодачак дзеткі плачуць,
А дзевачкам пагуляці.
У каторай свая маці,
Той час пагуляці,
У каторай нядродная,
То й гуляці нявольная.

## 73а. ОЙ, ЧАС-ПАРА ДАДОМАНЬКУ

Ой, час-пара дадоманьку
Маладой маладзіцы
Да й харошанькім дзевачкам.
У маладых малодачак
Дзеткі плачуць —
Есць хочуць.
А маладых дзевачак
Вянкі вянуць —
Расы хочуць.
Трэба дзетак пакарміці
І вяночкі пакрапіці.

## 73б. ОЙ, ЧАС-ПАРА ДАДОМАНЬКУ

Ой, час-пара дадоманьку,
Упала раса на пожненьку,
Старым бабам ручкі крэпнуць,
Малоданькам дзеткі плачуць,
А дзевачкам вянкі вянуць.

## 73в. УЖО ВЕЧАР, НЕ РАНА

Ужо вечар, не рана,
Халодная раса пала,
Крынічная вада стала,
Старым жанкам ножкі зябнуць,
А ў маладых сынкі плачуць.
Ножкі зябнуць — трэба грэці,
Сынкі плачуць — трэба ўнеці.

## 74. ДА ЎЖО СЛОНІЙКА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Да ўжо слонійка за лес коціцца,
Мне малодзенькай дамоў хочацца:
Да ўжо ручанькі нарабіліся,
Да ўжо ножанькі нахадзіліся,
Да ўжо вочанькі наглядзеліся,
Ужо прыставанька настаялася.
Я прыставаньку да ражжом прайму,
Сама малада дамоў пайду.

## 75. ЗА ГАРОЙ ЖНЕЙКІ ЖАЛІ

За гарой жнейкі жалі,
Сярпочкі паламалі,
Сярпочкі паламалі,
Долечку праклінаді:
— А бадай мая доля
Ды на ломе згарэла,
Я ж бы ручкі пагрэла,
Бадай утапілася,
Я б бела памылася.

## 76. ЦЕМНА НОЧКА СТАЯЛА

Цёмна ночка стаяла,
Халодная раса пала:
Адна пала — медавая,
А другая — ледавая.
Медавую збіраць буду,
Ледавую таптаць буду;
Медавую — у ложачку,
Ледавую — пад ножачку;
Медавую — для мамачкі,
Ледавую — для свякроўкі.
— Ты, мамачка, пажывіся,
Ты, свякроўка, падавіся!

## 76а. А, ДЗЕВАНЬКІ, У ДВОР ПАРА

А, дзеванькі, у двор пара,
Ледзяная раса пала,
А мядовая раса пала,
А мядовая раса — таткіна.
Па лядовай расе пайду —
Мае ножанькі ва льду.
Па мядовай расе пайду —
Мае вусцікі ў мяду.

## 76б. ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Пара дамоў, пара,
Ужо расіца напала,
Расіца напала,
Ранняя вячэрняя,
Ранняя лядовая,
Вячэрняя мядовая.
Раннюю валы з'ядуць,
Вячэрнюю паны пап'юць.

## 76в. ПАРА, ПАРА НАМ ДАДОМУ

Пара, пара нам дадому,
Пала раса аж да долу
І дробная, і халодная,
І мядовая, і лядовая.
Мядовая ад матачкі,
Лядовая ад свякраткі,
Лядоваю ўмыціся,
А мядоваю напіціся.

## 76г. ПАРА, ЖОНЫ, ДАМОЎ ІЦІ

Пара, жоны, дамоў іці, *
Пала раса халодная,

А другая мядовая,
А трэцяя шалковая.

Па халоднай расе я іду —
Мае ножкі зябнуць,

Па мядовай расе я іду —
Мае вусенні ліпнуць.

Па шалковай расе я іду —
Мае ручанькі вянуць.

## 76д. ОЙ, ЧАС-ПАРА ДАДОМАНЬКУ

Ой, час-пара дадоманьку,
Па постаці раса ўпала.
Па постаці мядовая,
Па коласе лядовая.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Лядовую валы з'ядуць,
Мядовую дзеўкі сап'юць.
Валы з'ядуць — гараць будуць,
Дзеўкі сап'юць — гуляць будуць.

## 76е. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара,
Халодная раса пала.
І адна раса лядовая,
А другая й мядовая.
І лядовую таптаць будзем,
І мядовую збіраць будзем.
Мядовая для матулі,
Лядовая для свякроўкі.
І каб мамачка пажывілася,
А свякроўка падавілася.

## 76ж. А НА ДВАРЭ НЕ РАНЕНЬКА

А на дварэ не раненька, *
Пала раса сцюдзёная.

Пала раса сцюдзёная,
А другая — мядовая.

Я сцюдзёнай расой пайду —
Мае ножанькі зябнуць,

А мядовай расой пайду —
Мае вуснанькі ліпнуць.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

### 76з. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара.
Сцюдзёна раса пала,
Ой, первая медавая,
А другая дажджавая,
А трэцяя красавая:
Медавую кубкам піць,
Дажджавую каўшом браці,
А ў золаце танцаваці.

### 77. ОЙ, ПАРА Й, ПАРА ДА ДВАРА

Ой, пара й, пара да двара, *
Цёмная ночанька абняла,
Цёмная ночанька, й не відна,
Шырока дарожка й грудліва.
Вараны конічак спадбіўся,
Малады Іванька спазніўся.

### 78. ОЙ, ПАРА, ПАРА УЖО ДАДОМАЧКУ

Ой, пара, пара ўжо дадомачку,
Дый на постаці ўжо раса пала,
А я, жнеечка, паласу зжала,
Сваю спіначку дый нахістала,
Ой, я, жнеечка, ўжо дамоў іду,
Роднай мамачцы дый наказ даю:
— Нясі, ветрык, мой голас хуценька,
Хай там знае мамка-сужанька,
Хай вячэру хутчэй на стол нясе,
Бо яе дачушка ўжо з поля йдзе.
— Ой, вячэрачка да й ўжо на стале стаіць,
Хутчэй, мая донька, дый за стол садзісь.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 79. ОЙ, ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара,
Ужо й пара мінаецца,
Ужо й пара мінаецца,
Ды наш пан валяецца:
То за пень, то за елку,
То за бабу, то за дзеўку.

## 79а. УЖО ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ужо пара дамоў, пара.
Ды ўжо й пара мінаецца,
Прыганяты стыдаецца,
Па лясочку хаваецца:
То за хвойку, то за елку,
То за бабу, то за дзеўку.

## 80. ДОБРА ТАМУ ЖЫТА ЖАЦІ

Добра таму жыта жаці,
Ў каго дома свая маці:
Вячэрачка згатоўлена,
Пасцелечка пасцелена.
А ў мяне свякровачка,
Свякровачка — не мамачка,
А сустрэне мяне ў вароцех
Ды з новымі вядзеркамі,
Пасылае маладзіцу
У цёмны луг па вадзіцу,
Не вадзіцу ажыдае —
Мяне з свету збывае.

## 81. А ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

А пара дамоў, пара,
А пара спарылася,
А пара спарылася,
Вячэрка зварылася.
На вячэрку — цяцерку,
На пасцельку — Мацейку.

## 81а. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара, *
Ўжо вячэрняя зара.

Ўжо пара спарылася,
Я дамоў спазнілася.

Мая мамка заснула
І каморку замкнула.

## 82. А НАДВОР'Е НЕ РАНЕНЬКА

А надвор'е не раненька,
Пара жонкам дамоў ісці,
Пацірала зара ключы,
Кала постаці ходзючы,
З каралём іграючы,
Арэшкі шчалкаючы:
— А хто мае ключы найдзець,
За таго замуж пайду!
А стары дзед мяжой ішоў,
Залатыя ключы найшоў.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Прападайце, златы ключы,—
За старога замуж не йці!
Стары дзед — як калода,
А малады — як ягода,
У старога дзяцей многа,
Ў маладога нет нікога.
У старога ў барадзе вошы,
Ў маладога ў кармане грошы!

## 82а. ПАРА, ЖОНКІ, У ДВОР ІСЦІ

Пара, жонкі, у двор ісці,
Згубіла зара ключы,
Каля постаці ходзючы,
З каралямі гаворучы:
— Мілы мае каралі!
Ці не знайшлі златы ключы?
— Месяц ішоў, ключы нашоў!

## 82б. А ПАРА, ЖОНКІ, ДАМОЎ ІСЦІ

А пара, жонкі, дамоў ісці,
Пагубляла зара ключы,
Каля постаці ідучы,
А з соўнішкам гукаючы,
А з месяцам жартуючы.
А хто тыя ключы знойдзець,
За караля замуж зойдзець!
Мар'ічка ключы знайшла,
За караля замуж зайшла.
Кароль будзець крулявацi,
А Мар'ічка панавацi!

## 82в. ДА ВЯСЁЛ НАШ ПАН, ВЯСЁЛ

Да вясёл наш пан, вясёл,
А наша пана не вясёла,
Да пагубіла яна ключы,
З кралевічамі танцуючы,
З панічамі жартуючы.
— Мае ж мілы крулевічы!
Калі знайшлі, то аддайце,
А не знайшлі, то маўчыце,
Майму мужу не кажыце.

## 82г. ПАРА, ЖОНКІ, ДАМОЎ ІСЦІ

Пара, жонкі, дамоў ісці,
дамоў ісці,
А ўцярала зара ключы,
зара ключы,
Каля постаці ідучы,
ідучы.
А хто тыя ключы найдзе,
найдзе,
Той увосень замуж зайдзе,
зайдзе.
— А ты, кароль-каралевіч,
каралевіч,
Хадзі ка мне на вячэру,
на вячэру:
На рыбку ды на шутрынку,
на шутрынку,
На мяккую на пярынку,
на пярынку.

## 82д. А ПАРА НАМ ДАМОЎ ІСЦІ

А пара нам дамоў ісці,
Згубіла зара ключы,
Каля постаці йдучы.

— А хто ж мае ключы знойдзець,
Той жа ўвосень замуж пойдзець.
А дзяўчынка йшла і ключыкі знайшла
І ўвосень замуж зайшла.

## 82е. ПАРА, ЖОНЫ, ДАМОЎ ІЦІ

Пара, жоны, дамоў іці, *
Пацярала зара ключы.
— Хто мае ключы нойдзець,
За таго я замуж пайду.
Ці старэнькі, ці маленькі,
Ці мальчышка маладзенькі.
Стары дзед мяжой ішоў,
Залатыя ключы найшоў.
— Прападайце, златы ключы,—
За старога замуж не йці.

## 82ж. ЭЙ, СЯРОД БАЛОЦЕЙКА

Эй, сярод балоцейка
Ў сярэдзіне паляначка,
І эй, ў сярэдзіне паляначка,
Там гуляла паненачка,
І эй, пагубіла ключы
Ідучы, з панічамі жартуючы:
— І эй, панічыкі й маладыя,
Дайце ключы залатыя,
І эй, трэба шафы адмыкаці,
Сваіх жнейкаў частаваці.
І эй, жнейкі мае маладыя,
Ў іх сярпочкі залатыя.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 82з. ОЙ, ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара,
Ўжо расіца напала,
Ўжо расіца напала,
Цёмна ночка настала,
Цёмна ночка настала,
Нам пара дамоў стала.
Мне, маладзе, пары нету,
Пагубіла ключы к лету,
Каля постаці йдучы,
З каралём жартуючы.

## 82і. ПАРА ЖНЕЕМ ДАМОЎ ІСЦІ

Пара жнеем дамоў ісці, *
Пацірала зара ключы.
— А хто мае ключы найдзе,
За таго я замуж пайду.
Найшоў ключы стары старац.
— Прападзіце, златы ключы,—
За старога замуж не ісці.

## 82к. ЗАРА МАЯ, ЗАРАНАЧКА

Зара мая, заранaчка,
Пара зары дамоў ісці,
Пацярала зара ключы,
З каралём жартуючы.
— А хто мае ключы найдзіць.
За таго я замуж пайду.
Знайшоў ключы стары дзед,
Барадаты, як сабака, нежанаты.
— Прападзіце, мае ключы,—
За старога замуж не ісці.

---

* Кожны радок наўтараецца двойчы.

## 83. ДЫ ПАРА ДАМОЎ ІСЦІ

Ды пара дамоў ісці,
Ды пагубіла зара ключы,
Каля постаці йдучы
І з каралём гаворачы:
— І каралю, наш пане,
Пусці нас дамоў рана!
А не хочаш пусціці,
Так дай нам праводнічка
Маладога ўраднічка,
Каб нас правадзілі,
Каб мы не блудзілі
Ды па чыстаму полю.

## 83а. КАРОЛЬ НАШ ПАН, КАРОЛЬ

Кароль наш пан, кароль,
Пусці нас дамоў парой.
Калі дамоў не пушчаеш,
То дай нам праводнічка,
Маладога малойчыка.

## 83б. СОНЕЙКА ЗАЙШЛО ЗА БОР

Сонейка зайшло за бор,
Жэнчыкі дамоў, дамоў!
Панічыку-кароліку!
Пусці нас дадоміку.
— Калі б да мая воля,
Вы б былі даўно дома,
А то мая няволенька,
Цяжка ваша работанька.

## 83в. ОЙ, НАШ ПАНЕ-[К]АРОЛІКУ

Ой, наш пане-[к]кароліку,
Ой, пускай нас дадоміку!
Нашы дамы далёкія,
Дарожанькі шырокія.
Да праз поле камяніста,
Ой, да праз двор карчыста.
За корчычак зачаплюся
І аб камень разаб'юся,
Вох, аб камень разаб'юся,
Перад каралём разжалюся.

## 83г. ОХ, ПАНОЧКУ-КАРОЛІЧКУ

Ох, паночку-каролічку,
Пусці мяне дадомачку,
У мяне ўдома дзела многа:
Дзевяць кароў падаіці,
На пяць хлябоў замясіці
І каровам травічанькі,
Памыць жа мне дайнічанькі.

## 83д. ПАЛА РАСА НА ПОЖАНЬКУ

Пала раса на пожаньку,
Пусці, пані, дадоміку
Падаіці кароваyньку.
Кароyанька бадучая,
Даёначка цякучая,
Кароyанька чарнічэнька,
Дасць малака дайнічэнька.

## 83е. НАШ ПАН-КАРОЛІКУ

Наш пан-каролiку,
Адпушчай нас дадоміку.
Не пушчаеш дадоміку —
Гатуй нам вячэраньку:
Вячэранька — галушачкі,
Пасцеленька — падушачкі,
Падушачкі пухавыя,
Малодачкі маладыя.

## 83ж. ПАНІЧЫКУ-КАРОЛІКУ

Панічыку-каролiку,
Пусці нас дадоманьку:
Ў мяне дома сын маленькі,
Ў мяне дома муж маладзенькі:
Трэба сына пакарміці,
Трэба мужа прысыпіці.

## 83з. А ЖОНАЧКІ-ЛЯБЕДАЧКІ!

А жоначкі-лябёдачкі!
Ай, пойдзем мы дамовачкі.
А нас дамоў не пускаюць,
За постаці заганяюць.
Нашы дамы далёкія,
А постаці шырокія,
А сем міль барамі йсці,
А восьмую дарогай,
Дзевятую дубравай,
А дзесятую — татульку
На вячэру.

## 83і. УЖО СОНЦА ЗА ГОР, ЗА ГОР

Ужо сонца за гор, за гор,
Пускай, пане, дамоў, дамоў.
Ужо сонца закацілася,
Нам дамоўкі захацелася,
Ужо сонца за грушамі,
Пускай, пан, хоць з душаю.
— Жніце, жанчыкі, жніце,
Самі сябе не пазніце,
Не дажаўшы, не пойдзеце,
Тут начаваць не будзеце.

## 83к. ОЙ, НЕ РАНА

Ой, не рана
Пане камісару,
Пусці нас дадому,
Ой, не рана.
Да ўжо нашы ручкі
Досі намахаліся,
Да ўжо нашы прыставы
Досі набрахаліся,
Ой, не рана.

## 83л. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара,
Сувячэрняя зара,
Пан кажыць дамоў ісці —
Прыстаўнік не пушчаіць.

## 83м. А СОЛНУШКА ЗА БОР, ЗА БОР

А солнушка за бор, за бор,
А пусці, барын, дамоў, дамоў.
Нашы дамы далёкія,
А пераходы глыбокія.
У нас кароўкі недоены,
А цялятушкі не поены.
Цялятушкі не поены,
А малы дзеткі не кормлены.

## 84. ЯК СОНЕЙКА НАД ДУБКОМ, НАД ДУБКОМ

Як сонейка над дубком, над дубком,
Жала жыта халадком, халадком.
Сонейка да над грушкаю,
Пусціце мяне з поля
Хоць з жывою душою.
— Чаму, дзеўка, капа мала?
— Бо ў даліне паставіла.
— А чаму, дзеўка, снапоў рэдка?
— Бо на гарэ жыта жала.

## 85. ЗА БОР СОНЕЙКА, ЗА БОР

За бор сонейка, за бор,
Пусці нас, панечка, дамоў.
Нашы дамы далёкія,
Пераходы шырокія.
А сем гадзін борам іці,
А восьмую вадой плысці,
Дзевятую дубровай,
А дзесятую к татке на двор.
А нас жа татка пераймаець,
Вароцікі адчыняець:
— Хадзіце ж, мае работніцы,
Хадзіце ж, мае нявольніцы.

## 85а. АЙ, ЗА БОР СОНЦА, ЗА БОР

Ай, за бор сонца, за бор, *
Пусці мяне, ніўка, дамоў.

Мае дамы далёкія,
Пераходы вялікія.

Пераходы вялікія,
Татка з мамкай няродныя.

Ай, пасылаюць за вадзіцай
У шчыры бор, у крыніцу.

Ай, наляцела гусей з бору,
Узмуціла ўсю вадзіцу.

А я стала, пастаяла,
Пака вада светла стала.

## 85б. А СОНЕЙКА ЗА БОР, ЗА БОР!

А сонейка за бор, за бор!
Пусці мяне ў двор, у двор!
У мяне ў двары нет нікога,
Апрача госпада бога
Да свёкра ліхога!
У варотах пераймаіць
Да за вадой пасылаіць:
— Нявестачка мая, ластачка,
Ідзі ў бор за вадою,
Я на цябе ваўкоў нашлю
Або злога чалавека!
— А свякратка, мой татка,
Я ваўка не баюся,
Ад чалавека адгаваруся.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Я ваўка каромыслам,
А чалавека гаворачкам:
— Чалавек, чалавечак,
Пабойся ты бога:
У мяне ў двары дзяцей многа!..

## 85в. ЗАКАЦІСЯ, СОНЕЙКА

Закаціся, сонейка,
Ды за лес, за дуброўку,
За высокую горку.
Мне, маладзе, дамоў іці
Цераз шчырыя бары,
Цераз цёмныя лясы.
У мяне дома не мамухна,
А ліхая свякрованька,
Пасылаіць па вадзіцу
Ў шчыры бор у крыніцу.
Прынясу я вады ночвы:
Залі сабе, свякроў, вочы.

## 85г. ДЫ ХТО КАЖЫЦЬ:— ДАМОУ, ДАМОУ

Ды хто кажыць:— Дамоў, дамоў?
Ў мяне дома нет нікога.
Толькі адна свякровачка
У варотачках перайтмаець,
Па вадзіцу пасылаець
З яловымі вядзёркамі,
З шалковымі пачопкамі.
І шлець яна па вадзіцу
Ў шчыры бор у крыніцу,
Не вадзіцы жалаючы,
Мяне, маладую, са свету збываючы.
Я, малада, сцерагуся,
На беражку станаўлюся,
Прынясу я вады ночвы:
Залі сабе вадою вочы.

— Ды не хачу, маладзіцы,
Нет на яе пагібелі,
Ані ваўкоў, ні мядзведзей,
Ні злога чалавека.
— Я ваўкоў не баюся,
А мядзведзей сцерагуся,
Ад чалавека адпрашуся.

### 85д. ОЙ, ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара, *
Ужо вячэрняя зара,

А хоць я дамоў пайду,
Няродну мамку найду.

Мне дома не мамачка,
Не скажа:— Дзіцятачка,

Не скажыць:— Змарылася,
А скажыць: — Лянілася,

Не скажыць, што я жала,
А скажыць, што ляжала.

У варотцах пераймаіць,
Работачку загадаіць:

— Не ідзі, чужо дзіця,
У крыніцу па вадзіцу,

У сыры бор па дравіцы.
— На табе, чужа маці,

Із крыніцы вадзіцы.
— Нет на ця', чужое дзіця,

Ні воўка, ні мядзведзя,
Ні злога чалавека.

— Я ваўка не баюся,
З мядзведзем размінуся,
З чалавекам згаваруся.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 85е. УЖО ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ужо пара дамоў, пара,
Сцюдзёная раса пала,
Сцюдзёная раса пала,
Мне дамоў пара стала.
Там свякроўка пераймае,
Варотаў не расчыняе,
Варотаў не расчыняе,
Па вадзіцу пасылае,
Пасылае па вадзіцу
Ў шчыры бор у крыніцу.

## 85ж. ОЙ, СОЎНЕНЬКА ДА ЗА ЛЕС, ДА ЗА ЛЕС

Ой, соўненька да за лес, да за лес,
Нас тутака мядзведзь заесць.
Ой, соўненька завалілась,
Мне дадому захацелась.
Ў мяне ж дома не баценька,
Да ў мяне ж дома люты свёкарка.

## 85з. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара.
Мне, маладой, пары няма,
Ў мяне дома не свой бацька,
Ў мяне дома ліхі свёкар.
Пераймае ў вароцейках
З цісовымі насільцамі,
З залатымі вядзёрцамі,
Шле мяне па вадзіцу
Ў шчыры бор у крыніцу.
— Няма на цябе, нявестачка,
Ні ваўкоў, ні мядзведзеў,
Ні ліхога чалавека.

— Я ваўкоў не баюся,
Ад мядзведзя схаранюся,
З чалавекам разгаваруся.

## 85і. У ШЧЫРАМУ БАРУ

У шчыраму бару
Та ягаданькі бяру,
Бяру ж я, бяру,
Та не ведаю — каму.
Панясла б я да баценькі,
Да далёка ад мяне,
Панясла б я да свёкра,
Да не жалуе мяне:
У варотачках сустрачае,
Ягаданькі аднімае,
А вядзерка ў рукі дае:
— Ідзі, нявеста, па вадзіцу
У халодну крыніцу!
— Свёкарка, мой баценька,
Чы вадзіцы жалееш,
Чы нявесту збываеш?
— Я вадзіцы не жалею.
Та нявесту збываю.
На маю нявесту няма звера лютага,
Ні чалавека лукавага.
— Я звера не баюся,
Чалавека адпрашуся.
Што звер — то свёкарка,
Што чалавек — то баценька.

## 85к. ЗАПЛАКАЛА МАЛОДАЧКА

Заплакала малодачка:
— Пара дамоў, пара!
А мне дамоў не хочацца:
У мяне дома чужыначка —
Чужая маці, чужы бацька.

Пашлюць мяне па вадзіцу
У студзёную крыніцу,
Не вады жадаючы,
Ды мяне збываючы.
— Свякроўка-матулька,
Ці ж ты мяне датуль не знала?
Нашто мяне, матулька, за сына брала?

## 85л. ПАНІЧУ-КАРОЛЮ

Панічу-каролю,
Пускай мяне рана дадому:
У мяне свёкар — не ойчанька,
Стрэне мяне ў вароцейках,
Пашле мяне па вадзіцу
У цёмны бор на крыніцу.
— Няма на цябе, нявестухна,
Ні ліхога чалавека, ні звера!
— А я звера не баюся,
Чалавеку пакланюся.
А я звера — калом, калом,
А чалавеку — чалом, чалом.

## 85м. ОЙ, ЗАКАЦІСЯ, ЯРКА СОНЕЙКА

Ой, закаціся, ярка сонейка,
Дый за лес цёмны, дый за горачку.
Дый за лес цёмны, дый за горачку,
А мне пара ўжоісці дадомачку.
А ў мяне дома дый ліхі свёкар,
Ды ліхі свёкар дый свякрухна.
Ой, стрэнуць мяне на варотачках,
Ой, пашлюць мяне дый па вадзіцу,
Ой, пашлюць мяне па вадзіцу,
Ой, у шчыры бор у крыніцу.
Я ж, маладзенька, шчэ й не снедала,
Шчэ й не снедала, й не абедала,
Шчэ й не снедала, й не абедала,
А мая родная мамачка дый не ведала.

### 85н. ОЙ, ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара,
А мне дамоў не хочацца.
У мяне дома чужы бацька,
Спатыкае ў вароцейках
З залатым каромыслам,
З цісовымі вядзёрцамі —
Выпраўляе ў шчыры бор па вадзіцу,
Ў шчыры бор па вадзіцу,
У далёкую крыніцу.
Не так вады чакаюць,
Як нявестку збываюць:
— Няма на яе нічога благога,
Ні ваўка, ні мядзведзя,
Ні благога чалавека!
— Я й ваўка не баюся,
З мядзведзем размінуся,
З чалавекам разгаваруся!
Мядзведзь пойдзе рыкаючы,
Воўк пойдзе мінаючы,
Чалавек пойдзе гукаючы.

### 85о. УЖО СОНЦА НІЗЕНЬКА

Ужо сонца нізенька,
Ужо вечар блізенька,
Не пайду дадому,
Буду тут начаваці
Пад арэхавым кустом,
Пад шырокім лістом.
У мяне дома чужы бацька,
Стрэне мяне ў вароцічках,
Сярпок з ручак возьме,
А вядзерца ў рукі дае:
— Ідзі, нявехна, па вадзіцу
У халодную крыніцу.

— Ты свёкратка, чужы татка,
Чы ты вадзіцы жадаеш,
Чы ты мяне ізбываеш?
— Нявехна, чужое дзіця,
Я вадзіцы не жадаю,
Да так цябе ізбываю.
Няма на цябе ні звера,
Ні ліхога чалавека.
— Я звера не баюся,
Чалавеку пакланюся,
Я звера — колам, колам,
Чалавеку — чолам, чолам.

### 85п. ПАСЛАЎ МЯНЕ Ж МОЙ СВЁКАРКА

Паслаў мяне ж мой свёкарка,
Ай, на дуброву жыта жаці:
— Ты ж, нявехна, ты нябога,
Ой, не бойся ты нічога,
Да не бойся ты нікога:
Ані воўка, ні мядзведзя,
Ані воўка, ні мядзведзя,
Ні ліхога чалавека.
— А я воўка не баюся,
Ад мядзведзя схаваюся,
Ад мядзведзя схаваюся,
А ліхому чалавеку,
Ай, нізка ў ногі пакланюся.

### 85р. ПАСЛАЎ МЯНЕ СВЁКАР

Паслаў мяне свёкар
Да ў бор жыта жаці,
Заказаў мне свёкар
Да сто коп нажаці,
Сорак кароў падаіці,
Трыццаць вепраў пакарміці,
Дзяжу хлеба замясіці.

Я, малада, спазнілася,
Да дзіцяці забылася.
Прыляцела два лебядзі,
І абодва беленькія —
Браткі мае родненькія.
Узялі яны дзіця маё.
Адзін кажа: — Панясем мы,
Гэта ж нашай сястрыцы,
Што на чужой стараніцы,
Кожны яе наб'ецца,
Яе слёзкай нап'ецца.

## 85с. НЕ ПАЙДУ ДАДОМУ

Не пайду дадому,
Буду тут начаваці:
Ў мяне дома не матуля —
Чужая свякровачка.
Шле мяне па вадзіцу
Ў цёмны бор да крыніцы,
Не вады жадаючы,
А мяне збываючы.
Запелі мне курачкі
У дарожку выходзячы,
Засвяціў мне месячык
Да ў паўдарожанькі,
Засвяціла сонейка,
Як я ваду брала.

## 86. ПАРА ДА ДВАРА — НА ДВАРЭ НЕ РАНА

Пара да двара — на дварэ не рана,
У мяне маці чужая,
А будзіць маці дзіця калыхаці
І мяне праклінаці:
— Багдай чада на агні пагарэла,
У вадзе патанула.

## 87. ОЙ, ЧАС-ПАРА ДАДОМУ ЙЦІ

Ой, час-пара дадому йці
Маладым малодачкам
І харошым дзевачкам.
У малодачак дзеткі плачуць,
А ў дзевачак вянкі вянуць.
— Я не пайду дадоманьку,
Буду тут начаваці
На бацькавай сенажаці:
Пагубіла ключы ідучы,
Як хто мае ключы найдзе,
Таму пярэйма будзе:
Будзе хустка вышывана,
Шчэ й дзяўчына даравана.

## 88. СОНЕЙКА-КАЛАСОЧАК

Сонейка-каласочак,
Каціся за лясочак:
Так жа нам прынадаела,
Сярэдзінка забалела,
Ручкі-ножкі панямелі.

## 89. НЕ ПАЙДУ ДАМОЎ

Не пайду дамоў,
У полі заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
Як я лягу спаць
Ды каля маліны,
Ды каля каліны,
Як я лягу спаць.
Буду праклінаць
Свёкра, свякроўку,
Дзевера, залоўку,

Буду праклінаць:
— Ой, забі, божа,
Свёкра на печы
Качаргой у плечы,
Ой, забі, божа!
Ой, забі, божа,
Свякроў на палаці
Памялом у хаце,
Ой, забі, божа!
У клеці залоўку,
Дурную вятроўку,
Ой, спалі, божа!
Утапі, божа,
Дзевера ў дарозе.

## 89а. ОЙ, ЧАС-ПАРА ДАДОМАНЬКУ

Ой, час-пара дадоманьку,
Ўпала раса на пожаньку.
Ой, не пайду дадоманьку,
Тута буду начаваці,
Пад кусцікам лягу спаці,
Пад кусцікам зялёненькім
З малойчыкам малодзенькім.
Няхай мая матка чуе,
Мне вячэраньку згатуе,
Вячэраньку смачненькую,
Пасцель белу-мякенькую,
Вячэраньку з галушкамі,
Пасцель белу з падушкамі.

## 89б. ЖНЕЙКІ, ДАМОЎ

Жнейкі, дамоў
У печы паліці,
Вячэру варыці,
Жнейкі, дамоў.

— Я не пайду:
Мая маці дома,
Вячэра гатова,
Я не пайду.
Буду начаваць
Пры крутой бярозе
На бітай дарозе,
Буду начаваць.
Буду праклінаць
Свякра, свякроўку,
Дзевера й ятроўку,
Буду праклінаць.
Забі, божа, свякра ў дарозе,
Дзевера ў парозе,
Забі, божа.
Забі, божа, свякроўку пры печы
Заслонкай у плечы,
Забі, божа.
Забі, божа, свякра перунамі,
Мужа пірагамі,
Забі, божа.
У дрэнным перавозе
Утапі, божа!
Удаві, божа,
Мужа за сталамі
Хлебам, пірагамі,
Удаві, божа!

## 89в. ОЙ, ДАМОЎ, ДАМОЎ

Ой, дамоў, дамоў,
На дварэ не рана,
Расіца прыпала,
Дамоў не пайду.
Я тут заначую
І журбы не пачую.
Як ляжу я спаць
Пад ліпавым кустом,
Пад шырокім лістом,
Рукаў пасцялю,

Другім напрануся,
Я й нікога не баюся,
Толькі я баюся
Што й госпада бога
Да свайго нелюбога.
Гасподзь бог высока,
А нелюб далёка,
Гасподзь бог у свеце,
А нелюб у клеці.

### 89г. НЕ ПАЙДУ ДАМОЎ

Не пайду дамоў,
А тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
Буду начаваць
Ды пад стараною,
А пад зеляною,
Буду начаваць.
Буду кукаваць
Да шэрай зязюлей,
А шарусенькай,
Буду праклінаць:
— Убі, божа,
Мужа перунамі,
Свякроў качаргамі,
Убі, божа!
Убі, божа,
Свякроўку на печы
Кулаком у плечы,
Убі, божа!
А я ж, малада,
За другога б зайшла
Ды за двараніна,
А я ж малада.
Ён умеіць
І чытаць, і пісаць,
Добра ў скрыпачку іграць,
Ён умеіць.

А я ж, малада,
На прыпеўкі гадна,
Без гарэлкі ні дня —
А я ж малада.

### 89д. НЕ ПАЙДУ ДАМОЎ

Не пайду дамоў,
Я тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
У мяне дома
Не топлена хатка,
Няродная матка
Ў мяне дома.
Лягу я спаці
Пад калінаю,
Пад малінаю,
Лягу я спаць,
Буду праклінаць
Свёкра й свякруху,
Дзевера й залоўку
Буду праклінаць:
— Убі, божа, свёкарку
На печы
Калодай у плечы,
Убі, божа!
Убі, божа,
Свякроўку ў парозе,
Качаргамі, памяламі,
Убі, божа!
Апалі, божа,
Залоўку
Яснай бліскавіцай,
Спалі, божа!
Утапі, божа,
Дзеверку ў дарозе
На бальшым перавозе,
Утапі, божа!
Удаві, божа,
Нялюбага на месцы
Мяккімі пірагамі,
Удаві, божа!

## 89е. НЕ ПАЙДУ ДАМОЎ

Не пайду дамоў,
Я тут заначую,
Журбы не пачую,
Не пайду дамоў.
У мяне дома
Лучыны — ні шчэпкі,
Плачуць мае дзеткі,
У мяне дома.
У мяне дома
Дроўцаў — ні палена,
Хата акалела,
У мяне дома.

## 89ж. ПАРА, БАБКІ, У ДВОР

Пара, бабкі, у двор — на двор не рана,
А ў мяне маць чужая.
Я ў двор не пайду, тут я заначую,
Журбы не пачую.
Буду начаваць у цёмненькім лесе
Пад белай бярозай,
Буду праклінаць свёкара, свякроўку,
Дзевера й залоўку:
Пабі, божа, свёкарку ў полі
Да сохамі, баронамі!
Пабі, божа, свякроўку на печы
Цаглінай у плечы!
Пабі, божа, дзеверку ў дарозе
Ды на лютым марозе!
Пабі, божа, залоўку ў таночку
У чырвоным вяночку.
Пабі, божа, мілага ля стала
Мяккімі пірагамі.

## 89в. ПАРА ДАМОЎ

Пара дамоў,
Да ўжо не рана,
За лесам сонца
Кружыцца стала.

Мая ж свякроўка —
Не родна маці,
Прыду я з поля,
Начне караці.

Сама дзянёчак
Ляжыць калодай,
Мяне ж на полі
Марыць галоднай.

Слязой умыўшысь,
Іду на поле,
Жывот падвёўшы,
Іду я з поля.

Свякроўка злуе,
Па сенях ходзе,
Сваю нявехну
Ў магілу гоне.

Дажну я жыта,
Заўю вяночак,
Назло свякроўцы
Пайду ў таночак.

Няхай свякроўку
Агнём падыме,
Як мне за ёю
Жыццё пастыла.

Няхай хварэе
Свякроў на печы,
Як мне нялёгка
Класць серп на плечы.

## 89і. ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Вечар вечарэе,
Маё сэрца весялее.
Не пайду я дадомачку,
Буду тут начаваці
Дзеля свёкра журлівага,
Дзеля мужа бітлівага.
Свёкар будзе жартаваці,
Мужык будзе патураці.
Завядзе ў каморачку
Натаўчэ галовачку,
Завядзе ў гуменца,
Паб'е пугу й пужавейца.

## 89к. ЖНЕЕЧКІ, ДАМОЎ

Жнеечкі, дамоў,
На дварэ не рана.
Ў мяне маці ліхая,
Дзіцятка малое,
Ой, дзіцятка, дзіцятка малое.
Я ў двор не пайду,
Я й тут заначую,
Журбы не пачую.
Буду начаваць
У лозе пры дарозе.
А туды ж будуць
Пастушкі зганяцца
Й конюхі з'язджацца.
Яны мяне пабудзяць
І гора рассудзяць.

## 89л. ОЙ, Я, МАЛОДЗЕНЬКА, ДЫЙ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я, малодзенька, дый жыта жала,
Ой, малодзенька дый жыта жала.
Ой жала, жала дый шчыравала,
Ой, вочкі потам дый залівала.

Ой, я, маладзенька, дый жала, жала,
Дый дзве ночкі дома не начавала.
Начавала я ў чыстым полі
Пад арэхавым дый пад кусточкам,
Пад арэхавым дый пад кусточкам,
Ой, укрывалася дый мокрым лісточкам.

## 90. ДА ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Да пара дамоў, пара, *
Сцюдзёная раса пала,

Сцюдзёная раса пала,
Цёмная ночка настала.

Цёмная ночка настала,
Мамачка дамоў чакала.

А мне дамоў не хочацца,
К свякроўцы варочацца.

Бо дома не мамачка,
Не скажа:— Дзіцятка,

Не скажа, што жала,
А скажа, што ляжала,

Не скажа:— Змарылася,
А скажа:— Лянілася,

Не скажа:— Сядзь, пасядзі,
А скажа:— Вары ідзі.

## 90а. ОЙ, ПАРА ДАМОЎ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара, *
Ўжо вячэрняя зара.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Мне дамоў не хочацца,
Бо дома не мамачка,

Бо дома не мамачка,
Не скажа:— Дзіцятачка,

Не скажа:— Сядзь, пасядзі,
А скажа:— Вады схадзі,

Не скажа:— Змарылася,
А скажа:— Злянілася,

Не скажа, што шмат жала,
А скажа, што ляжала.

— Не сварыся, свякроўка,
Другі раз пазней прыйду,

Другі раз пазней прыйду,
Павячэраўшы знайду.

## 906. НЕ ШАЛОХНЕ ДА БУЁН ВЕЦЯРОЧАК

Не шалохне да буён вецярочак
Па багатаму полю.
Не кохне няродная маці
Па чужому дзіцяці.
Не пытае, ці вяліка дарожка,
Ці баляць ручкі, ножкі,
Ці баліць сярэдзінка,
А яна пытае,
Ці багата нажала,
Колькі коп наклала?
Вее вецярочак па чыстаму полю,
Журыцца родная маці
Па свайму дзіцяці.
Яна не пытае,
Ці багата нажала,
Колькі коп наклала.
А яна пытае,
Ці вяліка дарожка,
Ці баляць ручкі, ножкі,
Ці баліць сярэдзінка.

## 90в. ХТО Й ДАМОЎ АХВОЦІЦЦА

Хто й дамоў ахвоціцца, *
А мне, маладой, не хочацца:

У мяне дома не мамачка,
А ліхая свякровачка.

А як прыдзеш з работачкі,
Не скажыць з'есці, сесці,
А скажыць хатку месці,

Не скажыць:— Умарылася,
А скажыць:— Лянілася.

## 90г. УЖО ПАРА ДАМОЎ

Ужо пара дамоў —
Мне дамоў не хочацца. **

Удома не мамачка,
Не скажа:— Дзіцятачка...

Не скажа, што я жала,
Але скажа, што ляжала...

Не скажа: — Ўмарылася,
Але скажа:— Лянілася.

## 90д. ДАБРАНАЧ, КРУГЛАЯ НІЎКА

Дабранач, круглая ніўка,
А шырокая пастатка!
Добры вечар, цёплая хатка

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

** Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Да ліхая свякроўка!
Ліхая свякроўка не пытаіцца,
Ці не баліць твая сярэдзінка,
Ці не ломяць косці,
А пытаіцца, ці многа нажала
Ды коп настаўляла?
Пашоў свёкар у лядынку,
Адсёк ён дубінку
Ды на маю серадзінку.

## 90е. ОЙ, ПАРА ДАМОУ, ПАРА

Ой, пара дамоў, пара,
Ужо вячэрняя зара.
Мне дамоў не хочацца,
Бо дома не мамачка,
Не скажа:—Дзіцятачка,
Не скажа:— Сядзь, пасядзі,
А скажа:— Вады схадзі!
Не скажа:— Змарылася,
А скажа:— Злянілася,
Не скажа, што жала,
А скажа, што ляжала.

## 90ж. ДОБРА ЖАЦЬ — ШЫРОКАЯ НІУКА

Добра жаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, сцюдзёная хатка,
Няродная матка!
Не пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася,
Ды пытаецца, ці доўга пражала,
Ці многа нажала.
Добра гнаць — шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, цёплая хатка,
Родная матка!

Не пытаецца, ці злянілася,
Ці многа нажала,
Ды пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася.

## 90з. ДОБРЫ ВЕЧАР, ДА ЗІМНАЯ ХАТКА

Добры вечар,
Да зімная хатка,
Да нядродная мамка.
Не пытаіць,
Да ці баляць ручкі,
Да ці баляць плечкі,
Ды пытаіць,
Ці многа зжала,
Ці многа нажала.
Добры вечар,
Да цёплая хатка,
Да родная мамка.
Не пытаіць,
Ці многа зжала,
Ці многа нажала,
Ды пытаіць,
Да ці баляць ручкі,
Да ці баляць плечкі.

## 90і. ДОБРЫ ВЕЧАР!

Добры вечар!
Халодная хатка, няродная матка,
Добры вечар!
Не пытаіць,
Да ці баляць ручкі да ці баляць плечкі,
Не пытаіць.
А пытаіць,
Да ці многа зжала, ці многа нажала,
Да пытаіць.
Добры вечар,
Да цёплая хатка, да родная матка.

Добры вечар!
Не пытаіць,
Да ці многа зжала, ці многа нажала,
Не пытаіць.
А пытаіць,
Да ці баляць ручкі, да ці баляць плечкі,
Да пытаіць.

### 91. СОНЕЙКА, СОНЕЙКА

Сонейка, сонейка,
Закаціся скоранька.
Як сонейка закоціцца,
Мне дадому захочацца.
Ў мяне дома свая маці,
Пусціць мяне пагуляці.
— Да гуляй, маё дзіця,
Калі табе гуляецца,
Часіначка мінаецца.

### 92. ЖОНАЧКІ, У ДВОР

Жоначкі, у двор,
На дварэ не рана.
У мяне маці чужая,
Дзіцятка малое,
Яно неўдалое.
А як пойдзеш, маці,
Дзіця калыхаці,
Мяне праклінаці.
А я, маладая,
Пад аконцам начую
І ўсё гэта чую.
Пабрось, пабрось, маці,
Дзіця калыхаці,
Мяне праклінаці.

## 93. ДА Я ЖЫТА ЖАЛА

Да я жыта жала,
Снапочкі вязала.
Мне дамоў ісці не хочацца,
Каля печы варочацца.
Да ў мяне дома дзяцей многа:
Да што куточак — то сыночак,
А ў запечку — дзевяць дочак,
А дзесятая на прыпечку
Іграла на скрыпачку,
Ды з прыпечку зваліласяя,
І скрыпачка пабілася.

## 94. ГОРА, ГОРА, ГОРАЧКА

Гора, гора, горачка,
Што чужое полечка.
Я, малада, гарую,
Што адна ў полі начую.
Скінуся я, малада,
Сераю зязюляю,
Паляту я, малада,
Да к сваймy нялюбаму.
Стану пад акошачкам,
Стану і паслухаю,
Стану я паслухаю,
Што нялюбы гаворыць.
Ён дзіцятку калышыць
І з дзіцяткам гаворыць:
— Спі, маё дзіцятачка,
Прыдзе твая матачка.
Яна цябе пакорміць
І спатачкі паложыць.
Не плачце-тка, любыя,
Прыдзець ваша мамачка.
Ай, люлюшкі, люлюшкі,
Прыдзець, ваша мамачка.

Прыдзець ваша мамачка
Із чужое нівачкі.
Ай, люлюшкі, люлюшкі,
Із чужое нівачкі.
Яна вас пакорміць, напоіць
І спацечкі палажыць.
Ай, люлюшкі, люлюшкі,
І спацечкі палажыць.

## 94а. А УСЕ ЛЮДЗІ ДВОРУ ЙДУЦЬ

А ўсе людзі двору йдуць,
Я, млада, не думаю,
Ой, люлюшкі, люлюшкі,
Я, млада, не думаю.
Я, млада, не думаю,
Я к свайму нялюбаму.
Ой, люлюшкі, люлюшкі,
Я к свайму нялюбаму.
А скінусь я, малада,
Сераю зязюляю.
Ой, люлюшкі, люлюшкі
Сераю зязюляю.
Ай, сяду я, малада,
Да я пад вакошачка.
Ой, люлюшкі люлюшкі,
Ой, я пад вакошачка.
Паслухаю, малада,
Што мой нялюб гаворыць.
Ой, люлюшкі, люлюшкі,
Што мой нялюб гаворыць.
Што мой нялюб гаворыць,
А з дзеткамі гамоніць.
Ай, люлюшкі, люлюшкі,
А з дзеткамі гамоніць:
— Не плачце-тка, дзетачкі,
Не плачце-тка, любыя,
Ой, люлюшкі, люлюшкі,
Не плачце-тка, любыя.

## 946. А УСЕ ЛЮДЗІ ДВОРУ ЙДУЦЬ

А ўсе людзі двору йдуць,*
Я, малада,— гаруша,

Я, малада,— гаруша,
Двору іці баюся,

Двору іці баюся
Я свайго нялюбага.

Скінуся я, малада,
Шэраю зязюляю,

Палячу я, малада,
К нялюбаму пад вакно,

Сяду я, паслухаю,
Што нялюбы гаворыць,

Што нялюбы гаворыць
Із дробнымі дзеткамі:

— Цыцце, дзеткі, не плачце,
Прыдзіць ваша мамачка,

Прыдзіць ваша мамачка
Із чужога полечка,

Із чужога полечка,
Із чужое нівачкі,

Накорміць вас, напоіць...
Хвала табе, божачка,
Што пачула словачка,

Што пачула словачка
Я ад свайго нялюбага.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 94в. А УСЕ ЛЮДЗІ ДВОРУ ЙДУЦЬ, Я, МЛАДА, НЕ ДУМАЮ

А ўсе людзі двору йдуць, я, млада, не думаю,
Ай люлюшкі, люлюшкі, я, млада, не думаю.
Я, млада, не думаю, я к свайму нялюбаму,
Ай люлюшкі, люлюшкі, я к свайму нялюбаму.
Ай, скінусь я, малада, сераю зязюляю,
Ай люлюшкі, люлюшкі, сераю зязюляю.
Ай, сяду я, малада, пад вакошачка,
Паслухаю, малада, што мой нелюб гаворыць,
Што мой нелюб гаворыць, ай з дзеткамі гамоніць,
Ай люлюшкі, люлюшкі, ай, з дзеткамі гамоніць:
— Не плачце-ка, дзетачкі, не плачце-ка, любыя,
Ай люлюшкі, люлюшкі, не плачце-ка, любыя,
Не плачце-ка, любыя, прыдзець ваша мамачка,
Ай люлюшкі, люлюшкі, прыдзець ваша мамачка.
Прыдзець ваша мамачка і з чужыя нівачкі,
Люлюшкі, люлюшкі, і з чужыя нівачкі.
Яна вас накорміць, напоіць і спатанькі паложыць,
Ай люлюшкі, люлюшкі, і спацечкі паложыць.

## 95. ЗАКАЦІЛАСЬ ЖАРКА СОНЦА

Закацілась жарка сонца
За дуброўку.
Баліць мая галованька,
Хачу дворку.
Я не спала, маладзенька,
Не драмала,
Выпусціла сакалочка з рукавочка;
Выпусціла сакалочка,
Не ўлавіла,
Толькі свайго міленькага
Разгнявіла.
Разгнявіўшы міленькага,
Не ўпрасіла:
Ты не пі-ка, мой міленькі,
Гарэлачку,
Не любі, мой міленькі,
Чужых жонак.

Гарэлачка, мой міленькі,—
Без здароўя,
Чужы жонкі, мой міленькі,—
Безгалоўе.

### 96. ДА УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Да ўжо вечар вечарэе,
Мая маці вячэрае,
Яна вячэру падавае,
Дзіця сваё ўспамінае:
— Дзіця маё маладое,
Дый горкая твая доля,
Маладое заручона,
На рабоце замучона.
Ідзе ў поле — світаецца.
Ідзе дамоў — змяркаецца.

### 97. МЯНЕ МАЦІ З ПРЫГОНУ ЖДЖЭ

Мяне маці з прыгону жджэ,
Ой, мяне маці з прыгону жджэ,
Вароцечкі прачыняе,
Сваё дзіця дажыдае:
— Недзе маё дзіця ў полі
Пры шырокім загоне,
Пры вялікім прыгоне.
Ой, ідзі ты, дзіця, вячэраці,
Бо я ўжо наварыла.
— Ой, вячэрай, мая мамка,
Бо я ўжо вячэрала,
Да не сухі кусок ела,
Я слёзкаю палівала,
Сваю долю праклінала:
Бадай, доля, ты згарэла,
Каб я свету паглядзела.

## 97а. УЖО НА ДВАРЭ ВЕЧАРЭЕ

Ужо на дварэ вечарэе,
Мая мамка вячэрае
Да кліча мяне, маладзеньку,
Ды к сабе на вячэрку.
— Ды вячэрай, мая мама,
Я ўжо павячэрала:
Не сухі хлябец ела,
Слёзкамі праганяла,
Сваю долю праклінала:
Ды бадай, мая долечка,
Ў агні згарэла,
Хоць бы я, маладзенькая,
Ручачкі пагрэла.
Ды бадай, мая доля,
Ў моры ўтапілася,
Хоць бы я, маладзенькая,
Вадзіцаю памылася.

## 97б. ОЙ, НЕ ПАЙДУ Я ДАДОМУ

Ой, не пайду я дадому,
Ды буду тут начаваці,
Ды буду тут начаваці
На бацькавай сенажаці.
Сядзе бацька вячэраці
Ды будзе мяне спамінаці:
— Ой, дзе ж маё дзіця родна,
Ой, ці яно вячэрала?
— Вячэрала, мой баценька,
Там, ідучы дарогаю,
Вячэрала хлеб з вадою
Ды з чорнымі ягадкамі,
Ды з чорнымі ягадамі,
Ды з дробнымі слёзанькамі.

## 97в. ДЫ УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Ды ўжо вечар вечарэе,
Мая мамка вячэрае,

Вячэрае ды астаўляе,
Ды ў ваконца паглядае:
— Нейдзе ж маё дзіця ў полі
Пры вялікім загоне,
Пры вялікім загоне,
Пры вялікім прыгоне.
— Ды вячэрай, мая мамка,
Я ўжо вячэрала,
Не сухі я хлеб ела,
Слёзкамі палівала.

## 97г. УЖО НА ДВАРЭ ВЕЧАРЭЕ

Ужо на двару вечарэе,*
Мая мама вячэрае

Ды кліча мяне, маладзеньку,
Ды к сабе на вячэрку.

— Ды вячэрай, мая мама,
Я ўжо павячэрала,

Не сухама хлябец ела,
Слёзкамі праганяла,

Слёзкамі праганяла,
Сваю долю праклінала:

Ды бадай, мая доля,
У агні згарэла,

Хоць бы я, маладзенька,
Ручачкі прагрэла.

Ды бадай, мая доля,
У моры ўтапілася,

Хоць бы я, маладзенька,
Вадзіцай памылася!

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 97д. НА ДВАРЫ ВЕЧАРЭЕ

На двары вечарэе,
Мой брацетка вячэрае.
Мой брацетка вячэрае,
Кліча мяне на вячэру.
— Вячэрай сам, мой брацетка,
А я ўжо павячэрала.
Ой, ела я хлеб не суха,
А слёзкамі праганяла.
Ой, доля ж мая, доля,
Каб ты ў агні пагарэла,
Каб ты ў агні пагарэла,
Дык ручкі б я пагрэла,
Каб у вадзе тапілася,
То беленька б умылася,
Каб ты, доля, прапала,
То б малада пагуляла!

## 97е. А НА ДВАРЭ ВЕЧАРЭІЦЬ

А на дварэ вечарэіць,
Клічыць мамка вячэраці.
— Вячэрай, мая мамка,
А я ўжо павячэрала.
Ў цёмным лесе на верасе,
На сінім моры на беразе,
Я ела хлеб з вадою,
Горкай калінай праганяла,
Сваю ліхую долю праклінала:
Затонь, мая горкая доля,
У сіняе мора.

## 97ж. А ЎЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

А ўжо вечар вечарэе,
Мой татка вячэрае,
Кліча мяне вячэраці.

— А, вячэрай, мой татачка,
Я ж, молада, вячэрала
У цёмным лузе на беразе
А горкую каліначку,
А салодку маліначку
— Не ўгадала, маё дзіця,
Што горка, што соладка.
А горкая ж каліначка,
Салодкая — маліначка.
Гарчэй, дзіця, твая доля
За гэтыя каліначкі,
За гэтыя маліначкі.

## 97з. АДДАУ МЯНЕ БАЦЬКА

Аддаў мяне бацька
Падалечай ад сябе —
Сем міль борам ісці,
А восьмую морам плысці.
Да я бор зязюлькаю,
Да я мора лябёдкаю —
К свайму бацьку малодкаю.
Аж мой бацька вячэрае,
Сваё дзіця ўспамінае:
— Сам жа я вячэраю,
Дзіця маё не снедала.
— Да вячэрай, мой бацюхна,
Да я дома вячэрала,
Да не сухі кусок ела —
Слёзкамі палівала,
Сваю долю праклінала:
Да бадай ты, мая доля,
Да на агні пагарэла,
Да бадай ты, мая доля,
Да на моры ўтапілася,
То б я цябе забылася!

## 97і. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ГАЕМ

Ой, за гаем, гаем
Там вятрэц павявае,
Матуля дачку кліча:
— Дзіця ж маё малюсенькае,
Ідзі ка мне на палудзень!
— Дзякую, мая матанька
Ужо я па палудні:
Не сухама хлябец ела —
Слёзкамі праганяла.
Сваю долю праклінала:
Ды доля ж ты мая, доля,
Ды дзе ж ты падзелася?
Ці ты ўтапілася,
Ці ў агні згарэла?
Каб у агні ты згарэла,
То я пагрэлася б,
Каб ты ўтапілася,
То я беленька памылася б!

## 97к. ЯК ПАЙДУ Я СЯЛОМ, СЯЛОМ

Як пайду я сялом, сялом,
А мне сялом не весяло. Эй!
Як пайду я й балоцейкам
Ды к радзімым вароцейкам. Эй!
А мой татка вячэрае,
К сабе госцей не ведае. Эй!
— Добры вечар, мой татачка,
— Здраствуй, здраствуй, дзіцятачка. Эй!
Хадзі, доня й, вячэраці.
— Вячэрала, мой татачка. Эй!
У цёмным лесе смародзінай,
У чыстым полі калінаю. Эй!

## 97л. А УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

А ўжо вечар вечарэе,
Мая мамка вячэрае,
Заве мяне вячэраці.
— Дзякуй, мамка, вячэрала.
— Дзе ты, донька, вячэрала?
Я сядзела над ракой,
Вячэрала хлеб з вадой,
Слёзкаю праганяла,
Сваю долю праклінала:
Бадай, доля, загінула,
Як ты мяне пакінула,
Бадай, доля, не даждала,
Як ты мяне не наждала.
— Маладая маладзічка,
Не кляні ты сваю долю,
А пракляні свайго мужа:
Тваю долю мужык прапіў
У карцомцы пад лаўкаю
З маладою шынкаркаю.

## 98. ЭЙ, ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Эй, пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Эх, няхай голас галасуе,
Няхай мая мамка чуе,
Эх, няхай мая мамка чуе,
Мне вячэрачку гатуе,
Эй, вячэрачку смачненькую,
Сцеле пасцель бяленькую,
Эй, на вячэрачку смятаначку,
Сцеле пасцель-кітаечку.

## 98а. ОЙ, ЗАЙШЛО СОНЦА ДЫЙ ЗА ЛЯСОЧАК

Ой, зайшло сонца дый за лясочак
Нясі, ветрык, мамцы мой галасочак.
Да й родная мамка голас мой чуе,

Мне вячэраці да й нагатуе.
— А вячэрачка даўно гатовая,
Прыхадзі, мая донька, здаровая.

## 98б. САМА ПАЙДУ ДАРОГАЮ

Сама пайду дарогаю,
Голас пушчу дуброваю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай татанька чуіць.
— Калі маё дзіця пяець,
Няхай пяець, красуіцца,
У чаравічкі абуіцца,
На кірмаш гатуіцца!
А калі — нявестунька,
Няхай яна ўгамоніцца,
У лапцікі абуіцца,
На прыгон гатуіцца!

## 98в. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Мой галасок — дуброваю.
Хто мой голас пачуе,
Той мяне пашкадуе.
Учула мяне мая маці,
Стала мяне шкадаваці:
— Калі дзіця маё,
Няхай пагуляе,
Калі дзіця не маё,
Няхай прывыкае
Да вялікай воласці,
Да шырокай постаці!
— Ды матуленька мая гожа,
Паздароў цябе божа,
Што ты мяне парадзіла,
Харошага сем'яніна:

Тонкая, высокая,
Белая, румяная,
Хораша прыбраная,
Да касцёла пасланая,
Ксяндзы пяюць — мыляюцца,
На мяне ўглядаюцца.

## 98г. ЯК ПАЙДУ ЛУГАМ, НЕ ЛУГАМ

Як пайду лугам, не лугам —
Дарогаю, галасок — дубровою.
Хто мой голас пачуе,
Той мяне пашкадуе.
Як пачуў мой ойцечка,
Па святліцы ходзячы,
Праз аконца гледзячы:
— Калі маё дзіця пяе,
То няхай пагуляе,
А калі мая нявестачка,
То няхай прывыкае
К сырыцы-пшаніцы,
К шырокай постаці
І к чужой воласці.

## 98д. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Ды хораша ступаючы,
Ды два двары мінаючы,
Да трэцяга даходзячы,
Пана бога просячы:
— Ды дай, божа, пашлі, божа,
Ды свёкра багатага,
Ды свёкра багатага,
Ды мужа разумнага,

Каб я з ім піла-ела
Ды хораша хадзіла,
Хораша пахаджывала,
Русу косу пачэсывала.

### 98е. САМА ЙДУ ДАРОГАЮ

Сама йду дарогаю,
Мой голас — дуброваю,
Хто мой голас пачуе,
Той мяне пашкадуе.
А пачула мамачка,
У святліцы седзячы,
У святліцы седзячы,
У аконца гледзячы:
— А калі маё дзіцяя,
Дык няхай пагуляе,
А калі нявестачка,
Дык няхай пажынае.

### 98ж. Я ГУЛЯЛА, МАЛАДА, ПА ПОЛЮ

Я гуляла, малада, па полю,
Пускала галасок да дому.
А хто мой галасок пярэймець?
Пярэймець мой галасок свёкра,
Пярэймець свёкра ды скажыць:
— Ці не мая зявайла зяваець,
Вузенькія постаці ганяець,
Рэдзенькія снапкі стаўляець?
Я гуляла, малада, па полю,
Пускала галасок да дому.
А хто мой галасок пярэймець?
Мой татачка пярэймець,
Татачка пярэймець ды скажа:
— Ці не мая дзевачка гуляець,
Шырокія постаці ганяець,
Густыя снапочкі стаўляець?

## 98з. САМА ПАЙДУ ДАРОГАЮ

Сама пайду дарогаю,*
Пушчу голас дуброваю.

І няхай голас галасуіць,
Няхай мая мамка чуіць.

Не пачула родна мамка,
Да пачула свякровачка.

— Да калі маё дзіця,
Няхай галасуецца,

А калі нявестачка,
Няхай ёй ушчуецца.

## 98і. ЯК ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай мая маці чуіць.
— Ета маё дзіця пяець,
Дзіця пяець — поля красіць,
А нявестачка людзей смешыць.
Сваёй дачцэ саян куплю,
А нявестачцы скуру злуплю!

## 98к. ЯК ПАЙДУ ДАРОГАЮ

Як пайду дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Хто мой голас пачуіць,
Той мяне пажалеіць.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Зачуў, зачуў мой татачка,
У бяседзе седзючы.
— Калі маё дзіця пяець,
Няхай яно пагуляіць,
Калі мая нявестухна,
Няхай яна пажынаіць.
Дзіця пяець — поле красіць,
А нявестка людзей смешыць.

## 98л. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуе,
Няхай мая свякроў чуе.
— Калі маё дзіцятачка,
Дык няхай яно гуляе,
Калі ж мая нявестачка,
Няхай яна прывыкае
К майму полю далёкаму,
К маёй постаці шырокай,
К майму сталу дубоваму,
К майму хлебу пуховаму,
К майму сыру бяленькаму,
К майму сыну міленькаму.

## 98м. ОЙ, РАНА, РАНА У ПОЛЕ ЙДУ

Ой, рана, рана ў поле йду,*
Ой, позна, позна з поля йду,
Да дому голас падаю.
Й хто мой голас зачуе,
Той мне вячэру згатуе.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Пачула голас мацюнка,
Згатуе вячэру — галушкі,
Пасцеле пасцельку — падушкі.
— Мне, матка, вячэра не міла,
Шырокая ніва ўтаміла,
Не так ніванька, як гоні,
Шырокі і доўгі загоны.

## 98н. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю.
Няхай голас галасуе,
Няхай жа мой татка чуе,
Дзе яго дзіця начуе.
— Калі ж маё дзіця пяе,
Няхай яно дамоў ідзе.
Калі яна нявехначка,
Няхай болей пажынае,
Майго поля павідае,
К майму полю прывыкае,
К маёй ячнай лусцы,
К несалёнай капусце,
К майму полю далёкаму,
К маёй ніве да шырокай.
Маё поле далёкае,
Мая ніва шырокая.

## 98о. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Пайду я шырокаю,
Пушчу голас дуброваю.
Хто мой голас пачуе,
Той мяне пашкадуе.

Пачула мая мамачка,
У каморцы седзячы,
Праз аконца гледзячы:
— Калі гэта маё дзіця,
Хай яно пагуляе,
Калі гэта нявестачка,
Хай яна прывыкае
Да шырокай постаці,
Да вялікай воласці.
Мая постаць шырокая —
Сівым канём не аб'едзеш,
Мая воласць вялікая —
Белым сырам не адзеліш.
Сівы конь скапыціцца,
Белы сыр пакрышыцца.

## 98п. ЯК ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю.
А хто ж мой голас зачуіць —
Той ж мяне пажалеіць.
Зачуў голас мой татулька:
— То маё дзіця пяець.
Дзіця пяець — поле красіць,
Нявестачка людзей смешыць.
Дзіця пяець, як звон звініць,
Нявестачка — як гром грыміць.

## 98р. ДЫ ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Ды пайду я дарогаю,
Ды пайду я шырокаю.

Ды пайду я шырокаю,
Пушчу голас дуброваю,

Няхай голас галасуе,
Няхай мая мамка чуе.

Няхай мая мамка чуе,
У святліцы седзючы.

— Ці ж маё дзіця пяе,
Што да мяне голас ідзе?

Калі маё дзіцятка,
Няхай яно пагуляе,

Калі мая нявехначка,
Няхай яна пажынае.

Няхай яна пажынае,
К майму полю прывыкае.

К майму полю далёкаму,
К майму жыту вялікаму,

Зярнятку ядраному,
К майму сыну маладому.

## 98с. ОЙ, ГУКНУ Я ДАРОГАЮ

Ой, гукну я дарогаю,
Зялёнаю дуброваю.

Няхай мяне маці чуе,
Мне вячэру гатуе,

Вячэру мне смачненькую,
Пасцельку бяленькую.

Як не будзе гатаваці,
Не прыду начаваці.

Начавацьму ў цёмным лесе
Пры зялёным арэсе,

Начавацьму ў чыстым полі
Пры зялёнай дуброве.

## 98т. ОЙ, ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ, ЯК ПАЙДУ

Ой, пайду я дарогаю,
Як пайду.
Пушчу голас дуброваю,
Пушчу голас.
Няхай татачка пачуе,
Няхай татачка.
— Ці не дзіця маё ідзець,
Ці не дзіця,
Што тоненькі голас вядзець,
Што тоненькі.
А калі ж бы маё дзіця,
А калі ж,
Няхай ідзець пагуляе,
Няхай.
А калі б нявехначка,
Калі б,
Няхай ідзець пажынае,
Няхай,
Поля майго павідае,
Поля майго.
Поле маё далёкае,
Поле маё,
У постаці шырокае,
У постаці.

## 98у. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуіць,
Няхай мая мамка чуіць,
Няхай чуе, пачувае,
Дзе маё дзіця паіграе.
На чужой староначцы
І пры ліхой свякровачцы.

## 98ф. ДЫ МОЙ ТАТАЧКА, ДЫ КАЛАСОЧАК

Ды мой татачка, ды каласочак,
Ды пачуй жа мой ды галасочак,
Ой, я іду дуброваю
Ды пушчу голас ды дарогаю,
Ды няхай мая ды мамка чуе,
Ды вячэрачку ды нагатуе.
Ды я на полі ды жыта жала,
Ды на постаці ўжо раса пала,
Ой, жнеечка ды дамоў ідзе,
Ды на ручачках ды дзіця нясе,
На галовачцы ды сярпок нясе,
Ды наўстрэчу мне ды татка ідзе.

## 98х. О ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

О пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуе,
Няхай мая матка чуе:
— Калі ж гэта маё дзіця,
Няхай яно пагуляе,
А калі ж нявехначка,
Няхай яна прывыкае
К маёй ніўцы далёкай,
К маёй постаці шырокай,
К майму хлебу пуховаму,
К майму кію дубоваму.

## 98ц. ЯК ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Як пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
А хто голас мой пачуіць,
Дык той мяне пажалеіць.

Пачуў голас мой татулька:
— Ці не маё дзіця пяець?
Няхай яно ў двор ідзець,
У двор ідзець, паабедаіць,
Па вуліцы пабегаіць,
Па вуліцы па шырокай,
Па мураўцы па зялёнай.

## 98ч. ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Пайду я дарогаю,*
Пушчу голас дуброваю,

Няхай голас галасуець,
Няхай мамка дома чуець.

— Калі маё дзіцятачка,
Няхай яго красуецца,

А калі нявестачка,
Няхай яна ўшчунецца.

Яе дзеткі малыя
Ужо даўно дажыдаюць,

Ужо даўно дажыдаюць,
У ваконца паглядаюць.

## 98ш. ДА Й ПАЙДУ Я ДАРОГАЮ

Да й пайду я дарогаю,
Пушчу голас дуброваю,
Няхай голас галасуе,
Няхай мяне мамка чуе,
Мне вячэраньку гатуе,
Да ў місачкі налівае,
На парозе застуджвае.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Стынь, вячэра, на парозе,
Стынь, вячэра, на парозе,
Маё дзіця ў дарозе,
Маладое заручонае
Да на загоне замучонае.

## 98в. ОЙ, ЗВОНКА, ЗВОНКА НА БАРУ

Ой, звонка, звонка на бару,
Ой, рана, рана на бару,
Пушчу я голас да дому.
А хто мой голас пачуіць?
Чула-пачула матулька:
— Маё дзіцятка спяваіць,
Шыроку постаць зжынаіць,
Густы снапкі стаўляіць.
Яшчэ пачула свякроўка:
— Чаго, нявестка, зяваеш?
Вузкую постаць зжынаеш,
Рэдка снапочкі стаўляеш?

## 99. НЕ ЎЛЯКАЙСЯ, МОЙ ТАТАЧКА

Не ўлякайся, мой татачка,
　　Не ўлякайся,
Што я рана із поля іду,
　　Што я рана,
На ручачках дзіця нясу,
　　На ручачках,
За плечыкамі — калыбельку,
　　За плечыкамі.
— Чыё, донька, дзіця нясеш,
　　Чыё донька?
— Суседняе, мой татачка,
　　Суседняе.
— Чаго, дочка, тваё лічка,
　　Чаго, дочка?

— Пры мне, татка, раджалася,
Пры мне, татка,
Маё лічыка ўдавалася,
Маё лічыка.

## 99а. Я, МАЛАДА, З ПРЫГОНУ ЙШЛА

Я, малада, з прыгону йшла,
Пад поясам сярпок нясла,
На ручках дзіцятачка,
Сустрэў мяне мой татачка,
Сустрэў мяне мой родненькі:
— Дзе ты, донька, дзіця ўзяла?
— Мой татачка, у бару найшла.
— Маніш, донька, — тваё лічка.
— Яно пры мне радзілася,
Яно па мне удалася!

## 99б. ОЙ, Я З ПОЛЯ ЦЯКУ, БЯГУ

Ой, я з поля цяку, бягу,
Да сярпочак за поясам,
Дый малазён на ручаньках.
Дзеля цябе, малазёне,
Да мне ў маткі не быці,
Вох, з руты вянка не звіці.
Ой, да хоць яго саўю,
Вох, то насіці не буду,
Зносіць мая залавіца,
Яго родная сястрыца.

## 99в. А Я З ПОЛЯ ЙШЛА

А я з поля йшла,
А пад паясом сярпок нясла,
За плечамі калысачку,

А на руках дзіцятачку,
А спаткаў жа мой татанька:
— А чыё, доня, дзіця нясеш?
— А суседняга, мой татанька.
— Няпраўда, доня, не суседняга...
У твае лічыка ўдалося.
— Перада мной раджалася,
У маё лічка ўдавалася,
Перада мной умывалася,
У мае лічка ўдавалася.
Ліцо маё бяленькае,
Дзіця маё міленькае.

## 99г. Я, МОЛАДА, З ПОЛЯ ІДУ

Я, молада, з поля іду,
За поясам сярпок нясу,
За плечыкамі калысачку,
А на ручках дзіцятачку.
Сустрэў мяне мой татачка:
— Дзе ты, дачка, дзіця ўзяла?
Гэта дзіця суседняе...

## 99д. ІШЛА ДЗЕУКА З ПОЛЯ, З ПОЛЯ

Ішла дзеўка з поля, з поля,
Несла сярпок у прыполе
Да й калысачку за плячыма,
Слёзка ў яе пад вачыма.
Да прышоў к ёй яе бацюхна:
— Да чаго ж, донька, сільна плачаш?
Ды чыё ж ты, донька, дзіця нясеш?
— Мой бацюхна, мой родненькі,
Да нясу ж дзіця суседскае,
Пры мне ж яно раджонае,
Ка мне ж яно палажонае.

## 100. УЖО СОНЕЙКА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Ужо сонейка за лес коціцца,
А мне, моладзе, дамоў хочацца.
А мне татачка ды прыказываў:
— Ой, насі злота — не хіні к грудзям,
Ой, гаруй гора — не кажы людзям!
— Мой татачка, мой родненькі!
Да няпраўдачку ўсё гаворыш:
Насіўшы злота — яно змажацца,
Гараваўшы гора — людзям скажацца.

## 101. ОЙ, ЖЫВА, ЖЫВА — ПАРА СТРАДНАЯ

Ой, жыва, жыва — пара страдная,
А жаночая доля марная.
А я, жнеечка, жыта жаць іду,
Двое дзетачак дый з сабой бяру,
Дзіця першае наперадзе нясу,
Ззаду дый калысачку.
Другое дзіця за ручку вяду, ой,
А з боку жыганы цягну.
— Ой вы, дзеткі, ці гуляйце, ці спіце,
Толькі мамкі доўга да й не завіце,
А мне ж трэба хуценька жаці,
Каб усіх постаці перагнаці.
Я ж без разгіну паласу сажала,
Дзетак сваіх не ўглядала.

## 102. МАЛАДАЯ МАЛОДАЧКА

Маладая малодачка
Па месяцу жыта жала
Да з месяцам размаўляла:
— Мой месячык яснюсенькі,
Пасвяці мне дарожаньку,
Кудэю ісці дадоманьку,
Падаіці карованьку.
Мая карова травіча,
Дае малака дайніцу.

## 102а. ЖАЛІ, ЖАЛІ ПА СОНЕЙКУ

Жалі, жалі па сонейку,
Будзем жаці па месяцу.
Месяцу яснюсенькі,
Асвяці нам дарожаньку,
Кудою йсці да доманьку
Каля саду вішнёвага,
К бацюшку радзонаму.

## 102б. ДА МЕСЯЦУ ЯСНЮСЕНЬКІ

Да месяцу яснюсенькі,
Асвяці нам дарожаньку,
Кудою йсці да доманьку
Каля саду-вінаграду
Да к войчаньку на параду,
Каля саду вішнёвага
Да войчанька радзонага.
Парадзь, парадзь мне, войчанька,
Як мне зіму зімаваці?
Як мне лета летаваці?

## 102в. МАЛАДАЯ МАЛОДАЧКА

Маладая малодачка
Па месяцу жыта жала,
З месяцам размаўляла:
— Мой месяцу яснюсенькі,
Прасвяці мне дарожаньку,
Кудою ісці да домачку.
— Маладая малодачка!
А тож табе дарожанька
Каля саду зялёнага
Да бацюшкі радзонага,
Каля саду-вінаграду
Да бацюшкі на параду.

## 102г. ОЙ, МЕСЯЦ ЯСНЕНЬКІ

Ой, месяц ясненькі,
Асвяці нам дарожаньку,
Асвяці нам дарожаньку,
Кудэма ісці да доміку
Каля саду-вінаграду
Да айчанька на параду,
Да свякроўкі на вячэру,
Да мілога на пасцелю.
Вячэрайка ў галушачкі,
Пасцель бела ў падушачкі.

## 103. ДОБРЫ ВЕЧАР НАШАЙ МАЦІ

Добры вечар нашай маці,*
Ці гатова вячэраці?
Ідзець тваё дзіцятачка
Утаміўшыся, умарыўшыся,
Ядраное жыта жнучы.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## II

### 104. ПЕРАПЁЛКА, НЕ ВІ ГНЯЗДЗЕЧКА

Перапёлка,
Не ві гняздзечка
Блізка
Ля дарожкі!
Перапёлка,
Пастушкі пагонюць,
Гняздзечка распоруць!
Перапёлка,
Гняздзечка распоруць,
Яечкі пабяруць!
Перапёлка,
Яечак не будзець,
Табе жаль будзець!
Ты, Мар'ічка,
Не ві вяночка —
Восень недалёчка!
Сваты прыедуць,
Вяночык здымуць,
А чэпчык надзенуць!
Мар'ічка,
Вяночка не будзець,
Табе жаль будзець.

### 104а. ТЫ, ЛАСТАУКА-БЕЛАКРЫЛКА

Ты, ластаўка-белакрылка,
Не вій гнязда пры дарозе!
Арол ляціць, гняздо зрыіць,
Малых дзетак паразганяіць
Што і па мхах,
І па балотах,

І па чыстаму полю,
І па зялёнаму лугу.
Ты, Гертруда маладая,
Не вій вянка ў мамухны!
Сваты едуць — вянок сарвуць,
Цябе, маладу, з сабой вазьмуць.

### 104б. ПЕРАПЁЛКА, ОЙ, НЕ ВІ ГНЯЗДЗЕЧКА БЛІЗКА ЛЯ ДАРОЖКІ

Перапёлка,
Ой, не ві гняздзечка блізка ля дарожкі.
Канюшкі паедуць—гняздзечка раскапаюць,
Перапёлка!
Табе, маладзенькай, усё жаль будзіць,
Што дзетак не будзіць,
Перапёлка!
Пастушкі пагонюць—гняздзечка распоруць,
Перапёлка!
Табе, маладзенькай, ўсё жаль будзіць,
Што дзетак не будзіць,
Перапёлка!

### 104в. ПЕРАПЁЛКА! ТРЫСЦЯНО ГНЯЗДЗЕЧКА

Перапёлка!
Трысцяно гняздзечка,
Залатое яечка,
Перапёлка!
Перапёлка!
Не ві ты гняздзечка
Блізка ля дарогі,
А зві ты гняздзечка
На зялёным дубе,
Перапёлка!
Перапёлка!
Вецярок павеець,
Дзетак пакалышыць,
Перапёлка!

Ой, дзеванька!
Не ві ты вяночка —
Вясна недалёчка,
Ой, дзеванька!
Ой, дзеванька!
Сваточкі прыедуць,
Цябе з сабой возьмуць,
Ой, дзеванька.

## 104г. АХ ТЫ, ЛАСТАЎКА КАСАТАЯ

Ах ты, ластаўка касатая,
Не вій гнязда на пастрэшайку:
Не тут табе зіму зімаваць—
Зімаваць зіму ў шчырым бару.
Ах ты, Маша, ўставай раненька,
Чашы, чашы галоўку, пляці косаньку:
Не тут табе лета летаваць —
Лета летаваць у свёкра і ў свякрові.

## 104д. ПЕРАПЁЛКА! ТРЫСЦЯНО ГНЯЗДЗЕЧКА

Перапёлка! Трысцяно гняздзечка,
Залато яечка. Перапёлка!
Перапёлка! Не вій ты гняздзечка
Блізка пры дарожцы. Перапёлка!
Перапёлка! Пастушкі пагонюць,
Гняздзечка распоруць. Перапёлка!
Перапёлка! Гняздзечка распоруць,
Яечкі пабяруць. Перапёлка!
Перапёлка! А завій ты гняздзечка
На зялёным дубе. Перапёлка!
Перапёлка! Вецярок павеіць,
Дзетак пакалышыць. Перапёлка!
Ой, дзеванька! Не вій ты вяночка,
Восень недалёчка. Ой, дзеванька!
Ой, дзеванька! Сваточкі прыедуць,
Цябе з сабой возьмуць. Перапёлка!

## 105. ЗАКАЦІСЯ, СОНЕЙКА, ЗА ЗЯЛЁНЫ ГАЕК

Закацíся, сонейка, за зялёны гаёк,
Варацíся, міленькі, варацíся дружок.
Калі ж не вярнешся, буду плакаць па табе.
— Не плач, не плач, дзевачка мая,
Наплачашся, дзевачка, ў ахвотушку
без мяне.

## 105а. ЗАКАЦІЛАСЯ ЖАРКА СОНЦА

Закацілася жарка сонца
За лес, за лясок,
Да прыбудзь, да прыбудзь,
Да мой міленькі,
Да ка мне на часок.
На час-часік, на мінутачку,
Я ж табе раскажу
Усю сваю прыгоду,
Што вялікую пячаль:
Хацеў, ой, хацеў,
Мой татачка родны
За нялюбага аддаць,
Ой, хацелася мне
Ах, мой міленькі,
Да цябе падаждаць.

## 105б. ГАЛУБАЧКА У ГАЛУБНІЧКУ

Галубачка ў галубнічку
Нежывенька ляжала,
Да што дзевачка да па хлопчыку
Галовачку звязала,
Да звязала яна галовачку
Чарненькім шоўкам,

Да й напісала запісачку
Да й на белай бумазе,
Да й на тоненькай, да й на беленькай,
Сваёй правай рукою
Да й паслала запіску
З сваёй вернай слугою.
— Ты прыбудзь, прыбудзь, мой хлопчык,
Хоць на адзін да вечарок,
Ты прыбудзь, прыбудзь, мой хлопчык,
Я ўсю прыгодачку раскажу.
Што нашыя прыгодачкі
Да не будзе ніхто знаці,
Што і хацела мяне мамачка
Да за другога аддаці.

## 106. НЕ ЗАКАЦІ, ЖАРКАЕ СОНЕЙКА, НА ЗАКАЦЕ

Не закаці, жаркае сонейка, на закаце,
На выяздзе мой міленькі, на выяздзе.
Стала я свайму міламу да прыказываць:
— У вялікі хмель, мой міленькі, не ўпівайся.
У вялікі сон, мой міленькі, не ўсыпайся,
У вялікую любоў не ўдавайся.
Вялікі хмель, мой міленькі, — безгалоўе,
Вялікі сон, мой міленькі, — нездароўе.
Вялікая любоў, мой міленькі, — абгавор'е.

## 107. НА ВУЛІЦЫ ГОРКІ ДЫМ

На вуліцы горкі дым,
А ў суседа красны сын.
— Пусці, мама, агню к ім.
— А не гаворы ты з ім.
— Як мне, мамачка, не гаварыць з ім,
Калі ён гаворыць дарэчы,
Белае ліцо цалуе,
Залаты пярсцёнак даруе.

## 108. НЕ СПАЛАСЯ МАЛАДЗЕ

Не спалася маладзе,*
Не драмалася,

Эй, не драмалася.
Толькі маладзеньцы

Ва сне снілася, эй,
А што мой міленькі
Ля боку ляжыць.

Прачнулася малада й —
Нету нікога.

Як пайду я, малада,
Я ў вішнёвы сад,

Ай, там мой міленькі
Шчыпіць вінаград.

— Шчыплі, шчыплі,
мой міленькі,
І мне і сабе.

— Адступ, адступ, міла,
Не люба ты мне,

Ёсць у мяне другая,
Палучшы цябе.

## 109. КАЛЯ САДЫНЬКА ДАРОЖАНЬКА ТОРНА

Каля садынька дарожанька торна.
Хто ж та тую дарожачку тарніў?
Малады парань да дзевачкі хадзіў,
Ён для дзевачкі гасцінчыкі насіў,
Ах, сладкі яблачкі, папранічкі дарыў.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 110. УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

Ужо вечар вечарэе,
Маё сэрца весялее:
Да прыдзе мой міленькі,
Да прыдзе мой міленькі,
Да прывязе мне гасцінчыкаў —
Цукерачак манерачку,
А булачка ў кішэнечку.

## 111. СОНЕЙКА НІЗЕНЬКА, ВЕЧАРОК БЛІЗЕНЬКА

Сонейка нізенька, вечарок блізенька,
Да прыбудзь да мяне, да мой міленькі!
Ці ты мяне судзіш, ці ты мяне гудзіш,
Да другія ходзіш, пра мяне гаворыш,
Да на мяне, дзяўчыначку, худу славу гоніш!
— Не бойся, дзяўчонка, ты худыя славы,
Пойдзем павянчаемся, дак будзе нас пара,
Ніхто не рассудзе, ніхто не разлуча,
Толькі нас рассудзе, толькі нас разлуча
Заступ да лапата, безвуголна хата,
Глыбока магіла — прашчай, мая міла,
Жоўценькі пясочак — прашчай,
мой дружочак!

## 112. ЧЫЕ ГЭТА КОНІКІ

Чые гэта конікі *
Па лугу папушчаны,

Па лугу папушчаны,
Золатам папутаны,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Золатам папутаны,
Шоўкам пакілзаны?

Млады Бронічка
Конікі папушчаў,

Золатам папутаў,
А шоўкам пакілзаў.

Маладая Анютка
Кала коней хадзіла,

Кала коней хадзіла,
Платочак нашывала,

Платочак нашывала,
Бронічку даравала:

— Бронічак, насі здароў,
Не забудзь маіх дароў.

## 112а. ДА ЧЫЕ ЕТА КОНІ ХОДЗЯЦЬ ПА ДУБРОВЕ?

Да чые ета коні ходзяць па дуброве,
Шоўкам папутаны, а золатам пануздани?
Да Іванавы коні ходзяць па дуброве,
Да шоўкам папутаны і золатам пануздани;
Да Іваначка ходзіць, Адарачку просіць:
— Да Адарка-сястрыца, распутай мае коні,
Шоўк табе на галоўку, а золата на ручкі,
А жамчуг на шыечку.

## 113. СІЎ КОНЬ БЯЖЫЦЬ — ЧУТКА СПІЦЦА

Сіў конь бяжыць—чутка спіцца!
Бяжы, коню, на даліну,
А я лягу адпачыну.

Ішла дзеўка жыта жаць
Да казака абуджаць:
— Устань, казача,
Твой конь ужо настаяўся —
З'еў травы два паплавы,
Выпіў вады два Дунаі.

## 114. ДА З ЗЯЛЁНАГА ГАЮ

Да з зялёнага гаю *
Салавей вылятаіць.

Салавей вылятаіць,
Зязюлю вызываіць:

— Ты, зязюля шэрая,
Ці паляціш із намі,
З вясёлымі салаўямі?

— Рада была б паляцеці,
Жаль гаю зялёнага,

Жаль гаю зялёнага,
Салаўя вясёлага.

Да з высокага двору
Міколка выязджаіць,

Міколка выязджаіць,
Юзютку вызываіць:

— Юзютка маладая,
Ці паедзеш ты з намі?

Ці паедзеш з намі,
З вясёлымі малайцамі?

— Рада б была паехаці,
Жаль двору вясёлага,

Жаль двору вясёлага
Татульку раджонага.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 114а. К ВІШНЁВАМУ САДУ

К вішнёваму саду
Два галубы прыляцелі,
Галубачку падмаўлялі:
— А сізая галубачка,
Залатая галовачка,
Ці паляціш ты з намі,
З сізымі галубамі?
— Ой, рада б я паляцеці,
Жаль садочак пакінуць.
Усё у маім садочку
А вішанькі паспяваюць,
Арэшкі зацвітаюць.
Усё к новаму двару
Два малойцы прыязджалі
І Марысю падмаўлялі:
— Маладая Марысенька,
Ці паедзіш ты з намі,
Маладымі малайцамі?
— Ой, рада б я паехаці,
Жаль мамачкі пакінуці:
У мае мамачкі на дварэ піва
варуць,
На трэці двор — гарэлачку
А за мяне, паненачку.

## 114б. ІЗ-ПАД ЗЯЛЁНАГА САДУ

Із-пад зялёнага саду
Галубы вылятал,
Й галубы вылятал,
Галубку вызывалі:
— Галубка сізенькая,
Ці паляціш з намі?
— І рада была б з вамі ляцець,
Жаль саду зялёнага,
Жаль саду зялёнага,
Сокала вясёлага.

## 115. ХАДЗІЎ-ПАХАДЖАЎ ЯСЬ ПА ПОЛЮ

Хадзіў-пахаджаў Ясь па полю,
Сеяў-рассяваў васілёчкі:

— Васількі мае дарагія,
Ды хто ж вас будзе палівацi?

Мамка старая, сястра мала,
А жонка мая на Дунай пайшла.

На Дунай пайшла хусты мыцi,
Пашла на Дунай, не вярнулась.

А цi яна там утанула,
А цi яна там заблудзiла?

А цi яна там заблудзiла,
А цi яе там звяры з'елi?

Ды каб жа яна утанула,
Цiхi бы Дунай ускалыхнула;

Ды каб жа яна заблудзiла,
Ды ўсе бы лясы пасушыла;

Ды каб жа яе звяры з'елi,
Лясы i бары зашумелi б.

Дык, знаць жа, яна ўкрадзёна,
На Украiначку завязёна!

## 116. ОЙ, У ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ

Ой, у лесе на верасе
Дваранiн каня пасе,
А дзевачка ваду нясе.
— Ой, дзевачка-ягада,
Ты напой майго каня
З поўнага вядра
З вiннага дый калодзезя.

— Ой, дурны ж ты, дваранін,
Што я ў цябе за ягада?
Ці я ў лесе радзілася,
Ці я ў вішнёвым садзе цвіла?
Парадзіла мяне маці
На цясовай кравацi,
Калыхалі мяне нянькі,
Забаўлялі мяне мамкі,
І карміліі пірагамі,
І паілі сыцiцаю.
Ад пірагоў цела бела,
Ад сыты румяна я.

## 116а. НА ЗЯЛЁНАЙ ДУБРОВЕ ДВАРАНІН КАНЯ ПАСЕ

На зялёнай дуброве дваранін каня пасе,
Да дзяўчына ваду нясе.
— Дзяўчыначка мая, ягадка, да напой жа каня майго,
Напой жа каня варанога і мяне маладога.
— Ой, рада б я напаіці, да баюся мацеры сваёй.
Казачэнька маладзенькі, не любі дзеўку ў танку,
Да любі дзеўку ў полі да на шырокам загоні.

## 116б. У ГАРЭХАВЫМ ЛЕСЕ

У гарэхавым лесе
Дваранін каня пасе,
Дзеванька ваду нясе.
— Дзеванька-ягаданька,
Напой майго каня,
Майго каня варанога,
Мяне, пана маладога!
— Што я табе за ягадка,
Што я табе за салодка?
Не ў садзе я цвіла,
А ў маманькі расла,
Не як чырвоны мак на пагодзе,
Працавала, як пчолка пры мёдзе.

## 117. ЦЕРАЗ ГАЙ ЗЯЛЁНЕНЬКІ

Цераз гай зялёненькі
Бяжыць конь вароненькі,
А за ім ў пагоню гоніць
Іванька малодзенькі.
А дзевачка ваду брала,
На коніка паглядала.
— А дзевачка-ягадачка!
Перайме майго каня варанога,
Мяне, князя маладога.
— Іванічка, душа мая!
А ці я ў бору расла?
А ці я ў мяжы цвіла?
Да я расла ў татулечкі,
Кахалася ў мамулечкі.
Я ў мамулечкі кахалася,
А табе, Іваначка, досталася.

## 117а. ЦЕРАЗ БАРОК ЗЯЛЁНЕНЬКІ

Цераз барок зялёненькі *
Бяжыць конік вароненькі.

За тым канём ў пагоне бяжыць
Малады мальчык Ляксеічка.

— Кулінaчка, душа мая,
Перайме каня майго,

Каня майго варанога
Мяне, князя маладога:

— А мой конік вароненькі,
А я князёк — малодзенькі.

— Я ж бы рада пераняці,
Ды баюся айца й маці!

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— А не бойся ж ты нікога,
Апрач госпада бога,

Апрач госпада бога
І мяне маладога!

### 117б. ЗЯЛЁНАЕ АРЭХАЎЕ

Зялёнае арэхаўе
Цераз тын разлягаіць,
А з-пад таго арэхаўя
Сівы конь выбягаіць,
А за ім сугон-пагон
Наш Сымонка з уздзечкай.
Да стой, кося, не брой, не брой,
Капытом зямлі не крой.
Маё й так сэрца кроіць,
Што не татухна жэніць,
Не багатую бярэць:
Ні коніка, ні воліка,
Ні добрая чалядніца.

### 117в. ДА З-ПАД ГАЮ, ГАЮ

Да з-пад гаю, гаю
Не туман выступае,
Серы конь выбягае,
На павады наступае,
Павады шаўковыя,
Уздзечка залатая.
— Дзевачка да ты красная,
Пераймі ты майго каня,
Ці не будзеш ты мая?
— Да цяпер я не твая,
Да тады буду я твая,
Як у цэркаўкі стаяці
Да за ручачку дзяржаці.

## 117г. ЧЭРАЗ БОР ЗЯЛЁНЕНЬКІ

Чэраз бор зялёненькі *
Бягіць конік вароненькі,

За тым канём пагон ідзець —
Малады мальчышачка.

Малады мальчышачка,
Ой, наўстрэчу дзяўчоначка.

— Дзяўчоначка, душа мая,
Пераймі каня майго,

Каня майго й варанога,
Мяне мальца маладога.

—Мальчышачка, дружочак мой,
Я ж ба й рада пераняці,

Я ж ба й рада пераняці,
Ды баюся айца й маці.

## 117д. ДА ВІШАНЬКА-ЦЯРЭШАНЬКА

Да вішанька-цярэшанька
На двор налягае,
А з-пад тое вішанькі
Сівы конь убягае
Да панічык уязджае.
На ём кудры маюць,
Да на ём шубы ззяюць.
— Панічык маладзенькі,
Хто кашулю вышываў?
— Шыла матка старэнька,
А сястрыца маладзенька,
Шыла матка, вышывала,
А сястрыца золатам ўкладала,
Да на мяне ўскладала.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 117е. ЧАРАЗ САД ЗЯЛЁНІНЬКІ

Чараз сад зялёнінькі
Бяжыць конь варонінькі,
А за ім ўдагонку мой малодзінькі сужаны,
Ён полы засукаўшы, а шапаньку зняўшы,
Увідзіў дзеваньку на высокім цераме:
— Душа мая дзеванька, пераймі майго каня,
Майго каня варанога, мяне, князя маладога.
— Я баюсь татухны, сваёй роднай матухны,
Мяне татанька ў гразе дзяржыць,
А маманька ў прыгрозі,
А брацінька ў няволі.
— Душа мая дзеванька, не бойся нікога,
Апрыч госпада бога, мяне, князя маладога.

## 117ж. ДА ЗЯЛЁНАЕ АРЭХАЎЕ

Да зялёнае арэхаўе *
Да на тын палягаіць,

Да з-пад таго арэхаўя
Сівы конь выбягаіць.

А за ім сугонь-пагонь —
Наш Іванька з уздзечкай:

— Ой, стой, косіньку, стой,
Капытом зямлі не брой,

Не крой жа майго сярдэчка,
Што я молад не жаніўся,

Што я молад не жаніўся,
Кудзёркамі апусціўся.

Я ж паеду ў гарадочак,
Куплю сабе грабянёчак,

Учашу кудзёрачкі,
Паеду жаніціся.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 117в. ЦЕРАЗ БОР ЗЯЛЁНЕНЬКІ

Цераз бор зялёненькі *
Бяжыць конь вароненькі.

За канём ў пагон бяжыць
Іванька малодзенькі.

Манічка ваду брала,
На каня паглядала.

— Манічка, душа мая,
Перайміі каня,

Каня майго варанога,
Мяне, мальца маладога,

Каня майго пегатага,
Мяне, мальца багатага,

Каня майго пляснівага,
Мяне, мальца шчаслівага.

## 117і. ЦЕРАЗ БОР ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Цераз бор зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі,
А за ім ў пагоню пан Мікітка.
Перад ім сустрэчанька —
Маладая дзеванька.
— А дзеванька, душа мая!
Пераймі каня майго!
Каня майго варанога,
Мяне, князя маладога,
Каня майго пляснівага,
Мяне, князя шчаслівага.
— Ой, рада б я пераняці,
Ды баюся айца й маці!

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Ой, рада б улавіці —
Будуць людзі гаварыці!
— А не бойся нікога,
Апроч госпада бога,
Мяне, князя маладога!

## 117к. ШТО ЗА ПЫЛ ПА ДАРОЗЕ

Што за пыл па дарозе,*
Што за шум на бярозе?

Мой мілы з вайны едзець,
Дзевяць коней вядзець.

Дзевяць коней вядзець,
На дзесятым сам едзець.

— Чэсечка, душа мая,
Пераймі каня майго.

— Рада б я пераняці —
Вунь стаіць твая маці.

— Ты не бойся нікога,
Толькі аднаго бога,

Бізуна пляцёнага,
Мужыка вянчонага.

## 117л. ЗЯЛЁНАЯ АРЭШЫНА

Зялёная арэшына
На лугі налягае,
З-пад тэй арэшыны
Там сакол вылятае,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

А з новага двара
Сужанка выязджае
На вараным коніку,
Маляваным возіку,
А пад ім конік грае,
На ім шуба ззяе,
На ім кашулечка
Тонкая, бяленькая,
З паперай раўненькая.
Не маці яе прала,
Не сястрыца ткала,
Ткала яе цёшча,
А выткала свесця,
А вышывала Волечка,
Сабалямі аблажыла,
На яго ўзлажыла.

## 117м. А У ЛЕСЕ АРЭШЫНКА

А ў лесе арэшынка
А на поле выгібае,
Там Васілька вячэрае
На ім шапачка ззяе,
Рубашачка бяленькая,
З паперай раўненькая.
Не мамачка вышывала,
Не сястрыца вымывала,
Вышывала мне цётухна,
А вымывала швагерачка,
А даравала паненачка.

## 118. КАЦІЛАСЯ ЗАРАНАЧКА

Кацілася заранaчка,
За ёй услед ясен месяц.
— Та паждзі, пастой, заранaчка.

— А тады я пастаю,
Як у цёмну хмарку зайду.
А ў хмарку я апушчуся,
Дожджыкам я абальюся.
А ішла маладая Вера,
А за ёй услед малады Косця.
— Ты паждзі, пастой,
маладая Вера.
— А тады я цябе падажду,
Як за мамчын стол зайду,
А русай касой апушчуся
Ды слёзкамі абальюся.

## 119. ПАВІЛОСЯ БЕЛА ПАВУЧЫННЕ

Павілося бела павучынне
Па нашым полі.
Удалося маладой дзяўчынцы
У свайго татулькі:
А не ўмеіць таўчы, малоць,
Ані малаціці,
Толькі ўмеець па сялу хадзіці,
Хлопчыкаў звадзіці.

## 119а. ПАВІЛАСЯ ТОНКАЯ ПАВУЦІНКА

Павілася тонкая павуцінка
Ды па чыстаму полю.
Навучылася маладая дзяўчынка
Чорным шоўкам шыці,
Золатам страчыці.
Яна шыла й вышывала,
Братцам каўнярочкі,
Сёстрам рукавочкі:
— Вы й насіце, братцы, каўнярочкі,
Сёстры — рукавочкі!

Як зайду ж я ды ў чужыя людзі,
Ды ў вяліку сямейку,
Я забудусь чорным шоўкам шыці,
Золатам страчыці,
А толькі буду талоч, малоць,
Ды вадзіцу насіць,
Ды печку тапіць.

## 119б. ПАВІЛАСЯ ТОНКАЯ ПАВУЧЫНКА

Павілася тонкая павучынка
Па шырокаму полю,
Па густому жыту;
Панялася красная дзяўчынка
Шоўкам вышываці.
Вышыла яна суженьку хустачку,
А сабе, моладзе, кашуленьку.
— Ты насі, суженька, хустачку,
А я, млада, кашуленьку.
Зносіш ты тую,
Вышыю табе другую,
Другую ўжо не такую,
Злотам-срэбрам выштапую.

## 119в. ПАВІЛОСЯ БЕЛА ПАВУЧЫННЕ

Павілося бела павучынне
Па чыстаму полю,
Павілося.
Дасталося да мне маладзенькай
Ліхое замужжа,
Дасталося.
Я ўмела чытаці, пісаці,
Шоўкам вышываці,
Я ўмела.

Дасталася нявернаму мужыку
Да ліхому свёкру,
Дасталася.
Забылася чытаці і пісаці,
Шоўкам вышываці,
Забылася.

### 120. ОЙ, РАНА, РАНА

Ой, рана, рана
На лес раса пала,
Раса сцюдзёная.
У-у-у!
Ой, раней таго
Маладая ўставала,
Расіцу аббівала.
У-у-у!
Як угледзеў
А мой жа міленькі,
На коніку седзячы.
У-у-у!
— Ты ж, мілая,
Не хадзі босая,
Раса сцюдзёная.
У-у-у!
— Мой міленькі,
Калі табе жалка,
Купі чаравічкі.
У-у-у!
— Ты ж, мілая,
Калі ж будзеш мая,
Куплю табе двое.
У-у-у!
Куплю табе двое,
Казловы абое.
У-у-у!

## 121. БАДАЙ ТАЯ КРУТА ГАРА

Бадай тая крута гара
Марненька прапала,
Я пад ёю жыта жала
Вячэраньку сцірала.
Пасцірала вячэраньку
І цяпер і ўчора,
Ой, штось мая міленькая
Смутна невясёла:
Чы ворагі прыслужылі,
Чы ліхія людзі,
Што з нашага каханечка
Нічога не будзе.

## 122. АЙ, ДА БОКАМ, ХМАРАЧКА, БОКАМ

Ай, да бокам, хмарачка, бокам,
Бокам, хмарачка, бокам,

А да на панскія сенажаці,
На панскія сенажаці.

Ай, да там парабкі сена косяць,
Там парабкі сена косяць,

А да й яны ў бога дажджу просяць,
Яны ў бога дажджу просяць:

— А да й нанясі, божа, валачок,
Нанясі, божа, валачок,

А да й няхай аддыша наш бачок,
Няхай аддыша наш бачок.

## 123. ОЙ, ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Ой, пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.
А ў тым лузе нікагенька,
Толькі ціхі салавейка.

Салавейка на яліну —
Мой міленькі на Ўкраіну,
Салавейка на дарозе —
Мой міленькі ў дарозе.
— Зляці, зляці, салавейка,
Із яліны аж да дому,
Прыедзь, прыедзь, мой міленькі,
З Украіны аж дадому.
Салавейка не злятае,
Мой міленькі прыязджае.

## 123а. ОЙ, ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Ой, пайду я каля луга,*
Шукаючы свайго друга.
Няма ў лузе нікагенька,
Толькі ціхі салавейка.
Салавейка на каліне,
Мой міленькі на Ўкраіне,
Салавейка цяжка дыша,
Мой міленькі лісты піша.
Зляці, зляці, салавейка,
З каліначкі на далочку.
— Не злячу, зязюлечка,
З каліначкі дадолу,
Не вярнуся, мая мілая,
З Украіны дадому.

## 123б. ОЙ, ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Ой, пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.
А ў тым лузе нікагенька,
Адно толькі салавейка.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Салавейка на бярозе,
А мой мілы ў дарозе;
Салавейка на каліне,
А мой мілы на Украіне,
Салавейка свішча-грае,
А мой мілы п'е-гуляе:
Салавейка — з птушачкамі,
А мой мілы — з дзевачкамі,
Салавейка — з песенькамі,
А я, млада, — з слёзанькамі.

### 123в. ПАЙДУ Я ПА КРАЙ ЛУГА

Пайду я па край луга,
Шукаючы свайго друга.
Няма ў лузе нікагенька,
Адно адзін салавейка,
Салавейка на бярозе,
А мой мілы ў дарозе.
— Ізлінь, злінь, салавейка,
З бярозы да й нізенька.
— Не зліню, бо высока,
Не вярнуся, бо далёка.

### 124. ЗАКАЦІЛАСЬ ЖАРКА СОНЦА ЗА ДУБРОВУ

Закацілась жарка сонца за дуброву,
Люлі, люлі, люлюшанькі, за дуброву,
Баліць мая галовачка — хоча двору.
Я не спала, маладзёшанька, не драмала,
Я ўпусціла сакалочка з рукавочка,
Люлі, люлі, люлюшанькі з рукавочка.
Я, ўпусціўшы сакалочка, не ўлавіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, не ўлавіла,

А я свайго міла дружка разгнявіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, разгнявіла.
Разгнявіўшы міла дружка, не ўпрасіла,
Люлі, люлі, люлюшанькі, не ўпрасіла.

## 125. ПОЛЕ МАЁ, ПОЛЕ МАЁ ВЯЛІКАЕ І ВЯСЁЛАЕ

Поле маё, поле маё вялікае і вясёлае,*
Вялікае й вялікае, прыгожае й прыгожае.
Па полю іду, па полю іду — весялюся.
Па полю іду, па полю іду — красуюся.
Дамоў прыду, дамоў прыду — не шчуюся.

## 126. ПОЛЕ, ПОЛЕ РУМЯНАЕ!

Поле, поле румянае!
Радзі, божа, жыта буйнае,
Бо наша дзевачка прэнтка жне:
Сярпа ў ручкі да не бярэ,
За ёй, маладою, сноп у сноп
Сем казачэнькаў, а восьмы поп,
Дзевяты дзяцінка, што бярэ шлюб.
— Ой, попе, попе, дай нам шлюб
Да з тым дзяцінкам, што стаяў тут.

## 127. НА МОРЫ ВУТКА КУПАЛАСЯ

На моры вутка купалася,
На моры шэрая купалася,
І на беражку сушылася,
І на беражку сушылася,
А ёй селязень крылля чысціў.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Каля яе вутачкі дзівіліся.
— Не дзівіцеся вы, вутачкі,
Не дзівіцеся вы, шэрыя:
З гэтым селязнём даўно знаюся,
З гэтым селязнём мора сплыву,
Цёпла гняздзечка пакінуўшы,
Вуцянятак не вывеўшы...
Каб у садачку на крэслічку,
Тама Ніначка галаву чэшаць,
А ёй Юрачка касу пляцець.
Кала яе дзевачкі дзівіліся.
— Не дзівіцеся вы, дзевачкі,
Не дзівіцеся вы, красныя:
З гэтым малайцом даўно знаюся,
З ім ўвесь свет сыйду — назад
прыйду,
Аццa-матушку пакінуўшы,
Аццa-матушку старосенькіх,
Брата, сястру малёсенькіх.

## 128. ПА РАЦЭ, РАЦЭ ВУЦЯНІЦА ПЛЫВЕЦЬ

Па рацэ, рацэ вуцяніца плывець,*
Выша берага галовачку нясець...
Пра мяне, маладу, бясславіца ідзець,
Быццам малада любіла каго...
Сколькі мае да любасці было:
Што я старому пірог спякла
З аўсянай мукі насеянае,
Я па прыпечку пакачывала,
А я дзёгцікам памазывала...
Па рацэ, рацэ вуцяніца плывець,
Выша берага галовачку нясець,
Пра мяне, маладу, бясславіца ідзець,
Што я роўнаму пірог спякла
З пшанічнай мукі прасеянае,
Я па століку пакачывала,
А я масліцам падмазывала,
А я сахарцом падсыпывала.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 129. АХ ТЫ, СОНЦА, СОНЦА ЖАРКАЕ

Ах ты, сонца, сонца жаркае,*
Чаго рана за лес коцішся?
А за тыя лясы цёмныя,
А за тыя горы крутыя,
За прыгорачкі зялёныя?
Ах ты, дзеўка, дзеўка красная,
Твая долечка няшчасная:
Што пра цябе людзі гаворуць,
Што да цябе казакі ходзюць...
— Няхай людзі нагаворуцца
І казачанькі находзюцца:
Адзін хадзіў — ён любіў мяне,
Другі хадзіў — ён кахаў мяне,
Трэці хадзіў — ён на венчык стаў.

## 129а. ЧАГО, СОНЦА, РАНА КОЦІШСЯ?

Чаго, сонца, рана коцішся?
Па мне, маладой, не клапоцішся,
Што пра мяне людзі гаворуць,
Што да мяне казакі ходзяць?
Пушчай людзі нагаварацца,
А казакі находзяцца,
Мне падарачкі наносяцца.
Падарачкі для падманачкі,
А канфетачкі для прыметачкі,
А арэхі на прасмехі.

## 130. СВЯЦІ, СВЯЦІ, ЯСЕН МЕСЯЦ

Свяці, свяці, ясен месяц,**
Да ўсю цёмную ночку.

Да ўсю цёмную ночку,
Э, доўгую дарожку.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Даўгую дарожку
А мне к татке ў госці йсці.

А я ў таткі далёкая
Я пташачка залётная.

## 131. ШТО Й ВЫ МУШКІ, КАМАРЫКІ МАЕ

Што й вы мушкі, камарыкі мае,
Не ад кусання галава мая баліць,
Ад галоўкі бела лічанька гарыць.
Што й гарыць яно, гарыць —
Свайму гору наравіць.
Ой, і хто ж майму гору паможа,
Ой, і хто ж майго дружка угавора?
Ой, і хто ж яго з паўдарогі верне?
Ах! Вярнісь ты, мой міленькі дружок,
Пойдзем мы ў зялёненькі садок,
Там мы сядзем пад ракітавым кустом,
Пагаворым пра жыццё, быццё сваё,
Пра вялікую любоў, якава любоў на свеці цяжала,
Разлучыла нас не месяц, не зара,
Разлучыла чужа-дальня старана,
Да й Маскоўская слабада.

## 132. ЗА БІТАЮ СЛАБАДОЮ

За бітаю слабадою
Расцець жыта з лебядою,
А пшаніца з асакою.
Там Таццяна жыта жала,
У правай руцэ серп дзяржала,
А левай падбірала,
На біты шлях пазірала.

А на бітым шляшочку
Там Іванька канём едзе,
На коніку сядло ззяе,
Там Тацяна самлявала:
— Бадай цябе, Іванюта,
Перша куля не мінула,
А другая прастраліла,
Прама ў грудзі ўцэліла,
Як ты Тацюшку праздводзіў.
— Не я Тацюшку праздводзіў,
Ззяла Тацю цёмная ночка,
А 'шчэ к таму гарэлачка,
А 'шчэ к таму гарэлачка,
А ўжо Тацна не дзевачка,
А ўжо ў Тацяны дзяцінячка.

## 133. ОХ, Я ПАЙДУ ДЫ ЛЯГУ СПАЦЬ

Ох, я пайду ды лягу спаць,
Да хто ж будзе пабуджаць?
Хіба ж мяне той пабудзіць,
Да хто ж мяне верна любіць.
Ён пабудзіць паціхеньку:
— Ой, ўстань, міла, памаленьку.
Ён пабудзіць і апране:
— І спі, міла, яшчэ рана.

## 133а. ЯК ПАЙДУ Я У КЛЕЦЬ СПАЦІ

Як пайду я ў клець спаці,
То й не будзі мяне, маці.
Няхай мяне ж той пабудзіць,
Ой, хто ж мяне ж верна ж
любіць.
Ён пабудзіць ціхенька:
— Да ўставай, міла, паляжэнько,
Каб спатанькі не захацела,
Каб галованька ж не балела.

— Дайце мне загон-разгон,
Дайце мне павязнічка,
Маладога павязнічка.
Ён за мною снапка звяжа
І са мною спаці ляжа,
Снапка звяжа да й падойме,
А спаць ляжа да й абойме,
Снапка звяжа, памацуе,
Спаці ляжа — пацалуе.

## 134. ТЫ СЯЛО МАЁ, ТЫ СЯЛО

Ты сяло маё, ты сяло,
Сяло маё, сяло слаўнае,
Аб табе слава ідзець добрая!
У канцы сяла рэчка быстрая,
Рэчка быстрая, беражыстая.
На той рэчачцы дзеўка мылася,
Яна й мылася, уціралася,
Сваёй красачкай любавалася.
— Каму, красачка, ты
дастанешся?
Да ці старому, ці маладому,
Ці таму дружку роўнаму?
Калі малому ты дастанешся,
Дык я красачку ў чапцы сатру;
Калі старому ты дастанешся,
Дык я красачку ў чабаце
стапчу;
Калі ж роўнаму ты дастанешся,
Дык я красачку ў вянок саўю,
У вянок саўю і ў танок пайду.

## 135. ОЙ, МЕСЯЦУ, МЕСЯЦУ

Ой, месяцу, месяцу,
Твая зорка высока.
Хоць яна высока,
То будзе нізюсенька,
То ля мяне яснюсенька.

— Маладзенькі панічак,
Твая паненка далёка.
— Хоць яна далёка,
То будзе блізюсенька
Да ля мяне мілюсенька.

## 136. ПАРА, МАЦІ, ЖЫТА ЖАЦЬ

Пара, маці, жыта жаць,
Саломка павяла!
А і жаль мне вечарка,
Што я не гуляла!
Зачым жа я не гуляла?
Стала нездарова!
Зачым жа я нездарова?
Без дружка мілога!
Галасочак на лясочак,
Размовачка розна,
Не браніся, маменічка,
Што гуляла позна!
І дзе хаджу, дзе гуляю —
Добры розум маю!
Каля ціхага Дунаю
Мілы каня поіць,
А конь іржэць,
Вады не п'еЦЬ,
Дарожачку чуець.
Дзе мой мілы чарнабровы
Гэту ноч начуець?
Начуй, начуй, мой міленькі,
Да не засыпайся!
Да на мяне, маладую,
Ты не забывайся!

## 136а. ПАРА, МАЦІ, ЖЫТА ЖАЦІ

Пара, маці, жыта жаці,
Салома павяла.
Ой, жаль жа мне вечарочка,
Што я не гуляла.

Хоць гуляла не гуляла,
Да не была дома,
Забалела галовачка,
Стала нездарова,
Баліць мая галовачка,
Нечым завязаці.
Завяжу я галовачку
Шаўковым платочкам,
Накажу я радзімачцы
Сізым галубочкам.
А шаўковым платочкам
Галоўку не завяжыш,
А сізым галубочкам
Роду не накажаш.

## 1366. ПАРА, МАЦІ, ЖЫТА ЖАЦІ

Пара, маці, жыта жаці,
Салома павяла,
Ой, шкада мне вечарочка,
Да што я не гуляла.
Ой, шкада мне таго хлопца,
Што любіла, да згубіла,
Згубіла галасочак
Цераз цёмны лясочак,
Галасочак па лясочак,
Да да ціхага Дунаю.
Каля ціхага Дунаю
Стану каня напаваю,
Ох, конік мой вады не п'е,
Ох, дарожаньку чуе,
Ох, хто яго да й ведае,
Дзе мой мілы начуе.
Ох, начуе ж мой міленькі
Да й у стэпе пры даліне,
Прывязаўшы да конікаў
К чырвонай каліне,
А сам пайшоў да дзевачкі
Да ў пуховыя пярыны.

## 136в. ПАРА, МАЦІ, ДА ЯЧМЕНЮ ЖАЦІ

Пара, маці, да ячменю жаці —
Каласочак наліўся.
Пара, маці, дачку замуж даці—
Галасочак змяніўся.
— А няхай жа мой ды ячмень
зрэе,
Каласочак ядранее.
А няхай жа мая ды дачулечка
А жывець, разумнее.

## 137. СІЗЕНЬКІ ГАЛУБОЧАК

Сізенькі галубочак,
Да ці быў ты на сінім моры,
Да ці ведаў ты галубку?
— Як жа я не быў,
Як жа я не ведаў,
Ды на беражку седзя,
На шэру вутачку гледзя!
— Малады Іванька,
Да ці быў ты ў цёшчы,
Да ці відаў ты дзеўку?
— Як жа я не быў,
Як жа не відаў,
Ды на коніку седзя,
На красную дзеўку гледзя.

## 137а. СІЗАНЬКІ СЕЛЯЗЕНЬКА

Сізанькі селязенька,
Ці быў ты на моры,
А ці відзеў ты вутачку?
— А калі нам было быці,
А калі мне было відзеці?
Як толькі на мора ўсплыў,
Дык вутачка ў траснік пашла.

Над ёй траснік шуміць,
А пад ёй вада пляшчыць.
— Маладзенькі Міхалютка,
Ці быў ты ў цесцеткі,
Ці відзеў ты дзевачку?
— А калі мне было быць,
Калі мне было відзеці?
Як я толькі на двор уз'ехаў,
Дык дзевачка ў камору пашла.
На ёй шаты зашумелі,
Ў руках ключы зазвінелі.

### 137б. СЕЛЯЗЕНЬКА, ЦІ БЫЎ ТЫ НА МОРЫ?

Селязенька, ці быў ты на моры,
Ці відзеў вутачку?
— Чаму я не быў,
Чаму я не відзеў?
Я на беражку сядзеў,
І на вутачку глядзеў.
У мае вутачкі пер'ечка сізае,
А крыллейка быстрае.
— Маладый дзяцінка!
Ці быў у цёшчы
І ці відзеў паненку?
— Чаму я не быў,
Чаму я не відзеў,
Калі я за столікам сядзеў
І на паненку глядзеў.
Мая паненка, як папера, бела,
А ліцо румянае.

### 138. ОЙ ТЫ, СЕЛЯЗЕНЬКА

Ой ты, селязенька,
Крылушкі быстрэнькі,
Галоўка сызенька,

Праляці поле шырокае,
Жыта ядранае,
Прынясі бацькаву негу
К нялюбаму свёкру.
Што й ў свёкра мяне
Як анучкаю труць.
Свёкрава лютасць
І ў дзверы не лезе,
А бацькава нега,
Як жаркае сонейка.

## 138а. СЕЛЯЗЕНЬКА, ЦІ ВЫСОКА ЛЯТАЕШ?

Селязенька, ці высока лятаеш?
Быстры крыллі маеш?
Ці пераляціш шырокае поле,
Глыбокае мора?
Ці перанясеш таткаву негу
К свёкру на падвор'е?
— Не пералячу шырокага поля,
Глыбокага мора,
Не перанясу таткавы незі
К свёкру на падвор'е.

## 139. ОЙ, САКОЛЕ, САКОЛЕ!

Ой, саколе, саколе!
Да праляці ж маё поле,
Да й перадай маёй матачцы,
Да й перадай маёй матачцы,
Да што поле маё шырокае,
Да што жыта маё нязжатае.
— Да не журыся, дзіця ж маё,
Да я к табе да ў аўторак
Прышлю табе жнеек сорак,
Да сама прыду ў сераду,
Да сама прыду ў сераду,
Да ў сераду, што наперады.

## 140. ЗАСЕЯНА ПОЛЕ ЗАЛАТЫМ НАСЕНЕЙКАМ

Засеяна поле залатым насенейкам,
Да памошчаны масты да бітымі талерамі,
А па талеру стрэлка,
Па сто злотых дзеўка,
Каса яе па чырвонцу,
Сляза яе па златкоўцу.

## 140а. ДА ЗАСЕЮ Я ПОЛЕ

Да засею я поле
Да ясненькім золатам,
Да засцялю я лугі
Чырвоным кармазынам.
А замашчу я масты
Залатым мастоўнікам.
Будзе ехаць Валынечка,
Нашага пана дачка.
Пад ёю конькі, як галкі, лятаюць,
Каля яе служачкі, як мак, расцвітаюць.
Да ўцешыўся ягамосць, у пакоі седзячы.
Праз акенца гледзячы:
— Да хвала ж мая, хва́ла,
Што едзе мая паня.

## 141. ТЫ, СОНЦА ЖАРКАЕ

Ты, сонца жаркае, *
Чаго рана ўсходзіш?

Чаго рана ўсходзіш,
А позна заходзіш?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Беленькі малойчык
Па рыначку ходзіць,

Па рыначку ходзіць,
Дзевак выбіраіць.

Выбраў сабе дзеўку
Малу, невялічку,

Малу, невялічку,
Красну, як бруснічку.

— Ты, дзеўка-дзевіца,
Не гордай ты мною,

Не гордай ты мною,
Сваёй красатою,

Сваёй красатою,
Маёй беднатою.

### 142. АЙ, ДА ЗАКАЦІЛАСЬ ЖАРКАЕ СОНЦА

Ай, да закацілась жаркае сонца
Да за зялёны гай;
Як у том да гаёчку
Ніхто не бываў;
Толькі быў жа малады Міхайла
Да конікаў напаваў,
Ён да сваёй Хадосачкі
Да трох паслоў паслаў.
Да Хадосачка да Іванаўна,
Ай, вельмі пышна,
Да й к яго да к паслам
Да й не вышла.
— Да Міхайлачка да Васільевіч
Да невялікі пан,
Асядлае каня варанога,
Прыедзе да мяне сам.

## 142а. ЗАКАЦІЛАСЯ ДА ЯРКАЕ СОНЕЙКА

Закацілася да яркае сонейка
Да за зялёны гай.
Як у том жа зялёным гаёчку
Ніхто не бываў.
Толькі бываў да малады хлопчык,
Каней напасаў,
Ён да сваёй дзевачкі
Часта пісьмы слаў.
— Ой, хлопчык, да й родненькі,
Да й невялікі пан,
Запрагай каня варанога
Да прыедзеш сам.
Прывязі мне бочку мядочку,
А другую — віна,
Штоб твая дзевачка здарова была.

## 143. ЯК ПАЙДУ Я, ПАЙДУ

Як пайду я, пайду
Каля гародачку ў пярловым вяночку,
А там казак маладзенькі,
Канёк вараненькі.
Як стаў у мяне
Дарожкі пытаці, пярсцёнкі мяняці.
Я яму дарожкі не ўказала,
Пярсцёнка не мяняла:
— Не хачу я твайго кальца залатога
Й цябе маладога!
Лучча я буду ў свайго татулькі жыць
І пярловы вянок насіць,
Косаньку часаці, татульку ўцяшаці.

## 144. ДЫ ЧЫРВОНАЯ РОЖА

Ды чырвоная рожа
Вышы тыну стаяла,
Вышы тыну стаяла,

На яе раса пала,
На яе раса пала,
На яе сцюдзёная.
Там Ганнушка хадзіла,
Расіцу пабірала,
Расіцу пабірала,
Расой умывалася,
Расой умывалася,
Да шлюбу спяшалася.
— Паспяшай, Ганнушка,
Там цябе даўно ждалі,
Там цябе даўно ждалі:
Касцёлы паадмыкалі,
Касцёлы паадмыкалі,
Каберцы пазасцілалі,
Каберцы пазасцілалі,
Ганнушкі даждалі!

## 145. ЗАЧЫМ, ДЗЕУКА, БОСА ЖАЛА?

Зачым, дзеўка, боса жала?
— Чаравічак не мяла.
— Зачым, дзеўка, снапкі малы?
— Я цесна вязала.
— Зачым, дзеўка, копкі нізкі?
— Я ў даліне клала.
— Зачым, дзеўка, хата не бела?
— Знаці, дубовая.
— Зачым, дзеўка, сваты не сватаюць?
— Знаці, ўбогая.

## 146. ЗАЛАТАЯ МАКАУКА

Залатая макаўка,
Ці многа маку маеш?
— Ці многа ці нямнога —
Усё поле абсеяла,
Усё поле абсеяла,
І яшчэ засталося
К налеццю на насенне,
Петрачку на вяселле.

## 147. ОЙ, ДЫМНА, ДЫМНА ПОЛЕ, ДЫМНА

Ой, дымна, дымна поле, дымна.
Там мамайчык ваюе,
Па ім мамачка бядуе.
— Не бядуй, мая мамачка,
Я не адзін тут ваюю:
Сівы конь пада мною,
Гасподзь бог нада мною,
Гасподзь бог нада мною,
Востра шабля са мною,
Востра шабля са мною,
Усе таварышы за мною.

## 147а. ДА ШТО У ПОЛІ БЯЛЕЕЦЦА?

Да што ў полі бялеецца?
— Сыночак мой ваюецца.
Да ваюй, сынок, ваюй
І старога, і малога:
Салдаціка маладога
І ворага ліхога.

## 147б. ОЙ, ДЫМНА ПОЛЕ, ДЫМНА

Ой, дымна поле, дымна,
Нічога не відна:
Ці рой вылятаіць,
Ці мак зацвітаіць.
Ой, не рой вылятаіць,
Не мачок расцвітаіць.
Там Яначка ваюіць,
Па ім мамка бядуіць:
— Памажы яму, божа,
Цясцёў двор зваяваці,
Сабе Ганульку ўзяці.

## 147в. ДА Й ПАЙДУ Я У ЦЁМНЫ ЛЕС

Да й пайду я ў цёмны лес,
Да й стану я да падумаю.
Да на лужэчку цёмна, цёмна
Да нікагенькі не відна.
Толькі відна адна вайна:
Там Іванка ваюецца,
Да яго ж мамачка журбуецца.
— Да не журыся, матка мая,
Усю ж военку праваюю
Да прывяду табе нявестачку.

## 147г. ОЙ, ДЫМНА ПОЛЕ, ДЫМНА

Ой, дымна поле, дымна,
Ды не само ж яно дымна:
Там малойчык ваюе,
Па ім татка бядуе.
— Не бядуй, мой татачка,
Не адзін я ваюю,
Не адзін я ваюю.
Сівы конь пада мною,
Сівы конь пада мною,
Гасподзь бог нада мною,
Уся дружынка са мною
Да, як рой, вылятае,
Як бел мак, расцвітае,
Як чырваная рожа.
— Памажы ж яму, божа,
Цесцетку зваяваці,
Дзевачку к сабе ўзяці.
Малойчык на коніку,
А дзевачка ў пакоіку.

## 147д. ДЫМНА ПОЛЕ, ДА ЗАЧЫМ ЯНО ДЫМНА?

Дымна поле, да зачым яно дымна?
Да ці лес разгараець,
Да ці мох расцвітаець?

А ні лес не разгараець,
А ні мох не расцвітаець:
Да наш пан з вайны едзець,
Вязёць сабе паненачку
Тонкую, высокую, белую, румяную.

## 148. ЗАШУМЕЛА ЗЯЛЁНА ДУБРОЎКА

Зашумела зялёна дуброўка,
Над ракою стоя,
Забалела ў молайца галоўка
На чужой старонцы.
Некаму яму пасцелькі паслаці,
Некаму галоўкі звязаці.
Абабралася бедна сірацінка,
Красная дзяўчынка:
Яна малайцу пасцельку паслала,
Яна яму галоўку звязала.

## 148а. ЗАШУМЕЛА ЗЯЛЁНА ДУБРОЎКА

Зашумела зялёна дуброўка
Па чыстаму полю,
Забалела малойца галоўка
На чужой старонцы.
Няма ў малойца ні таткі, ні мамкі,
Ні братца-сястрыцы,
Некаму яму галоўкі звязаці
І пасцельку паслаці.
Абабралася бедная сірацінка,
Красная дзяўчынка,
Дала малойцу чорнага шоўку
Звязаці галоўку,
Дала малойцу беленькіх ніцей
Галоўку ўвіці.

## 148б. БЕДНА МАЯ ГАЛОВУШКА

Бедна мая галовушка,
Што чужая старонушка:
Не з кім стаці пагукаці,
Не з кім сесці хлеба з'есці.
Нямаш ў мяне роднай маці:
Я ж бы стала пагукала,
Я ж бы села хлеба з'ела.

## 148в. ЗАШУМЕЛА ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАЎКА

Зашумела зялёная дубраўка
А на заходзе сонца.
Ау-у-у!
Забалела ў малойца галоўка,
Што чужая старонка.
Ау-у-у!
Няма ў малойца ні таткі, ні мамкі,
Ні брата, ні сястрыцы.
Ау-у-у!
Некаму малойцу і хустачку даці,
Галоўку абвязаці.
Ау-у-у!
Абабралася чужая-чужаніца
Красная дзявіца.
Ау-у-у!
Дала малойцу чырвонага шоўку
Абвязаці галоўку.
Ау-у-у!
Каб малойца галоўка не балела,
На сэрца не ташніла.
Ау-у-у!

## 149. КАМАР ГУДЗЕ, ВЕЧАР БУДЗЕ

Камар гудзе, вечар будзе,
Мой брацейка з вайны едзе:
— Заехаў бы да ўдованькі,
Да баюся абмовенькі,

Заехаў бы да дзеванькі,
Да не маю пасцеленкі,
Заехаў бы да замужняй,
А замужняя дзіця мае,
Сама ляжыць нежывая.
— Бадай, сыне, ты не жыў быў,
Нашто ты мне псоту зрабіў?
Мая пасцель пусценькая,
Мая хата глухенькая!

## 150. НА ДВАРЭ АЗЯРО

На дварэ азяро,
А ў азярэ белы камень ляжыць,
А на камні селязень сядзіць,
А ў селязня косы доўгія,
А ў нашага Яся кудры русыя,
А хочыць ён жаніціся,
А не знаіць каго ўзяць.
Узяць цыганку— не ўмеець жаць,
Узяць мяшчанку — ручкі белыя,
А ўзяць сялянычку — яна бога хваліць:
На ніўку ідзець — богу моліцца,
Із ніўкі ідзець — богу моліцца,
Штоб ніўка падаўжэла,
Снапочкі пагусцелі.

## 151. КОЦІЦЦА КРЫШТАЛЬ

Коціцца крышталь...
Божа наш!
Коціцца крышталь па сенажаці.
Божа наш!
Маніўся сужонка дзевачку ўзяці.
Божа наш!
Маладзенька не ўмела жаці!

Божа наш!
Узяла сярпок, нажала снапок,
Божа наш!
Нажала другі, і той жа тугі,
Божа наш!
Нажала трэці, і той не дарэчы,
Божа наш!
— Не жала я ў маткі,
Божа наш!
Не буду жаць у цябе.
Божа наш!

## 152. ПАЛА РАСА НА ТРАВІЦУ

Пала раса на травіцу,
Наша матка-парадзіца
Дзевяць сынкоў парадзіла,
А дзесятую дачушку.
Яе браты калыхалі,
Калышучы, прамаўлялі:
— Люлі, люлі, сястра наша,
Спі доўга, расці скора
Сваёй маці на пацеху,
А чужой на пасылку.
Свая матка гадавала,
А чужая пасылала
У крыніцу па вадзіцу,
Ў шчыры бор па брусніцы.

## 153. ОЙ, ПАЙДУ Я ТО ТАК, ТО СЯК

Ой, пайду я то так, то сяк,
Найду я ніток маток.
Буду тыя ніткі віці,
Ў бога долі прасіці:
— Ой, дай, божа, добру долю:

Свёкарку, як бацепьку,
Свёкарку, як бацеиьку,
Свякроўку, як мацеиьку,
Дзевярка, як брацеиьку,
Ой, дзевярка, як брацеиьку,
Залоўку, як сястрычку.

## 154. ВІЛІСЯ ПЧОЛАЧКІ

Віліся пчолачкі,
Віліся каля лозачкі.
Паволі вы війцеся,
Паволі садзіцеся —
Не абламіце сучайкаў,
Не абтрасіце лісцікаў!
Віліся хлопчыкі,
Віліся малойчыкі
Каля маладой Мальвінкі.
Паволі вы, хлопчыкі,
Паволі, малойчыкі,
Паволі вы війцеся,
Паволі вы садзіцеся —
Не абламіце золата,
Не абтрасіце серабра!

## 154а. ЛЯЦЕЛІ ВУЛЕНЬКІ

Ляцелі вуленькі каля ніцай лозачкі.
Ой, паволі, вулінькі, каля ніцай лозачкі.
Не абламіце сучайка, не абабіце лісцейка!
Сядзелі паненкі каля маладой Хадоські.
Не абламіце золата, не абабіце серабра.
А золата то таткіна, а серабра то маткіна.

## 155. ДЗЯКУЙ ТАБЕ, МАЯ МАТКА

Дзякуй табе, мая матка,
Што ты мяне парадзіла
Тонкую, румяную,
Хораша ўбраную.
Ой, пайду я да касцёла,
У касцёле ксяндзоў многа:
Ксяндзы пяюць-мыляюцца,
На мяне, маладую, азіраюцца,
Што я тонкая, высокая,
Белая, румяная,
Хораша ўбраная.

## 155а. НА ЛУГУ КАСЦЫ КОСЯЦЬ

На лугу касцы косяць,
Косяць, косяць ды мыляюцца,
На мяне ўглядаюцца,
Што я тонка, высока,
Што я бела, румяна,
Хораша ўбрана,
На лугі я паслана.

## 155б. МАТКА Ж МАЯ РАДНЕНЬКАЯ

Матка ж мая радненькая,
Гадуй мяне харашэнька:
Ад суботы да суботы
Не давай мне работы,
Ад нядзелі да нядзелі
Не давай мне кудзелі.
Я пайду да касцёла,
Буду богу маліцися,
Стануць людзі дзівіціся.

Ксяндзы пяюць-мыляюцца,
Усё на мяне ўзіраюцца,
Што я тонка, высока,
Да белая, румяная,
Хораша прыбраная.

## 156. ОЙ, НЕ ЗАХАДЗІ ТЫ, ЯРКАЕ СОНЦА

Ой, не захадзі ты, яркае сонца,
Ка мне ў ваконца.
Ау-у-у!
Ой, не запякай цела́ маё бела,
А ліцо румяна.
Ау-у-у!
Маё цела бела, як пагода,
Лічка румяна.
Ау-у-у!
Ой, не заязджай, нялюбае па́друж'е,
На маё падвор'е.
Ау-у-у!
Ой, не задавай маёй маладосці
Смертнасці і жалосці.
Ау-у-у!
Ой, заедзь, заедзь, харошы, прыгожы,
На маё падвор'е,
Ау-у-у!
Прывядзі маёй маладосці
Радасці й весялосці.
Ау-у-у.

## 156а. ДА НЕ ЗАПЯКАЙ

Да не запякай
Ты, жаркае сонца,
Майго белага ліца.

Да маё ліцо
Без бяліла бела,
Без красіла красна.
Бялілечка да на моры,
Крымлечка — у каморы,
Ну-це, ну-це, шчэ папільнуйце
Вячэрняй парой,
Халадком з расой,
Сярпом — не касою.

## 156б. ТЫ НЕ ЗАБЯГАЙ, ЖАРКАЕ СОНЦА

Ты не забягай, жаркае сонца,
Наперад на постаці.
Ты не запякай, жаркае сонца,
Майго цела белага, ліца румянога.
Маё цела бела, а ліцо румянае.
Бяліла лічка ў моры,
Красіла ў каморы,
А я маладзенька і ў чысценькім полі.

## 157. А КАЛІНА-МАЛІНА

А каліна-маліна
Усе лугі пакрасіла
Да сваім белым цветам,
Чырвонымі ягадкамі.
Маладая Дар'ічка
Усех дзевак пакрасіла
Да сваім белым ліцом,
Чырвонымі каралькамі,
Дасціпнаю работкаю,
А плаўнаю паходкаю.

## 157а. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА

Чырвоная каліна
Усе лугі пабяліла
Сваім беленькім цветам,
Сваімі ягадкамі,
Буйнымі чырвонымі.
Маладая дзяўчыначка
Усіх сватоў прыкрасіла
Сваімі ўборамі,
Нізкімі ўклонамі.

## 157б. БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Белая бярозачка
Яшчэ і бялей пабялела,
Яшчэ і бялей пабялела,
Ды бялей свайго цвету
Белымі цвятамі
Усе лугі пабяліла.
Маладзенька дзевачка
Дзевяроў падарыла,
На свякроўку забыла.
— Свякроўка, мая мамка,
Я цябе дарыць буду
Ў панядзелакранічкай,
Ў панядзелак ранічкай
Тонкімі кужалямі,
Тонкімі кужалямі,
Белымі абрусамі.

## 158. ДЫ ІГРАЛА СОНЕЙКА, ДЫ ІГРАЛА

Ды іграла сонейка, ды іграла,
Нямножка іграла яснае
Ды ў хмарку схавалася:
Дождждыку збаялася.

Ды гуляла дзевіца,
Ды гуляла малада,
Нямножка гуляла,
Ў каморку схавалася:
Татулькі збаялася.
Ой, гуляй, рыба, гуляй,
Ды паверх вады ідучы,
Ды на дно не тонучы.
Як, рыба, па дну пойдзеш,
Табе жыру пабольшае,
Табе жыру пабольшае,
А гульбы паменшае.

## 158а. А ГУЛЯЛА СОНЕЙКА

А гуляла сонейка
Да па ясненькім небе.
А гуляла, гуляла,
У хмарачку хавалася:
Месяца баялася.
— Хавайся не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!
А гуляла дзяўчынка
Да па новенькім ганку,
А гуляла, гуляла,
У дзевачак хавалася:
Малайца баялася.
— Хавайся не хавайся,
Я цябе хоць дзе найду,
Я цябе к сабе вазьму!

## 159. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРАНАЧКА

Вячэрняя заранaчка, *
Як табе не цяжанька

* Першы радок кожнай строфы паўтараецца двойчы.

З сонейкам расстацiся,
З месяцам спаткацiся?

— А вось жа так расстануся,
Хмаркаю апушчуся.

Маладая дзяўчыначка,
Як табе не цяжанька

З мамкаю расстацiся,
З свякроўкай спаткацiся?

— Вось жа так расстануся,
Слёзкамi абальюся.

## 159а. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРАНАЧКА, ЦI НЕ ЦЯЖАНЬКА ТАБЕ?

Вячэрняя зараначка, цi не цяжанька табе,
Цi не цяжанька ж табе з слоненькай расстацiся,
З слоненькай расстацiся, з месяцам спаткацiся?
— Да я так расстануся: мглою апушчуся, расой аблiюся,
З слоненькай расстануся, з месяцам спаткаюся.
— Цi не цяжанька табе, малада Марвяначка,
З матулькай расстацiся, з свякроўкай спаткацiся?
— Да я так расстануся: слязамi аблiюся,
Слязамi аблiюся, з свякроўкай спаткаюся.

## 159б. I ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРАНАЧКА

I вячэрняя зараначка, *
Як табе не цяжанька,

I як табе не цяжанька
Iз соўнейкам расстацiся,
З месяцам спаткацiся.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Маладая Ніначка,
Як табе не цяжанька,

І як табе не цяжанька,
Із мамінькай расстаціся,
З свякроўкай спаткаціся.

## 160. ПАЙДУ Я ГАРОЮ, ДАЛІНАЮ

Пайду я гарою, далінаю,
Ой, чы не знайду кветанькі з калінаю.
Ой, стану ж я каліναньку ламаці,
Ой, стануць мяне думанькі ашыбаці.
Сама не знаю, што на свеце рабіці,
Чы замуж высці, ці паненкаю быці.
Замуж пашоўшы, клопат галаваньку ссушыць,
Паннаю быўшы, ліхая малва згубіць.
Кат яе бяры з чужою памоўкаю,
Лепей жа быці краснаю паненкаю.

## 161. ІШЛА ДЗЕЎКА БОРАМ, БОРАМ

Ішла дзеўка борам, борам,
Гаварыла з богам, з богам:
— А дай, божа, долю-шчасце
Зайці ў хату багатую,
А ў сям'ю харошую,
І дзе свёкар ды свякроўка,
І дзе дзевер ды залоўка!
Я свёкарка паважаць буду,
Я свякроўку шанаваць буду,
А з дзеверкам я жыць буду,
У залоўкі галасіць буду!

### 161а. ПАД ЛЕСАМ-БОРАМ

Пад лесам-борам *
Гаварыла дзеўка з богам:
— Дай жа мне, божа, долечку:
Свякруху, як мамачку,
Свякратку, як татачку,
Да залавіцу, як сястрыцу,
А дзеверку, як братку.

### 161б. ПАЙДУ МЛАДА БОРАМ, БОРАМ

Пайду млада борам, борам,
Гукаючы з богам, з богам:
Дай мне, божа, мужа купчыка!
Каб ён ўмеў купчаваці,
А я за ім панаваці:
Будзень дзень ў атласе,
У святы дзень ў чорным шоўку,
Дзеткі мае ў золаце,
У атласе жыта жаці,
Ў чорным шоўку святкаваці.

### 161в. ДА ІШЛА Я БОРАМ, БОРАМ

Да ішла я борам, борам,
Гаворачы з богам, з богам:
— Дай жа мне, божачка,
Свёкра багатага,
Свякруху разумнаю,
А мужанька-таргоўлічка,
Каб ён умеў таргаваці,
Срэбрам, злотам шахаваці,
Каб я дзела не робіла,
Хорашанька ходзіла:
У будні дзень ў атласіне,
А ў святы у залаціне.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 162. ОЙ ТЫ, ТРАЎКА-МУРАЎКА

Ой ты, траўка-мураўка,
Чаму ж ты не зеляна?
— Як жа мне зялёнай быць,
Мяне дзеўкі стапталі,
Да цэркаўкі ходзячы,
Пана бога просячы:
— Дай жа, божа, мілога,
Мілага шчаслівага,
Свёкарку багатага:
Ў аксаміце жыта жаць,
У золаце пагуляць.
Нямнога жыта жала,
Нямнога пагуляла
І золата пагубляла.

## 162а. А ТРАЎКА-МУРАЎКА!

А траўка-мураўка!
А чаму ж ты не зелена?
— Як жа мне зялёнай быць?
Мяне дзеўкі стапталі,
Да цэркаўкі ходзючы,
Пана бога просючы:
— Дай, божа, доленьку,
А дай, божа, шчасцейка:
Свёкра багатага,
А свякроўку ласкаваю,
Ды каб упіла, уела
Ды добра ухадзіла:
Будзень дзень пад дудкаю,
Святы дзень пад скрыпкаю,
Ў аксаміце ячмень жаці,
А ў золаце панаваці.

## 163. ОЙ, ГУКНУЛА СЫРАЕЖКА

Ой, гукнула сыраежка
Да чырвонага рыжка:
— А мой жа ты, чырвон рыжку,
Вазьмі мяне, сыраежку,

Бо я бору высокага,
Карэння глыбокага!
Ой, гукнула дзеўчынонька
Да свайго малойчыка:
— А мой жа ты малойчыку,
Вазьмі мяне, дзеўчыноньку,
Ой, я роду вялікага,
Баценькі багатага!

## 163а. ХВАЛІЛАСЯ СЫРАЕЖКА

Хвалілася сыраежка *
Ды рыжку бараваму:

— Ой ты, рыжку мой, рыжку,
Вазьмі мяне, сыраежку.

Я й бору вялікага
І гаю зялёнага.

Хвалілася Марылечка
Іваньку маладому:

— Ой ты, Іванька мой, Іванька,
Вазьмі мяне, маладзеньку,

Я й двору вялікага,
Татулькі багатага.

## 163б. ГАВАРЫЛА СЫРАЕЖКА

Гаварыла сыраежка
Чырвонаму рыжку:
— Ой, рыжку мой, рыжку,
Вазьмі мяне сыраежку,
А я бору вялікага і дубровы зялёнай.
Гаварыла Кацярынка
Міламу Адамку:
— Вазьмі мяне, мой Адашка,
Да я бацькі багатага
І маткі разумнай.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 163в. СЯДЗІЦЬ РЫЖКО ПРЫ ДАРОЗЕ

Сядзіць рыжко пры дарозе,
Суравежка пры бярозе.
— А мой, чырван рыжку,
Вазьмі мяне, суравежку,
Бо я кола шырокага,
А кораня глыбокага...
— А мой жа ж ты панічыку,
Вазьмі ж мяне, паненачку,
Бо я роду вялікага,
Бо я бацькі багатага.

## 164. І МАМЕНЬКА, МАЯ КВЕТКА

І маменька, мая кветка,
А-а-эй, і маменька, мая кветка,
Не аддавай замуж улетку,
Да аддавай жа мяне ўзімку,
А-а-эй, да аддавай жа мяне ўзімку.
Я за зімку збяру сілку,
Я за зімку збяру сілку,
А-а-эй, я за зімку збяру сілку
На свякраткіну ніўку,
Бо свякраткіна ніўка
А-а-эй, бо свякраткіна ніўка
Вяліка і ўрадліва.
А я жнучы патамлюся,
А-а-эй, а я жнучы патамлюся,
Прыду дамоў наплачуся.
А майго таткі ніва,
А-а-эй, а майго таткі ніва,
Хоць вяліка, неўрадліва.
А я жнучы не ўтамлюся.
А-а-эй, а я жнучы не ўтамлюся,
Прыду дамоў напяюся.

18. Зак. 713

## 164а. МАЯ МАМКА, МАЯ КВЕТКА

Мая мамка, мая кветка,
Не аддавай мяне ўлетку,
Да аддавай мяне ўзімку,
Штоб сабрала сабе сілку
На свёкраву дзесяцінку,
Бо ў свёкра поле далёкае,
А загоны шырокія,
Азяроды высокія,
А падпоры жалезныя,
А жнеечкі маладыя.
Я з імі не сажнуся
Да з загонам астануся.

## 164б. МАМКО, МАЯ КВЕТКА

Мамко, мая кветка,
Не аддавай мяне ўлетку,
А аддавай мяне ўзімку,
То я збяру сілку,
То я збяру сілку
На свёкраву ніўку.
У майго свёкра жыта густа,
А ў мяне сілы пуста,
У майго свёкра жыта дабро,
Пераломіць маё рабро.

## 164в. ОЙ, МАМКА МАЯ, АДДАЙ МЯНЕ ЗАМУЖ

Ой, мамка мая, аддай мяне замуж, *
Не 'тдавай мяне, мамка, за паповага сына,
Аддай мяне, мамка, за старцава сына.
А поп будзе пакуваць,
А я буду кукуваць.
Старац торбай патрасаець
І яешню пакрашаець...
— А ўстань, мая міла,
Ўжо яешня прастыла.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 164г. КАЛІ ЎЗРАСТУ, УЗРАСТУ

Калі ўзрасту, ўзрасту,
Пайду замуж за старасту,
А староста багат, багат,
Купіць мне сукню і кабат.
А ў кабаці жыта жаці,
У сукенках танцаваці.
Я й жыцечка не дажала,
Я й сукеначкі падрала.

## 164д. ДА Й ГУЛА Ж ПЧОЛКА, ГУЛА

Да й гула ж пчолка, гула,
Да й гудучы паляцела.
Аддаў мяне мой бацюхна
За каго я не хацела.
— Мой жа бацюхна-кветка,
Не аддавай мяне ўлетку,
Да й аддай мяне ўзімку,
Штоб сабрала сабе сілку
Да й на свёкраву ж ніўку.
Майго свёкара ніўка
Да далёкая і шырокая,
Ручкі ж мае кароткія
Да й сярпочкі ж мае нявострыя,
Да яны ж будуць жалезныя.
Да ў майго бацюхны ніўка
Да вузенькая ж, блізенька,
Да й сярпочкі ж мае востранькія,
Бо яны ж будуць сталёвенькія.

## 165. КРУГЛА МАЛА

Кругла мала, *
Раю, раю, балоцічка,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Там хадзіла,
Раю, раю, малодзічка,

А сеяла,
Раю, раю, расу-красу:

— Расці ж мая,
Раю, раю, каса-краса,

А тонкая,
Раю, раю, высокая,

Каранiстая,
Раю, раю, глыбокая,

А на лісце,
Раю, раю, шырокая!

Як я з татам,
Раю, раю, жыці буду,

Паліваці,
Раю, раю, цябе буду,

А як стану,
Раю, раю, у свякрутунькі,

А [redacted] з корнямі,
Раю, раю, цябе вырву!

А выкіну,
Раю, раю, на вуліцу.

Няхай цябе,
Раю, раю, коні стопчуць,

А мальчыкі,
Раю, раю, расцягаюць.

А конікі,
Раю, раю, капытамі,

А мальчыкі,
Раю, раю, чабатамі.

А конікі,
Раю, раю, гарцуючы,

А мальчыкі
Раю, раю, танцуючы!

## 165а. НАДЫКАЛА БАЛОЦЕЧКА

Надыкала балоцечка,
У серадзіне вароцечка,
Там дзяўчына хадзіла,
Руту-мяту садзіла:
— Расці, расці, рута-мята,
Тонкая высокая,
Лісцейкамі шырокая.
Як была я ў свайго бацькі,
Дык садзіла, палівала,
А цяпер, як у свякратка,
То пасяку, парубаю,
На дарогу пакідаю:
Няхай цябе быдла стопча,
Дробны дождж дык спалошча.

## 165б. МАЛА, КРУГЛА БАЛОЦЕЧКА

Мала, кругла балоцечка,
Там хадзіла малодачка,
Сеяла красу сваю,
Сеючы гаварыла:
— Расці, расці, краса мая,
Тонкая высокая,
Каранямі глыбокая,
Лісточкамі шырокая!
Як я ў мамачкі буду,
Дык я цябе палоць буду,
Як застануся для свякроўкі,
Я цябе з каранём вырву,
Цераз тын перакіну.
Няхай цябе валы з'ядуць,
Няхай цябе коні стопчуць.
Валы з'ядуць палавыя,
Коні стопчуць вараныя,
Валы з'ядуць бушуючы,
Коні стопчуць гарцуючы.

## 165в. А АКАЛА БАЛОЦІКА

А акала балоціка
Там хадзіла маладая,
Сеяла расу-красу,
Баравыя васілёчкі:
— Расці, мая раса-краса,
Баравыя васілёчкі.
Калі ў татухны буду,
Паліваць вас прыду.
Калі к свёкарку пайду,
Дык з карэньчыкам парву.

## 165г. КАЛЯ ЛЕСУ ТУМАН-ТУМАН

Каля лесу туман-туман, *
А на полю пагоданька,

Там гуляла малоданька.
Сеяла расу-красу:

— Расці, мая раса-краса,
Тонкая, высокая,

Тонкая, высокая,
Лісцейкам шырокая.

Як я малада замуж пайду,
Я ж цябе сарву...

## 166. КАЛЯ ЛЕСУ ТУМАН, ТУМАН

Каля лесу туман, туман, **
Мой міленькі румян, румян.
Каля лесу пагодачка,
Мой міленькі — ягодачка.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.
** Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 167. НАКУКУЙСЯ, ШЭРА ЗЯЗЮЛЬКА!

Накукуйся, шэра зязюлька!
Да на белай бярозе.
Як паляціць шэра зязюлька
У шчырыя бары,
Мінецца ж тваё ранняе кукуванне,
А позняе вылятанне.
Накрасуйся, малада дзяўчынка,
Ў сваёй мамулькі.
А як зайдзеш ты да ў чужыя людзі,
Мінецца ж тваё белае ўмыванне.

## 168. НЕ ШУМІ, ДУБРОВА

Не шумі, дуброва,
Не шумі зялёная,
А люлі, люлюхны,
Не шумі зялёная.
Не журы мяне,
Мая мамка родная,
А люлі, люлюхны,
Мая мамка родная.
Пажурыць, набраніць
Ды свякровачка ліхая,
А люлі, люлюхны,
Ды свякровачка ліхая.
Мамачка пажурыць —
Ніхто не пачуіць,
А люлі, люлюхны,
Ніхто не пачуіць.
А свякровачка пажурыць —
На ўвесь свет асудзіць,
А люлі, люлюхны,
На ўвесь свет асудзіць:
— Ай, мая невестачка лянівая,
А люлі, люлюхны,
На работу лянівая:

А ў поле ідзець,
А люлі, люлюхны,
Галовачку клоніць,
Галовачку клоніць,
Сярпок з рукі роніць,
А люлі, люлюхны,
Сярпок з рукі роніць.
Постацечку гоніць —
Сярпок з рукі роніць,
А люлі, люлюхны,
Сярпок з рукі роніць.
А мая дачушка
Гожа і прыгожа,
А люлі, люлюхны,
Гожа і прыгожа.
На работачку ідзець —
Дарожачка стогнець,
А люлі, люлюхны,
Дарожачка стогнець.
Сярпок ў руках звоніць,
Ой, люлі, люлюхны,
Сярпок ў руках звоніць.

## 168а. НЕ ЖУРЫ МЯНЕ, МАЯ МАМАЧКА

Не журы мяне, мая мамачка,
Ай, лёлі, лёлі, мая мамачка родная,
Пажурыць мяне свякровачка ліхая,
Ай, лёлі, лёлі, свякровачка ліхая.
Мамачка пажурыць, а пасля пажалееabsorb,
Свякровачка пажурыць — на ўвесь свет асудзіць,
Ай, лёлі, лёлі, на ўвесь свет асудзіць:
— Мая невястачка санліва, драмліва,
Ай, лёлі, лёлі, санліва, драмліва,
Санліва, драмліва і на работу ляніва,
Ай, люлі, лёлі, і на работу ляніва.
А ў поле ідзець — галовачку клоніць,
Ай, люлі, лёлі, галовачку клоніць,
Пастатачку гоніць — сярпок із рук роніць,
Ай, лёлі, лёлі, сярпок із рук роніць.

А мая дачушка і вумна, і разумна,
Ай, лёлі, лёлі, і вумна, і разумна.
Яна ў полечка бяжыць, дык зямелечка дражыць,
Ай, лёлі, лёлі, зямелечка дражыць,
А пастатачку гоніць — сярпок ў руках звоніць,
Ай, лёлі, лёлі, сярпок ў руках звоніць.

## 169. НА ЦІХІМ ДУНАІ

На ціхім Дунаі
Два кані ваду пілі,
Два кані ваду пілі,
А п'ючы гаварылі:
— Сягоння пашы няма,
А заўтра дарожачка,
Паедзем на Украіну
Па зялёную скрыню,
Не скрыню — камодачку,
Дзяўчыну-малодачку.

## 170. ЖЫТА ЖАЛА КРАСНАЯ ДЗЯЎЧЫНА

Жыта жала красная дзяўчына
У васільковым вяночку залатым сярпочкам.
Ды прыехаў мешчанін-дваранін на вараным кані:
— Кідай, дзяўчына, залаты сярпочак на жытні снапочак,
Мы паедзем лужком-беражком, калінавым мастом,
Там мы знойдзем пасцелі з пухоў і пярыны.
— Не вучыла мяне родна мамка белу пасцель слаці,
Ды вучыла мяне тонка прасці,
Беленька бяліць,
Беленька бяліць, у трубачку качаць.

## 171. ШЭРАЯ ЗЯЗЮЛЬКА, НЕ ЛЯТАЙ ТЫ ПА ДУБРОВЕ

Шэрая зязюлька, не лятай ты па дуброве,
Не садзіся на бярозе пры дарозе:
Пры дарозе стралкі ходзяць,
Яны ж цябе забіць хочуць.

— А я стральцоў не баюся,
Я перайкам апушчуся
І ў голейка схаваюся.
Красная Ганначка, не хадзі па мясцечку:
Па мясцечку сваты ходзяць,
Яны цябе сватаць хочуць.
— А я сватоў не баюся,
Між дзевачак схаваюся.

## 172. І БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

І баравая цяцера, *
І чаго з бору ляцела,
На сенажаці села,
Скрыллейка апусціла,
Саколіка прыўчыла?
— А ён сам ка мне прывык.
І на маё пер'е глядзіць,
І на маё пер'е жаркае.
І маладая дзеванька
Хлопчыка прывучыла.
— Не я яго прывучыла,
А ён сам ка мне прывык.
І на маё ліцо глядзіць,
І на маё беленькае —
Ён на маю радню зважыў,
Маю радню багатую.

## 172а. БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

Баравая цяцера
На сенажаці села,
Скрыллейка апусціла,
Селязеньку прыўчыла.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Не я яго прыўчыла,
А ён сам ка мне прывык:
Ля мяне блізка сядзеў,
На маё пер'е глядзеў,
На маё пер'е глядзеў,
На маё рабенькае.
Маладая дзевачка Ганначка
Малойчыка прыўчыла.
— Не я яго прыўчыла,
А ён сам ка мне прывык:
Ля мяне блізка сядзеў,
На маё ліцо глядзеў,
На маё ліцо глядзеў,
На маё беленькае.

## 173. ВЫХВАЛЯЛАСЯ НЕПРАЎДЗІВАЯ КАЛІНА

Выхвалялася непраўдзівая каліна,
Казала: — Цвісці не буду,
Белага цвету не пушчу,
Сільных ягад не зараджу.
Як прыйшла пара, зацвіла,
Беленькі цвяток пусціла,
Сільныя ягадкі зарадзіла.
Выхвалялась непраўдзівая Мар'ічка,
Казала:— Замуж не пайду
І маладога Івана не злюблю.
Як прышла пара, дык пашла,
Маладога Івана злюбіла.

## 173а. ПАХВАЛІЛАСЯ ЧЫРВОНА КАЛІНА

Пахвалілася чырвона каліна,
У лузе стоячы:
— Ніхто мяне не бярэць
Без сечы, без меча.
Як зачуў, пачуў
Ціхі дробны дождж ык:

— Не выхваляйся, чырвона каліна,
Я цябе ссяку без сечы, без мечы.
Выхвалялася маладая Мар'ічка
Ў свайго роднага таткі:
— Ніхто мяне не возьмець
Без піва, без мёду,
Без вялікага роду.
Як зачуў, пачуў
Маладзенькі Іван:
— Не выхваляйся, маладая Мар'ічка,
Ў свайго роднага таткі!
Я цябе вазьму без піва, без мёду,
Без вялікага роду.

## 173б. ПАХВАЛЯЛАСЯ КАЛІНА, НАД РАКОЮ СТОЯ

Пахвалялася каліна, над ракою стоя,
Сваім беленькім цвяточкам,
Сваёй краснай ягадаю.
— Не пахваляйся, каліна,
Сваім беленькім цвяточкам,
Сваёй краснай ягадаю:
Як я была ў свайго таткі,
Бялей была твайго цвету,
Як я была ў сваёй мамкі,
Красней была тваёй ягады!
Як засталась злому духу-мужыку,
Узяў мяне як ягаду,
Узяў мяне як вішаньку —
Ссушыў мяне як ліпаньку.

## 173в. ВЫХВАЛЯЛАСЬ ДЫ ЧЫРВОНА КАЛІНА

Выхвалялась ды чырвона каліна,
Ды сярод лугу стоя:
— Ды ніхто ж мяне не ссячэць
Без сеча, без меча, без вострае сякеры.

Як зачулі ды буйныя ветры ды дробныя дожджы:
— Не выхваляйся, ды чырвона каліна, ды сярод лугу стоя:
Ссячом цябе без сеча, без меча, без вострае сякеры!
Выхвалялась маладая Тацянка:
— Ніхто ж мяне не возьмець
Без піва, без мёду, без горкае гарэлкі.
Як зачулі ды два дваране,
Як зачулі ды два маладыя:
— Не выхваляйся, маладая Тацянка:
Возьмем цябе без піва, без мёду, без горкае гарэлкі.

## 174. МІЖ ГОР, МІЖ ГОР

Між гор, між гор
Бяроза зялёна стаяла,
Вецейкамі махала.
А на той бярозе
Салавейка шчабечыць,
Салавейка шчабечыць,
Усю праўду кажыць:
Што не быць свякроўцы
Лучшы роднай мамкі
І не быць свёкру
Лучшы роднага таткі.

## 175. ДА НЕ БУДЗЕ КАЛІНА

Да не будзе каліна,
А-а-эй, да не будзе каліна
Салодкая, як маліна.
Да не будзе свякроўка,
А-а-эй, да не будзе свякроўка,
Як родная маці.
Будзе дзела загадаваці,
А-а-эй, будзе дзела загадаваці,
Да не будзе спагадаваці.

## 176. У БАРКУ, У БАРКУ, У ПРЫБОРКУ

Ў барку, ў барку, ў прыборку,
Рабіў малойчык каморку.
Прыйшла да яго дзевачка:
— Памажы, божа, малайцу
Гэту каморку рубіці!
Рубі каморку нізенькаю,
Высякай ваконца вышанькае,
Каб да нас салаўі ляталі,
Каб нас рана пабуджалі!
Свякроўка не матка — будзіці не будзе,
Сваю нявестку абсудзе:
— Ляніва нявестка, ляніва:
Сонца не зайдзе — спаць пойдзе,
Сонца ў ваконца — не ўстане,
У хаце работкі не знайдзе,
Выйдзе на вулку — гуляе.

## 176а. ОЙ, ВЫСОКА, ДАЛЁКА

Ой, высока, далёка *
Салавей гняздо віець,

Да павышай за яго
Ванечка дамок строіць.

Аконца напроць слонца,
Ганачак на рыначак.

Ганачак на рыначак,
Выбіраць паненачак.

Выбраў сабе паненачку
Белую, румяную.

Белую, румяную
Галечку каханую,

Тонкую, высокую,
Багатую, далёкую.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 176б. ОЙ, БОРКУ, БОРКУ ПРЫ БОРКУ

Ой, борку, борку пры борку
Чэшыць Яська каморку,
Прыйшла Марыська глядзеці:
— Чашы, міленькі, гладзенька,
Пушчай акенца нізенька,
Каб салавейкі ляталі,
Нас маладзенькіх збуджалі.
Чужая мамка не ўзбудзіць,
Выйдзіць на вулку абсудзіць.

## 177. НА ТЫНЕ, НА ТЫНЕ

На тыне, на ныне, *
На тым частаколе

Сядзела галубачка
Па калені ў золаце.

Малады Міхаська
Узяў тую галубачку,

Пасадзіў пад шубачку
І панёс дахатачкі,

Папытаўся ў мамачкі:
— Мамачка родная,
Ці міла нявестачка?

— А міла, сынок, міла,
Табе яшчэ мілей.

Для мамкі на час слуга,
А табе на век жана.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 177а. ОЙ, НА ТЫНКУ, НА ТЫНОЧКУ

Ой, на тынку, на тыночку
Сядзела галубачка,
Залатая галовачка.
Туды ехаў дзяцінка,
Зняў з тыну галубачку
І павёз яе да бацькі.
— Пазволь, бацька, жаніціся!
— Едзь да круля, найміся
І розуму набярыся,
Розуму каралеўскага
І поезду паненскага:
З розумам кругляваць будзеш,
У поездзе канаваць будзеш.

## 177б. НА ТЫНЕ, НА ТЫНЕ

На тыне, на тыне,
На новым частаколе
Сядзела галубачка
Па каленцы ў золаце.
Маладзенькі малойчык
Улавіў галубачку,
Улавіў галубачку,
Прынёс дахатачкі,
Пасадзіў на лавачцы,
Пахваліўся мамачцы:
— Паглядзі, матулечка,
Ці міла галубачка?
— Ці міла, ці няміла,
Яна мая слуга будзе,
А твая жана будзе.
Яна мне на час слуга,
А табе навек жана.

## 177в. А НА ТЫНЕ, НА ТЫНЕ

А на тыне, на тыне
На новым частаколе
Сядзела галубачка
Па калені ў золаце,
Па калені ў золаце,
Скрыллейка ў аксаміце.
А прыйшоў бел-малойчык,
Улавіў галубачку,
Улавіў галубачку,
Пасадзіў пад шубачку,
А прышоў у хатачку,
Пахваліўся татачку.
Пасадзіў на лавачцы,
Пахваліўся мамачцы:
— А мамачка, мамачка,
Ці рада галубачкай?
— Давольна не давольна,
Мне, сынок, на раз слова.

## 178. КАЛЯ САДУ, КАЛЯ ВІШАННЯ

Каля саду, каля вішання,
Ходзіць голуб з галубкаю;
У галуба залатая галава,
У галубкі пазалочаная,
Чорным шоўкам прыустрочаная.
Едзіць Ваня і дзівіцца:
— Перайдзі, мая галубка, на маю старану!
— Я б і рада перайці — пераходу не найці:
Цераз рэчку перайці — цветна плацця замачыць,
Па дарожке прайці — ліцо бела запаліць,
Па масточку перайці — маставога заплаціць.

## 179. РАСТРАСІ, БОЖА, БРАТНЮЮ КОПКУ

Растрасі, божа, братнюю копку
Па полі да па каласочку,
Як растрос маю русу косу
Па плячах ды па валасочку.

19. Зак. 713

Збяры, божа, свашчыну копку
Па ніве да па каласочку,
Як ён маю русу коску
Сабраў па плячах да па валасочку.

## 179а. ПАВЕЙ, ВЕЦЕР, ДАРОГАЮ

Павей, вецер, дарогаю
За мною, маладою,
Развей маю косу русу
Па плячах па воласу,
Ой, па плячах па воласу,
Бацेньку на жаласць.
Мой бацेнька жалуецца,
Свёкарка радуецца:
— Узяў сабе нявестачку,
У хату ахвотначку:
Ой, у хаце ціха ходзіць,
На полі хутка робіць.

## 179б. ПАВЕНЬ, ПАВЕНЬ, ВЕТРЫКУ

Павень, павень, ветрыку,
Да на маю русу косу,
Па плечкам, па воласу.
Няхай мая каса мае,
Няхай мая доля йграе.
Няхай людзі дзівуюцца,
Што сірата красуецца.

## 180. ПАВЕЙ, ПАВЕЙ, БУЁН ВЕЦЕР

Павей, павей, буён вецер,
Па чыстаму полейку,
Па зялёнай дубровухны!
Павянь, павянь, рута-мята,
Без ветрыку, без дождыку!

Буён вецер павявае,
Ка мне млоды наязджаюць,
Маёй мамкі дакучаюць,
Мяне, маладу, заручаюць:
Што дзянёчак — то сваточак,
Што нядзелька — то гарэлка.

## 180а. ПАВЕЙ, ПАВЕЙ, БУЙНЫ ВЕЦЕР

Павей, павей, буйны вецер, *
Да па чыстаму полю,

Да па сіняму мору,
Ды па шырокім раздоллі!

Павянь, павянь, траўка-мята,
У гародзе стоя.

— Як я магу павянуці?
Буйны ветрык павяваіць,
Дробны дождж ык паліваіць!

— Гуляй, гуляй, Кацярыначка,
Ў свайго роднага таткі!

— Як я магу гуляць пайці,
Калі мой мілы на двор едзіць?

Ён на двор едзіць,
Вароцікі расчыняіць,

Вароцікі расчыняіць,
З роднай мамкай разлучаіць,

З роднай мамкай разлучаіць,
Русу косу расплятаіць,

Русу косу расплятаіць,
Белы чапец надзяваіць,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

19*

Белы чапец надзяваіць,
І хустачкай абкрываіць,

І хустачкай абкрываіць,
Ў роднай мамкі адбіраіць.

## 180б. ПАВЯНЬ, РУТА-МЯТА

Павянь, рута-мята,
Ў гародзе стоючы,
На пагоду гледзючы.
— Як я маю павянуць?
Дробны дажджы паліваюць,
Ціхі вятры павяваюць.
А красуйся, Марынка,
У свайго роднага таткі,
У сваёй радзімай мамкі.
— Як я маю красавацца?
На двор едуць баяры,
Руцяны венчык знімаюць,
А саболлю шапаньку надзяваюць.
А вяночак вяніць,
А галоўку клоніць.

## 180в. ДА КРАСУЙСЯ, КРАСАЧКА

Да красуйся, красачка,
Ў гародзе стоячы!
— Як стану я красавацца,
У гародзе стоячы?
На мяне буйны ветрык,
На мяне дробны дождж ык.
Красуйся, Ліксандрачка,
У свайго роднага таткі!
— Як я магу красавацца
У свайго роднага таткі?
Што дзень сваты наязджаюць,
Майму татку дакучнічкі,
Мне, маладзе,— разлучнічкі.

## 180г. ПАВЕЙ, ПАВЕЙ, БУЯН-ВЕЦЕР

Павей, павей, буян-вецер,
Па чыстаму полю,
Павянь, павянь, рута-мята,
У гародзе стоя.
— Як я магу павянуці,
Калі дожджык паліваець,
Буйный вецер павяваець?
Гуляй, гуляй, Куліначка,
У роднага таткі!...
Як я магу гуляці?...
Што дзень сваты наязджаюць,
Татку з маткай дакучаюць,
Татку з мамкай у карчму
вядуць!

## 181. НЕ СЯЧЫ САСНЫ

Не сячы сасны, бо пахіліцца,
Не давай дачкі, бо зажурыцца.
Падсеклі сасну — пахілілася,
Аддалі дачку — зажурылася.
Як я ў бацькі была, красавалася,
Да свёкра прышла, змарнавалася,
Я ў бацькі была, то як дзень была,
Да свёкра прышла — журба з'ела за гадзіначку,
Як буйны вецер лебядыначку.

## 181а. НЕ СЯЧЫ, МОЙ ТАТУЛЬКА

Не сячы, мой татулька,
Пры дарозе бярозы,
Не палі, мой брацейка,
У лужочку травіцы.
Не бяры, мая матулька,
У крыніцы вадзіцы,
Не шчыплі, мая сястрыца,
У садочку цвяточкаў.

Пры дарозе бяроза —
Я сама, маладзенька,
У лужочку травіца —
Мая руса касіца,
У садочку цвяточкі —
Мае ясныя вочкі,
У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі.

## 182. АКРУЖЫУСЯ МЕСЯЦ

Акружыўся месяц
Каля яснага сонца,
І запытаўся месяц
Да ў яснага сонца:
— Сонейка ясненькае,
Калі мне ўсходзіць?
— Жджы, месяцу, жджы і
не ўсходзь.
Я за лес закачуся,
Я расой абальюся.
А запытаўся сын ў таткі:
— Ці пазволіш жаніцца?
— Жджы, сынок, не жаніся,
Розуму набярыся,
Розуму сусецкага,
Тавару купецкага.
Кружыўся месяц
Каля яснага сонца.

## 182а. ОЙ, ПЫТАУСЯ МЕСЯЧЫК

Ой, пытаўся месячык
У яснага сонейка:
— Ці скора мне усходзіць?
— Ой, пажджы ты, не ўсходзі, } 2 разы
Дай мне за лес спусціцца.

Ой, пытаўся Васілька
У роднага татачкі:
— Ці скора мне жаніцца?
— Пагадзі, не жаніся, } 2 разы
Розуму набярыся,
Розуму айцоўскага, } 2 разы
Гонару шляхоцкага.

## 183. ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАЧКА

Зялёная дубровачка,
Чаго й рана зашумела?
— А як жа мне не шумець?
— Маладая Тамарачка,
Чаго й рана заплакала?
— А як жа мне не плакаць?
У мяне ўчора сваты былі.
Мой татуленька не адказваіць,
Не адказваіць, прыказваіць:
— Прыязджайце, сваты мае,
А ў суботу з гарэлкаю,
А ў нядзелю за дзеўкаю.

## 183а. БЕДАВАЎ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН

Бедаваў зялёны лён,
Пры дарозе стоячы:
— Ой, бяда ж мая, бяда,
Што сцюдзёная вясна:
Не дала мне вырасці,
Майму семю выспеці!
Бедавала дзяўчыначка,
Ў таткі гуляючы:
— Ой, бяда ж мая, бяда
Ды з частымі сватамі:
Не далі мне вырасці,
Русай коскі выплесці!

## 183б. ГАВАРЫЎ НАШ ЗЯЛЁНЫ ЛЁН

Гаварыў наш зялёны лён,
Ў чыстым полі стоячы:
— Ах вы, людзі дзіўныя,
Нашто рана выбралі?
Не далі мне выспеці,
А на сонцы вызраці!
Гаварыла Дунюшка
Сваёй роднай мамке:
— Што рана сваты прышлі?
Не далі мне вырасці,
А вума вынесці!

## 184. ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА КАЛІНАЧКА Ў ЛУЗЕ

Зелена, зелена каліначка ў лузе,
Яна зелена зломлена.
Хто ж яе зламаў?
Салавейкі, верабейкі — усё мелкія пташкі.
Молада, молада Арыначка ў бацькі
Яна малада заручана.
Хто ж яе заручыў?
Повен двор паноў-сватоў — усё дзіўныя баяры.
Прыехалі к ёй на вараным канёчку
Ў маляваным вазочку,
З маладым паранёчкам,
Пасадзілі ў вазочак
З маладым паранёчкам.
Павезлі яе ўсё лугамі, берагамі,
Калінавым мостам.
Прывезлі ў сяло вялікае
К багатаму ка двару.
Да й вышлі ж к ёй
Свёкар і свякруха,
Залоўкі-лютоўкі,
Дзевярочкі-браточкі,
Сталі яе вітаць і пытаць
Ужо прахадэнаць:

— Ці ўмееш, Арыначка,
Чорным шоўкам шыць
І золатам вышываць?
— Я не ўмею чорным шоўкам шыці
І золатам вышываці,
Толькі й умею,
Ядронае жыта жаці,
Ў копачкі класці.

## 184а. НЕ ЛАМАЙЦЕ КАЛІНАЧКІ Ў ЛУЗЕ

Не ламайце каліначкі ў лузе,
  Каліначкі зеляноі,
Не аддайце дзевачкі вы, людзі,
  Дзевачкі маладоі.
Паламалі каліначку ў лузе,
  Каліначку зеляную,
Да аддалі дзевачку ў людзі,
  Дзевачку маладую.

## 184б. ДА ХТО ЗАЛАМІЎ

Да хто заламіў
Ў полі калінку недаэрэлую,
Хто ж заламіў?

Да хто ж заручыў?
Маладу Галінку недарослую,
Да хто ж заручыў?

Заламілі ды буйныя ветры
Да дробныя дажджы,
Заламілі.

Заручылі малады малойцы,
Маладзюсенькія,
Заручылі.

## 184в. ЯК ПАЙДУ Я ЛУЖКОМ, БЕРАЖКОМ

Як пайду я лужком, беражком,
Калінавым мостам, як пайду я.
Ой, заламлёна ў лузе калінка,
Недазрэлая заламлёна.
Хто заламіў у лузе калінку,
Недазрэлую, хто заламіў?
Ой, заламіў ды буйненькі
ветрык
І дробненькі дожджык заламіў.
Ой, заручона малада Ганначка,
Недарослая заручона.
А хто ж заручыў маладу
Ганначку,
Недарослую, хто заручыў?
Ай, заручыў яе князю малады
На коніку вараным, заручыў яе.

## 185. ДА ГУЛЯЙ, РЫБА, ГУЛЯЙ

Да гуляй, рыба, гуляй
Па ціхаму Дунаю.
Да мінецца гулянне,
Як пойдзеш на возера:
Там вады паменшай,
А рыбы пабольшай,
Там табе будзе пагоршай.
Да гуляй, дзеўка, гуляй,
Як ў свайго бацэнькі.
Прызабудзеш гуляці,
Як пойдзеш да чужога:
Там сям'і пабольшай,
Там табе будзе пагоршай.

## 186. ЗАЛАТАЯ ЖУКОВІНКА, ДА ДЗЕ Ж ТЫ КУПАВАНА?

Залатая жуковінка, да дзе ж ты купавана?
— Купавана ж я ў Вільні, прывезена ў новай скрыні.
— Маладая малоданька, да дзе ж ты гадавана?

— Гадавана я ў матульні, прывезена да свякрухны.
— Маладая малоданька, а дзе ж табе лепей будзе?
— Добра было мне ў матулі, а ў свякрухны лепей будзе:
Я ў матулі вянкі віла, а ў свякрухі чапцы шыла,
У матулі руцвяныя, а ў свякрухі ніцяныя,
А ў матулі квяцістыя, а ў свякрухі вячыстыя.

## 187. КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЕЧКА

Кукавала зязюлечка,*
Па саду лятаючы:
— Сады мае зялёныя,
Вішні мае чырвоныя,
Я не год, не два вас ждала,
За адзін дзень абклявала.
А плакала Волечка,
Па скрыні качаючысь:
— Скрыня мая цясовая,
Дары мае бялёвыя,
Я не год, не два вас ткала,
За адзін вечар парэзала
І за адно ранне пааддавала.

## 187а. КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЕЧКА

Кукавала зязюлечка,
Каля саду лятаючы,
Каля саду лятаючы,
З садамі гукаючы:
— Сады мае зялёныя,
Яблачкі чырвоныя.
Гадкі два я вас ждала,
Ўсяго адзін дзень паклявала.
Ой, плакала Волечка,
Каля скрыні ходзячы:

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Скрыня мая зялёная,
Гадкі два цябе клала,
Гадкі два цябе клала,
За адзін вечар прагуляла.

## 188. ТЫ, БАРАВАЯ ЗЯЗЮЛЯ

Ты, баравая зязюля,
Чаму ў бары не кукуеш,*

Чаго ў наш сад прылятаеш?
— Як мне ў бары кукаваці?

За сасонкамі не відаці,
За ёлкамі не чуваці.

Маладая Галіначка,
Чаму ў мамкі не плачаш,

Чаго да нас прыехала?
— Як жа мне ў мамкі плакаць?

За дзевачкамі не чуваць,
За хлопчыкамі не відаць.

## 188а. БАРАВАЯ ЗЯЗЮЛЕЧКА

Баравая зязюлечка,
Што нягромка кукуеш?
— Не чуць за барамі,
За пташкамі-салаўямі.
Маладая Зосечка,
Што няжалка плачаш?
— Не чуць мяне
За скрыпкамі, за цымбаламі.
За скрыпкамі, за цымбаламі,
За маладымі за баярамі.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 188б. БАРАВАЯ ЗЯЗЮЛЕНЬКА

Баравая зязюленька,*
Што нягулка кукуеш?
— Хоць я гулка кукую,
Ды не чуць за барамі,
За цёмнымі лясамі,
За шэрымі салаўямі!
Пайду я ў далінку
Умыюся калінкаю,
Уватруся шырынкаю,
Ад каліны пакраснею,
Ад шырынкі пабялею.

## 189. А БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

А баравая цяцера,
Ой, рана, рана, цяцера,
Чаго ты з бору ляцела,
Ой, рана, рана, ляцела?
Ці ў бары жыру не мела,
Ой, рана, рана, не мела?
— Ой, ў бары жыру даволі,
Ой, рана, рана, даволі.
Болей не будзе ніколі,
Ой, рана, рана, ніколі.
— А маладая дзяўчына,
Ой, рана, рана, дзяўчына,
Чаго ты замуж хацела,
Ой, рана, рана хацела?
Ці ў мамкі гульбы не мела,
Ой, рана, рана, не мела?
— У мамкі гульбы даволі,
Ой, рана, рана, даволі,
Болей не будзе ніколі,
Ой, рана, рана, ніколі!

---

* Першы і чацвёрты радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 189а. БАРАВАЯ ЦЯЦЕРА

Баравая цяцера,
Чаго ты з бору ляцела,
Ці табе ў бары надаела?
Ў бары ягадкі салодкі,
Ў бары крыніца-вадзіца,
Ў бары ягадкі сытныя,
У бары вадзіца пітная!
Маладая дзевачка,
Чаго ты замуж хацела,
Ці табе ў маткі надаела?
— Ў маткі падвор'е вузенька,
Ў маткі гулянне блізенька!
Ў свякроўкі падвор'е шыранька,
Ў свякроўкі гулянне далёкае!

## 190. ЛЕТА Ж МАЁ, ЛЕЦЕЙКА

Лета ж маё, лецейка,
Ўжо я твая не жнеечка!
Мамка мая, матуленька,
Ўжо я твая не служачка,
А таго ж я служачка,
З кім на каберцы стаяла.

## 191. У АРЭХАВЫМ ЛЕСЕ

У арэхавым лесе,
На ліповенькім кусце
Салавей песню пяець.
Ён жа песеньку пяець —
Усю праўду гаворыць:
— А ў каго дачок многа,
Ў таго таржок дома.

Ой, таргуюць, таргуюць,
Мамцы ручкі цалуюць.
А ў каго сыноў многа,
Там што дзень вайна дома.
Ой, ваююць, ваююць —
Татку плечкі раўнуюць.

## 192. КРУГЛА МАЛА БАЛОЦЕЧКА

Кругла мала балоцечка
Поўна вады налітое,
Поўна гусей наляцела.
Але не адны гусі —
Ёсць лебядзі,
Ёсць лябёдкі.
Ды нізка, мала Вінцуська.
Хоць яна нізка, мала,
Ды ёсць шчаслівая:
Поўна гасцей наехала.
Не адны госці — ёсць сватові,
Ёсць сватові, ёсць сваціцы.
Бяда мая, бяда,
Што дом пры дарозе,
Што дзень — сват ў парозе,
Не даюць мне вырасці,
Ні касіцу выплесці.

## 192а. КРУГЛА МАЛА

Кругла мала *
Балоцейка.
Ды хоць яно
Кругла мала,
Але яно ўрадзіла:
Наляцела, наляцела
Поўнае гусей.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Не адны гусі
Серыя,
Ды ёсць лебедзь
Белая.
Нізка мала
Дзяўчыначка.
Ды хоць яна
Нізка мала —
Шчаслівая:
Наехала, наехала
Поўна сватоў,
Не адны сваты —
Ёсць свацейца.

### 192б. СІНЯЕ АЗЁРАЧКА

Сіняе азёрачка,
Чаго рана затанула?
— Як жа мне не тануці?
Наляцелі шэры гусі
Й беражкі абтапілі,
Наляцелі шэры гусі,
Беражкі абтапілі
І вадзіцу замуцілі.
Маладая Манечка,
Чаго ж ты зажурылася?
— Як жа мне не журыцца?
Наехалі чужаземцы,
Майго татку ўпаілі,
Наехалі чужаземцы,
Майго татку ўпаілі,
Маю мамку абманілі
І мяне заручылі.

### 192в. А СІНЯЕ ВАЗЁРАЧКА

А сіняе вазёрачка,
Чаго рана замуцілася?
— А як жа мне не тануці?

Наляцелі сізы гусі,
Крыллямі ваду замуцілі.
Маладая Кацярынка,
Чаго смутна, невясёла?
— А як жа мне вясёлай быць?
Наехалі чужы людзі,
А татачку ўпаілі,
Мяне, маладу, ўгаварылі,
З сабой на воз пасадзілі.

## 192г. КРУГЛА МАЛА БАЛОЦЕЙКА

Кругла мала балоцейка,*
Да хоць яно малюсенька,

Да хоць яно малюсенька,
Ў ім пташак паўнюсенька.

Адны пташкі адлятаюць,
А другія прылятаюць.

Дробна, мала Марусенька.
Да хоць яна малюсенька,

Да хоць яна малюсенька,
Ў яе сватоў паўнюсенька.

Адны сваты ад'язджаюць,
А другія прыязджаюць.

## 193. НЕ СТОЙ, СОНЦА, У БАРУ

Не стой, сонца, у бару,
Не сушы нам да явару:
Нам явару многа трэба.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Будзем явар пілаваці,
Будзем явар пілаваці,
Будзем касцёл будаваці,
Будзем касцёл будаваці,
Пару дзетак да вянчаці,
Пару дзетачак вянчаці:
Адно й дзіця радзонае,
А другое — суджонае.

## 193а. ЗАКАЦІСЯ, СОНЕЙКА

Закаціся, сонейка,
Да за бор бордзенька,
Да за бор зялёненькі,
Да за сад вішнёвенькі,
За высокае неба,
За зялёнае дрэва.
Будзем дрэва сеч-рубаці,
Будзем царкву будаваці.

## 194. СТАЯЛА ПШАНІЦА ПРЫ ДАРОЗЕ

Стаяла пшаніца пры дарозе,
Стаяла, гаварыла:—Мой божа!
Дадзела, дадзела стоячы
Пад гэтым каласочкам ядраным,
Пад гэтым зернеткам залатым.
Стаяла дзевачка пад вянцом,
Стоячы гаварыла:—Божа мой!
Дадзела, дадзела стоячы
Пад гэтым вяночкам руцвяным
Да з гэтым дзяцінкам маладым.

## 195. РАЗГУЛЯЛАСЯ СОЎНЕЙКА НА НЕБЕ

Разгулялася соўнейка на небе,
Развесялілася Тадоркава жана
ў доме,
Сынкі гадуючы,
Дочкі любуючы:
— Дочкі мае, дочкі —
Мяккія пярыначкі,
Сынкі ж мае, сынкі —
Дарагія падарачкі,
Любыя нявехначкі.

## 196. ДА ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА

Да вячэрняя зара
Перахожая была:
Перайшла ад месяца,
Стала ля сонейка.
Як стала, зацвіла.
Маладая дзевачка
Адышла ад мамачкі,
Стала да свякровачкі:
— Свякроўка мая,
Мамка мая,
Ці буду табе міла,
Як ў сваёй мамкі была.

## 197. ЗАРА Ж МАЯ ВЯЧЭРНЯЯ

Зара ж мая вячэрняя,*
Чаго рана зарадь стала,
Мяне, месячка, не даждала?
— А я ждала, не даждала,
Мяне, зару, тучкі 'бнялі,
Тучкі 'бнялі, дажджы пайшлі.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 198. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРАНАЧКА

Вячэрняя зараначка,
Ці табе не цяжанька
З сонейкам разлучыціся,
З месячкам спаткаціся?
Маладая ўдованька,
Ці табе не цяжанька
За другога замуж ісці,
Малых дзетак злучаці?

## 199. ДА ПРАЗ ДВОР, ПРАЗ ДУБРОВУ

Да праз двор, праз дуброву
Вязе Ясь сваю Касю
У маляваным вазочку,
А ў руцвяным вяночку.
Вох, сустрачаюць Яся
Да семсот казачэнькаў:
— Ці нам Касю даеш,
Ці сам на шабелькі йдзеш?
— Ой, я вам Касі не дам,
Сам на шабелькі йду.
Сталі Яся рубаці,
Як матылькі лятаці.
Кася стаіць, ручкі ломіць,
Ручкі ломіць, слёзкі роніць.
— Ой, цыц, Кася, не плач, наша,
Да ў нас Ясяў не з так веле,
Так, як лісця на дрэве.
— Хоць іх будзе і з так веле,
Так, як пяску на земе,
Да не будзе мне такога,
Над Ясенька маладога.

## 200. ПАШЛА ДЗЕВАЧКА З ПАУНОЧЫ ПА ВОДУ

Пашла дзевачка з паўночы па воду
Да кінула ковар на ціхі Дунай,
А сама прыпала к шырокай дарозе,
К шырокай дарозе, к бітаму гасцінцу.

— Ой, поле, поле, да не таткі майго,
Дарожанькі мае невядомыя,
Суседачкі мае незнакомыя!
Заплакала дзевачка ў новай святліцы,
Прылажыўшы галоўку на белае ложа.
Да зачуў дзяцінка плачучы:
— Не плач, дзевачка, не плач, маладая,
Пойдзеш, маладзенькая, ў поле жыта жаць,
Тагды ж будзеш суседачкі па імені зваць.

## 201. ОЙ, НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕНЬКА РАБАЯ

Ой, не кукуй, зазюленька рабая,
Бо ў мяне матунька чужая.
Будзе мяне рана будзіці
Сырую пшаніцу малоці.
Крупна, матанька, мучыца,
Сырая была пшаніца.

## 202. БЯДА МЯНЕ ПАБЯДЗІЛА

Бяда мяне пабядзіла.
Чужой маткі не ўгадзіла
Ні ў паходзе, ні ў рабоце,
А ні ў ежы, ні ў адзежы:
Кладзець спаткі пазнёшанька,
Будзіць мяне ранёшанька,
Шлець на ніўку цямнёшанька,
Даець хлеба скарушачку
Ды поліўкі ў гарнушачку:
— А жні, шэльма, не ляніся,
Ад постаці не вярніся!

## 203. МАЙГО ТАТАЧКІ ЖЫЦЕЧКА ПАХІЛІЛАСЯ

Майго татачкі жыцечка пахілілася,
Ай люлі, жыцечка пахілілася,
А я, малада, на чужым замарылася,
Ай люлі, на чужым замарылася.
Дварочку прыду — няродны татачка,
Ай люлі, няродны татачка,
Няродны татачка, няродная мамачка,
Ай люлі, няродная мамачка.
Ёсць каму пажурыці, некаму пажалеці,
Ай люлі, некаму пажалеці.
— Драмліва нявестка, драмліва нябога,
Ай люлі, драмліва нябога.
Нябога драмліва, на работку ляніва,
Ай люлі, на работку ляніва,
Постатачку гоніць і з рук сярпок роніць,
Ай люлі, з рук сярпок роніць.

## 204. А У САКОЛА ЗАЛАТЫ ПЁРА

А ў сакола залаты пёра,
А ў паванькі косы.
Ой, не зажыла жадна нявеста
Ў свёкарка раскошы.
Ходзіць свёкарка па новых сянёх,
Нявесту прабуджае:
— Ой, устань, нявесто, устань маладая,
Ужо трое куры пяюць.
Нявеста ўстала, цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала:
— Ой, цяпер жа я, маладзенькая,
Ў няволеньку папала.
Ой, як я была ў сваго баценька,
То таго не знала,
Куры не чула, зораў не знала,
Работа пароблена.

А як я пашла та й да чужога,
Да свякорка сваёга,
Куры пачула, зоры пазнала,
Работа не рабёна.
Куры пачула, куры пачула,
Пасучы і мелючы,
Зоры падняла, зоры падняла,
Рана па ваду йдучы.

## 205. ЗАРАДЗІЛА МЯНЕ Й МАМАНЬКА

Зарадзіла мяне й маманька
Не ў шчаслівы дзень — у пятніцу,
Пасылаюць мяне, маладу,
Ў ціхі Дунай за вадою,
Босую, праставалосаю і ў адной рубашоначке.
Увідала родна маманька:
— Зайдзі ка мне, маё дзіцятка!
Абвяжы маю касыначку.
— Не зайду я к табе, маманька,
Не зайду я к табе, родная:
Муж раўнівы ля каліткі стаіць,
А свёкар у вакно глядзіць.
Прыхаджу я на Дунай-раку.
Адкуль узяліся гусі-лебедзі?
Замуцілі ваду светлую.
Я не адзін там час прастаяла
І многа ўрэмяні праплакала.
Размахнула я ваду шырако
І пачарпнула глыбако.
Іду, малада, — на мяне муж коса глядзіць,
А свёкар грозна крычыць,
А заловушка-лябёдушка смірна гаворыць:
— Радзімы мой татанька!
Паглядзіце на яе ліцо.
Вы яе ўзялі як малінінку,
А ссушылі як ссугліцына.

## 206. НАШТО МЯНЕ МАМАЧКА ДА НА ГОРА НАРАДЗІЛА

Нашто мяне мамачка да на гора нарадзіла,
Да на гора радзіла, малалетняга жаніла,
Што ўзяла жа мне дружыначку не па абытчыку,
Не па абытчыку майму, не па розуму свайму.
На пасцелечку сцелець — сваю долю праклінаець,
На ўзгалованьку кладзець — цяжалейшанька ўздыхаець,
На спацечкі лажыцца — да сільненька плачыць,
Да сільненька плачыць, сваю долю праклінае:
— Ой, ці ты, мая доля, ці на агні жа пагарэла,
Ці на агні жа пагарэла, ці на вадзе патанула,
Ці на вадзе патанула, ў цёмным лесе заблудзіла?
Ці на агні жа пагарэла, памінаць яе нада,
Ці на вадзе патанула, яе шукаць нада,
У цёмным лесе заблудзіла, яе гукаць нада.

## 207. ОЙ, Я, САЛАДАТАЧКА, ДЫ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я, саладатачка, ды жыта жала,
За дзень спіначкі не разгінала,
Ой, за дзень палоску дый я не зжала,
Дый пры месячку я зажынала,
А свякровачка не спагадала,
А з ліхой лаянкай мяне спаткала:
— Можа, дзень ў баразне ты праляжала,
А ў вечар мо з кім дый прашаптала.

## 208. ЖУРЫЦЦА РОДНАЯ МАЦІ

Журыцца родная маці:
— Дзесь маё дзіцятка
Горку долю мае,
Да й па полю лятае,
Каласочкі збірае,
І ў снапочкі вяжа,
Да і ў копкі складае.

## 209. ДА УЖО СОНЕЙКА ПАД ДУБКОМ, ДУБКОМ

Да ўжо сонейка пад дубком, дубком,
Добра жаці нам, ой, ды халадком.
Ды ўжо сонейка за лес коціцца,
Мне да матанькі ў госці хочацца.
Дзе мяне мама будзе спатыкаць,
Чым мяне мама будзе частаваць?
Частуе мяне мёдам ды віном,
Вось як хораша ў мамкі за сталом.

## 210. БЕДНА МАЯ ГАЛОВАЧКА

Бедна мая галовачка,
Што чужая старонaчка:
Няма брата, ні сястрыцы,
Не з кім стрэцца, гаварыці.
Прыхінуся я к явару,
Прыхінуся к зялёнаму.
Яворачка — мой татачка,
Яворачка — мой брацейка
Шуміць, гудзіць, не гамоніць,
Да зямелькі вецце клоніць.
Бедна мая галовачка,
Што чужая старонaчка:
Няма брата, ні сястрыцы
Не з кім стрэцца, гаварыці.
Рабіначка — мая мамачка,
Рабіначка — мая сястрычка
Шуміць, гудзіць не гамоніць,
Да зямелькі вецце клоніць.

## 210а. БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАЧКА

Баліць мая галовачка,
Што чужая старонaчка:
Ніхто са мной не гавора,
Ні свёкар, ні свякроўка,
Ні дзевер, ні залоўка.

Стану я пад бярозкай,
Бярозка не мамка,
Шуміць, грыміць, не гамоне,
Слоўца мне не прамове.

## 211. ГОРА МАЁ НЕМАЛАЕ

Гора маё немалае,
Ніхто мяне не жалуе:
Ні татка, ні мамка.
Шлюць у прочкі
Проці ночкі
Даганяць каня варанога,
Вознічка маладога.
— А татачка мой родненькі,
Вараны конік із'ездзіцца,
Павознічак ў двор вернецца.

## 212. ОЙ, ПАЙДУ Я НА ГОРАЧКУ

Ой, пайду я на горачку,*
Пакачу іголачку.

Кацíся, іголачка,
Кацíся, залатая

К свякроўцы пад аконца.
Паслухай, іголачка,

Паслухай, залатая,
Што свякроўка гавора:

Ці аб цябе, залатую,
Ці аб мяне, маладую.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 213. САКАТАЛА СОНЕЙКА

Сакатала сонейка,
За лес заходзячы,
Плакала нявестачка,
Пад сяло падходзячы:
— А скажыць дома маці,
Што я не нажалася,
Толькі наляжалася.

## 213а. СВАРЫЛАСЯ ЧУЖАЯ МАЦІ

Сварылася чужая маці,
Чаго рана дамоў ісці.
— Не сварыся, чужа маці,
Заўтра буду пазней жаці,
Буду зарой дамоў ісці,
Па месячыку снапкі насіць,
Па звёздачках копкі лічыць.

## 213б. САКАТАЛА СОНЕЙКА

Сакатала сонейка,
Ды за лес заходзячы,
Плакала нявестачка
Пад сяло падходзячы:
— Журыць, дурыць свёкарка,
Што рана дамоў прышла,
Што рана дамоў прышла,
Не вячэраўшы нашла
Лыжачкі нямытыя,
Пасцелькі нясланыя.
— Не сварыся, татулька,
Другі раз пазней прыду,
Павячэраўшы найду
Лыжачкі памытыя,
Пасцелькі пасланыя.

## 213в. ЗАГУЛЯЛАСЯ СОНЦА

Загулялася сонца,*
Да за лес заходзячы,

Рассварыўся свёкарка,
Што рана дамоў прышла,

Што рана дамоў прышла,
Не вячэраўшы знайшла.

— Не сварыся, свёкарка,
Я заўтра пазней прыду
І вячэраўшы знайду.

## 214. РАСЦЕ ТРАВА БЕСКАРЭННАЯ

Расце трава бескарэнная,
А я, малада, бязродная.
Толькі ў мяне роду,
Што адзін свёкар.
Біць, журыць мяне ёсць каму,
Пажалець мяне некаму.
Свёкарка, родны татухна!
Пажалей мяне хоць ты трошачкі!
Свёкарка жалее — вожжычкі бярэ,
Мяне больна б'е.
Набіўшы больна, сам ў пір пашоў;
У піру сядзіць, выхваляецца:
— Добра біць чужое дзіця,
Чужое дзіця не супорліва,
Яно ў спор не йдзець, не 'тбіваецца,
Толькі слёзкамі абліваецца.
Ой, даў жа мне свёкар кралі,
Кралі добрыя.
— Нявестухна, ты дзіця маё,
Насі кралі, не развязывай;
Цярпі гора, не расказывай!
— Свёкарка, родны татухна,
Панасіўшы кралі, развязаць трэба,
Пацярпеўшы гора, расказаць трэба.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 215. ОЙ, ЗА БОР СОНЦА ДЫ ЗА БОР

Ой, за бор сонца ды за бор,
Ой, да за гай зялёненькі,
Ой, да за сад вішнёвенькі.
Ой, наказаў брат сястрыцы
Салаўём галасненькім:
— Сястра мая радненькая,
Не жыві ў нелюбосці,
Да не церай маладосці.
Ой, бо вялікая туга
Маладосці ўнімае
Дый красу з лічка сцірае.

## 216. А У РОЎНЫМ ПОЛІ САД ЗЯЛЁНЕНЬКІ

А ў роўным полі сад зялёненькі,*
А ў тым садочку два салавейкі,
Салавейкі два — песенка адна.
У мяне, маладой, брацейка адзін,
І той жа да мяне ў госцейкі не йдзець.
Калі і прыдзець, дык не начуіць,
А калі заначуіць, то й перасудзіць.
Блізка акенца спаці лажыцца,
Часта ў акенца ён паглядзіць,
Белага свету ён дажыдаіць.
— Дай бог, дай бог белага свету,
Устань, сястрыца, дамоў паеду.
— Падажджы, брацейка, майго абеду,
— Дзякуй, сястрыца, я так заеду.

## 217. ОЙ, ДА ЎПАЛА ГАЛЕНА

Ой, да ўпала Галена
Да аб сыранькую зямлю.
— Вох, мой моцненькі божа,
Вох, дзе ж я буду начаваць,
Вох, вячэраньку вячэраць?

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Вох, учуў мой да ойчанька,
Вох, учуў да мой родненькі.
— Ой, ідзі да мяне, доньку,
Да мяне ноч начаваць
Да вячэраньку вячэраць.
— Я не пайду ночы начаваць
І вячэранькі вячэраць.
Ой, пайду я дадоманьку
Ліхога мужа прысыпаць!
— Ой, прыспі жа яго, доньку,
Каб на векі не выспаўся.
— Ой, не кляні, мой ойчаньку,
Не кляні на маго друга,
Ой жа, кляні таго свата,
Вох, што ён мяне да сватаў,
Ой, да ў ліхую хату,
Да ў вяліку дружыну.

## 218. АЙ ВЫ ГУСІ, ГУСІ ШЭРЫЯ

Ай, вы гусі, гусі шэрыя,*
Ці не з мае вы стараны?
Калі з мае вы стараны,
То ляціце ў маю старану,
Накажыце майму татачку,
Ці я тута запрададзена,
Ці я замуж аддадзена.
Калі я тут запрададзена,
Няхай мяне выкупляюць,
Калі замуж аддадзена,
Няхай мяне адвядаюць.

## 219. ЦЕРАЗ БОР ДАРОЖАЧКА

Цераз бор дарожачка, **
Шэры гусі ляцелі,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Летучы гаварылі
Аб салодкі маліны:

— Няма смачнейшых ягадак,
Як у бару маліны,

Няма мілейшай гасціцы,
Як дачушка ў матулі.

Як матулечка памрэць,
Дык дарожачка зарасцець

Дубнячком, бярэзнічкам,
Маладым алешнічкам.

## 219а. ПРАЗ БАРЫ, БАРЫ, ЛЯСЫ

Праз бары, бары, лясы
Шэры гусі ляцелі,
Летучы гаварылі:
— Няма лепшай ягадкі,
Як сунічанька ў мяжы,
Як брусьнічанька ў бары;
Няма лепшай госціцы,
Як дачушка ў матачкі.
А як матачка памрэ,
Ды дарожка зарасце
Ельнічкам, бярэзнічкам,
Зялёненькім арэшнічкам.

## 220. ДА УЖО СЛОНЕЙКА

Да ўжо слонейка
За лес коціцца,
Мне да матулі
Ў госці хочацца.

Да ўжо слоненька
Закацілася,
Я ў мамачкі
Нагасцілася.
Да ўжо слоненька,
Як талерачка,
Я ў матулі
Як паненачка.
Да ўжо слоненька,
Як падушачка,
Я ў матулі
Як дачушачка.

## 220а. ДА УЖО СЛОНЕНЬКА

Да ўжо слоненька
За лес коціцца,
Мне да матулі
У госці хочацца.
Да ўжо слоненька
Закацілася,
Я й у мамачкі
Загасцілася.
Мяне матуля
Пераймаць будзе,
Зялёным вінам
Частаваць будзе.

## 221. ОЙ, ШТО У ПОЛІ ШУМІЦЬ, ГУДЗЕ?

Ой, што ў полі шуміць, гудзе?
Дачка к мамцы ў госці ідзе.
Што ж яна за гасцінчык нясе?
— Віннае яблычка.

А на тым яблычку тры славечкі напісаны.
Першае славечка: дзень добры,
Мая мамка,
Другое — ці здарова маё дзіця?
Трэцяе — бывай, мамка, здарова.

### 221а. А ШТО У ПОЛІ ГУДЗЕ?

А што ў полі гудзе?
Вялікі пасол ідзе:
Дачка да маткі шле
Залатыя тры яблычкі,
Да на тых яблычках
Да тры словы напісаны.
Першае словачка:
Добры дзень, мая матачка;
Другое словачка:
Ці жыва, ці здарова, матачка?
Трэцяе словачка:
Аставайся здарова, матачка!

### 222. А ШУМЕЛА, ГУДЗЕЛА

А шумела, гудзела *
Да сасоначка ў бару.

А гуляла, буяла
Да свякровачка ў піру.
А гуляўшы, буяўшы,

Яна дворачку пашла
Да й прычыначку нашла

Да на большага сына,
Да на большую нявестачку:

— Ах ты, сынку, мой сынку,
Ты пабі сваю жынку...

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 223. ТЫ ЗАРА МАЯ, ЗАРА

Ты зара мая, зара,
Ты заранячка мая,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Ты заранячка мая.
Ты раненька усходзіш,
Далёшанька свеціш,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Далёшанька свеціш:
Цераз лес, цераз поле,
Цераз сіняе мора,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Цераз сіня мора.
Цераз сіня мора
Толькі кладачкі ляжаць,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Толькі кладачкі ляжаць.
Яна гнецца не гнецца,
Ды не зламаецца,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Харашо з мілым жыць,
Жыць не стошніцца,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Жыць не скушніцца,
А разгаворчыста,
Ай, люлі-люлюшанькі,
Разгаворчыста.

## 224. ЯК ПАЙДУ Я ПА ДУНАЮ

Як пайду я па Дунаю,*
Як рыбачка, пагуляю,
Як зайду я ў бяседу,

* Кожны радок пяюць 2 разы, потым другую частку кожнага радка таксама пяюць 2 разы як прыпеў: «Па Дунаю, па Дунаю», «Пагуляю, пагуляю» і г. д.

А ў бяседзі стары сядзіць,
На каленях гуслі дзяржыць.
Яго гуслі лубяныя,
Яго смычок — пянькі пучок,
Як ударыць, дык не йграіць,
Мае ногі скакаць не йдуць,
Мае ногі плясаць не йдуць...
Як пайду я па Дунаю,
Як рыбачка, пагуляю,
Як зайду я ў бяседу,
А ў бяседзі роўны сядзіць,
На каленях гуслі дзяржыць,
Яго гуслі залатыя,
Як ударыць, дык зайграіць,
Мае ногі скакаць ідуць,
Мае рукі плісаць пайдуць,
Мае рукі плісаць будуць!

## 225. МІЛЕНЬКІ МОЙ

Міленькі мой,
Родненькі мой,
За што мяне б'еш,
За што караеш?
Ты ж не купляў,
Ты ж не спраўляў,
Ты мне спаднічкі,
Ты мне рабыя.
Куплялі мне,
Спраўлялі мне
Пруднікі, шорнікі,
Канавалы, шапавалы,
Яшчэ тыя райцы,
І калекі старцы,
Увесь мір хрышчоны,
І поп свяшчоны,
Родненькі мой.

## 226. ОЙ, ЧУЦІ ЯК ЗАЧУЦІ

Ой, чуці як зачуці,
Кліча маці вячэраці:
— Ой, хадзі, доню, дадому,
Не заляцайся другому
Ды не жыві ў нелюбосці,
Ды не губляй маладосці.
Табе мілы другі будзе,
А маладосці не будзе.
— Ляжыць мілы, як пень гнілы,
А я над ім, як дзень белы.
Ляжыць мілы, як калода,
А я над ім, як ягода.

## 227. ЯК БЫЛА Я МАЛАДА

Як была я малада,
Каліны ламала.
Ой, каліна-маліна,
А-а-ай, ой, каліна-маліна,
Не стой над вадой,
А-а-ай, не стой над вадой,
Не раўнуйся са мной.
Трэба было раўнавацца,
А-а-ай, трэба было раўнавацца,
Як я была ў свайго таткі,
А-а-ай, як я была ў свайго таткі,
Была бялей твайго цвету,
А-а-ай, была бялей твайго цвету,
Была красней ягад тваіх.
А цяпер я у чужога,
А-а-ай, а цяпер у чужога,
Ў свякраткі ліхога.
Усё беліва пагубіла,
А-а-ай, усё беліва пагубіла,
Красу сваю пацярала.
Стала тонка, як былінка,
А-а-ай, стала тонка, як былінка,
А бела, як зімінка.

## 227а. АЙ, КАЛІНА-МАЛІНА

Ай, каліна-маліна,*
А не стой пад гарою,
Не раўняйся са мною.

Было тады раўнавацца,
Як я ў таткі жыла,

Як я ў татухны жыла,
Як мачанька, цвіла.

А як мак пры гароду,
Я й вялікага роду,

Я й вялікага роду
І багатага бацькі
І разумнай жа маткі.

## 227б. ТЫ КАЛІНА ДА ЧЫРВОНА

Ты каліна да чырвона,
Да не стой над вадою,
Не хіліся цецівою
Да не раўнуйся ты са мною.
Тагды твая роўня была,
Як у бацюхна жыла:
Да бялей твайго цвету,
Чырвоней тваіх ягад,
Да як рожа ў гародзе,
Як пралеска ў балоце.

## 227в. ОЙ, КАЛІНА-МАЛІНА

Ой, каліна-маліна,
Не стаі над ракою.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Не стаі над ракою,
Не раўняйся са мною.

У мяне чужа маці,
Не будзіць пераймаці.

Не скажыць: — Змарылася,
Да скажыць: — Лянілася.

Не скажыць: — Сядзь, пасядзі,
Ды скажыць: — Вады схадзі.

Не скажыць: — Дзіцятачка,
Да скажыць: — Гультаечка.

## 227г. НУ ТЫ, КАЛІНКА, НЕ СТОЙ НАД РАКОЮ

Ну ты, калінка, не стой над ракою,
Ды не быць табе мною!
Я ў таткі была бялей твайго цвету,
А чырваней твае ягады,
А як засталася журліваму свёкру
Ды нярoднаму татку,
Высушыў мяне, як вецер былінку,
Як сонца сянінку.

## 227д. ДЫ КАЛІНА-МАЛІНА

Ды каліна-маліна,
Ды не стой над ракой.
Ды не стой над ракой,
Не раўнуйся са мной.
Было тады раўняцца,
Як я ў мамачкі была,
Як я ў мамачкі была
Да беленька хадзіла,
Як я ў мамачкі была,
Да беленька хадзіла,
Да бялей твайго цвету,
Чырваней тваіх ягад.

## 227е. КАЛІНКА-МАЛІНКА, НЕ СТОЙ НАД ВАДОЙ

Калінка-малінка, не стой над вадой,
Не раўнуйся са мной:
Было табе раўнавацца, як я была ў татулькі,
Як была ў татулькі, бялей твайго цвету цвіла,
Чырваней тваіх ягадак была;
Асталася вельмі нядобраму чаляднiку:
Узяў мяне як вішынку, ссушыў мяне як ліпанку,
Ліпанку ў балоце, а былінку ў гародзе,
Ліпанку падлупленую, а былінку падкатаную.

## 227ж. ЧЫРВОНА КАЛІНА

Чырвона каліна,*
Не стаі над ракою,

Не стаі над ракою,
Не раўнуйся са мною.

Было тады раўнавацца
Як я ў матулькі была,

Як я ў матулькі была,
Так бяленька хадзіла,

Да бялей твайго цвету
Чырваней ягадочак.

Як стала ў свякроўкі,
Не стала і галоўкі.

Над ракою стаяла,
Русу косу часала,

Каса мая часаная,
Я млада, загнаная

Ад свёкра, ад свякроўкі,
Ад ліхое ятроўкі.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 227в. ЧЫРВОНАЯ ДА КАЛІНАЧКА

Чырвоная да каліначка,
Не хіліся над вадою,
Не хіліся над вадою,
Не хваліся ягадою,
Не хваліся тонкім станам,
Не хваліся дробным лісцем.
Як я была ў свайго таткі,
Як я была ў свайго таткі,
Красней была тваіх ягад
Да здаравей твайго стану.
А цяпер я стала ды ў старога
У свёкарка да ў ліхога,
У свёкарка да ў ліхога,
Тонка стала, як былінка,
Да бяленька, як ліпінка.

## 228. ДЫ ЯК У МАМУХНЫ БЫЛА

Ды як у мамухны была,
Я, як рожухна, цвіла,
Ды, як малінка, зрэла,
Як вішанька ў садочку,
Як пчолухна ў лясочку,
Я па мяду качалася —
Смердунову сыну папалася,
Ды што й нямытаму ліцу,
Нечасанай галаве.
Ды я брус мыла змыліла —
Яго твару не вымыла.
Я барану паламала —
Яго галаву не ўчасала:
Маё мыла — барскае,
Яго ліцо — цыганскае,
Мая барана — зялезная,
Яго галава — мядзведжая.

## 229. КАЛЯ САДУ, САДУ

Каля саду, саду
Красачкі цвітуць,
А мне маладзенькай
Тугі задаюць.
Туга за тугою,
Бяда за бядою,
Што не гаворыць
Свякроўка са мною.
Прадала б свякроўку
За тры шэлягі,
Купіла б я мамку
А ў трыдарагі,
Гаварыла б з мамкай
Дзень да вечара,
Ноч да поўначы.

## 230. ДЫ КРУГАВОЕ МАЁ ПОЛЕ

Ды кругавое маё поле,
На ім ягад многа,
Ды я хаджу — не выхаджу,
А я бяру — не выберу.
Зялепухі — ў хвартушок,
А спелыя — у хустачку.
Зялепухі для свякроўкі,
А спелыя для матанькі.

## 230а. ІДУ, БЯГУ

Іду, бягу *
Каля лугу,

Каля лугу
Зялёнага,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Каля саду
Вішнёвага,

Й арэшачкі
Збіраючы,

Й ядзёрачкі
У кішанёчак,

Й шалупочкі
У падалочак.

Й ядзёрачкі
Мамулечцы,

Шалупачкі
Свякровачцы,

Еш, мамулька,
Спажывіся,

А свякроўка
Падавіся.

## 2306. ЗЯЛЁНА ШЧЭ ЖЫТА ЖАЦІ

Зялёна шчэ жыта жаці,
Пайду на бор ягад браці.
Набяру я ягад многа,
Перабяру па ягадцы.
Спеленьку то мацеры,
А зялёненьку свякроўцы.
Матухна пажалуе,
За ягадкі падзякуе:
— Дзякуй, дзіця, за ягадкі.
Хоць ты ночкі не даспала,
Ты мне ягад назбірала,
А свякроўка не жалуе
І за ягадкі не дзякуе:
— Гультай ты нявестачка,
Ты ўсю ночку пераспала
Ды зялёных ягад назбірала.

## 230в. КРУГЛА МАЛА БАЛОЦЕЧКА

Кругла мала балоцечка,
Да хоць мала, яго слава...
Іду, бягу дарогаю,
Шчыплю, ламлю арэшачкі
Ды лускаю ядзерачкі.
Ядзерачкі 'ля татухны,
Шкарлупачкі 'ля свёкаркі.
Ядзерачку ў сыту кладу,
Шкарлупачкі ў ваду кладу.
Ядзерачкі 'ля татухны,
Шкарлупачкі 'ля свёкаркі.

## 230г. ПАЙДУ Я ПА КАЛОДДЗЮ

Пайду я па калоддзю,
Збіраючы па ягодзі.
Спеленькія ў кузачку,
А зялёныя ў лубачку.
Спеленькія то мамаццы,
Зялёныя свякровачцы.
А мамачка пажалее,
За ягады падзякуе:
— Дзякуй за ягадкі
За спелыя й за салодкія.
Беручы ўмарылася,
А несучы ўтамілася.

## 230д. ІШЛА КУНА, ІШЛА КУНА

Ішла куна, ішла куна
Дарогаю.

Дарогаю, дарогаю
Шырокаю.

Шчыкі, куна, шчыкі, куна,
Арэшачкі:

Ядзёрачкі, ядзёрачкі
Для матулькі,

Шкарлупачкі, шкарлупачкі
Для свёкаркі.

— Еш, матулька, еш, матулька—
Спажывіся.

Еш, свёкарка, еш свёкарка —
Удавіся.

## 231. Я ЖНУ І ВАЛЫ ПАСУ

Я жну і валы пасу,
Каробачку малін нясу.
Каробачка маленькая,
Для свайго міленькага.

## 232. У ПОЛІ ДВА ДУБОЧКІ

У полі два дубочкі,
Абодва рылаты,
А ў мяне два браточкі,
Абодва багаты.
Аддалі сястрыначку
У чужую староначку,
Аддавалі, прыказвалі,
Каб сем лет не бывала.
Яна не ўцярпела,
Да й да року прыляцела,
Села ў садочку,
Стала сільненька плакаці.
Зачуў старшы брат на парозе:
— То ж наша сястрыначка,
Што аддалі ў чужую староначку.

## 232а. ОЙ, У ПОЛІ ДВА ДУБОЧКІ

Ой, у полі два дубочкі,
Да й абодва пахілясты,
Сабраліся мае міленькі,
Ох, й абодва наравісты.
Ой, ён мяне б'е, карае,
А я яму не скаруся,
Ой, выйду я на вуліцу
Да з харошымі да й абдымуся.
Да яго матка старэнькая
Да ў вакенца ж да й паглядае:
— Ох, паглядзі, мой сыночак,
Што твая жонка да вырабляе.
— Хай гуляе, мая матка,
Да й пакуль яно гуляецца,
Сам я знаю, людзі кажуць,
Што ёй дарам не мінецца.
Да вісіць пужка-дратавушка,
Да кругом плечак абвівецца.
Ох, і ўчора маё цела,
Як папярок было бела,
А сягоння маё цела,
Ад нагайкі пачарнела.

## 233. НАД РАКОЮ СТАЯЛА

Над ракою стаяла,
Русу касу часала.
Каса мая часаная,
Я маладая, загнаная
У чужой староначчы
Пры ліхой свякровачцы.
Пашлюць мяне жыта жаці,
Самі сядуць вячэраці.
Я прыду нажаўшыся,
Яны кажуць — наспаўшыся.
Не пытаецца мілы:
— Ці вячэрала, міла?

А пытаецца мілы:
— Ці мылася мылам?
— Я ўмылася слязою,
Цяжка мне жыць за табою.

## 234. ЖАЛКА МНЕ, ЖАЛКА

Жалка, мне жалка
Сваёй маладосці,
Ой, люлі, люлі, сваёй маладосці.
Пайду, пайду
К свайму татачку ў госці,
Ой, люлі, люлі, к свайму роднаму ў госці.
Сарві, татачка,
Вожжычкі-вяровачкі,
Звяжу нялюбаму
Ручачкі-ножачкі.
Прывяжу яго к цясовай кравацi,
А сама пайду на ўсю ночку гуляці.
У дворачку прыду,
Лягу аддыхнуці,
Ідзець нялюбы,
Услед вазбуджаці:
— Уставай, нявеста,
Уставай, негадзяйка,
Ты ўсю ноч не спала,
З белага ліца спала.

## 234а. ЖАЛЕЮ, ЖАЛЕЮ СВАЕЙ МАЛАДОСЦІ

Жалею, жалею сваёй маладосці,
Пражыла з нялюбым
Ўвесь век не ў любосці.
Пайду я, пайду
К свайму татачку ў госці,

Дасць мне татачка
Вожыкі-вяровачкі
Звязаць нялюбаму
Ручачкі-ножачкі.
Прывяжу к цясовай кравацi,
А сама пайду
На ўсю ноч гуляцi.
Прыду на дворачку,
Лягу спачывацi,
Ідзець свякроўка
Услед пабуджацi:
— Уставай, нявестка,
Уставай, нехазяйка,
Давольна табе спаць.
— Адкаснiся, свякроўка,
Адкаснiся, лютая,
Нязродная матка.
Я ўсю ночку не спала,
Ў твайго сыночка
У ножачках прастаяла.
— Брэшаш, нявестка,
Брэшаш, негадзяйка,
Як бы ты ночкi не спала,
З белага лiца спала б.
А ты маладзенька,
Як ў бару брушнiчка,
А мой сыночак
Чорненькi, як чарнiчка,
А ты маладзенька,
Як ў гародзе роза,
А ён белы,
Як белая бяроза.

## 235. А Ў ПОЛІ ЖЫТА, НЕ ЯРЫЦА

А ў полi жыта, не ярыца,*
Казалi, мой муж не п'янiца.
У карчомцы ён быў,
Гарэлачку пiў,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Прыйшоў двору, жану пабіў,
Прапіў каня, і вала, і абротачку.
— Выкуп коніка і абротачку.
Калі выкупіш, двору вядзі,
А не выкупіш, сама не йдзі.
А не йдзі, жана, дарогаю,
А йдзі, жана, далінаю,
Скінься, жана, калінаю,
Будзець зязюля кукаваці,
Тваю долю гукаці.

## 235а. А У ПОЛІ ЖЫТА НЕ ЯРЫЦЦА

А ў полі жыта не ярыцца,
Казалі, мой муж не п'яніца.
Ой, доля, долечка горкая,
Казалі, мой муж не п'яніца:
У карчме не быў, ды каня
прапіў,
Прапіў каня дый абротачку,
Ой, доля, долечка горкая,
Прапіў каня дый абротачку.
У карчме не быў, ды каня
прапіў,
Прыйшоўшы дамоў, жану пабіў,
Ой, доля, долечка горкая,
Прыйшоўшы дамоў, жану пабіў.
— Ты жоначка, мая любая,
Прадай трубачку і намётачку,
Ой, доля, долечка горкая,
Прадай трубачку й намётачку.
Прадай трубачку й намётачку,
Выкуп коніка й абротачку,
Ой, доля, долечка горкая,
Выкуп коніка й абротачку.

## 235б. А У ПОЛІ ЖЫТА НЕ ЯРЫЦЦА

А ў полі жыта не ярыцца,*
Казалі, мой муж не п'яніца,
А ў карчме не быў — каня прапіў.
Прапіў коніка і 'бротачку,
Прышоўшы к двару, жану пабіў:
— Ты, жоначка мая маладая,
Прадай трубачку й намётачку,
Выкуп коніка і 'бротачку.

## 235в. КАЗАЛІ, МОЙ МУЖ НЕ П'ЯНІЦА

Казалі, мой муж не п'яніца:
Прапіў коніка шынкараццы,
Прышоў дахаты да хваліцца:
— Ідзі, жанухна, каня выкуп.
Калі выкупіш, дамоў вядзі,
Калі не выкупіш, сама не йдзі.
— Мой міленькі! Не першы раз
Пад паветанькай начаваці,
Падалком ножкі укрываці,
Рукаўком слёзкі выціраці.

## 235г. А У ПОЛІ ЖЫТА, НЕ ЯРЫЦА

А ў полі жыта, не ярыца,*
Казалі, мой муж не п'яніца,

А ён п'ець не п'ець,
З карчмы не йдзець.

Прапіў коніка варанога,
Шлець таварыша па другога,

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Прапіў коніка, абротачку.
— Бяры-ка, жана, намётачку,

Бяры-ка, жана, намётачку,
Выкуп коніка, абротачку.

— Я ж не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платкі астаўляла,

З верабейкамі пад страхою начавала.
Верабейка чырык-чырык,
А мае сердэчка да кнык-кнык.

## 236. А БЕЛАЯ БЯРОЗАНЬКА ВАДУ ПАМУЦІЛА

А белая бярозанька ваду памуціла —
Няшчасная мяне доля замуж закруціла.
Я не ўпіла, не уела й добра не ўхадзіла,
Толькі свае маладыя леты патраціла.
Як пушчу я два талера па бітай дарозе,
Адзін талер пакаціўся, другі прызастаўся:
Знаю, знаю — мой міленькі з другою скахаўся...
Ёсць ў майго татуленькі коні вараныя,
Запражыце мне карэту, я сяду, паеду
Даганяці леты маладыя.
Я конікаў перагнала, летаў не дагнала,
Конікаў прытаміла, летаў не ўлавіла.

## 237. А БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

А белая бярозачка,
Дзе вецце падзела? *

А ці бура паламіла,
Ці сонца пасушыла?

— Мяне бура не ламіла
Й сонца не сушыла —

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Пада мною, бярозаю,
Казакі начавалі.

Яны мяне, бярозачку,
Пасяклі, парубалі,

Пасяклі, парубалі,
На агні пыталі.

А красна дзяўчоначка,
Дзе долю падзела?

А ці ў лесу заблудзіла,
Абгукнісь галасочкам;

Калі ў вадзе затапіла,
Прыплыві к беражочку.

— А сухая лашчыначка
дарожку замяла,
Нялюбая дружыніца
Ад роду адлучыла,

Ад роду, ад радочку
Трудна майму жываточку.

Ай, рыбачка-асятрыначка
Ад сонца завяла —

Нялюбая дружыніца
Увесь свет завязала.

Ай, памуці тую ваду,
Што я нанасіла.

Жалей, маці, таго зяця,
Што я палюбіла.

— Не буду я вады піці,
Буду пралівці,

Не буду я жалець зяця,
Буду праклінаці.

— Не пралівай, маці, вады:
Мне ж яе насіці,

Не праклінай, маці, зяця:
Мне з ім нада жыці.

## 237а. ДА ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАЧКА

Да зялёная дубровачка!
Чаго рана так зашумела,
Жоўтым лістом зажаўцела?
— Як да мне рана не шумецi,
Жоўтым лістом не жаўцецi,
Калi цераз мяне купцы iдуць,
На каранi агнi кладуць,
А на мяне дымы iдуць,
Да цераз мяне купцы едуць,
Дарагi тавары вязуць.
Дочка матцы гасцiнчык шле:
Да першы гасцiнчык —
Залаты яблычка,
А другi гасцiнiчак —
Добры дзень, мая матка!
— Да цi жыва, цi здарова?
Да памажы мне, матка,
Гора гаравацi,
Да памажы мне, матка,
Дробных дзетак гадавацi!
— Да я, маё дзiцятка, ужо гаравала,
Як вас, маленькiх, гадавала.
I ты, маё дзiцятка, гора гаруй
Да дробных дзетак гадуй.

## 238. ПАЙДУ Я ПАСЛУХАЮ, ЯК ГОЛУБ ГУДЗЕЦЬ

Пайду ■ паслухаю, як голуб
гудзець...*
Не голуб гудзець — мой мiлы iдзець,
Мой мiлы iдзець, падарак нясець,
Дарагi падарачак — рамянную плець.
Раменная плётачка расплятаeasя,
А я, маладзенькая, здагадалася:

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ў новую каморачку схавалася.
Няхай жа ён, ўражжы сын,
нашукаецца,
Мяне, маладзенькую, напытаецца.

## 239. А П'Ю Ж Я, МАЛАДА, ВЕСЯЛЮСЯ

А п'ю ж я, малада, весялюся,
Аб цёмнай жа ночцы хлапачуся,
Ай, дзе маладзе ночку начаваці,
А ці ў полі шатры распінаці?
Ёсць у мяне на дарозе
перапуцце:
Жывець мой свёкарка
пры дарозе.
А я ў яго ночку заначую,
А я й ад яго й слова не пачую.
А п'ю я, малада, весялюся,
Аб цёмнай жа ночцы хлапачуся,
Ай, дзе маладзе ночку начаваці,
Ой, ці ў полі шатры распінаці?
Ёсць у мяне на дарозе
перапуцце:
Жывець мой татачка
пры дарозе,
А я ў яго ночку заначую,
А я ад яго словачка пачую.

## 240. БОРАМ ІДУ, ПЕСНЮ ПЯЮ

Борам іду, песню пяю,
Бары ж мае разлягаюцца,*

Сялом іду, сільна плачу,
Варожачкі пацяшаюцца.

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Ды варожце, варожачкі,
Хоць на сваё безгалоўейка,

А я ж буду пеці, гуляці,
Абы ж маё ды здароўейка.

Ды варожачкі спаць палягуць,
А я ж пайду ды пагуляю,
Як рыбачка ды па Дунаю.

Шчука-рыба па пясочку,
Я ж, малада, да й па рыначку,

Шчука-рыба з акунцамі,
Я ж, малада, да й з малайцамі.

## 241. ЗАРА МАЯ, ЗАРАНАЧКА!

Зара мая, зараначка!
Узыйдзі ранюсенька,
Асвяці віднюсенька
Усе дарожкі-пуці,
Куды к мамкі ў госці йці.
Мая мамка далёкая,
Да ёй дарожка шырокая,
А проці мамкіна вакна
Стаіць крутая гара.
Трэба горку раскапаць
І ў мамкі ў гасцях пабываць.

## 242. АДДАЛА МЯНЕ МАЦІ

Аддала мяне маці
Да й за п'яніцу замуж,
Аддавала, прыказывала
Сем гадоў у госці не хадзіці.
Ой, не пайду я год, другі,
А на трэці пайшла ў госці.

Як стала я ў парозе,
Мяне маці не ўзнала,
За ўбогаю зашчытала.
— Даруйце, дзеткі, убогую.
— А я ж, маці, не ўбогая,
А я, маці, табе дзіця.
— А калі ты маё дзіця,
А дзе ж твая краса з ліца?
— У майго мужа на далоні.
— А калі ж ты маё дзіця,
А дзе ж твая руса каса?
— А дзе ж мая руса каса?
У майго мужа пад нагою.

## 243. ОЙ, ПАЙДУ Я КРУГОМ ЛУГА

Ой, пайду я кругом луга,
Шукаючы сабе друга.
Ой ты, лузе, лузяночак,
Ці ты будзеш мой дружочак?
Ой, пайду я к Дунаю,
Стану, гляну, падумаю,
Што ў Дунаю дно відно,
Ў сваёй мамкі добра было.
На вуліцы пераднюю,
На кірмашы заначую,
Ой, пайду я к Дунаю,
Стану, гляну, падумаю,
Што ў Дунаі дна няма,
А ў свякрухі дабра няма.
На постаці пераднюю,
А ў жорванах заначую.
Саколе, ты, саколе,
Пераляці гэта поле
Ды накажы маёй матцы,
Што я ключы пагубіла,
Пры шырокай вуліцы
З хлопцамі жартуючы.

## 243а. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛЯ ДУНАЮ

Ой, пайду я ля Дунаю,
Ой, стану я, падумаю,
І ў Дунаю да дна няма,
Мне ў свёкра дабра няма.
Ох, пайду я ля Дунаю,
Ой, стану я, падумаю:
У Дунаю да дно відно,
Мне ў бацькі дабро было.

## 244. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГУ

Як пайду я каля лугу,*
Каля лугу зялёнага,

Каля лугу зялёнага,
Каля саду вішнёвага.

Адламаю я смародзінку,
Чырвоную ягодзінку.

Панясу я свайму татку,
Ці жалеіць мяне татка?

Ці жалеіць мяне татка,
Ці жалеіць смародзінку?

Не жалеіць мяне татка,
Ды жалеіць смародзінку,

Нашто рана й заломлена,
Што й без цвету, без ягады.

Што й без цвету, без ягады,
Без чорнай смародзінкі.

Як пайду я каля лугу,
Каля лугу зялёнага,

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Каля лугу зялёнага,
Каля саду вішнёвага.

Адламаю я смародзінку,
Чырвоную ягодзінку,

Панясу я сваёй мамкі,
Ці жалеіць мяне мамка?

Ці жалеіць мяне мамка,
Ці жалеіць смародзінку?

Ды жалеіць мяне мамка:
Рана замуж аддадзена,

Не жалеіць ягодзінку,
Чырвоную смародзінку.

## 244а. ЯК ПАЙДУ Я КАЛА ЛУГУ

Як пайду я кала лугу,*
Кала лугу зялёнага,
Наламаю смародзіны
І чорнае, й зялёнае.
Пакідаю смародзіну
Ўсё на свёкаркаў дварочак,
Сама стану, паслухаю,
Што мой свёкар гаворыць:
Ці жалеіць мяне свёкар,
Ці чорну смародзіну.
Не жалеіць мяне свёкар,
А жалеіць смародзіны:
— Міла мая смародзіна,
Што зялёна паламана
І па двару пакідана...
Як пайду я кала лугу,
Кала лугу зялёнага,
Наламаю смародзіны
І чорнае, й зялёнае.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы

Пакідаю смародзіну
Ўсё на татачкаў дварочак,
Сама стану, паслухаю,
Што мой татачка гаворыць:
Ці жалеіць мяне татка,
Ці чорную смародзіну?
Не жалеіць смародзіны,
А жалеіць мяне татка:
— Мілая мая дзіцятухна,
Што малада заручана,
Што малада заручана,
Чужым людзям аддадзена...

## 244б. ОЙ, ПАЙДУ Я У ШУГЕ, У ЛУГЕ

Ой, пайду я ў шуге, ў луге
Да наламлю калінанькі,
Да панясу да брацейка:
— Ці жаль, братко, калінанькі,
Ці жаль мяне, ўдованькі?
— Табе, сястра, другі будзе,
Мне калінка не прыбудзе,
На ёй голлейка адбудзе.

## 244в. ПАЙДУ Я З ТУГІ У ЛУГІ

Пайду я з тугі ў лугі,
Наламлю я калінанькі
Да занясу да бацанькі.
Каго бацьку жальней будзе:
Чы каліны лугавой,
Чы мяне маладой?
— Жаль мне, дзіця, калінанькі,
Што зеляненькую паламіла,
Ягадкі паглуміла.

## 244г. ОЙ, ПАЙДУ Я Ў ЯГАДКІ

Ой, пайду я ў ягадкі,
А-а-эй, ой, пайду я ў ягадкі,
Ў ягадкі ў смародзінкі.
Наламлю я смародзінак,
А-а-эй, наламлю смародзінак,
Пакідаю на дарозе,
Пакідаю на дарозе,
А-а-эй, пакідаю на дарозе,
Сама сяду пры дарозе.
Ці не ідзець мая мамка,
А-а-эй, ці не ідзецьме мая мамка,
Каторае пажалее
Ці зялёнай смуродзінкі,
А-а-эй, ці зялёнай смуродзінкі,
Да ці мяне малодзенькай.
— Жаль мне смуродзінкі,
А-а-эй, жаль мне смуродзінкі
Што зялёна паламана,
Што зялёна паламана,
А-а-эй, што зялёна паламана,
Па дарозе пакідана,
А яшчэ жалейка дзіцяці,
А-а-эй, а яшчэ жалка дзіцяці,
Што малада заручана,
Што малада заручана,
А-а-эй, што малада заручана,
На рабоце замучана.

## 244д. ДА ПАЙДУ Я З ТУГІ У ЛУГІ

Да пайду я з тугі ў лугі,
Да наламаю смуродыні,
Пакідаю на дарожца,
Сама пайду к матцы ў госці:
Ці павяне смуродына,
Не жалуе мяне матка;
Мяне мілы пажалуе,
За ягадкі падзякуе.

### 244е. ОЙ, ПАЙДУ Я НА РАДЗІМУ

Ой, пайду я на радзіму
Ды выламлю смуродзіну,
Пакідаю на дарозі.
Тудою мой татка йціме,
Смародзіні задзівіцца,
Па дзіцяці зажурыцца:
— Дзіця маё дарагое,
Пайшло замуж маладое,
Да не ўмее дзела рабіць,
Чужой матцы не ўгодзіць.
— Не журыся, мой татачка,
Я й за сябе дзела зраблю,
Я й чужому бацьку ўгаджу.

### 244ж. ДА Й ПАЙДУ Я У ЦЁМНЫ ЛЕС

Да й пайду я ў цёмны лес,
Да й наламаю смуродзіны,
Да й пакідаю на дарозе,
А сама ж сяду пры дарозе,
Ці не йціма мой бацюхна,
Да й ці не ўзніме смуродзіну.
Да й не ўзніме, наступае:
— Горка тая смуродзіна,
Да й што зелена й адломлена,
Бедна тое дзіця ж маё,
Што маладое заручона.

### 244з. ЯК ПАЙДУ Я КАЛА ЛУГУ

Як пайду я кала лугу,*
Кала лугу зялёнага,
Кала саду вішнёвага.
Заламаю я смародзінку
І красную ягодзінку.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Панясу я свайму татку —
Ці жалеіць мяне татка?
Не жалеіць мяне татка,
Што я рана заламана —
Без беленькіх я цвяточкаў,
Да без красных ягодак,
Да без чорных смародак.

## 245. НАПІШУ ПАПЕРАЧКУ

Напішу паперачку,
Пушчу на ваду:
— Плыві, мая паперачка,
К таткінаму двару.
А ў таткі ў вароціках
Калінка стаіць,
На калінцы беленькі
Цвет цвіцець.
Добра ж тая бяседачка,
Дзе мой татка п'ець:
Ніхто мяне маладзенькай
Не акпіць, не асмяець:
Ні стары, ні малы, ні тэй роўніца.
А ўсміхнуўся дваранін
У парозе стоя,
Забачыў мой татуленька,
На куце седзя:
— Не кпі, не смей, дваранінушка,
Каля майго дзіцяці,
Ссаджу цябе з каня варанога,
З набыцця твайго.

## 246. ТЫ СОНЕЙКА МАЕ ЖАРКАЕ, ОЙ

Ты сонейка маё жаркае, ой,
Чаго рана закацілася,
Чаго рана закацілася?

Дочка ў маткі загасцілася,
Дочка ў маткі загасцілася, ой,
Дамоў ісці запазнілася.
— Матуленька мая родна, ой,
Давядзі мяне да доміку,
Давядзі мяне да доміку, ой,
Да доміку да новага,
Да доміку да новага, ой,
Да краватушкі цясовае, ой.
Матуленька аглянулася, ой,
Што дачушка астанулася, ой:
— Дзяцінушка мая мілая, ой,
Ці травіца ножкі спутала,
Ці травіца ножкі спутала, ой,
Ці расіца вочкі збрызнула?
— Матуленька мая родная, ой,
Не травіца ножкі спутала, ой,
Не травіца ножкі спутала, ой,
Не расіца вочкі збрызнула,
Спутала мяне зазнобушка, ой,
Дзеравенская работушка.

## 247. ШТО У НАС ЗА ЗЕЛЕЙКА?

Што ў нас за зелейка,
За чорнае насенейка?
Ой, я яго шчыплю, ламлю,
А яно адрастае,
Ой, я з яго вянок заўю,
А яно зацвітае.
Што то ў мяне за ойчанька,
Што аддаў дачку замуж
Да далёка ад сябе?
Чаму, ойчаньку, у госціках
Да не бываеш?
— Як жа мне, доньку, у госціках,
У госціках бываць,
Ой, зімою за снягамі,
А ў вясну за вадамі,
А ў лета за работамі,
А ў восень за капамі?

— Да бывай зімою саначкамі,
А ў вясну чаўночкамі,
А ў восень вазочкамі.

## 248. ЯК ПАЙДУ Я ЛУЖОЧКАМ, БЕРАЖОЧКАМ

Як пайду я лужочкам, беражочкам
Да калінавым мостам.
Падайду я к татку пад аконца,
Да як жаркае сонца.
А мой татка сядзіць ля вакенца
Да й мяне пытае:
— Да чаго ж ты, дзіця мае,
Рана ходзіш да расу абіваеш,
Расу абіваеш, мяне, старога, пабуджаеш?
— Татка родны, да парай жа мне раду
Да з маленькімі дзіцяткамі.
— Дзіця мае, да кінь жа ты дзіця ў крапіўку,
Сама ідзі на Ўкраінку.
— Да спасібо, ой, да ты, мой татка родны,
Да за тваю параду.
Што мне твая парада — вялікая дасада.

## 249. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛЕСУ БЛІЗКА

Як пайду я каля лесу блізка,
Каля сонейка нізка.
Як найду я дзерава крутое,
Лісце залатое.
Ай, нашто мне дзерава крутое,
Лісце залатое?
Ёсць у мяне мамачка у хаце,
Як вішанька у садзе,
А яна мне радачку парадзе
І ўсю праўдачку скажа.

## 250. ЧАГО СОНЦА, КАЛЯ ЛЕСУ ХОДЗІШ?

Чаго, сонца, каля лесу ходзіш,
А ў лес не заходзіш?
— Чаго я буду захадзіць,
А дзянёк караціць?
Тады я буду захадзіць,
Як будзе траўка пасыхаць
І лісток ападаць.
— Чаго, татачка, каля мяне едзеш,
А ка мне не заедзеш?
— Чаго я буду к табе заязджаць
І цябе пабуджаць?
А ёсць у цябе свёкар і свякроўка,
Дзевер і залоўка.
А як будзеш ты адна,
Тады я буду заязджаць
І цябе пабуджаць.

## 250а. ОЙ, СОНЦА, СОНЦА!

Ой, сонца, сонца!
Кала лесу ходзіш, а ў двор не заходзіш.
Ой, мамка, мамка!
Кала двору едзеш, а ў двор не заедзеш.
— Ой, дачка, дачка!
Далёка праводзіш — са двара не выходзіш.
Я ж мамульку далёка правадзіла,
Свякроўку гнявіла.

## 250б. ШТО Ж ТЫ, СОНЦА

Што ж ты, сонца,
Каля лесу ходзіш,
Ды за лес не заходзіш? *

* Трэці радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Як пара прыдзе —
Позны вечарочак,
Пайду за лясочак.

— Што ж ты, татка,
Каля мяне ходзіш,
А ка мне не заходзіш?

— Як ты будзеш
Сама сабой жыці,
Буду захадзіці.

Скажы зяцю,
Няхай дажыдае,
Буду навяшчаці.

Я ж прыеду
Зімой на саначках,
Летам на калёсах.

## 250в. ОЙ, ТЫ, СОНЦА ЖАРКАЕ

Ой, ты, сонца жаркае, *
Кала лесу нізка ходзіш,
Чаму ж за лес не заходзіш?

А мой татачка родны,
Кала майго двара едзеш,
Чаму ў госці не заедзеш?

— А я рад бы заязджаці,
Ты ж не ўмееш выпраўляці.

Я за вожкі, а ты ў слёзкі,
Я за дугу, а ты ў тугу,

Я заеду за лясочак,
Ты завыеш ў галасочак.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 250г. ХАДЖУ Я КАЛЯ ЛЕСУ

Хаджу я каля лесу,
Шукаючы куралесу.
Куралесе мой міленькі,
Татачка мой родненькі,
Аддаў мяне, не быў ў мяне.
Ці, татачку, не жаль мяне,
Ці конічка не маеш,
Ці дарожачкі не ведаеш,
Што ты мяне не адведаеш?
— А дзіцятка мілае,
Я й коніка маю
І дарожачку ведаю,
Цябе, дзіця, адведаю.
Як прыеду, дык ты рада,
Як паеду, дык ты плачаш.
Я за лясы — ты ў галасы,
Я за горы — ты ў горы,
Я заеду за дуброўку,
Дык ты ручкі на галоўку,
Я за горы крамяныя —
Ты ў слёзкі крывавыя.

## 251. ЯК ПАЙДУ Я КАЛА ЛЕСУ БЛІЗКА

Як пайду я кала лесу блізка,
Кала зямлі нізка.
Як прыду я к таткі пад вакошка,
К мамкі пад другое:
— А татка, татка, адчыні вакошка,
А мамка,— другое.
Ай, дай, татка, цясовы вядзёркі,
Шаўковы перавёслы.
— Не дам, чада, не дам, дарагое,—
Чаго рана ходзіш?
Яшчэ куры не пелі, гусі не крычэлі,
Людзі не ўставалі.

— А татка, татка, не таткава воля,
Не мамкіна нега
У чужых людзей, у ліхога свёкра
Не ў роднай мамкі.
Я ў свайго таткі, куды захацела,
Туды паляцела,
А ў сваёй мамкі, куды задумала,
Там і пабывала,
А ў свякроўкі, куды захацела —
У двараэ пасядзела.

## 251а. ЯК ПАЙДУ Я ЛУГАМ, БЕРАГОМ

Як пайду я лугам, берагом,
Калінавым мастом,
Як прыду я ціхонька, лягонька
К татку пад ваконца:
— Татка! Татка!
Ты падай мне цясовы вядзерцы,
Шаўковы пачопкі!
— Донька, ты донька,
Чаго рана ходзіш,
Мяне пабуджаеш?
— Татка! Татка!
Свякроўкіна нега
Горш тваёй няволі.

## 251б. ЯК ПАЙДУ Я, ПАЙДУ

Як пайду я, пайду,
Я ціха падумаю,
Як ліст на Дунаю,
А як падайду
К татку пад акно:
— Дзень добры, тата,
Мой татуленька родны,
На беленька ложа.

— На здароўе ты, мая дачушка
І чужая пасялушка.
Чаго, дачушка,
Гэтак рана ходзіш,
Расіцу абіваеш?
— Гэта ж, татулька,
Свекраткава нега
І таткава няволя.
Як жа я была
У роднага татанькі
І роднай матулькі,
Дык я ж не знала,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць,
Ды я не знала,
Калі кароў дояць,
Калі ў поле гонюць.
А як дасталася
Журліваму свёкру,
Дык стала знаці,
Адкуль сонца ўсходзіць
І куды заходзіць,
Дык я стала знаці,
Калі кароў доюць
І ў поле гонюць.

## 251в. ЯК ПАЙДУ Я ГОРАМ-ДАЛІНАЙ

Як пайду я горам-далінай
Да калінавым мостам.
Падайду ж я [illegible] татку пад ваконца,
Як жаркае сонца.
— Добры вечар!
Мой татулька родны,
На беленькім ложку.
— На здароўе, дзіцятка мілае!
Чаго, дарагая,
Чаго, дзіцятка, так позна ходзіш
Да людзей пабуджаіш?
— Татачка, мой мілы!

Свякроўка уміраіць,
Вадзіцы бажаіць.
— Дзіцятка маё! Не вадзіцы бажаіць —
Цябе са свету збываіць.

## 251г. ЯК ПАЙДУ Я У ДАЛЬ ДАЛІНАЮ

Як пайду я ў даль далінаю,
Падхаджу я к мамке пад вакошка,
К мамке пад вакошка,
К татке пад другое:
— Што, дзіцятка, ранёшанька ходзіш?
Яшчэ куры не пелі,
Куры не пелі — людзі не ўставалі.
— А вось, мамка, у чужых людзях
Жыць да не ў родненькай мамкі,
Пасылаюць мяне, маладую,
Ў шчыры бор за вадою.
Я й баюся шэрага воўка,
Шэрага воўка, чорнага мядзведзя:
А мяне воўк з'есць, а мядзведзь зламаіць,
А заяц спужаіць.
— Ты не бойся, маё дзіцятка,
Шэрага воўка, чорнага мядзведзя:
Цябе воўк не з'есць,
Мядзведзь не зламаіць
І заяц не спужаіць,
Толькі бойся журлівага свёкру,
Журліву свякроўку;
Яшчэ бойся, маё дзіцятка, раўнівага мужа.
— Мой раўнівы муж на вайну паехаў,
На вайну паехаў і з вайны не прыехаў,
А я, малада, пайшла за двараніна,
А мой дваранін і чытаць, і пісаць,
На гармоню іграць,
А я, малада, і скакаць, і плясаць;
А мой дваранін прачытаў, прапісаў
Каня варанога і быка палавога,
А я, малада, праскакала, праплясала
Кароўку-буронку — другую друганьку.

## 252. ЗАКАЦІЛАСЯ ДЫ ЯРКАЕ СОНЦА

Закацілася ды яркае сонца
За зялёны гаёк,
Ау-у-у.
Захацелася мне, маладзенькай,
К татульку у госці,
Ау-у-у.
Я й не баюся ні цёмненькай ночкі,
Ні грознае тучкі,
Ау-у-у.
Толькі баюся друга свайго нялюбага,
Ау-у-у.
Мяне нялюбы і наб'ець, і пакараіць,
Ён мяне не жалеіць,
Ау-у-у.

## 252а. ЗАКАЦІЛАСЯ ЯРКАЕ СОНЦА ЗА ЦЁМНЫ ЛЯСОЧАК

Закацілася яркае сонца за цёмны лясочак.
Захацелася мне, маладзенькай,
К свайму татачку ў госці.
Не баюся я ні ночкі цёмнай,
Ні тучанькі грознай,
Толькі баюся я госпада бога,
Яшчэ свайго нелюбога.
Госпад божанька — ён пакараіць,
А нялюбы пабіваіць;
Госпаду божаньку я памалюся,
А нялюбаму пакаруся.

## 253. ЗАКУРЫЎСЯ ЦІХІ ДРОБНЫ ДОЖДЖЫК

Закурыўся ціхі дробны дожджык
Да па чыстаму полю,
Зажурыўся мой татачка родны
Па маёй горкай долі.

Не курыся, ціхі дробны дождж<br>ык,
Да па чыстаму полю,
Не журыся, мой татачка родны,
Па маёй горкай долі.
Не сама я долечку шукала —
Мужа выбірала,
Пан багаты з залатой палаты
Даў мне мужа-ката.
Закурыўся ціхі дробны дожджык
Да па чыстаму полю,
Зажурыўся мой татачка родны
Па маёй горкай долі.

## 253а. ЗАКУРЫЎСЯ ЦІХІ ДРОБНЫ ДОЖДЖЫК

Закурыўся ціхі дробны дожджык
Каля цёмнага лесу,
Зажурыўся мой татулька родны
Па маёй горкай долі.
Не курысь, ціхі дробны дожджык,
Каля цёмнага лесу,
Не журысь, мой татачка родны,
Па маёй горкай долі.
Калі ж я буду ў бога шчасна,
Не буду няшчаснай.
Калі ж я буду ў бога ўгодна,
Не буду галодна.

## 253б. ЗАКУРЫЎСЬ СІЛЕН ДРОБЕН ДОЖДЖЫК

Закурыўсь сілен дробен дожджык
Па чыстаму полю,
Зажурыўсь мой родны татка
Па маёй горкай долі.

Не курысь, сілен дробен дожджык,
Па чыстаму полю,
Не журысь, мой родны татачка,
Па маёй горкай долі.
Было ж табе, дожджыку, курыцца,
Як хмара найшла,
Было б табе, мой татку, журыцца,
Як я мала была.
Цяпер нечага журыцца,
Як я замуж пашла.

### 253в. ЗАКУРЫУСЯ ДА ДРОБНЕНЬКІ ДОЖДЖЫК

Закурыўся да дробненькі дожджык
Па чыстаму полю,
Закурыўся.
Зажурыўся мой міленькі ў дому
Па мне маладзенькай,
Зажурыўся.
Не курыся, да дробненькі дожджык,
Па роўнаму полю,
Не курыся.
Не журыся, да мой мілы, у дому
Па мне маладзенькай,
Не журыся.

### 253г. ЗАКУРЫУСЯ СІЛЬНЫ ДРОБНЫ ДОЖДЖЫК

Закурыўся сільны дробны дожджык
Кала цёмнага лесу,
Зажурыўся ды мой татухна родны
Да па маёй горкай долі.
Не курыся, сільны дробны дожджык,
Кала цёмнага лесу,
Не журыся, мой татухна родны,
Да па маёй горкай долі.

## 254. НЕ ВЕЙЦЕ ВЫ, ВЕТРЫ

Не вейце вы, ветры,
З гары да долу
З чыстага поля.
Не наносце, ветры,
Майму татухну весці,
Мамухне жалосці,
Што й жыву я не ў любосці.
Не жыву — гарую,
Ўсё бяду бядую.
Закурыўся сілен дробен дождж ык
Па багатаму полю,
Зажурыўся мой татухна родны
На сваёй старонцы
Па маёй горкай дольцы.
А курысь не курысь,
Дробен дожджык,
Па жоўтаму полю,
Журысь не журысь,
Мой татухна родны,
Па маёй горкай долі.
У канцы карваткі стаю,
Пасцелечкі не сцялю:
Ўжо ж мая пасцелечка
Ад слёзак макрэнька,
Ўжо ж маё адзяяла ў нагах ляжыць,
Ўжо ж мая разлука ў галоўках стаіць,
Мяне разлучае.

## 255. ТЫ, БЕЛАЯ БЯРОЗА

Ты, белая бяроза,
Не стаі пры дарозе,
Не пушчай карэнійка,
Дзе маё пляменійка.
Я, малада, да таткі іду,
Да мамкі на парадачку:
— Ой, парадзь, мая мамка,
Што з маім мужам рабіць.

Дасць бог дзень — у карчомцы п'ець,
Пройдзець дзень — мяне саб'ець.
— Зрабі піва хмельнага,
Спаі мужа дрэннага,
Выведзі ў роўна поле
І абстаў саломкаю,
Запалі лучынкаю.
Сама йдзі на вулачку,
Гвалт крычы ратуначку:
Здаецца, і гром не быў,
Мілога пярун забіў.

## 256. ВЕТРЫЧАК ПЫШЫЦЬ, БЫЛІНКУ КАЛЫШЫЦЬ

Ветрычак пышыць, былінку калышыць, *
Татухна к дачухне па лісту пішыць:
— Ай, чаму, дачка, у гасцёх не бываеш,
Ці каня не маеш, ці дарожкі не знаеш?
— Я коніка маю, дарожачку знаю,
Я ў сваім дамочку горкаю долю маю...
— А ўзыдзі, ўзыдзі, зорачка вячэрняя,
А прыдзі, прыдзі, дачушка бяздольная.
Зорачка ўзышла — ўвесь свет асвяціла,
Дачушка прыйшла — ўвесь род аслязіла...

## 256а. ВЕТРЫЧАК ПЫШЫЦЬ

Ветрычак пышыць,
Былiначку калышыць,
А бацька дачке
Штодзень пісьма пішыць:
— Што, мая дачушка,
Ў госці не бываеш,
Ці коніка не маеш,
Ці дарожанькі не знаеш?

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Я коніка маю
І дарожаньку знаю,
Ў сваім дварочку
Горку долю маю.
— А ўзыйдзі, ўзыйдзі,
Зорачка вячэрняя,
А уз'едзь, уз'едзь,
Дачушка бяздомная.
Дачушка на двор —
Бацька кубачкі на стол.
Дачушка са двара —
Бацька кубачкі са стала.

## 2566. АЙ, ШКОДА, ШКОДА СВАЕЯ МАЛАДОСЦІ

Ай, шкода, шкода сваея маладосці,
Ай, люлі, люлі, сваея маладосці.
Жыву з міленькім свой век не ў любосці,
Ай, люлі, люлі, свой век не ў любосці,
Я не ў любосці, не ў жалкай жалосці,
Ай, люлі, люлі, не ў жалкай жалосці.
Ветрычак пышыць, былінку калышыць,
Ай, люлі, люлі, былінку калышыць,
Ай, бацька дачцэ штодзень пісьмы пішыць,
Ай, люлі, люлі, штодзень пісьмы пішыць,
Штодзень пісьмы пішыць, штачас высылаець,
Ай, люлі, люлі, штачас высылаець:
Ай, прыедзь, прыездь ка мне, дочка, ў госці,
Ай, люлі, люлі, прыедзь ка мне, дочка, ў госці.
Ай, узайдзі, узайдзі, зара вячэрняя,
Ай, люлі, люлі, зара вячэрняя,
Ай, уз'едзь, уз'едзь, дочка няшчасная,
Ай, люлі, люлі, дочка няшчасная.
Зорачка ўзышла, ўвесь свет асвяціла,
Ай, люлі, люлі, ўвесь свет асвяціла.
Дочка уз'ехала, ўвесь свет расслязіла,
Ай, люлі, люлі, ўвесь свет расслязіла.
Ай, лепей было зарэ рана не ўсходзіці,
Ай, люлі, люлі, не ўсходзіці,
Ай, лепей было, дочка, табе не ўз'язджаці,
Ай, люлі, люлі, табе не ўз'язджаці.

## 256в. ОЙ, ВЕЦЕР ПЫШЫЦЬ, БЫЛІНКУ КАЛЫШЫЦЬ

Ой, вецер пышыць, былінку калышыць,
Ой, люлі, люлі, былінку калышыць.
Ой, бацька дачцэ штодзень пісьмо пішыць,
Ой, люлі, люлі, штодзень пісьмо пішыць:
Што ты, дачушка, ў госцікі не ходзіш?
Ці ты, дачушка, дарожкі не знаеш?
Ой, люлі, люлі, дарожкі не знаеш?
Ці ты, дачушка, коніка не маеш?
Ой, люлі, люлі, коніка не маеш?
— А я, татачка, дарожку знаю,
Ой, люлі, люлі,
Дарожачку знаю,
А я, татачка, коніка не маю,
Ой, люлі, люлі, коніка не маю.

## 257. ЯК АДДАУ МЯНЕ БАЦЮШКА ДА ДАЛЁКАНЬКА ЗАМУЖ

Як аддаў мяне бацюшка да далёканька замуж,
Як сказаў жа мне бацюшка часта ў госці не ждаці.
Не пашла я к бацьку ў госці да чатыры гадочкі,
Я на пяты гадочак пашла к бацьку ў госці.
Як стрэў мяне бацюшка ў чыстым полі на дарозе,
Як стрэў мяне родненькі ў хаце на парозе:
— Ты здароў, дачка, здароў, як ты жыва, як здарова?
— Ты, бацюшка, ты, мой родненькі, не пытай майго здароў'я.
Ты, бацюшка, ты, мой родны, папытай майго падвор'я.
А маё ж то здароўе ў нялюбага ў ладоні.

## 258. ТАМ У ПОЛІ, ПОЛІ

Там у полі, полі
Буйны ветры пышуць,
Калінку калышуць,
А брацец з сястрыцай
Ліст па лісту пішуць:

— Сястра мая родная,
Ці прывыкла тама?
— Хоць я й не прывыкла,
Нада прывыкаці
У чужое маці,
Нада й наравіці
Свёкру і свякроўцы,
Дзеверу й залоўцы,
Дзеверу й залоўцы,
Дзеверавай жонцы.
Свёкарку парадую —
Пасцельку пасцялю.
Свякроўку парадую —
Хатачку падмяту,
Коніка напаю,
Дзеверавай жонцы
Дзіця пакалышу.

## 259. А УЖО СОНЦА ЗАХОДЗЕ

А ўжо сонца заходзе,
Сястра брата праводзе,
У брата праўды пытае:
— Калі, братка, ў госці прыдзеш?
— Сухая вярба разаўецца,
Сястра мая разжывецца —
Тады братка ў госці прыдзе.

## 260. ОЙ ТЫ, СОНЦА, СОНЦА ЯСНАЕ

Ой ты, сонца, сонца яснае,
Што ты раненька ўсходзіла
Ды позненька закацілася,
Ды на мяне мамка ўсё сварылася.
— Не сварыся, родна маменька,
Ўчора ў мяне любы госцік быў,
Любы госцік, родны брацейка.

Вот я яго ўсё й праводзіла
Да за тыя лясы, лясы цёмныя,
Да за тыя садзікі вішнёвыя.
Дзе кавыль-траўка савіваецца,
Брат з сястрою распрашчаецца.

## 261. ЭЙ, У ЛЯСОЧКА

Эй, у лясочка
Ля паляначкі
Там сіротка
Жыта жне,
Сваю мамачку,
Сваю роднаю
Да й на помач заве:
— Мая мамачка, мая родная,
Памажы мне жыта жаці.
— Дачушачка, мая родная,
Мае ручкі баляць...

## 262. А ЯК ЖАРКІМ ЛЕТАМ ЯРАЯ ПЧОЛКА

А як жаркім летам ярая пчолка
Па чыстаму полю мёдава судзёшка шукала.
Мёдава судзёшка не нашла,
Толькі нашла горкую асіну!
А як горкая сірацінушка
Іскала сваёй радзіцелькі — маткі.
Не нашла сірацінушка роднай маткі,
Ды нашла сірата горкая
Старага ліхога свёкра!

## 262а. ЯК ХАДЗІЛА ДА МАЛАЯ СІРОТКА

Як хадзіла да малая сіротка
Да й па чыстаму полю,
Да й шукала свае мамачкі радненькай.

— Скалыхніся, да й халодная вада,
У глыбокай крынічанькі,
Адгукніся мне, мамачка родненькая,
Мне, няшчаснай сірацінe.
Не скалыхнулася вада ў глыбокай крынічанькі,
Не адгукнулась мая мамачка родненькая
Мне, няшчаснай сірацінaчкі.

## 262б. ЛЯТАЛА СЕРАЯ ПЕРАПЁЛКА

Лятала серая перапёлка
Да па жоўтаму полю,
Шукала серая перапёлка
Свайго гняздзечка,
Ідзе ляжала яе яечка,
Ідзе дзеткі сядзелі
І ў палёт паляцелі.
Хадзіла бедная сірацінка
Па багатаму полю,
Шукала бедная сірацінка
Свайго роднага бацькі,
А знайшла студзёную вадзіцу
Ў рубленым калодцу.
— Ўскалыхніся, вада,
У рубленым калодцу,
Адгукніся, мой бацюшка,
На чужой старонцы.
Не скалыхнулася вада
У рубленым калодцы,
Не адгукнуўся бацюшка
На чужой старонцы.

## 262в. ОЙ, ЛЯТАЛА БАРАВАЯ ПЧОЛКА

Ой, лятала баравая пчолка
Па чыстаму полю, ой, лятала,
Ой, іскала баравая пчолка
Салодкага мёду, ой, іскала.

Ой, не нашла баравая пчолка
Салодкага мёду, ой, не нашла,
Толькі нашла баравая пчолка
Асіну-калоду, толькі нашла.
Ой, хадзіла бедная сіротка
Па чужой старонцы, ой, хадзіла.
Ой, іскала бедная сіротка
Родную мамульку, ой, іскала.
Ой, не нашла бедная сіротка
Родную мамульку, ой, не нашла,
Толькі нашла бедная сіротка
У полі магілку, толькі нашла.

## 262г. ДА ЛЯТАЛА БАГАВАЯ ПЧОЛКА

Да лятала багавая пчолка
Па чыстаму полю,
Да лятала.
Да іскала багавая пчолка
Сабе пасудзіну,
Да іскала.
Да не нашла багавая пчолка
Сабе пасудзіну,
Да не нашла.
Толькі нашла багавая пчолка
Горкую асіну,
Толькі нашла.

Да хадзіла горкая сіротка
Па чыстаму полю,
Да хадзіла.
Да іскала горкая сіротка
Радзіцельку-матку,
Да іскала.
Да не нашла горкая сіротка
Радзіцелькі-маткі,
Да не нашла.
Толькі нашла горкая сіротка
Ліхую свякроўку,
Толькі нашла.

## 262д. ОЙ, ЛЯТАЛА ШЭРА ПЕРАПЕЛКА

Ой, лятала шэра перапёлка
Па шырокаму полю,
Хадзіла бедная сіротка
Па шырокаму полю.
Ай, шукала бедная сіротка
Свае мамачкі роднае,
Не нашла бедная сіротка
Свае мамачкі роднае,
Толькі нашла крыніцу-вадзіцу.
Скалыхалася крыніца-вадзіца,
Сцюдзёны калодзеж.
— Адгукніся, мая мамка родна,
На чужой старонцы.
Не скалыхнулась вадзіца-крыніца,
Ні сцюдзёны калодзеж,
Не адгукнулась мая мамка родна
На чужой старонцы.

## 263. ШЫРОКАЯ ДАРОЖУХНА

Шырокая дарожухна,
Ці не дождж цябе змачыў,
А ці ранняя раса?
— Не дождж мяне змачыў
І не ранняя раса,
А змачыла мяне
Горкая сірацінка,
Да касцёлу рана ходзючы,
Шчыра бога молючы.
Прасіла яна ў боженькі:
— Узяў татку, узяў мамку,
Вазьмі мяне, сірацінінку!
— Нечым жа цябе браць,
Лепш табе долейку даць —
Каня варанога
І малайца маладога.

## 263а. СІРОТАЧКА ЖЫТА ЖАЛА

Сіротачка жыта жала,
К сырой зямлі прылягала:
— Ты, сырая зямелечка,
Нашто мяне абідзела?
Узяла татку, ўзяла мамку,
Узяла маю ўсю радзіну,
Вазьмі мяне, сіраціну.
— Як я маю цябе браці,
Лучшай долю табе даці.
— Дзе ты, доля, падзелася:
Ці ты ў лесе заблудзілася,
Ці ты ў моры патанула.
Калі ў лесе — адгукніся,
У сінім моры — ўскалыхніся.

## 264. ЗЯЛЕНАЯ ДУБРОВАЧКА

Зялёная дубровачка,
Чаму ў цябе дуб'я многа —
Зялёнага ніводнага,
Лісточкамі ні згоднага?
Маладая дзяўчыначка,
Чаму ў цябе бацькоў многа,
А роднага ніводнага,
У парадачку ні згоднага?

## 264а. ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВАЧКА

Зялёная дубровачка,
Што ў цябе дуб'я многа,
Зялёнага атросціка ніводнага?
Маладая Алеська,
Чаго ў цябе мамак многа,
Роднае ніводнае?
Загадаці ёсць каму,
Пажалеці некаму.

## 265. У ВІШНЁВЫМ САДУ НА КАЛІНЕ

У вішнёвым саду на каліне
Там зязюля кукавала,
Тую зязюлю, тую сівую
Сірата праклінала:
— Бадай, зязюля, бадай, сівая,
Налета не кукавала:
Выкукавала маю матулю,
А я сіратой застала!
— Я кукавала, кукаваці буду,
Па саду лятаючы.
А ты плакала, плакаці будзеш,
Па людзях гаруючы.

## 266. ДА НА ГАРЭ ЦАРКОВАЧКА

Да на гарэ царковачка.
Там стаяла сіротачка.
Яна клікала сваю матку:
— Устань, мамка мая родная,
Да дай жа мне кашулечку,
Пачашы мне галовачку.
— Дзіцятка маё роднае,
Да ты маеш сваю матку,
Хай дасць табе кашулечку,
Хай пачэша галовачку.

## 267. НЕ СТОЙ, БОЖА, ПАД АКНОМ

Не стой, божа, пад акном,
Ідзі, божа, ў хатачку
Ды стань, божа, на куце,
Ды дай долю сіраце.
Сірата долі на мае,
Голасам неба прабівае,
Слёзкамі зямлю палівае,
Сваю матульку прызывае.

## 268. ОЙ, ГУКНУЛІ НАЧЛЕЖНІЧКІ

Ой, гукнулі начлежнічкі,
У дуброве начуючы.
Заплакала сіротанька,
Горкі абед гатуючы:
— Згатавала абед горкі
Без свае маткі-зоркі.

## 269. ГУЛА ПЧОЛКА, ГУЛА

Гула пчолка, гула,
Па барку лятаючы,
Мядок збіраючы,
Пчолкі саджаючы.
А плакала ўдовачка,
Абед гатуючы:
— Абед мой горкі
А без цябе, мой міленькі,
А без тваёй параданькі.
Сама сяду абедаці
І дзеткамі абсядуся,
Слёзачкамі аблююся:
Дзеткі мае міленькія,
Слёзкі мае горненькія!

## 269а. ГУЛА ПЧОЛКА, ГУЛА

Гула пчолка, гула,
Па бары лятаючы
Да мядок збіраючы:
— Яшчэ ж буду ляпей гусці,
Як буду мядок нясці.
Да плакала ўдованька,
Дроўцы збіраючы
Да абед гатуючы:

— Ой, абедзе мой гаранькі
Да без цябе, мой міленькі;
Наварыла рыбкі з перцам,
Сама села з маладзенцам,
Рыбкі з перцам не хочацца,
З маладзенцам рагочацца,
Да аж рыбка ў сне сніцца,
Да з маладзенцам доўга спіцца.
Сама села на пакуці,
А мае дзеткі ў запеку,
Сама п'ю мёд-віно,
А маім дзеткам вады жадно,
Сама ем з талерачкі,
А мае дзеткі з чарапочка.

## 2696. ГУЛА ПЧОЛКА, ГУЛА ПЧОЛКА

Гула пчолка, гула пчолка,
Да па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
— Ой, горкі мой мядок, горкі
Да без мае грамаданькі,
Усяняк свой мёд патраціла,
Сама ў борцю не трапіла.
Ох, заплакала удованька,
Да па садочку ходзячы,
Вячэраньку гатуючы:
— Горка ж мая вячэранька
Да без майго міленькага.
Сама сяду проці стала,
Дзеткі ж мае па застоллю,
На покуці нікога нет —
Такая вячэра, такі і абед.
Дзеткам даю хлеб веены,
Сама ем ячну зацірку.
Дзеткі ядуць, а я плачу:
З мілым піла мёд і гарэлку.

## 269в. А ГУДУЦЬ ПЧОЛКІ, ГУДУЦЬ

А гудуць пчолкі, гудуць,
Па саду лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы.
Плакала ўдовачка,
Плакала ўдовачка,
Па бару ходзячы,
Сыры дровы збіраючы,
Абед гатуючы:
— Абедзе мой, абедзе,
А хто цябе абедаць будзе?
Сама сяду на куце
І дзеткамі абсаджуся,
Дзеткамі абсаджуся,
Слёзкамі аблююся.
Як дзеткі маленькія,
Тады слёзкі драбненькія,
А як дзеткі пабольшаюць,
Тады слёзкі пагоршаюць.

## 269г. ЗВІНЕЛА ПЧОЛКА

Звінела пчолка, *
Па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
— Мяды мае салодкія,
Раі мае кароткія.
Заплакала ўдовачка,
Вячэрку гатуючы:
— Стравы мае сахарныя,
Хто вас будзіць спажываці,
Дзеткі мае маленькія,
Хто вас будзіць гадаваці?

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 269д. ОЙ, ЗВІНЕЛА ПЧОЛКА

Ой, звінела пчолка,
Па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
— Мядок мой салодзенькі,
Дзеля цябе спазнілася,
Седзячы пад кусточкам —
Зялёным лісточкам.
Плакала ўдовачка,
Вячэрку гатуючы:
— Вячэрка мая нясмачная,
Цераз цябе спазнілася,
К маім дзеткам ідучы,
Іх спацькі кладучы.

## 269е. ЗАЗВІНЕЛА ПЧОЛАЧКА

Зазвінела пчолачка, *
Па бары лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:

— Мой мядок, мой саладок,
Праз цябе спазнілася,

На бары начавала,
Пад елкай агонь клала.

То не пчолка гула,
А ўдованька плакала:

— Ой, пчолачка-звоначка,
Чаго рана зазвінела?

Чаго рана зазвінела,
Ў шчыры бор паляцела,

Усё ягадкі збіраючы,
Вадзіцу сіляючы?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 269ж. А ГУЛА ПЧОЛАЧКА, ГУЛА

А гула пчолачка, гула,
Па бару лятаючы,
Салодкі мёд сабіраючы:
— Мой мядок, мой саладок,
Праз цябе спазнілася,
На бару начавала,
Пад елкай агонь клала!
То не пчолка гула,
А ўдованька плакала,
Раненька па ваду йдучы,
Ранні абед гатуючы,
Чужых гасцей частуючы:
— Ранні абед, ранні абед
Без цябе, мой міленькі!
Няма каму рана ўстаці,
Работачкі загадаці.

## 269з. ХАДЖУ-БЛУДЖУ ПА БАЛОЦЕ

Хаджу-блуджу па балоце,
Збіраючы тонка дрэва,
А ў печы выпалючы,
Горкі абед гатуючы.
Як сяду я за столічак,
А дзеткамі абсаджуся,
А слёзкамі абальюся:
Слёзкі мае драбненькія...
Дзеткі мае маленькія,
Хто вас будзе гадаваці?
Кожны будзе пасылаці,
Усе будуць камандаваць.

## 269і. ЗАЗВІНЕЛА ПЧОЛАЧКА, ПА БАРУ ЛЯТАЮЧЫ

Зазвінела пчолачка, па бару лятаючы,
Салодкі мядок збіраючы;
Заплакала ўдовачка, на дварочку ходзючы,
Трэсачкі збіраючы, вячэрку гатуючы.

Згатавала, паставіла,
Сама села, заплакала:
— Вячэр мая, вячэрачка!
З кім я буду вячэрацi?
Ночка прышла цёмненькая,
З кім я буду начавацi?
Дзеткі мае маленькія!
З кім я буду гадавацi?
Пасцель мая беленькая!
З кім я буду ў табе спацi?
З кім я буду размаўляцi?

## 269к. ГУЛА, ГУЛА БЕДНА ПЧАЛА

Гула, гула бедна пчала,
Да па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы.
Яна мёду не набрала,
Сама ў бару начавала.
Заплакала да ўдованька,
Вячэраньку гатуючы,
Свае дзеткі гадуючы:
— Прыдзі, прыдзі, мой міленькі,
Вячэраньку гатаваць,
Свае дзеткі гадаваць!

## 269л. ЗАГУДЗЕЛА ПЧОЛАНЬКА

Загудзела пчоланька,
Па бару лятаючы,
Мядочак збіраючы:
— Горкі ж ты, мой мядочак,
Без слонечка збіраючы.
Заплакала ўдованька,
Па дварочку ходзячы,
Трэсанькі збіраючы,
Абедачык гатуючы:
— Горкі ж ты, мой абедачык,
Без мілага абедаючы.

## 269м. ЗАЗВІНЕЛА ПЧОЛАЧКА

Зазвінела пчолачка,
Па бару лятаючы,
Сладкі мёд збіраючы.
Заплакала ўдовушка,
Вячэрачку гатуючы:
— Вячэра мая сахарная,
З кім я буду вячэраці?
Вячэраці сірацінкай,
Спаць класціся са скацінкай.

## 270. ТЫ ДУБРОВА, ДУБРОВА, ДУБРОВУШКА ЗЯЛЁНАЯ

Ты дуброва, дуброва, дубровушка зялёная,
А што ж ты, дуброва, да не родзіш нічога,
Што не родзіш нічога, што ні вса, ні грачыхі,
Што ні вса, ні грачыхі, ні ярыч пшаніцы,
Толькі родзіш, дуброва, адзін ельнік, бярэзнік,
Адзін ельнік, бярэзнік да сціглясты сасоннік.

## 271. ГОРА МАЁ, ГОРА

Гора маё, гора,
А я ўсё спяваю,
Бо я сваё гора
За вяселле маю.
На суседнім полі
Жыта да пшаніца.
На суседнім полі
Капа каля копы,
А на маім полі
Чатыры снопы.
На суседнім полі
Жанчыны спяваюць,
А на маім полі
Салдаты гайсаюць.

На суседнім полі
Касарыкі косяць,
А на маім полі
Жураўлі галосяць.

## 272. ДА ГУЛІ ГУСЛІ, ГУЛІ

Да гулі гуслі, гулі,
Да не пад мае мыслі.
Аддавала ж мяне маці
Да ў турэцкую зямлю
За казацкага сына.
Ой, я зямлі не баюся,
Ні казацкага сына,
Да баюся, баюся
Да вялікага сціску,
Шабелькавага бліску.
Ён шабелькаю блісне,
Мне галаванька звісне.

## 273. НА УДОЎЧЫНЫМ ПОЛІ

На ўдоўчыным полі
Сабраліся работнікі:
Да мядзведзь карчом арэць,
А ваўчок барануець,
А зайчык дровы сячэць,
А ліска хатку топіць.
Сонейка за лес, за лес,
Яны пайдуць дамоў зараз.
Да мядзведзь у лес палез,
А ваўчок у хмельнічак,
Зайчык — у бярэзнічак,
А ліска ў норачку,
А ўдоўка ў каморачку.

## 273а. А Ў НАШАЙ УДОЦЫ МНОГА РАБОТНІКАЎ

А ў нашай Удоцы многа работнікаў:
Там мядзведзь карчом арэ,
Шэры воўк барануе,
А заенька дроўцы сячэ,
А лісіца бліны пячэ.

## 274. ОЙ, ЛЕТА, МАЁ ЛЕТА

Ой, лета, маё лета,
Не пажата маё жыта.
Каб жа мне другое лета,
То пажала б сваё жыта.

## 275. ПАЙДУ Я ГУКАЮЧЫ

Пайду я гукаючы, *
Сваю долю шукаючы.

— Ой ты, доля, мая доля,
Дзе ты падзелась?

Ці ў лесе заблудзілась,
Ці ў моры ўтанула?

— Каб я ў лесе заблудзілась,
Ўвесь бы лес засмуціла,

Каб я ў моры ўтанула,
Ўсё бы мора ўскалыхнула.

Адзыўнулась мая доля
На той бок сіняга мора.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 276. ОЙ, У ВІЛЬНІ, ВІЛЬНІ

Ой, у Вільні, Вільні
Ўсе званы зазванілі —
Малыя і вялікія.
Там кароль абедае,
Там кароль абедае,
Якубка прыслугуе,
Кубачкі налівае,
Ў караля пытае:
— Ой, каролю, мой пане,
Што я ў цябе выслужу,
Што я ў цябе выбуду?
— Ой, выслужыш, Якубка,
Коніка пад сядзелкам,
Паненку пад вяночкам.
— Ой, паеду, паеду
Да брацяткі ўзволіцца.
— Ой, брацейку радненькі,
Ці пазволіш жаніцца?
— Ой, Якубку-брацейку,
Малады не жаніся,
Розуму набярыся,
Розуму кавалерскага,
Стану малжэнскага.

## 277. ЛЯТАЎ СЕЛЯЗЕНЬКА

Лятаў селязенька
Па шырокаму полю
Дзевак выглядаць,
У каторыя галоўка,
Як баронка?
А ў Машкі галоўка,
Як баронка,
А сама, як варонка.
А ў Насці — як макаўка,
А сама — як ластаўка.

## 277а. КАЗЁЛ БЕЗЫМЕН КАЛА ПОСТАЦІ ХОДЗІЦЬ

Казёл безымен кала постаці ходзіць,
Дзевак выглядаіць,
У каторае галовачка гладка,
Шырока пастатка.
У нашае Юлічкі галовачка гладка,
Шырока пастатка.
Аддадзім мы яе за двараніна
За маладога.
Дваранін умеіць чытаць і пісаць,
У вуселькі йграць,
Юлічка ўмеіць
Хораша вышываць.

## 278. ЧЫЕ Ж ГЭТА ЖОНАЧКІ?

Чые ж гэта жоначкі,
Як чорныя вароначкі?
Самі яны, як вароны,
Іх галовы, як памёлы,
Самі жнейкі старыя,
Іх сярпы ліповыя,
Па месяцу жалі,
Сярпы паламалі.
Каторая нашла,
Тая дамоў пашла,
У каторай нету,
Тая ішчэць да свету.
А чые ж гэта жаночкі,
Як белыя лебядочкі?
Віроўскія жаночкі —
Як белыя лебядочкі.
Самі яны, як лябёдкі,
Іх галоўкі, як макаўкі.
Па сонейку жалі,
Сярпы пазлачалі.

## 278a. ЧЫЕ ГЭТА ЖНЕІ?

Чые гэта жнеі
Дамоў паляцелі?
Яны чорны, як вароны,
І галовы, як бароны.
Паляцелі, паляцелі,
На коллі паселі.
Янкавы жнеі
Дамоў паляцелі.
Яны чорны, як вароны,
І галовы, як бароны.

## 278б. ДРЭМКА ПОЛЕ, ДРЭМКА ПОЛЕ!

Дрэмка поле, дрэмка поле!
А чыё ж поле дрэміць?
А Ракацяўскае поле дрэміць!
Там жнеечкі ўсе старыя,
Ў іх сярпочкі дзераўныя!
Там жнеечкі падрамалі
І сярпочкі паламалі.
Звонка поле, звонка поле!
Да й чыё ж там поле звонка?
Варонкаўскае поле звонка:
Там жнеечкі маладыя,
Ў іх сярпочкі залатыя,
Там жнеечкі заспявалі,
Ў іх сярпочкі зазвінелі.

## 279. БУШАВАЛІ ВАЛЫ У ЯРМЕ

Бушавалі валы ў ярме,
А сужанку дзеўкі на ўме,
А сужанка татку просе:
— А выпражы валоў з ярма,
Ці не сойдуць дзеўкі з вума.
Яны мяне адлупілі,
Галовачку адурылі.

## 280. ДОЖДЖ У ПОЛІ КУРЫЦЬ, КУРЫЦЬ

Дождж у полі курыць, курыць,
А дзед бабу журыць, журыць:
— Ідзі, баба, дамоў, дамоў!
А напячы бліноў, бліноў!
Бабе таго не хочацца
Каля печы варочацца,
А ў тоненькай сарочыццы,
А ў беленькай намётаццы!

## 281. ПАСЫЛАЕ ВАНЮ МАЦІ

Пасылае Ваню маці
Яравое жыта жаці:
— Ступай, Ваня, сажні.
Ваня жаў, ён не ляжаў,
Усё з міленькай размаўляў,
Адзін снапок нажаў.
Ой, з вялікай Ваня мукі
Ўзяў парэзаў сярпом рукі,
Пайшла рэзвая кроў.
Блізка міленька жала,
Хусткай руку завязала:
— Уціхні, рэзва кроў!
Ой, уціхні, рэзва кроў,
Відаць, Ваня нездароў,
Ідзі, Ваня, дамоў!
Ішоў Ванька, паспяшаўся,
Пад ім мосцік падламаўся,
Яшчэ Ваню бяда,
Ой, бяда ж Ваню, бяда,
Цякла з-пад моста вада,
Сам не знаю куда.
Цякла вада па пяску
З Пецярбурга ды ў Маскву,
У Расіюшку зайшла.
Няма лепшага сялення,
Як Паплаўская дзярэўня:
Можна Масквой назваць.

## 282. ГАВАРОК, ГАВАРОК МАЛАДЫ ХЛОПЧЫК

Гаварок, гаварок малады хлопчык,
Ён вельмі гаварок.
Маладую дзевачку воўк павалок.
Вы не шукйце, вы не гукайце,
добрыя людзі,
Няхай валачэ.
Як выкачу бочку мядочку,
Другую віна,
Што б мая дзевачка
Здаравенька была,
Што яе бела лічанька
Да не загарэла,
Што б яе галовачка
Да не забалела.

## 282а. ДА Й ЧЫЯ ЕТА ДА Й ДЗЯЎЧЫНКА

Да й чыя ета да й дзяўчынка
Да й пайшла жыта жаць,
А не дайшоўшы яна палосачкі,
Села аддыхаць.
Да не чапайце вы,
добрыя людзі, —
Яна ўтамілася,
Яна ў свайго роднага бацюшкі
Да й забарылася.
Ты й маладзенькі да й
Пятрушачка,
Ты зялёны яварок,
Да ўжо ж тваю Яленачку
Да й ваўчок павалок.
— Вы не чапайце, добрыя людзі.
А няхай валачэ.
Калі бог судзе, яна мая будзе,
Ай, ад ваўка ўцячэ.
А калі ж яна да не мая будзе,
Яна й так прападзе.

25. Зак. 713

Да чыё ета шырокае поле,
Ой, бяжыць яно скора?
— Не само поле да й бяжыць
скора,
А мы ж яго гонім.
Да й гоняць яго жнейкі
маладыя
Да й серпікі сталяныя.

## 283. ШЧЭ НЯДАУНА Я ЖАНІУСЯ

Шчэ нядаўна я жаніўся,
Быццам рак ў пятроўку.
Узяў свае дзеткі малы
Дый пайшоў на ніўку.
І як выйшаў за сяло,
І як стаў на горбе,
Аглянуўся кругом сябе,
Ці ўсе дзеці ў торбе.

## 284. I ЗВІУСЯ ХМЕЛЬ

I звіўся хмель
З бярозаю зялёнаю,
Нажыўся Лявон
З жаной маладою.
Нанасіўся сарочак беленькіх,
Штаноў алляненькіх.
Бог яму даў
Жану маладую,
Сям'ю весялую:
У поле ідуць,
Як пчолкі гудуць
Да ўсё баравыя.
Сы поля ідуць —
Песенькі пяюць
Да ўсё жніўныя.

## 284а. ДУБ З БЯРОЗАЮ ШАТАЕЦЦА

Дуб з бярозаю шатаецца,
Пілiпка жаноюхваліцца:
— Да нанасіўся анучак каравых
І сарочак дыравых.
Дуб з бярозаю шатаецца,
Пілiпка жаноюнабіваецца,
Сваёй маладоювыхваляецца:
— Да нанасіўся анучак беленькіх,
Сарочак таненькіх.

## 284б. ПАХІНУУСЯ КУДРАВЫ ДУБОЧАК

Пахінуўся кудравы дубочак
На зялёны лужочак.
Пахваляўся малады Іванька сваёю жаной:
— А ў мяне жана і вумна, і разумна,
А мая жана без мёду не ляжыць,
Без мёду не ляжыць, без віна не ўстаніць.
Я сваю жану з мёдам спаць кладу,
З мёдам спаць кладу, з віном пабуджаю.
Пахінуўся кудравы дубочак
На зялёны лужочак.
Выхваляўся малады Якушка сваёй жаной:
— А мая жана не вялікага роду і сама глупа.
Мая жана без кія спаць не ляжыць,
Бяз пугі не ўстаніць,
Я сваю жану кіем спаць укладаю,
Кіем спаць укладаю, пугай пабуджаю.

## 284в. ПАХІЛІУСЯ ДА ДУБОК ДА НА БЯРОЗКУ

Пахіліўся да дубок да на бярозку,
Ай, на зялёнаю,
Пахваліўся да Іваначка жаною,
Да любачкай маладою:

Нанасіўся жа новенькіх сарочак
Да бяленькіх анучак.
Праз негадзяйку
Напрасіўся да дзіравых сарочак
Да каравых анучак.

## 285. А У ЛУЗЕ КАЛІНА СТАЯЛА

А ў лузе каліна стаяла,
У лузе кудравая стаяла,
Бяленькім цветам зацвітала.
На той каліне салавейка,
На той кудравай салавейка
Жаласна песенькі спяваець.
Бог цябе, маладзец, караець
Тою жаною няўдалаю,
Тымі дзеткамі дробненькімі.

## 286. МАРФАЧКА ЖЫТА ЖНЕ

Марфачка жыта жне,
А Гардзейка вяжэць,
Дажаўшыся да мяжы,
Яна яму кажа:
— Баразёнка вузенька —
Не памесцімся,
Ночка летняя каротка —
Не нацешымся.

## 287. ОЙ, ЗАКАЦІ, ЗАКАЦІСЯ, ЖАРКАЕ СОНЕЙКА

Ой, закаці, закаціся, жаркае сонейка,
За сад-вінаград.
Ой, цалуйцеся вы, дзяўчаткі,
Ой, хто каму рад.

Ой, што Ганначка свайму Петрыку
Яна радзенька была.
Цалавала яго, мілавала яго
Шчэ й ручачку падала.
— Ой, цяперака, малады Петрычак,
Буду верная твая.
Як зажурыўся малады Петрычак:
— Ой, нашто яе браў,
Ой, лучшы бы я гэты тры гадочкі
Ў хваробе праляжаў.
Ой, наносімся рубашачак дзіравых,
Ой, анучак каравых.

## 288. ОЙ, ДА ЗАКАЦІЛАСЯ ДА ЖАРКАЕ СОНЦА

Ой, да закацілася да жаркае
сонца,
Ой, за зялёны гай.
Паглядзі-ка ты,
Малады дзяцінка,
Што дзевачка — негадзяй.
Негадзяйка яна,
Не работнічка:
Пайшла ў поле жыта жаць,
Не даходзячы да сваёй пастаці,
Ой, лажылася спаць.
Ой, прачнулася, улякнулася,
Ой, пабегла дамоў.
Не дабегла яна
Да новых варотаў,
Ой, паваліласяː
— Ой, ратуй жа, ратуй жа мяне,
Малады дзяцінка,
Ой, я й ўтамілася:
Баляць мае ручкі,
Баляць мае ножкі,
Баліць мая галава.

## 289. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА ЯСНА

Вячэрняя зара ясна,
А ў суседа жана красна.
— Суседзінька, мяняй са мной,
Я дам табе каня с сядлом,
А ты мне жану с сярпом.
Сусед жаны не мяняіць
І каня с сядлом не прымаіць.
— А хоць я ў бяду ўпаду,
А ў суседа жану ўкраду,
А хоць я павалюся,
А ўсё-такі за жаной паганюся.

## 289а. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА ЦЁМНА

Вячэрняя зара цёмна,
У двараніна жана чорна,
Светавая зара ясна,
Ў селяніна жана красна.
— Я дваранін, ты селянін,
Я дам табе каня з сядлом,
Памяняем жану з табой!
— Не хачу каня з сядлом,
Не мяняю жану з табой!
— Ну, хоць жа я ў бяду ўпаду,
У селяніна жану ўкраду,
Хоць жа я утаплюся,
За жаною паганюся!

## 289б. ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА ЯСНА

Вячэрняя зара ясна,
Ранняя яснейша,
Двараніна жана красна,
Ў селяніна краснейша.

Дваранінава жана ўлетку халадуе,
Зімою галадуе.
Селянінава жана ўлетку пажынае,
Зімой пажывае.
— Селянін, змяняй жану,
Дам каня варанога, вала палавога.
— Я прыдатку не хачу,
Сваёй жонкі не мяняю.
— А хоць я ў бяду ўпаду,
Але ў селяніна жану ўкраду.

## 290. ОЙ, ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА

Ой, зелена, зелена
Траўка на мяжы.
Затым яна зелена,
Што ідуць дажджы.
Ой, малада, малада
Жонка ў мужыка.
Затым яна малада,
Што доля така.
Ой, спіць у гарыначцы
Да белага дня,
Пакуль збудіць свёкарка
На сваё дзіця:
— Уставай, нявестачка,
Доўга так не спі!
Рыжыя каровачкі
Ў поле не пашлі,
Кужалёк не прадзены,
Кудзелькай ляжыць,
А жытцо, пшанічанька
Не жата стаіць.
А мужык заступіцца:
— Татачка ты мой!
Не маеш ты волечкі
Над жонкай чужой.

Рыжанькіх каровачак
Я й сам папасу,
Белы кужалёчак
Спрасці прыкажу,
На жытцо, пшанічаньку
Жнеек я найму,
А сваю міленькую
Я й сам пабуджу:
— Уставай, міленькая,
Досыць табе спаць!
Вараныя конікі
Упрэжаны стаяць.
Садзіся, міленькая,
К жнейкам павязу,
Усіх іх, галубачка,
Табе пакажу.
Золатам-дукатамі
Будзем ім плаціць,
К сабе на дажыначкі
Будзем іх прасіць.

## 290а. ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА

Зелена, зелена
Пад дубам трава,
Молада, молада
У Марціна жана.
Чаго яна молада?
— У полі не была,
У полі не была,
Жыта не жала.
— Марціначка, душачка,
Запрагай каня!
Паедзем у поле,
Пракатаемся,
З маладымі жнейкамі
Павітаемся.

## 291. ОЙ, У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ

Ой, у лузе, лузе
Каліна жаркая,
Ой, за добрым мужам
Жонка гаваркая.
Як яна загаворыць,
Як у званок зазвоніць,
Як яна заспявае,
Як на скрыпцы заграе,
Як па хаце паходзіць,
То, як сонейка, сходзіць,
Як на лаве сядзе,
То, як сонечка, ззяе.

## 292. ІШЛА ДЗЕУКА ЖЫТА ЖАЦІ

Ішла дзеўка жыта жаці
Да забыла сярпа ўзяці.
Як сярпа ўзяла, хлеб забыла,—
Абы дзеўка дома была.

## 293. НАЖАЛА Я СНАПОК

Нажала я снапок —
Зламала сярпок.
Нажала я другі —
Той нетугі.
Нажала трэці —
Той не дарэчны.

## 294. ОЙ, НАША ГАННА

Ой, наша Ганна
Да даўні негадзяй:
Не ўмыўшысь, не часаўшысь
Да і ў поле пашла,

Не даходзячы да постаці,
Спатачкі лягла,
А ўстаўшы, сярпом спіну
пачасаўшы,
Дамоўкі пашла.

### 295. ЛЯНІВЫЯ ПАЖАЛІСЯ

Лянівыя пажаліся,
Праворныя асталіся,
А ў лянівых сярпы брыжжаць,
А ў праворных дзеці крычаць,
Лянівыя — гулі,
А праворныя — люлі,
Лянівыя за сумку,
А праворныя за люльку.

### 296. Я ДУМАЛА — ДАЖАЛАСЯ

Я думала — дажалася,*
А ззаду ўсіх асталася;
Я думала — мядзведзь ляжыць,
Аж то постаць мая стаіць.

### 297. А Я ЖАЛА, ЗАЖАЛАСЯ

А я жала, зажалася
І з хвасточкам асталася.
Я думала — скрыпкі граюць,
А то ж мяне ў хвасце лаюць:
— Ці ты спала, маладая,
Ці з хлопцамі прагуляла?

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 297а. Я ДУМАЛА — ЗАЖАЛАСЯ

Я думала — зажалася,
Аж зноў з хвастом засталася,
Я думала — скрыпкі йграюць,
Аж мяне зноў за хвост вядуць.
Я думала — пірог даюць,
Аж мяне зноў за хвост лаюць.

## 297б. Я Й ДУМАЛА — ЗАЖАЛАСЯ, ГЭЙ

Я й думала — зажалася, гэй,
Аж я з хвастом асталася.
Ой, думала, што сыр дадуць, гэй,
Ажно мяне за хвост вядуць.

## 298. ОХ, Я ЖАЛА Ж ХОПАМ, ХОПАМ

Ох, я жала ж хопам, хопам
Да й нажала цэлу копу,
Ох, я жала ж памаленьку
Да нажала сараценьку.

## 298а. ЖНІЦЕ, ЖНЕЙКІ МАЛАДЫЯ

Жніце, жнейкі маладыя,
Вашы сярпы залатыя.
— А мы жалі, не ляжалі,
Да абеду тры снапы нажалі,
А на абедзе цапу-лапу
І нажалі капу.
Ужо жыта палавеіць,
Наш пан багацеіць.
Ен па полі паязджаіць,
Маладых жнеек пытаіць:

— Жніце, жнейкі маладыя,
Вашы сярпы залатыя.
— А мы жалі, не ляжалі,
Нямнога нажалі,
А ў вечары цапу-лапу
І нажалі капу.

## 299. ОЙ, ПРЫДЗІЦЕ, ПАГЛЯДЗІЦЕ

Ой, прыдзіце, паглядзіце,
Ці многа нажалі,
Ці многа нажалі.
Ой, многа нажалі
І многа пажалі:
Пастаўлялі па тры капы,
Па чатыры снапы.

## 300. ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

Жала, не ляжала,
Тры снапочкі нажала.
А мой мужык Пракопачка
Едзе ў поле па копачку.
— Не бяры ты вожжачак,
Ні жэрдачкі, ні новае задовачкі.
Кладзі снапы ў задочак,
Сам сядзь у перадочак.

## 300а. А Я ЖАЛА ХАПУ-ХАПУ

А я жала хапу-хапу,*
А нажала за дзень капу,
А мой муж Пракопачка
Прыехаў на атопачку,
Забраў маю копачку.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 300б. ОЙ, Я У БАРЫ ЖЫТА ЖАЛА

Ой, я ў бары жыта жала,
Ой, я жала, не ляжала,
Ой, я жала, не ляжала,
За дзень тры снапкі нажала.
— Паедзь, мілы, па жыцечка
Ды не бяры рубля з дому,
А вырубай бярэзіну
Ды на маю сярэдзіну.

## 300в. ДА Я ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

Да я жала, не ляжала,
Тры снапы нажала,
Адзін зжала да абеда,
Другі па палудні,
Трэці да вечара.
Да вы, дзевачкі-сястрычкі,
Ці не пойдзеце дадому;
Накажыце вы майму мілому,
Штоб ён ехаў за мною.
Няхай ён не бярэ
Ні рубля, ні вяроўкі
Да вязе мяне дамоўкі.

## 300г. ОЙ, Я ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

Ой, я жала, не ляжала,
Тры снапочкі навязала.
Прыедзь, мілы, па тры снапы
Ды не бяры рубля з дому,
Вазьмі мяне маладую,
Як рожаньку чырвону,
Як вішаньку садову.

## 300д. А МОЙ ЖА ТЫ ПРАКОПАЧКА

А мой жа ты Пракопачка,
Едзь у поле па копачку,
Не бяры ты з двара рубля,
А вазьмі ты сякерачку,
Адсячы ты бярэзіну,
Папар маю сярэдзіну,
Што б я жала, не ляжала,
Па тры капы нажынала.

## 300е. ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛЕСУ

Пайду я каля лесу,
Як запяю куралесу:
Быццам жала, не ляжала,
Па тры снапы ў капу клала.
А мой мужык Пракопачка,
Не йдзі ў поле па копачкі,
Не запрагай каня,
Запрагай ката,
Не запрагай калёс,
Бяры атос,
Не бяры ты задовачкі,
А бяры вяровачкі.

## 300ж. ЦІ Ж Я БЫЛА НЕ ЖНЕЕЧКА?

Ці ж я была не жнеечка,
А нажала тры жменечкі,
А за цэлы дзянёчак
Я нажала снапочак.
Ай, мой мужу Пракопачка,
Едзь у поле па копачкі,
А не бяры жэрдзі з пуні,
А ні з клеці вяровачкі,
А вазьмі мяне з поля,
Я ўмарылася стоя.

## 300з. А Я ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

А я жала, не ляжала,
Адну копаньку нажала.
А мой мужу Пракопачку,
Едзь у поле па копачку,
Не руш жэрдзі, вяровачкі,
Вазьмі мяне дамовачкі.

## 301. ХТО НЕ ЎМЕЕ АРАЦІ

Хто не ўмее араці,
Таму хлеба не даці,
Ні капусты, ні бацвіння,
Няхай гультай пасе свінні.
Яму свінні дакучылі,
Яго араць навучылі:
«Голі! голі!» на волы.
Яго волы павялі:
То узрэх, то ў цэль,
Аж кашуля запацела.
А там была старушачка,
Як старая ігрушачка;
Яна яго жалавала,
Яна яго навучала:
— Які ты ў чорта гаспадар!
Чом зялёны твой папар?
Лепша ў доме гаспадыня
Сем гародаў апалола,
На хлеб мукі намалола,
А ты ляжыш, гультаіна,
Будзе біта твая спіна!
— Пастой, пане-аканоме!
Буду рабіць лепі дома,
А на дварэ не магу,
Бо ў спіну бяру.

## 301a. ХТО НЕ ЎМЕЕ АРАЦІ

Хто не ўмее араці,
Таму хлеба не даці.
Запрагаю пару валоў,
Выязджаю на папару.
Мае валы-жабракі,
Пахінуліся на бакі.
Як з дому ўбачылі,
Сто бізуноў адлічылі:
То ў рала, то ў цела,
Аж кашуля запацела.
Хто не ўмеіць араці,
Таму хлеба не даці,
А ні хлеба, ні бацвіння,
Няхай пасець, дурань, свінні.
Яму свінні здакучылі,
Араць яго навучылі.

## 302. ЖНЕЙКІ, ДАМОЎ

Жнейкі, дамоў,
Дроў няма палена,
Хата акалела,
Жнейкі, дамоў...
Лучыны ні шчэпкі,
Плачуць нашы дзеткі,
Жнейкі, дамоў...
Каша на паліцы,
Малако ў дайніцы.
Жнейкі, дамоў...

## 302а. БАБЫ, ДАМОЎ

Бабы, дамоў,
Печы паліце,
Вячэру варыце,
Бабы, дамоў!

Я не пайду,
У мяне маці дома,
Вячэра гатова,
Я не пайду.

Толькі пайду
На смачну вячэру,
На белу пасцелю,
Толькі пайду.

## 302б. ЖНЕЙКІ, ДАМОЎ

Жнейкі, дамоў
Печы паліці,
Вячэру варыці,
Жнейкі, дамоў...

Я не пайду,
Мая маці дома,
Вячэра гатова,
Я не пайду...
Толькі пайду
На смачну вячэру,
На белу пасцелю,
Толькі пайду...

### 302в. ЖОНКІ, ДАМОЎ

Жонкі, дамоў,
Ваша маці дома,
Вячэра гатова,
Жонкі дамоў.

А ў мяне дома
Лучыны ні шчэпкі,
Плачуць мае дзеткі,
Жонкі, дамоў.

А ў мяне дома
Хата не палёна.
Вячэра не варона,
Жонкі дамоў.

### 303. ВАЎКІ, МЯДЗВЕДЗІЦЫ

Ваўкі, мядзведзіцы,
Ідзіце бараду палоць.
Не пойдзеце сягоння —
Не ідзіце ніколі.

### 304. ЧЫЯ Ж ГЭТА БАРАДА?

Чыя ж гэта барада
Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта?

Рана, рана!
Сцяпанава барада
Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта,
Рана, рана!
Ты, Анютка, не гуляй,
Шоўк з барады выбірай,
Рана, рана!
Скупому гаспадару пяюць:
Чыя ж гэта барада
Смалой, дзёгцем уліта,
Дратваю ушыта?
Рана, рана!
Міхалкава барада
Смалой, дзёгцем уліта,
А дратваю ушыта,
Рана, рана!
Ты, Катрынка, не гуляй,
Смалу з барады выбірай,
Рана, рана!

## 304а. Я Й БАРОДАЧКУ ПАЛЮ

Я й бародачку палю,
Хазяіна не хвалю,
Дзіва-дзіва.
А хазяін к нам не йдзець,
Гарэлачкі не нясець,
Дзіва-дзіва.
І хазяйка не ідзець,
Закусачкі не нясець,
Дзіва-дзіва.

## 304б. СЯДЗІЦЬ МЯДЗВЕДЗЬ НА КАПЕ

Сядзіць мядзведзь на капе,
Дзівуецца барадзе:
А чыя то барада
Чорным шоўкам павіта,
Сытой-мёдам паліта?

А Пятрова барада
Чорным шоўкам павіта,
Сытой-мёдам паліта!
[Скупому ж гаспадару пяюць]:
Сядзіць мядзведзь на капе,
Дзівуецца барадзе:
— Ой, дзіўна і мне да той барадзе.
А чыя то барада
Смалою паліта,
Пянькою павіта?
А Рамана барада
Уся смалою паліта
І пянькою павіта.

## 304в. ІШОУ КАЗЕЛ ПА МЯЖЭ

Ішоў казёл па мяжэ,
Дзіваваўся барадзе.
Дзіва, барада! Дзіва, барада!
Дзівавалася каза,
Што балтаіцца ў казла.
Дзіва, барада! Дзіва барада!
А ты, козінька-казёл,
Пакажы мне й свой хахол!
Дзіва, барада! Дзіва, барада!

## 304г. СЯДЗІЦЬ КАЗЕЛ НА КАПЕ ДА ДЗІВІЦЦА БАРАДЗЕ

Сядзіць казёл на капе да дзівіцца барадзе:
Дзіва, дзіва мне маёй барадзе.
Чыя ж то барада мёдам-віном уліта,
Чорным шоукам увіта?
Васілёва барада мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам увіта.
Дзіва, дзіва мне маёй барадзе.

## 305. БОЖАНЬКА, ПАМАЖЫ

Божанька, памажы
Дажаць ніўку да мяжы.
Як на нашай ніўке
Сягоння пажынкі.
Ніўку гэту зжалі,
Другую пачалі.
Жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя,
Па месяцу жалі,
Сярпы пацяралі.
Мы сабяром тых аргоў
Да паішчым тых сярпоў.

## 305а. ЯК НА НАШАЙ НІЎЦЫ

Як на нашай ніўцы
Сягоння пажынкі.
Дзіва, дзіва.

Відзіць мае вочка —
Краёк недалёчка.
Дзіва, дзіва.

Да краю дажнёмся,
Мёду мы нап'ёмся.
Дзіва, дзіва.

Наш хазяін Савасцей
Дасць гарэлкі берасцень.
Дзіва, дзіва.

Хазяйка-цяцера
Паставіць вячэру.
Дзіва, дзіва.

Наварыла буракоў,
Насыпала чарвякоў.
Дзіва, дзіва.

Наварыла кашы,
Насыпала сажы.
Дзіва, дзіва.

## 306. ДА ПАЛІЦЕ ПОЛІЙКІ

Да паліце полійкі,
Чы не дасць пан гарэлкі,
Да і піва барыла,
Штоб поле гаварыла.

## 307. ДА КОЛА, МАЕ ЖНЕЕЧКІ, ДА КОЛА

Да кола, мае жнеечкі, да кола,
Не выпускайма перапёланькі з поля.
Як выпусціма перапёланьку з поля,
Пашлема дзеваньку да бору.
Пашлем дзеванькі ў бор калінанькі ламаці,
А малодчыкі копанькі складаці,
А маладзіцы жытні вяночак звіваці.
В'ема жытні вяночак з калінаю,
І наложыма на галоўку дзяўчыны,
І занясема мы той вяночак да пана,
І будзе нам, чэляданцы, пахвала:
— Выйдзі, пanоньку, проціў нас,
Вазьмі вяночак, што ў нас,
Павесь яго ў стадоле на сцяне,
А нам палажы па чырвончыку на стале.

## 308. ВЫЛЕЦЬ, ПЕРАПЁЛКА, БО ЎЖО У НАС ЖЫТА ТОЛЬКА

Вылець, перапёлка, бо ўжо ў нас жыта толька.
— Не буду вылятаці, буду тут зімаваці!
Зазванілі стадолы, што няпоўны староны.
Як мы жыта дажнема, староны даложыма:
Есць на полі копачак, як на небе зорачак.

## 309. ДА ЖНІЦЕ, ЖНЕЕЧКІ, ЖЫТА

Да жніце, жнеечкі, жыта,
Перапёлачка ў жыце.
А мы жыта дажалі,
Перапёлачку паймалі.

## 310. НІУКА, НІУКА

Ніўка, ніўка,
Дай маю сілку
На другую ніўку,
Ніўка, ніўка.

Ніўка, ніўка,
Я цябе жала,
Сілку спацярала,
Ніўка, ніўка.

Ніўка, ніўка,
Бараду палола,
Ручкі пакалола,
Ніўка, ніўка.

Ніўка, ніўка,
Я цябе жала,
Сілку спацярала,
Ніўка, ніўка.

## 311. КАНЕЦ НІУЦЫ, КАНЕЦ

Канец ніўцы, канец!
Упляцём пану вянец.
Да ўжо жніво ў канца,
Нуце, дзевачкі, да вянца!
Нуце да вянца!

## 312. У ТАНОК, ЖНЕЙКІ, У ТАНОК

У танок, жнейкі, ў танок,
А звіла пану вянок,
Не з руты, не з мяты,
З ядранага жыта.
Судзі, божа, гэты год
    праважаці,
А другога дачакаці,
Вяночкі савіваці,
А не з руты, не з мяты,
З ядранага жыта,
Абжынкі спраўляці,
Гарэлачку піці
І бога хваліці.

## 313. ПАВЕЙЦЕ, ВЕТРЫ

Павейце, ветры,
Рана, рана,*
Па чыстым полю.
Нясіце весці
Нашаму пану,
Што яго жнейкі
Жыта пажалі,
У копы паклалі.
Ой, часта, густа
На небе звёзды,
Ой, часцей, гусцей
На полі копы.
Ой, шырок, высок
На небе месяц,
Ой, шыры, вышы
Ля гумна скірта!

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

## 313а. ПАВЕЙЦЕ, ВЕТРЫ

Павейце, ветры,
Ой, рана, рана,
Нясіце весці
Нашаму пану,
Што яго жнейкі
Жыта пажалі
І вельмі многа
Ўсе пагаравалі.

## 313б. ПАВЕЙЦЕ, ВЕТРЫ

Павейце, ветры,*
Люлі, рана па чыстым полі,

Нясіце весці,
Люлі, рана к госпаду богу,

Што ў нас сягоння,
Люлі, рана жыта дажалі,

Жыта дажалі,
Люлі, рана копы стаўлялі.

А дай жа, божа,
Люлі, рана ў полі капамі,

У полі капамі,
Люлі, рана у гумне стагамі.

## 313в. ПАВЕЙЦЕ, ВЕТРЫ!

Павейце, ветры, *
Рана, рана у чыстым полі.

Нясіце звесці
Рана, рана нашаму пану,

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Што яго жнейкі
Рана, рана жыта дажалі,

Жыта дажалі
Рана, рана пасад стаўлялі.

## 314. ПАЕДЗЬ, ГАСПАДАР, ПА ПОЛЮ

Паедзь, гаспадар, па полю,
Пазбірай жэнчыкі да столу.
— Да столу, жэнчыкі, да столу,
Ўжо нагуляліся па полю.
— Нядоўга мы гулялі,
Густое жытачка зжыналі,
Густыя копанькі складалі.
Колькі на небе зорачак,
Столькі на ніве копачак.
Паехаў гаспадар да лесу,
Пагубляў ключы да пасу.
Дай жа, божа, каб знайшоў,
Каб нас мёдам, віном абышоў,
Да даў гарэлкі даволі,
Каб былі жэнчыкі вясёлы.

## 314а. ЛЯЦЕЎ САКОЛІК ПА ПОЛЮ

Ляцеў саколік па полю,
Збіраў пташачкі да бору:
— Да бору, пташачкі, да бору,
Ўжо наляталіся па полю!
— Нямнога ж мы ляталі,
Чырвоны ягадкі збіралі!
Ездзіў гаспадар па полю,
Збіраў жанцы дадому:
— Дадому, жэнчыкі, дадому,
Ўжо нагулялісь па полю!

— Нямнога то мы гулялі,
Усё густа жыта жалі,
Тоўстыя снапкі вязалі,
Частыя копкі складалі.
Колькі на небе зорачак,
Столькі на полі копачак.

### 314б. ПАХАДЗІЎ ГАСПАДАР ПА ПОЛЮ

Пахадзіў гаспадар па полю,
Пазбіраў жнеечак дадому:
— Дадому, жнеечкі, дадому,
Ўжо нагуляліся па полю.
— Мы не гулялі, жыта жалі,
Нажалі сто коп, як адзін сноп.
Колькі на небе зорачак,
Столькі на полі копачак.
На небе зорачак нязбачна,
На полі копачак нязлічна.

### 314в. ПА ПОЛЮ ГАЛУБОЧАК ЛЯТАЕ

Па полю галубочак лятае,
Па полю сізенькі лятае,
Ён сваёй галубкі шукае:
— Йдзе мая галубка дзелася?
Йдзе мая сізенькая дзелася?
Не з кім мне па полю лятаці,
Не з кім мне галубоў частаваці.
Па двару хазяін ходзіць,
А ён сваёй хазяюшкі ішчэць:
— Йдзе ж мая хазяюшка
дзелась?
Не з кім мне па двару хадзіці,
Не з кім мне сталоў засцілаці,
Не з кім мне жней частаваці.

## 314г. ЛЯТАЎ САКОЛІК ПА ПОЛЮ

Лятаў саколік па полю,
Збіраў пташачкі да бору:
— Да бору, пташачкі, да бору,
Ужо наляталіся ўволю!
Ездзіў наш пан па полю,
Збіраў жанчыкі дадому:
— Дадому, жанчыкі, дадому,
Ужо нахадзіліся ў полі.

## 314д. ОЙ, ЛЯТАЛА ПЕРАПЁЛКА ПА ПОЛЮ

Ой, лятала перапёлка па полю
І збірала дробны пташкі да бору:
— Ой, да бору, дробны пташкі, да бору,
Бо ўжо вы нагуляліся па полю.
— Ой, не дармо мы па полю гулялі,
Бо мы сабе пажытачку шукалі,
Бо мы дробны ягаданькі збіралі,
Із лецейка на зіманьку складалі.
Ой, хадзіла наша пані па полю
І збірала чаляданьку да двору:
— Ой, да двору, чаляданька, да двору,
Бо ўжо вы нагуляліся па полю.
— Ой, не дармо мы па полю гулялі,
Бо мы жыта і пшаніцу дажалі,
Ой, дажалі мы жытцо аблогі,
Пячы, пячы, наша пані, пірогі!
Ой, каціўся наш вяночак па долу
І прасіўся пана-гаспадара ў стадолу:
— Я ў свайго гаспадара пагашчу
І старонаньку дамашчу,
На новае, на другое залажу.
— Выкаць, выкаць бочку мёду, віна — дзве,
Пачаставаці чаляданьку на дворы!
— Ой, чыя то чаляданька так дробна?
— То нашаму пану спадобна.

— Ой, чыя то чаляданька на даліне?
— То нашага пана з Украіны.
— Ой, чыя то чаляданька гуляла?
— То ў нашага пана дажала.
— Ой, адчыні нам, пане, варота,
Бо нясём мы вяночак з залота;
Не з золата наш вяночак — што з жыта,
Судзі, божа, пану спажыці,
На другое, на новае лета залажыці.

## 315. А ІДУЦЬ, ІДУЦЬ ДЫ ЖНЕЕЧКІ З ПОЛЯ

А ідуць, ідуць ды жнеечкі з поля,
Ды жнеечкі з поля,
Як вутачкі з мора.
Ой, нясуць, нясуць
Ядраное жыта
Усё ў вянках павіта.
Сустракаюць іх
І ў новых варотах.
Не пытаюцца:
Ці пілі, ці елі,
Ці аддыху мелі,
А пытаюцца ў нас,
Ці многа нажалі.
А мы зжалі поле шырокае,
Жыта ядранае.

## 315а. А ІДУЦЬ, А ІДУЦЬ

А ідуць, а ідуць
Жнеечкі з поля,
Як вутачкі з мора.
А выходзіць к ім,
А выходзіць к ім
Іх гаспадынька.

І пытаецца ў іх,
І пытаецца ў іх:
— А вы, жнеі, жнейкі,
Жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя,
А ці пілі вы,
А ці елі вы,
А ці пасядзелі вы?
— А мы жалі, жалі,
Жалі, не ляжалі,
Жалі, не ляжалі,
Усё поле пажалі,
У копачкі паскладалі.
А на небе зорачак многа,
А ў полі копачак многа.

## 315б. ОЙ, ІДУЦЬ, ІДУЦЬ ЖНЕЕЧКІ З ПОЛЯ

Ой, ідуць, ідуць жнеечкі з поля,
Ой, нясуць, нясуць яравое
жыта,
У вяночкі звіта.

## 316. ДА ЧЫЕ ТАМ ЖНЕЙКІ ЙДУЦЬ?

— Ды чые там жнейкі йдуць,
Як пчоланькі, гудуць,
Залатыя сярпы нясуць?
— Андрэйкавы жнейкі йдуць,
Залатыя сярпы нясуць.

## 317. ДА ШТО У ПОЛЮ ГУДЗЕЦЬ?

Да што ў полю гудзець?
Да вясёл пасол ідзець,
Вясёлыя весці нясець
Да да слаўнага пана.

Хоць нямнога пажана,
Да многа нажалі:
Да сто коп да абеду,
Да другія да палудня,
А трэція да вячэры.
То для нашага пана добрая слава.

## 317а. ДА ГУДЗЕЦЬ ПОЛЕ, ГУДЗЕЦЬ

Да гудзець поле, гудзець,
Талака з поля ідзець.
— Наш панок, не злякайся,
У пакоік не хавайся,
Выкаці бочку піва,
А другую гарэлачкі,
Мы жнейкі не жаўнеркі,
Не пап'ём усёй гарэлкі,
Наша пані міла
Дасць нам белага сыра.

## 318. Я МАЛАДА ІДУ І КВЕТКУ НЯСУ

Я малада іду і кветку нясу,
Адчыняй, божанька, варота,
Нясу кветачку з залота,
Не з золата — з жыта.
Мы нікому яе не дамо,
Толькі гаспадару на рукі здамо.

## 319. А НАШ ВЯНОЧАК ЯДВАБАМ ВІТЫ

А наш вяночак ядвабам віты,
Не аддамо яго за талер біты.

Плён нясём, плён
З усіх старон! *

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Ой, выйдзі, пані, хоць на ганочак,
Ой, прымі, пані, злоты вяночак.

Дажалі жыта аж да дарогі,
У нашага пана харошыя ногі.

Дажалі жыта, выгналі ліса,
У нашага пана чырвонцаў міса.

Ой, на возеры сіняя вода,
А наш пан едзе, як ваявода.

Ох, там на небе сіні аблокі,
Нашая пані ўзялася ў бокі.

Нашая пані да й выскачыла,
Бочачку піва нам выкаціла.

Не шкадуй, пані, белага сыра,
Ой, дасць бог пані харошага сына.

Не шкадуй, пані, сівага жрэбца,
Шлі па музыкі хоць да Кралеўца.

Не шкадуй, пані, вронага коня,
Шлі па мёд, віно, хоць да Кракова.

Ой, у гародчыку чырвона рожа,
А наша пані пекна і гожа.

Ой, у гародчыку чырвоны кветкі,
У нашай пані пекныя дзеткі.

## 319а. ДЗЯКУЕМ ТАБЕ

Дзякуем табе, наш моцны божа,
Што нам дапамог сабраці збожжа.

Плён нясём, плён
Нашаму пану ў двор! *

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Дзякуй жа богу за тыя дзеткі,
Што падбіралі на полі кветкі.

А наш вяночак не па такому,
Кожны каласок па залатому.

Не жалей, пане, бочку мядочку,
Нажалі жыта так, як лядочку!

У агародчыку чырвоны кветкі,
У нашага пана харошы дзеткі.

Ой, выйдзі, пане, хоць на ганочак,
Ой, выкуп, выкуп злоты вяночак.

А наш вяночак, ой, ядрон, ядрон,
Вынесце вады з вядром, з вядром.

Нашая пані жыта дажала,
Сярпочка ў руках не дзяржала.

Ой, на балоце скакалі жабы,
Дажалі жыта старыя бабы.

Ой, на аблозе скакалі козы,
Дажалі жыта паненкі гожы.

Ой, сядзіць наш пан дый
на ратушы,
Ён лічыць грошы ў капелюшы.

Дажалі жыта аж да граніцы,
Не жалей, пане, піва шкляніцы.

Дажалі жыта, выгналі ліса,
У нашага пана галоўка лыса.

Бадай здаровы плён пленавалі,
На другі гадок зноў дачакалі.

Не жалей, пане, сівага коня,
Едзь па музыку аж да Кракова.

## 319б. ДАЖАЛІ ЖЫТКА ДА САМАГА ДОЛУ

Дажалі жытка да самага долу,
Падзякуем пану богу,
Плён нясём, плён!
Каб мы здаровы жытка
спажывалі,
За год шчаслівы зноў дачакалі!
Плён нясём, плён!
Засцілай, пане, сталы і лавы,
Бо да цябе йдзець госць
нязнаны,
Плён нясём, плён!
А наш вяночак не па такому,
Кожны каласок па залатому.
Плён нясём, плён!
Ой, вылець, вылець, ясны
саколе,
Мы больш не прыйдзем
на гэтае поле.
Плён нясём, плён!

## 319в. ОЙ, У САДОЧКУ ЦВІЛА ЛІЛЕЯ

Ой, у садочку цвіла лілея
Ды жала жытка панна Марыя.

Збор жытка, збор
Нашаму пану ў двор! *

Па нашым полі беглі лябёдкі,
Дажалі жытка красны маладкі.

Па нашым полі беглі авечкі,
Дажалі жытка красны дзявочкі.

Па нашым полі скакалі жабы,
Дажалі жытка старыя бабы.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Не шкадуй, пане, бочку мядочку,
Нажалі жыта так, як лядочку.

Засцілай, пане, сталы і лавы,
Ой, бо ідзе госць небывалы.

Не шкадуй, пане, сівага коня,
Едзь па гарэлку аж да Мялёна.

## 320. ОЙ, ШУМІЦЬ, ШУМІЦЬ ДУБРОВА

Ой, шуміць, шуміць дуброва,
Ой, стучыць, стучыць дарога —
Да нашага пана жанцы ідуць,
Яны яму галасок падаюць:
— Прачыняй, панічу, кварціру,
Ідзі падзівіся на ніву:
Учора жыта стаяла,
А цяпер у копы паклалі.

## 320а. ОЙ, ШУМІЦЬ, ШУМІЦЬ ДУБРОВА

Ой, шуміць, шуміць дуброва,
Ой, стучыць, стучыць дарога,
Ой, чутны, чутны жанкі йдуць.
Да дому голас падаюць:
— Ой, выйдзі, пані, з пакою,
Мы пагаворым з табою,
Мы пагаворым з табою.
Ой, пані, пані, дажынкі:
Выкаць нам бочку гарэлкі,
Бочку гарэлкі, віна дві,
Будзем гуляці мы тры дні.

## 321. ОЙ, ШУМІЦЬ, ШУМІЦЬ ДУБРОВА

Ой, шуміць, шуміць дуброва,
Ой, стучыць, стучыць дарога.
Да нашага гаспадара жанцы ідуць,
Яму голас падаюць:
— Ой, выйдзі, гаспадару, з пакою,
Пагаворым з табою.
Закладаў работай да позна,
А цяпер гаворыць розна.

## 321а. А У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

А ў нас сягоння вайна была,
Усё поле зваявалі
І ў капачкі пастаўлялі.
Дзе нізочак — там вазочак,
Дзе горачка — там копачка.

## 321б. У ЛЕСЕ ШУМІЦЬ ХВОЙНА

У лесе шуміць хвойна,
А у полі была война,
Усё поле зваявала,
Пану славу даказала.
Усё поле рачком сышлі,
А на мяжы вянок знашлі,
Палажылі на талерцы,
А прапілі на гарэлцы.

## 321в. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сягоння вайна была:
Мы усё поле зваявалі,
Мы усё поле рачком сышлі,
На мяжы вянок знайшлі,

Неслі яго на галоўцы,
Палажылі на талеры,
Палажылі на талерцы
І прасілі ў пана гарэлкі.
Наш пан спужаўся
І ўзяў у пакой схаваўся.

## 321г. У НАС СЕННЯ, У НАС СЕННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сёння, у нас сёння вайна была:
Усё поле, усё поле зваявалі,
У снапочкі, у снапочкі павязалі,
У бабачкі, у бабачкі пасастаўлялі,
У копачкі, у копачкі пашчыталі.

## 321д. А У НАС СЕННЯ ВАЙНА БЫЛА

А ў нас сёння вайна была:
Усё поле зваявалі,
Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі,
Усё жыта пажалі,
Сабе славы даказалі.

## 321е. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сягоння вайна была:
Усё поле зваявалі,
Да пану жыта пажалі,
Пане ж, не улякайся,
Да ў пакой не хавайся,
Бо мы ёсць не жаўнеркі,
А панскія жнейкі.

Да, выходзь, пане, выходзь
А віна бочку выкоць,
І белы сыр на талеркі,
Частуй свае жнейкі.
Да ўмеў жа нас прыганяць,
Умей цяпер частаваць.

## 321ж. ЦЯПЕР У НАС ВАЙНА БЫЛА

Цяпер у нас вайна была,
Ой, мы поле зваявалі,
Паном жыта дажалі.
Табе, пане, дажыначкі,
А нам дайце гарэлачкі —
Тры барылкі гарэлкі
І белага сыра,
Штоб радзіла добра піва,
І салодкага мядку,
Штоб прывяла пані дачку,
І п'яненькага піва,
Штоб на той год добра
Вадзілася піва.

## 321з. ОЙ, МЫ ПОЛЕ ЗВАЯВАЛІ

Ой, мы поле зваявалі,
Пану жыта дажалі,
Ой, мы поле рачком сашлі,
Пад мяжою вянок знайшлі,
Неслі ж мы на галоўцы,
Да палажылі на талерцы,
Да прапілі на гарэлцы,
Павесілі на калочку,
Да прапілі на мядочку.

## 321і. СЯГОННЯ У НАС ВАЙНА БЫЛА

Сягоння ў нас вайна была,*
Усё поле зваявалі.

Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі.

Усё жыта пажалі,
У снапы павязалі.

У снапы павязалі,
У копы пастаўлялі.

Сягоння ў нас абжыначкі,
Дасць нам пан гарэлачкі.

Дасць нам пан гарэлачкі,
Гарэлачкі ў бутэлечкі,

Гарэлачкі ў бутэлечкі
І сыры ў талерачкі.

## 321к. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сягоння вайна была:
Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі,
У копачкі паскладалі.
Ні маскалі, ні жаўнеры,
А усё Андрэйкавы жнеі,
Змялі поле мяцёлкай,
Ідуць дамоў з вясёлкай.

## 321л. СЯГОННЯ У НАШАГА ПАНА

Сягоння у нашага пана
вайна была.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Усё поле схадзілі
ды вайну зрабілі.
У нашага пана бочка
з гарэлкаю.
Наш пан багаты, дасць
нам выпіць.
А другая коціцца з мядочкам.
Наш пан багаты, дасць нам
выпіць мядочак.
А трэцяя бочка з галушкамі.
Наш пан багаты, дасць нам
галушкі з'есці.

## 321м. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сягоння вайна была,
А мы ўсё поле зваявалі,
Мы ўсё поле зваявалі,
Мы ўсё жыта ужо зжалі,
Усё жыта пазжыналі,
Пазмяталі мяцёлкамі,
Пазвазілі шасцёркамі,
Песенькамі загудзелі,
Вячэрацi захацелі.
— Гаспадарка, мой братачка,
Прынясі ты кусок сала,
Кусок сала і гарэлкі,
Папаі ты свае жнейкі.

## 321н. А У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

А ў нас сягоння вайна была,
Ой, раю, мой раю,
Усё поле абваявалі, усё жыта пажалі.
Ой, раю, мой раю.
Дзе былі горы, там клаліся копы,
Ой, раю, мой раю.

Дзе былі лугі, там клаліся стагі,
Ой, раю, мой раю.
Вейце, павейце, буйныя ветры,
Раю, мой раю,
Нясіце весці нашаму пану,
Раю, мой раю,
Што яго жнейкі жыта пажалі,
Раю, мой раю,
Жыта пажалі, ў копы паклалі,
Раю, мой раю.
Дзе былі лугі, там сталі стагі,
Раю, мой раю,
Дзе былі горы, там сталі копы,
Раю, мой раю.

## 321о. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА

У нас сягоння вайна была,
Мы усё поле зваявалі,
У снапочкі павязалі,
У копачкі паскладалі,
Свае ручкі патамілі,
Галовачкі засмуцілі.
Не сабе ж мы гэта жалі,
Толькі пана ўзбагацілі.

## 321п. У НАС СЯГОННЯ ВАЙНА БЫЛА, ОЙ

У нас сягоння вайна была, ой,*
Жнейкі поле зваявалі,
Пану славу даказалі,
У нас сягоння дажыначкі
Да дасць пан гарэлачкі
Да із поўнай барылачкі, ой.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 322. НЕ УЛЯКАЙСЯ, ГАСПАДАРУ

Не ўлякайся, гаспадару,
Не татары на двор едуць,
Гэта твае жнейкі йдуць,
Харошыя ж песні пяюць,
Ай, добрыя мыслі мысляць.

## 322а. ОЙ, ВЫХОДЗЬ, ПАНОК, ВЫХОДЗЬ

Ой, выходзь, панок, выходзь,
Бочачку піва выкоць.
Мы ідзем, не жаўнеркі,
Мы панскія жнейкі.
Проша пана, не ўлякацца
І ў пакой не хавацца.

## 322б. ПРОША ПАНА НЕ ХАВАЦЦА

Проша пана не хавацца,
Высці з намі павітацца.
Мы госці небывалыя,
Часта ў пана не бываем,
Хоць раз у рок пабываем
Да ўсё ў пана павідаем.

## 322в. МЫ ПРЫШЛІ НЕ ЖАУНЕРЫ

Мы прышлі не жаўнеры,
Мы прышлі панскія жнеі.
Мы военкі на ваявалі,
А панскае поле сабіралі.

## 323. АДЧЫНІ НАМ, ПАНЕ, ВАРОТЫ

Адчыні нам, пане, вароты,
Нясема кветаньку з золата,
Ой, не з золата, а з жыта,
Ужо наша ніванька зжата.
Пажалі горы і далінкі,
Зрабілі бацяньку дажынкі.

## 324. АДЧЫНЯЙ, ПАНЕ, УСЕ БРАМЫ

Адчыняй, пане, усе брамы,
Нясем вяночак убраны,
Пастаўляй сталы цісовы,
Засцілай абрусы шаўковы.
Налівай віно-мёд у кубачкі,
Бо прышлі харошы дзевачкі,
Налівай мёд-віно ў шкляніцы,
Бо прышлі харошы маладзіцы.
Двары, двары усё новыя —
То нашага пана пакоі,
А ў тых пакоях малады пан
Лісточкі піша, чытае
І з поля жэнчыкаў жадае.

## 324а. ЯК У НАШАГА ПАНА

Як у нашага пана
Брама залатая.
Выходзь, пан, выходзь,
Бочачку віна выкаць,
Бочачку гарэлачкі,
Ідуць твае жнеечкі.

## 325. ВЫЙДЗІ, ПАНЕ, ЗА ВАРОТЫ

Выйдзі, пане, за вароты,
Прымі вянок із злота!
Не із злота вянок віты,
Да з буйнага жыта.

## 326. КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК З ПОЛЯ

Каціўся вяночак з поля,
Дакаціўся да пакоя.
— Мой паночак-галубочак,
Пусці мяне на куточак,
Бо я ў полі настаяўся,
Мяне ветрык нахістаўся,
Мяне ветрык намахаўся,
А дожджык наабліваўся.

## 326а. КАЦІУСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Каціўся вянок з поля
Ды прасіўся да пакоя:
— Табе, пані, дажыначкі,
А нам дайце гарэлачкі,
Я ўжо ў полі настаяўся,
Буйнага ветру наслухаўся.

## 326б. ОЙ, КОЦІЦЦА ВЯНОК З ПОЛЯ

Ой, коціцца вянок з поля
Да просіцца да пакоя:
— Пусці ж, пане, да пакою,
Пусці ж, пане, да пакою,
Ужо ж я ў полі настаяўся
Буйным ветрам нагінаўся,
Да дробным дажджом умываўся.

## 326в. КАЦІУСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Каціўся вянок з поля,*
Прасіўся да пакоя:
— Не хавайся, пані, пад лаву,
Выйдзі к нам на расправу,
Мы будзем распраўляцца,
За вянок таргавацца.
Мы не будзем рубля браці,
Бо было нам цяжка жаці.
Дай нам чырвонец злоты,
Бо мы жалі з ахвоты.

## 326г. КАЦІУСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Каціўся вянок з поля,
Прыкаціўся да двору,
Прасіўся да пакою:
— Пэўна я ўжо ў полі настаяўся,
Буйных вятроў наслухаўся,
Дробных дажджоў наслухаўся.
Да выстаў, пані, выстаў
Тры барэлкі гарэлкі,
А чацвёртую піва —
Прывядзе пані сына,
А пяту мядочку —
Прывядзе пані дочку.

## 326д. КАЦІУСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Каціўся вянок з поля
Да прасіўся ён да пакоя:
— Пусці мяне, панок, да пакоя
Да ўжо ж я ў полі настаяўся,
Да мяне ветрык намахаўся,
Да мяне дожджык накрапляўся.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 326е. КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК З ПОЛЯ

Каціўся вяночак з поля
Ды прасіўся да пакою:
— Пусці мяне, пане, да пакою,
Ужо я ў полі настаяўся,
Буйны вецер навеяўся,
Дробны дождж накапаўся,
У вяночак наплакаўся.

## 326ж. КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК

Каціўся вяночак
Ды з гары ў далочак,
Да прасіўся ў свайго пана:
— Паночку-галубочку,
Пусці ў гумно на калочак.
Я ў полі настаяўся,
Мяне ветрык наківаўся,
Дробны дожджык нахвастаўся.

## 326з. ПРАСІУСЯ СНАПОЧАК У ДЗЕВАЧАК

Прасіўся снапочак у дзевачак:
— Звіце з мяне вяночак,
Занясіце мяне ў стадолу,
Палажыце у старону.
А я ў старане пашашчу,
А я ў стадоле пагашчу,
А я ў стадоле пагашчу
Ды на ніўку зноў пайду.

### 326і. ГАВАРЫУ ВЯНОК У ПОЛІ

Гаварыў вянок у полі
Пры вадзіцы-крыніцы,
Пры шаўковай травіцы,
Прасіўся вяночак у дзевачак:
— Ой, мае ж вы дзевачкі,
Вазьміце мяне на ручкі,
Занясіце мяне дадому,
Улажыце мяне ў старону.
Няхай я ў старане паляжу,
То й на ніваньку зноў пайду
І на шырокай ніве пахаджу,
Густое жытачка ўраджу.
Колькі на небе зорачак,
Столькі на ніве копачак.
На небе зорачак — не злічу,
На ніве копачак — не згляну.

### 326к. ПРАСІУСЯ СНАПОЧАК У ДЗЕВАЧАК

Прасіўся снапочак у дзевачак:
— Ой, звіце, дзевачкі, вяночак,
Занясіце мяне у стадолу,
Палажыце мяне у старону.
Няхай я ў стадоле пагашчу,
Пакуль на ніваньку зноў пайду.
Ой, бо мне ў стадоле — гасціна,
Ой, а на ніўцы — радзіна,
Бо мяне ў стадоле цэпам б'юць,
Ой, а на ніўцы дажджы йдуць.

### 326л. КАЦІУСЯ ВЯНОК З ПОЛЯ

Каціўся вянок з поля
Да нашага пана двора,
Падкаціўся пад вароты.

— Выйдзі, пане, за вароты,
Выкуп вянка з золата,
Да не золата — жыта,
А ў вяночак звіта.
Із ярай пшаніцы
Вілі дзеўкі й маладзіцы.

## 326м. ГАВАРЫУ НА ПОЛІ СНАПОЧАК

Гаварыў на полі снапочак,
Ён клікаў да сябе дзевачак:
— Хадзіце, дзевачкі, да мяне,
І звейце вяночак з мяне.
Занясіце мяне у стадолу,
Палажыце мяне у старону.
Няхай я ў староні паляжу,
Пакуль ў чыста поле пабягу.
Бо ўжо я ў полі набыўся,
Буйнага ветру начуўся,
Дробнага дожджыку нацярпеўся.

## 326н. ОЙ, КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК

Ой, каціўся вяночак
З шырокае нівы
З жанцамі маладымі,
Падкаціўся пад вароты:
— Выйдзі, пане, за вароты,
Выкуп вянка з золата!
Не з золата вянок віты,
Да з густога жыта
Да й з каласістага,
Да шчэ з ядраністага.

## 326о. ДЗЯКАВАЛА ЖНІВАНЬКА

Дзякавала жніванька
Госпаду богу святому
І ягамосці сваёму,
Што ён мяне ўпару забраў.
Няхай я ў старане пагашчу,
Пакуль на ніву ізноў пайду!
То мне ў стадоле гасціна,
А на ніве гадзіна.

## 326п. КАЦІУСЯ ВЯНОЧАК З ПОЛЯ

Каціўся вяночак з поля
Ды прасіўся да пакоя:
— Пусці, маці, да пакоя,
Бо я ў полі настаяўся,
Буйных вятроў наслухаўся,
Дробным дажджом намачыўся!
Пыталася маці ў яго,
Каб казаў ён праўду ўсяго:
— Дзе насенне твайго роду,
Дзе, вяночак, ты радзіўся,
Якой расой абмываўся,
Якім сонцам гадаваўся?
Адказаў вяночак маці
Аб сваім ён родзе й званні:
— Ой, я сонцам гадаваўся,
У праменнях яго купаўся,
Часам раннім красаваўся,
З ночкай ў гульнях забаўляўся.

## 326р. ОЙ! КАЦІСЯ, ВЯНОЧАК, ДЫ З ГАРЫ У ДАЛОЧАК

Ой! Каціся, вяночак, ды з гары у далочак
Да да нашага паночка.
Выйдзі, паночак, вазьмі свой вяночак.

Бо ён ў полі настаяўся,
Яго вецер накалыхаўся,
Яго дождж пахвастаўся.
Засцілайце сталы, лавы,
Бо йдзе госць небывалы.

### 327. ЗВІЛІ ПАНУ ВЯНОК

Звілі пану вянок
Не з руты, не з мяты,
Не з руты, не з мяты,
Да з божага дару.
Колькі ў вянку зярак,
Толькі пану мерак
На полю капамі,
А ў гумне стагамі,
А пінёндзаў тысёнц тысёнцамі,
Каб пан здароў спажываў,
Нас бедных не забываў.

### 327а. ПРЫНЯСЛІ ПАНУ ВЯНОК

Прынязлі пану вянок
З шырокага поля, з ядранога жыта.
Пан свайго панства не страціць, + 331.
Нам за вянок заплаціць
Хоць чырвоны злоты для нашай ахвоты,
Жыту на ураджай, а пану на доўгі век.
Пану вянок, а нам гарэлкі жбанок.

### 327б. ПАНОЧАК, ПАНОЧАК

Паночак, паночак,
Перайміі наш вяночак,
Запалі, пане, свечку
Да выйдзі на сустрэчку.

Паночак, паночак,
Пераймі наш вяночак.
Вяночак пераймаіць,
Золата даваіць
І з хлебам з соллю
І з добрага здароўя надзяляіць.
А мы жалі, сілу пацяралі
І на гэта зараблялі.

## 327в. ВЫЙДЗІ, ГАСПАДАРУ, ПРОЦІЎ СВАЙГО ТАВАРУ

Выйдзі, гаспадару, процiў свайго тавару,
Ужо твой тавар нясуць не з гары, не з даліны,
А з шырокага поля да новенькага двара,
Да новенькага двара, да цясовага стала,
Да пшанічнага хлеба і да зялёнага віна.

## 327г. ПАНОЧАК, ПАНОЧАК, РАХУЙСЯ З НАМІ

Паночак, паночак, рахуйся з намі,
Плаці ж, плаці ж хоць талярамі!
Да мы ж тваю ніўку зжыналі,
Да мы сваю сілу спацяралі.
Слава да і слава, паночак, твая!
Да й п'яна, да й п'яна талака твая.
Да ўчыніў, учыніў, паночак, славу:
Папаіў, папаіў талаку сваю.
Сакатала сарока, на тычынцы седзючы,
На тычынцы седзючы, на хмялінку
гледзючы.
Пахваліўся паночак, з панею седзючы:
— Папаю жнеечак з дубовай бочачкі,
З дубовай бочачкі, з залатой чарачкі.

## 327д. ОЙ ТЫ, ПАН, НАШ ПАНОЧАК

Ой ты, пан, наш паночак,
Нясём мы табе вяночак.
Ой, мы жыта дажыналі,
Пану славу даказалі.
Ой, пан наш салавейка,
Ці гатова гарэлка?
Ой ты, пані-цяцера,
Ці гатова вячэра?
Ой, калі не гатова,
Ды не сядзі сама дома,
А калі гатова вячэранька,
Сядзі сабе харашэнька.
Наша пані спужалася
Ды ў пакоі схавалася.
Ой, мы жыта дажалі,
Пану трасцы пажадалі.

## 328. ДАЖАЛІ ЖЫТА У ДОБРЫ ЧАС, У ДОБРЫ ЧАС

Дажалі жыта ў добры час, ў добры час,
Ў нашага пана злоты пас, злоты пас
Злоты персцень пан здэймуе,
Нам на вянец даруе.
Наша пані — багіня, багіня,
Нам вячэраць варыла, варыла,
Нам вячэра не міла,
Бо нас ніва ўтаміла,
Не так ніва, як гоны, як гоны,
Не так гоны, як шырокі загоны —
І плён нясём, плён.

## 329. НАД РЭЧКАЮ СТАЯЛА

Над рэчкаю стаяла
Перавознічка жадала.
Перавёз мяне дваранін,
Нашага пана чэлядзін,

Хацеў ад мяне талера.
Я яму талера не дала,
Пану вяночак аддала,
Пану вяночак да ручак,
А мне пан чырвонца на таночак.

## 330. РАЗГАРЫСЯ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗОРКА

Разгарыся, вячэрняя зорка,
Перад раннею, разгарыся!
Расхадзіся, наша гаспадынька,
Перад жнейкамі, расхадзіся!
Адмыкай жа высокія церамы
Залатымі ключмі, адмыкай жа.
Выбірай жа тонкія абрусы
Галанцкія, выбірай жа.
Засцілай жа тонкімі абрусамі
Цясовыя сталы, засцілай жа.
Налівай жа зялёным віном
Залатыя кубкі, налівай жа.
Да й вітай жа першую жнейку—
Пастацяначку, да й вітай жа!
Выпі, выпі, першая жнейка —
Пастацяначка, выпі, выпі!

## 330а. РАЗГАРЫСЯ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗОРКА

Разгарыся, вячэрняя зорка,
Перад ранней,
Расхадзіся, наша гаспадынька,
Перад жнейкамі,
Кажы выносіць цясовыя сталы
На чыстыя двары,
Бяры залатыя ключы
З-пад пояса,
Адмыкай жа залатымі ключамі

Зялёную скрыню,
Выбірай у зялёнай скрыні
Бялёвыя абрусы,
Засцілай, наша гаспадыня,
Цясовыя сталы,
Налівай жа, наша гаспадыня,
Залатыя кубкі,
А частуй жа старшую жнейку —
Пастацяначку:
— Будзь здарова, старшая
жнейка —
Пастацяначка!
— На здароўе, мая гаспадыначка—
Сенатарачка!

## 330б. РАЗГАРЫСЬ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗАРА

Разгарысь, вячэрняя зара,
Перад месяцам стоя.
Прыбярысь, наша гаспадыня,
Да ў кунню шубку,
Да ў бел гарнастай.
Наша гаспадыня
Па двару хадзіла,
Залаты ключы насіла,
Амбар адпірала,
Водку вынімала,
Усё жней угашчала:
— Жніце, мае жнеі,
Жніце, пажынайце,
На край паглядайце:
Сонца ўсё высока,
Да краю ўсё далёка.
Завідзела вока,
Што сонца невысока,
Да край недалёка.
Слава табе, божа,
Што два полі зжалі,
Трэцце запахалі.
Жнеі маладыя,
Сярпы залатыя.

## 330в. ЗАГАРЫСЯ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗОРКА

Загарыся, вячэрняя зорка,
Перад ранняй расой,
Прыбярыся, наша гаспадынька,
Перад намі, жнеямі:
Надзявай ты куны, сабалі
І белыя гарнастаі!
— Не грэюць мяне куны, сабалі,
Ні белыя гарнастаі,
Толькі грэе бацькіна падвор'е
Да маё здароўе!

## 330г. РАЗГАРЫСЯ, ВЯЧЭРНЯЯ ЗОРКА, ПЕРАД РАННЕЙ

Разгарыся, вячэрняя зорка, перад ранней,
Расхадзіся, наш паночак, перад жнейкамі,
Расстаўляйце цясовыя сталы, цясовенькія,
Налівайце залатыя кубкі, залаценькія,
Рассцілайце шаўковыя абрусы, шаўковенькія,
Прывітайце першую жнейку — пастацяначку:
Сыр на талерку і кварту гарэлкі.

## 331. ВІНШУЮ ПАНОЎ ВЯНКОМ

Віншую паноў вянком,
Паны мяне мядком.
Перанёс бог цераз сярпок,
Перанясі, божа, цераз душок,
Цераз осетку матку,
Цераз лёгкі дух.
Судзіў жа, божа, пажаць,
Судзі ж, божа, спажыць
У карысці, ў радасці.
Дай жа, божа, панам з гэтага дабра
Піва варыць, панічоў жаніць,
Гарэлку гнаць, паненак замуж выдаваць.

Дай жа панам з дробнымі дзеткамі
На жыццё, на багацце,
На доўгі век і добры савет.

## 331а. ХОДЗІЦЬ БОГ ПА ПОЛЮ

Ходзіць бог па полю,
Пацяраў карону.
Вашы жнейкі жалі,
Карону паднялі,
Карону паднялі,
Хазяіну на рукі падалі.
Судзіў бог пажаці,
Судзі, божа, спажываці
У карысці, ў радасці
І ў добрым здароўі.
Дай жа, божа, у гумне стагамі,
У дзяжы падходам,
А ў печы сыццю.
Судзі, божа, восені даждацца,
Дочак замуж аддаці,
Сыноў пажаніці,
Піва наварыці
І нам пагуляці.

---

Судзіў, божа, пажаць,
Судзі ж, божа, й спажыць.
Перанёс бог цераз сярпок,
Перанясі ж, божа, цераз лёганькі душок.
Дай жа, божа, на таку ўмалотам,
У дзяжы падходам, у печы ростам,
У печы ростам, на стале сыццю!
Не магу болей жадаць, прашу пана
выбачаць.

## 331б. НАЙСВЕНЬША МАТКА

Найсвеньша матка,*
Раю, раю, па небу хадзіла,
Калосся збірала,
Раю, раю, вянок завівала,
Вянок завівала,
Раю, раю, пані падавала.

— А палі, паня, свечку,
Выходзь ка мне на сустрэчку,
Прынімай сваё дабро
Да ў вялікае гумно.

Судзіў, божа, на гэта,
Судзі ж, божа, і на лета.
Судзіў, божа, эжаці,
Судзі ж, божа, спажываці!

## 332. ОЙ, МЫ ЖАЛІ, ЖАЛІ

Ой, мы жалі, жалі,
Да нямнога нажалі:
Да сто коп да абеда,
А другую да палудня,
А трэцюю да вячэры.
Да не самі ж мы то жалі,
Ангелы нам памагалі.
Ангелы снапы носяць
Да госпада бога просяць:
— Зарадзі ж, госпадзі, жыта
На прышлае лета,
Да з ісподу ужыніста,
А зверху каласіста,
А на таку умалотна,
А ў дзяжы падыходна.



---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Да наша пані мала,
Каб стоячы жала,
Да каб век панавала,
Да чалядкі наймала,
Да чалядкамі замышляла.

## 333. ГАСПАДЫНЬКА ПА ДВАРУ ПАХАДЖАЕ

Гаспадынька па двару пахаджае,
Сваіх жнеек паглядае:
— Ды чы ідуць мае жнейкі?
Чы нясуць мне дажынкі?
— А мы жнейкі маладыя,
Нашы сярпочкі залатыя,
А мы жнейкі не жаўнеркі,
Не п'ем простай гарэлкі,
Мы жнейкі-шляхцянкі —
Нам гарэлкі шафранкі,
Мы жнейкі-аксаміткі,
Нам гарэлкі акавіткі.

## 334. ГАСПАДЫНЯ ДАМОВАЯ

Гаспадыня дамовая,
Чы вячэра гатовая?
Мы жончыкі маладыя,
Ў нас серпікі залатыя,
Мы густое жыта жалі
І серпікі паламалі.

## 334а. ГАСПАДЫНЬКА-ЦЯЦЕРКА

Гаспадынька-цяцерка!
Ці гатова вячэрка?
Калі гатова — кажыся,
А не гатова — спаць лажыся.

Гаспадынька спужалася,
Пад прыпечак схавалася,
Палонічкам накрылася,
На ўсё ліха забылася.

## 334б. ГАСПАДЫНЯ-ЦЯЦЕРА

Гаспадыня-цяцера,
Ці гатова вячэра?
Калі не гатова,
Не сядзі сама дома,
Не сядзі на парозе,
Пераймі на дарозе,
Бо як прыдзем у злосці,
Растрасём твае косці.

## 334в. І ГАСПАДЫНЯ-ЦЯЦЕРА

І гаспадыня-цяцера,
Гаспадыня-цяцера,
Ці гатова вячэра?
А калі не гатова,
Калі не гатова,
Не начуй сама дома,
А калі гатовенька,
Начуй тады здаровенька.

## 335. ВЫШЛА ПАНІ НА ГАНАЧАК

Вышла пані на ганачак,
Ветачкай махаючы,
Жнеечак збіраючы:
— Ка мне, жнеечкі, хадзіце,
Мядок-гарэлачку піці!

Дзевачкам мядок,
А жоначкам гарэлку.
Дзевачкі нап'юцца —
Гуляць будуць,
Жоначкі нап'юцца —
Пяяць будуць.

### 336. А У КРАЙ ПОЛЯ, ПОЛЯ ЧЫСТАГА

А ў край поля, поля чыстага,
А ў край мора, мора сіняга
Цвілі кудры, кудры русыя Іванавы,
З-пад шапанькі
З-пад бабровенькай,
З-пад хустанькі
З-пад шаўковенькай.
Ходзяць жнеі, жнеі маладыя,
Жнеі маладыя, сярпы залатыя,
Ніхто іх ў хатку не завець.
Заве жа іх Іванічка,
Содзіць за столікі за цясовыя,
За скацеркі за бялёвыя,
Наліваіць кубачкі паўнёшанькі.
Кубачкі паўнёшанькі,
А жнеі п'янёшанькі,
Столічкі пазаваляліся,
А жнеі паваляліся.

### 336а. І ХАРОШ, І ПРЫГОЖ КАСТУСЬКА

І харош, і прыгож Кастуська,
Ці не сонца яго радзіла?
Радзіла яго матулька,
А гадаваў татулька,
А калыхалі братулькі,
І няньчылі сястрыцы.

## 337. НАШ ПАН ПА САДОЧКУ ПАХАДЖАЕЦЬ

Наш пан
Па садочку пахаджаець
Ды з вішнямі размаўляець:
— Прыдуць сёння дзеўкі,
Прынясуць вяночак,
Не з руты, не з мяты,
А з божага дару.

## 338. ПАН З ПАНЕЙ РАДУ РАДЗЕ

Пан з паней раду радзе,*
Пан паню ў крэсла садзе,
Пан кажа вала рэзаць,
Пані кажа — каровіцу,
Яшчэ лепшую яловіцу.
Як пан паню абдымае,
Ён такое жыта мае.
Абдымай, пан, паню часцей,
Будзе расці жыта гусцей.

## 339. РАХАВАЛІСЯ КОПЫ, У ЧЫСТЫМ ПОЛІ СТОЯЧЫ

Рахаваліся копы, у чыстым полі стоячы,
У чыстым полі стоячы
Да на гумны гледзячы,
Рахаваўся наш хазяін,
Як жнеек перараймаці,
Чым жа іх частаваці?
Ці віном-гарэліцай,
Ці салодкім мядочкам?
Да выйду ж я пагляджу:

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Калі ж ідуць яны радочкам,
Буду паіць іх мядочкам,
Калі ж яны ў рассыпную,
Тады горкай гарэліцай.

## 340. ЗАСЦІЛАЙЦЕ СТАЛЫ, ЛАВЫ

Засцілайце сталы, лавы,
Едуць госці небывалы:
Адно ў год пабывалі,
Поле жыта зваявалі,
Паном славы даказалі.

## 340а. ЗАСЦІЛАЙЦЕ ДА СТАЛЫ, ЛАВЫ

Засцілайце да сталы, лавы,
Едзе госць небывалы:
У год раз пабывае
Да ізноў выязджае.
Пазволь, божа, спажываці
Да за рок прычакаці.

## 340б. ЗАСЦІЛАЙЦЕ СТАЛЫ [redacted] ЛАВЫ

Засцілайце сталы й лавы
Едзе госцік небывалы:
Ў гадок разок пабывае,
На год хлеба пакідае.

## 340в. ЗАСЦІЛАЙЦЕ СТАЛЫ, ЛАВЫ

Засцілайце сталы, лавы,*
Едзе госцік небывалы.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Што раз ў год прыбывае
Да нам жыцечка зажынае,
Да й нас, жнеек, прыганяе:
— Жніце, мае жнейкі, жніце,
Бо не дажаўшы не пойдзеце
І не выпіўшы не будзеце,
Каб і песенькі паўспявалі,
Мяне, пана, праваджалі
Да й на другі год дачакалі.

## 341. ЖЫТЦА, ЖЫТЦА, ІДЗІ ДАДОМУ

Жытца, жытца, ідзі дадому!
Настаялася ў чыстым полі,
Накланялася госпаду богу.
— А як жа мне ісці дадому?
Мяне сякуць, рубаюць
І ў поле адпраўляюць.
Паехаў пан да й да Львова
Да ключыкі купаваці
І шкатуланькі адмыкаці.
— Выходзь, пані, з дружынаю,
Прымі вянкі з калінаю,
Засцілай сталы, лавы,
Ідзе госцік небывалы.

## 342. ІШЛІ ЖНЕЙКІ САСОНКАЮ

Ішлі жнейкі сасонкаю,
Змялі поле мяцёлкаю,
Мы ж думалі, што месяц ўсходзе,
Ажно наш хазяін па двару ходзе,
Па двару ходзе, хустай махае,
Ён сваіх жней пераймае.
Ён пераймае да пытае:
— А ці вяліка поле зжалі,
А ці многа коп наклалі?

— Мы зжалі поле нязмернае,
Наклалі коп нелічонае.
Ай, шырок і высок на небе месячык,
Ай, шырэй, вышэй на полі капа.
Ў полі копы, у гумне снапы,
Не ўзайці к ім, не ўз'ехаці,
Толькі сокалам абляцеці,
Свайго дабра паглядзеці.

## 343. ДЫ У НАС СЁННЯ АБЖЫНАЧКІ

Ды ў нас сёння абжыначкі,
Дасць нам пані гарэлачкі.
Будзем снапкамі ніўку высцілаць,
? Будзем потам паліваць.
Будзем весела гуляць,
Гаспадара віншаваць.
Ды ў нас сёння абжыначкі,
Дасць нам паніч гарэлачкі,
Паўкапы яек, хлеба акраек.

## 343а. У НАС СЯГОННЯ ДАЖОН, ДАЖОН

У нас сягоння дажон, дажон,
А ворагу ражон, ражон.
У нас сягоння дажыначкі
І дасць гаспадар гарэлачкі.
Жніце, жнейкі, ў мяжу, ў мяжу,
Дасць гаспадар мёду дзяжу.
Да ўжо сонца за бор, за бор,
Пара, жнейкі, дамоў, дамоў.
Мы ж не жалі па месяцу,
А па яснаму сонцу,
Мы ж не бралі па талеру,
А бралі мы па чырвонцу.

## 343б. А У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

А ў нас сягоння дажыначкі,
Дасць нам пан гарэлачкі,
Гарэлачкі-шафраначкі,
Бо мы жнейкі-шляхцяначкі.
А мы жалі, нажаліся,
Нашы ручкі набраліся,
Не п'ём прасценькай гарэлачкі,
А мы жнейкі-шляхцяначкі,
Дасць нам панок шафраначкі.

## 343в. СЯГОННЯ У НАС ДАЖЫНАЧКІ

Сягоння ў нас дажыначкі,
Прынясе пан гарэлачкі,
Наварыць пані заціраачкі,
Ой, жнемо, жнемо да конца,
Пойдзема дадому да сонца.
Чыя ж гэта паласа
Такая доўгая, шырокая?
На гэтай паласе жанцы жнуць
І богу голас падаюць:
Ой, колькі на небе зорачак,
Столькі на полі копачак.

## 343г. У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сягоння дажыначкі, *
Дасць нам пан гарэлачкі
З поўнай барылачкі.
Ды пан гарэлкі не даў,
У каморачку схаваў,
У каморы пад лаўкай
Зарасла мураўкай.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Мы мураўку пажнём,
Мы гарэлачку пап'ём,
Мы барылачку паб'ём.

## 343д. У НАС СЕННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сёння дажыначкі,
Дасць нам пан гарэлачкі.
Усё поле зваявалі,
Пану жыта дажалі,
У снапочкі навязалі,
У копачкі настаўлялі.
Пан з паней раду радзіць:
Будзем рэзаць каровіцу.
Усе двары зялёныя,
Усе паны вясёлыя.
У нас сягодня вайна была
Усё поле заваявалі,
Пану жыта дажалі.
Як пан паню абдымае,
Такое ён жыта мае.
Абдымай, пан, пані часцей,
Будзе жыта гусцей.

## 343е. НА НАШАЙ НІЎЦЫ СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

На нашай ніўцы сягоння дажыначкі.
Калі хазяін добры, дык і другі год
Будзе шчаслівы і шчодры.
Ой, на нашай ніўцы сягоння дажыначкі.
Ты, хазяін, не скупісь: дай калачу, мёду
Дый гарэлачкі з хмяльком.
Саўём табе бараду і к табе прыйдзём з вянком.

Стараліся дажынаць і табе песні пелі
І цэлы дзянёчак нічога не елі,
Каб хазяін і хазяйка гэта зналі
І на дажынкі нас добра пачаставалі.
Калі не пачастуеце, дык добрых пажаданняў не пачуеце.}
А купім для хазяевай барады тры пуды смалы,
А яго маладзіцы — тры пуды каланіцы. }

### 343ж. А У НАШАГА ПАНА

А ў нашага пана
Дажыначкі рана,
Люлі, люлі, дажыначкі рана.
Усё жыта пажалі, у копы паклалі,
Люлі, люлі, у копы паклалі,
А ў полі капамі,
На гумне стагамі,
Люлі, люлі, на гумне стагамі,
На гумне стагамі,
У клеці карабамі,
Люлі, люлі, у клеці карабамі.
У клеці карабамі,
У печы пірагамі,
Люлі, люлі, у печы пірагамі.

### 343з. А У НАШАГА ПАНА ДАЖЫНКІ

А ў нашага пана дажынкі,
Пажалі горы і далінкі,
Цешкуе нас пан у лета:
Як будзем жытачка жаці,
Будзем гарэлачку піці.
Як мы жыцечка дажалі,
То пан схаваўся за дзверы.

## 343і. У НАС СЁННЯ ДАЖОН, ДАЖОН

У нас сёння дажон, дажон,
Ліхадзею ражон, ражон.
А ў нас сёння дажыначкі,
Гаспадару пажытачкі.
Наша жыта — ядро, ядро,
А ліхадзею кіла з вядро.

## 343к. У НАС СЁННЯ АБЖЫНАЧКІ

У нас сёння абжыначкі,
А нам, дзевачкам, гарэлачкі!
А мы горкай не хочым,
Нам дадуць салодзенькай.
А горкая ў горле пяршыць,
А салодкая сама бяжыць!
А мы людзі не гордыя,
Вып'ем і горкае,
А мы людзі не пышныя,
Вып'ем і з вішнямі!
Хазяіну вянок,
А нам, дзевачкам, мядок.

## 343л. У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сягоння дажыначкі,
Мы нап'ёмся гарэлачкі!
Наш паночак маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі.
Ён па полю паязджае,
Сваіх жнеек прыганяе:
— Жніце, жнеечкі, жніце!
Вам гарэлачку ў жыце:
Нажняцёся — нап'яцёся!

— А мы жнейкі маладыя,
Не п'ём простай гарэлкі;
Хоць пчолачку замарыце,
Нам гарэлку падсыціце.
А паночак маладзенькі!
Калі ўмееў прыганяці,
Дак і ўмей частаваці!
Стаяў ты з палачкай,
А цяпер стой з чарачкай!

## 343м. У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сягоння дажыначкі:
Пан нам дасць гарэлачкі,
Дзеля мяне, мяшчаначкі,
Гарэлачкі-гарчаначкі,
Дзеля мяне, маладзенькай,
Гарэлачкі саладзенькай.
Мы жнейкі маладыя,
У нас сярпочкі залатыя,
Барсіньку вянок з дабра,
А нам дасі на трох рубля.
Просім пана для рызыкі,
Каб нам паслаў па музыкі:
Пану дабро спажываці,
Нам музыкі пагуляці.

## 343н. А У НАШАГА ПАНА

А ў нашага пана
Дажыначкі рана.
Усё жыта пажалі,
У копачкі пакідалі.
А мы свайму паночку
Даказалі славу,
А мы ў свайго пана
Пап'ём, пагуляем.

А ў нашага пана
Сярод двара яма.
А мы тую яму
Шырэй раскапаем,
Гарэлкі дастанем.
А мы ў свайго пана
Пап'ём, пагуляем.

### 343о. А У НАШАГА ПАНА

А ў нашага пана
Дажыначкі рана,
Ох, лёлюшкі-лёлі,
Ды дажыначкі рана. *
Усё жыта пажалі
І ў копы паклалі.
А ў нашага пана
Ды сярод двара гара.
А мы ж тую гару,
Гару раскапаем,
А мы ў свайго пана
Большы пыгуляем.

### 343п. СЕННЯ У НАС ДАЖЫНАЧКІ

Сёння ў нас дажыначкі,
Прынясе нам пан гарэлачкі.
— Ой, каціся, вяночак,
Аж да пана на ганачак.
Выйдзі, пане, з пакою,
Бяры вяночак з сабою!
Ой, наш панок маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі.
Ён па полю паязджае
Ды жнейчыкаў падганяе:
— Бодай пана кулі ўбілі,
Мы серпікі патупілі.

---

* «Ох, лёлюшкі-лёлі» і кожны другі радок прыпяваюць.

## 343р. У НАС СЁННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сёння дажыначкі,
Нам дасць пан гарэлачкі
Із поўнай барылачкі.
Мы гарэлачку піць будзем
І пана хваліць будзем.
Зялёны наш бор, зялёны
Над усімі барамі,
Багат наш пан, багат
Над усімі панамі.

## 343с. А У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

А ў нас сягоння дажыначкі,
Мы нап'ёмся гарэлачкі,
А прыжнёмся мы к дубу,
Дык палуднаваць будзем.
Прыжаліся к елі,
Дык палуднаваць селі.
Вы, жнеечкі, жніце, жніце,
Нойдзем мы бога ў жыце
З вялікаю бутылкаю,
З салодкай гарэлкаю.
Як прыжмёмся — нап'ёмся,
А на табе, панок, вянок,
А нам гарэлкі жбанок.

## 343т. У НАС СЯГОННЯ ДАЖЫНАЧКІ

У нас сягоння дажыначкі, *
Дасць нам пан гарэлачкі
Із поўнай бутэлечкі.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Мы гарэлачку пап'ём, пап'ём
І бутэлечкі паб'ём, паб'ём.
А дзе ж тая гарэлачка?
У каморы пад лавачкай
Да заросшы муравачкай.
Муравачку касіць будзем,
Гарэлачку піць будзем.
Гарэлачку пап'ём, пап'ём,
Бутэлечку паб'ём, паб'ём.
Як пан паню абдымае,
Такое жыта мае.
Абдымай, пан, паню часцей,
Будзе жыта радзіць гусцей.

## 344. ДА МЫ ЖАЛІ, НЕ ЛЯЖАЛІ

Да мы жалі, не ляжалі,
А ўсё поле рачком сайшлі
Да на мяжы вянок знайшлі,
На галоўку узлажылі,
Гаспадару да прынеслі.
Ой, вазьмі наш вяночак,
Што вілі мы той дзянёчак.
На вяночак залаценькі,
Заплаці нам даражэнька,
Заплаці нам чыстым срэбрам,
Усё чырвоным да золатам!
У нас сягоння дажыначкі —
Папоштуй жа свае жнейкі.
Гаспадарок у полі ходзіць
Да госпада таго просіць:
— Ка мне, божа, са снапамі,
З вялікімі ўсё капамі,
З высокімі да скіртамі
І з поўнымі азяродамі:
У мяне гумно да вялікае,
Застаронкі шырокія,
Гронды мае прасторныя!

## 345. МЫ УСЁ ПОЛЕ РАЧКОМ СЫШЛІ

Мы ўсё поле рачком сышлі,
Э-э, мы ўсё поле рачком, э, сышлі,
Пад мяжою вянок знайшлі.
Да паночку, галубочку,
Э-э, да паночку-галубочку,
Выкаці нам мёду бочку,
А другую гарэлкі,
Э-э, а другую гарэлкі,
Пачастуй свае жнейкі.

## 346. У НАС У ПОЛІ ДАЖЫНАЧКІ

У нас ў полі дажыначкі,
Дома ж бог даў радзіначкі:
Пані сына нарадзіла,
Харашанька вырасціла,
На коніка пасадзіла
Да на вайну выправіла:
— Едзь, сыночак, на войначку
Да не забудзь на матачку!
Клапатуе вельмі маці
Па родненькім да дзіцяці.
Сынок матку уцяшае,
Ёй вестачку прысылае:
— Не клапатуй, мая маці,
Ўсё па сваім да дзіцяці:
Да гаподзь бог нада мною,
Сівы конік пада мною!

## 347. А ЧЫЁ Ж ТО ПОЛЕ?

А чыё ж то поле
Загрымела стоя?
Вольгіна поле
Загрымела стоя.

Мы жыта пажалі,
Мы ў копны паклалі,
А ў полі копамі,
А ў гумне стагамі.
Ох, і часты, часты ў полі копы,
Шырок, вялік месік на небе,
Шыршы, большы стагі ў гумне.

### 347а. ЧЫЁ Ж ГЭТА ПОЛЕ?

Чыё ж гэта поле
Празвінела скора?
Ой, рана, рана.
А калгаснае поле
Празвінела скора,
Ой, рана, рана.
Жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя,
Ой, рана, рана.
А к месяцу жалі,
К сонейку аддыхалі,
Ой, рана, рана.
Чые ж гэта жнейкі
У полі бяленькі?
Ой, рана, рана.

### 347б. ЧЫЁ ПОЛЕ ЗВОНКА?

Чыё поле звонка,
Чыё поле звоніць?
Наша поле звонка,
Наша поле звоніць.
Як зажалі, заспявалі
Ды зазвінелі сярпкамі.
А ў нас жнейкі маладыя,
У іх сярпочкі залатыя.

Пажынайце, маладыя жнейкі,
Ды па халадочку.
Пабывайце, маладыя жнейкі,
Як пчолкі ў мядочку.

## 347в. А НА НАШАЙ НІУКЕ СЯГОННЯ АБЖЫНКІ

А на нашай ніўке сягоння абжынкі,
А як наша поле зазвінела стоя,
А-я-ей!
Дуброўскае поле задрамала стоя,
А-я-ей!
А як нашы жнеі, як лебядзі белы,
А-я-ей!
Дамоў прыляцелі, на лаўкі паселі,
А-я-ей!
На лаўкі паселі, песенькі запелі,
А-я-ей!
Дуброўскія жнеі чорныя, як галкі,
А-я-ей!
Дамоў прыляцелі, на коллі паселі,
А-я-ей!

## 347г. А ЧЫЁ ПОЛЕ ДРЭМЛЕ?

А чыё поле дрэмле?
Тадоркава дрэмле поле:
Там жнейкі ўсё старыя,
Сярпочкі лубяныя.
А чыё поле іграе?
Пацічэльскае поле іграе:
Там жнейкі маладыя,
Іх сярпочкі залатыя.

## 347д. ЧЫЕ ГЭТА ПОЛЕ ЗАЗВІНЕЛА СКОРА

Чыё гэта поле зазвінела скора,
Зазвінела скора?
Жнеі маладыя, сярпы залатыя,
Сярпы залатыя.
Да абеда жалі, сярпы пазлачалі,
Сярпы пазлачалі.
Чыё гэта поле задрамала стоя,
Задрамала стоя?
Жнеі старыя, сярпы лубяныя,
Сярпы лубяныя.
Да вечара жалі, сярпы паламалі,
Сярпы паламалі.

## 347е. А ЧЫЁ Ж БЫ ПОЛЕ

А чыё ж бы поле
Зазвінела стоя,
Зазвінела, зазвінела?
Жнеі маладыя,
Сярпы залатыя,
Затым яно зазвінела,
Што пад сонейкам жалі,
На зуб сярпы бралі,
Затым яно зазвінела.

## 348. ЧЫЕ ГЭТА ТАЛАЧАНЕ?

Чые гэта талачане,
Што па полю блудзілі?
Пыталіся яны Лунінскага сяла,
А Януськавага двара.

Там столікі цясовыя,
Там кубачкі залатыя,
Там столікі засціланы
І кубачкі наліваны
Мядком саладзенькім
І віном зеляненькім.

## 349. ІШОЎ РАЁК ДАРОГАЮ ШЫРОКАЮ

Ішоў раёк дарогаю шырокаю.
— Ды чый то двор пры дарозе,
пры шырокай?
— Яначкаў двор пры дарозе, пры шырокай!
Зайшоў раёк у Янкаў дварок.
У яго двары высокія,
А ваконцы маляваныя,
У яго сталы цясовыя,
Абрусікі бялёвыя,
А напіткі мядовыя,
А ўсе страўкі сахарныя.
Гаспадарок-вінаградак,
Нясі віна салодкага!
Гаспадынька, як малінка,
Нясі сыры на закуску!

## 349а. ЧЫЙ ЖА ГЭТА ДВОР

Чый жа гэта двор —
Да тры калы ўбіты?
Чый жа гэта двор, двор?
Янкаў жа двор —
Да тры калы ўбіты
Й карыной накрыты.
Чый жа гэта сын, сын
Ды па двару ходзіць,
Атопкі носіць?

Янкаў жа сын, сын
Ды па двару ходзіць,
Атопкі валочыць.
Чый жа гэта двор, двор,
Залаты тын, тын,
Сярэбраны вароты?
Чый жа гэта сын, сын
Па двару ходзіць, ключыкі носіць?
Ахрэмаў сын ключыкі носіць.
Я ж не магу па двару хадзіці,
Ключыкі насіці,
Толькі магу ля столу стаяці,
Гасцей частаваці,
Толькі магу.

## 349б. ІШОЎ РАЁК, ІШОЎ РАЁК ДАРОГАЮ

Ішоў раёк, ішоў раёк дарогаю,
Дарогаю шырокаю.
— Зайдзі, раёк, зайдзі, раёк,
У наш дварок.
У нас двары, у нас двары цясовыя,
У нас сталы, у нас сталы дубовыя.
Выйдзі, пані, выйдзі, гаспадыня,
На ганачак,
Прымі ад нас, прымі ад нас падарачак.

## 349в. ОЙ, ХАДЗІЎ РАЮ, ОЙ, ХАДЗІЎ РАЮ УСЁ ПА ВУЛІЦЫ

Ой, хадзіў раю, ой, хадзіў раю усё па вуліцы.
Ніхто раю, ніхто раю не ўзываецца.
Адазваўся, ой, адазваўся молад Петрачка:
— Хадзі, раю, ой, хадзі, раю, у маё гумно:
У маім гумне, у маім гумне ўсё й прыбранае,
Ўсё ў стажочкі, ўсё ў стажочкі паскладанае,
Ўсё ў копначкі, ой, ў копначкі пашчытанае.

Хадзіў раю, ой, хадзіў раю усё й па вуліцы,
Ніхто раю, ой, ніхто раю не ўзываецца.
Адазваўся, ой, адазваўся молад Петрачка:
— Хадзі, раю, хадзі, раю, ў маю хату.
Ў маёй хаце, ой, ў маёй хаце прыбрана.
Усе столікі, ой, усе столікі пазасланыя,
Усе й кубачкі, ой, усе кубачкі налітыя,
А дзевачкі, ўсе й дзевачкі пяяць будуць,
А жоначкі, ой, жоначкі плясаць будуць.

## 349г. ЛЯЦЕЎ РОЙ ДАРОГАЙ

Ляцеў рой дарогай,
Дарогай шырокаю,
Ляці ж ты, раёчак,
Цераз панскі дварочак.
Там столікі засланы
І госцікі сазваны:
І ідуць мае жаночкі,
Як белыя лебядочкі,
А ідуць мае дзевачкі,
Як снежныя паненачкі.

## 349д. ХАДЗІЎ РАЮ

Хадзіў раю,
А хадзіў раю,
Раю мой, раю,
Па вуліцы.

Ніхто раю,
А ніхто раю,
Раю мой, раю,
Ў хатку не просіць.

Абабраўся,
А абабраўся,
Раю мой, раю,
Наш старшынка.

Хадзі, раю,
А хадзі, раю,
Раю мой, раю,
Ка мне ў хатку.

У мяне вулачкі,
А ў мяне вулачкі,
Раю мой, раю,
Павымятаны.

У мяне сталочкі,
У мяне сталочкі,
Раю мой, раю,
Пазасціланы.

У мяне кубачкі,
У мяне кубачкі,
Раю мой, раю,
Паналіваны.

## 349е. ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Заблудзілася

Ішоў бог дарогаю,
Ніхто бога не пярэймецъ
І да сябе не завернецъ.
Пераняў яго Пятро:
— Ка мне, божа, ка мне
Ды ў маё гумно,
Хадзі, божа, у маё гумно:
Маё гумно вялікае,
Пераплоты высокія,
Ёсць дзе богу пасядзець,
На дабро паглядзець.

## 349ж. ХАДЗІУ РАЮ

Хадзі ў раю, *
Раю, раю,
Па вуліцы.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Ніхто раю,
Раю, раю
Ў хату не просіць.

Абазваўся
Раю, раю,
Наш Валодзька:

— Прашу раю,
Раю, раю,
Ка мне ў хату.

Ў мяне хата,
Раю, раю,
Вялікая.

Ў мяне гумно
Раю, раю,
Шырокае.

Ў мяне сталы
Раю, раю,
Дубовыя.

Абрусочкі,
Раю, раю,
Шаўковыя.

Ў мяне хлябы,
Раю, раю,
Сітковыя.

### 349в. ІШОЎ РАЁК

Ішоў |раёк/*
Дарогаю,

Дарогаю
Шырокаю.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Выйдзі, панок,
Перайм! раёк.

— Сюды, раёк,
На мой дварок.

Мае двары
Мяцёныя,

Мае сталы
Засціланы.

У мяне кубкі
Наліваны.

Сталы мае
Бялюсенькі,

Кубкі мае
Паўнюсенькі.

### 349і. ХОДЗІЦЬ ДЫМ ПА ВУЛІЦЫ

Ходзіць дым па вуліцы,
А рай сядзіць на покуці,
Да дым вочы выядае,
А рай слёзы выцірае:
— А што рай слёзы выцірае:
А што рай, то войчанька,
А што дым, то свякратка.
Да каб мне ж таго дыму
На малую гадзіну,
Да каб мне ж таго раю,
Покуль век скаратаю.

### 349к. ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Ішоў бог дарогаю
З вялікаю талакою,
А Януська ля варот стаіць,
Шапачку ў ручках дзяржыць:

— Ка мне, божа, ка мне
З сваёю талакою!
Ў мяне поле далёкае,
А жыта буйненькае,
Няма каму на загоне стаці,
Маё жыта паджынаці:
Матка мая старэнькая,
А сястрыца маленькая.

## 349л. А ІШОУ СПАРЫШ ПА ВУЛІЦЫ

А ішоў спарыш па вуліцы
Рана, рана.*
Хто спарыша у хату пазавець?
Абазваўся молад Іванька:
— Проша, спарышок, ка мне ў хату.
А ў мяне ў хаце прыбірана,
Кубкі мёда пастаўляна,
Хлеба-солі палажона.

## 349м. ІШОУ РАЕК ДАРОЖУХНАЙ

Ішоў раёк дарожухнай,
Не знаець раёк, дзе абмятаціся!
Выйшла паня, усё баярыня:
— Звярнісь, раёк, усё на мой дварок:
Мае двары ўсё мяцёныя,
Прысадухны ўсё зялёныя,
Вінаграды ўсе сажоныя,
У нас стравухны сахарныя,
У нас хлябы усе бумажныя!

* Пасля кожнага радка.

## 349н. ХАДЗІУ РАЕ ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў раё па вуліцы,
Ніхто раю ў хату не просіць.
Просіць-папросіць наш Сымонька:
— Хадзі, раю, ў хатку ка мне:
У мяне хатка цясовая,
У мяне абрусы бялёвыя,
У мяне кубкі залатыя,
Мёдам-півам налітыя:
У адным кубку пшанішна піва,
У другім кубку зелена віно,
А ў трэцім кубку саладок мядок!
Зеляно віно — яго чэлядзь п'ець,
Пшанішна піва — сам молад п'ець,
Саладок мядок — яго дзеткі п'юць.

## 349о. ХАДЗІЎ РАЮ, РАЮ-РАЮ, ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў раю, раю-раю, па вуліцы,
Ніхто раю, раю-раю, ў хатку не просіць.
Толькі папросіць, раю-раю, і наш паночак:
— Проша, раю, раю-раю, ў маю хатку!
У маёй хатцы, раю-раю, усё ў парадку:
Сталы накрыты, раю-раю, кубкі наліты,
Мае абрусы, раю-раю, бялёвыя,
Мае кубкі, раю-раю, залатыя,
Віном-мёдам, раю-раю, налітыя!
— А хто ж кубкі, раю-раю, да наліваў?
— Налівала кубкі, раю-раю, наша пані!
Яна жнеек, раю-раю, дажыдала,
Старшую жнейку, раю-раю, частавала!

## 349п. ІШОУ БОГ ДАРОГАЙ ШЫРОКАЮ

Ішоў бог дарогай шырокаю
З густымі капамі, з вялікімі сціртамі.
Наш гаспадар у варотах стаіць,
Шапку ў руках дзяржыць
І богу кланяецца:

— Да ка мне, божа, ка мне!
У мяне гумно вялікае,
Азяроды высокія,
Ды ёсць дзе азярэдзіць,
Ды ёсць дзе капам стаці,
Ёсць дзе сціртам легчы.

## 349р. ХАДЗІУ СПАРЫШ ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў спарыш па вуліцы,
Па вуліцы па шырокай,
Па мураўцы па зялёнай,
А ніхто спарыша ў двор не завецъ.
Выйшла, выехала Хвядорыха:
— Хадзі, спарыш, ка мне на двор,
Ка мне на двор, на чысовы стол:
У мяне сталы пазасціланы,
Віном кубкі паналіваны,
У мяне пірагоў панапечана,
У мяне мёду нанасычана,
У мяне каша паварана.
Сядзь, спарыш, на покуце,
На покуце да на золаце,
Пі, спарыш, зялёно віно.
Спары, божа, у маім гумне,
У маім гумне, у маім дварэ:
На таку ўмалот, а ў дзяжы падход,
А ў печы рост, а на стале сыццё.

## 349с. ІШОУ РАЕК, ІШОУ РАЕК ДАРОГАЮ

Ішоў раёк, ішоў раёк дарогаю
    Раю мой, раю!
Пытаўся раёк, пытаўся раёк
Нашага пана.
    Раю мой, раю!

У нашага пана, у нашага пана
Сярод двара
Стаіць скам'я.
    Раю мой, раю!
На той скам'і, на той скам'і
Тры напоі.
    Раю мой, раю!
Адзін напой, адзін напой —
Зялёна віно!
    Раю мой, раю!
Другі напой, другі напой —
Салодкі мядок.
    Раю мой, раю!
Трэці напой, трэці напой —
Горка гарэлка.
    Раю мой, раю!
Зялёна віно, зялёна віно
Самому пану.
    Раю мой, раю!
Салодкі мядок, салодкі мядок
Для жонкі яго.
    Раю мой, раю!
Горка гарэлка, горка гарэлка
Для жнеек яго.
    Раю мой, раю!

### 349т. ХАДЗІУ РАЮ ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў раю па вуліцы,
Раю, мой раю! *
Ніхто раю ў хату не просіць.
Абабраўся наш Іванька:
— Хадзі, раю, ка мне ў хатку,
У маёй хатцы раёк ўеццца,
Ў мяне столікі пазасціланы,
Ў мяне кубачкі паналіваны,
Ў мяне жнейкі пазазываны,
Ў мяне столікі цясовыя,
Ў мяне скацеркі шаўковыя,
Ў мяне кубачкі залатыя,
Ў мяне жнейкі маладыя.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 349у. АЙ, ХАДЗІЎ СПАРЫШ З КАНЦА ВУЛІЦЫ Ў КАНЕЦ

Ай, хадзіў спарыш з канца вуліцы ў канец,
Ах, ніхто спарыша да ў хату не завець.
Абабралась гаспадыня да Мартынава жана:
— Хадзі жа ты, спарыш, ох, у хату ка мне!
Сядзь жа ты, спарыш, за цясовы стол,
За цясовым сталом, за зялёным віном,
За зялёным віном, за поўнымі кубкамі.
Як стала яна прасіць спарыша:
Прыспары мне, спарыш, і ў доме, і ў полі,
І ў гумне, і ў двары, і ў клеці, і ў печы,
І ў клеці карабом, і ў печы пірагом,
І ў печы пірагом, і на стале пірагамі.

## 349ф. ДА Й ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Да й ішоў бог дарогаю
Да з вялікай талокаю,
Гаспадарык ля варот стаіць
Ды ў руках шапачку дзяржыць:
— Да ка мне, божа, ка мне
Да з сваёй талакою:
Поле ў мяне далёкае,
Жыта маё буйненькае,
Да няма каму на постаці стаці,
Маё жыта зажынаці:
Маці мая старэнькая,
Сястроначка маленькая,
А жонушка маладзенькая.

## 349х. УСЁ ЛЕТА СПАРНЯ З НАМІ НА НІВУШКЕ БЫЛА

Усё лета спарня з намі на нівушке была,
А сягодня спарня з намі дамоў пайшла.
— Ідзі-тка ж, спарня, к Івану ў агарод,
К Івану ў агарод, у Іванаву асець.

На ніве спарня ужынчыста была,
А ў агародзе спарня прыстаўчыста была,
У адонкі спарня укладзіста была,
У асеці спарня прысушыста была,
У пасадзе спарня прысодзіста была,
А ў кучы спарня прыгрэбіста была,
А ва 'нбары спарня прысыпіста была,
А ў молу спарня умолціста была,
А ў дзяжы спарня падходзіста была,
А ў печы спарня прыпечыста была!

### 349д. УСЁ ЛЕТА СПАРЫНЯ

Усё лета спарыня
З намі на нівушке была,
А сягоння спарыня
Мы сарвалі з карня.
Дзець з нівушкі далоў,
З чыста поля дамоў,
Сямёнава гумно,
У высокі ў зарод,
У шырокі пераплот.
На 'віні спарыня
Прыўсадзіста была,
На пасадзі спарыня
Умалоціста была,
У закрымі спарыня
Прыўсыпчаста была
Ну й тама спарыня,
Яна гняздзечушка звіла.
Распусціла дзяцей
Па ўсім новым клецям,
Па ўсім закрамам:
Хлеба, солі на стале,
Жывацінкі на хляве,
На крываці рабят,
А пад краваццю парасят.

## 349ч. ЯКУШАНЬКА-ГАСПАДАРОК

Якушанька-гаспадарок,
Нясі гарэлку на стол
I напой мяне, жняю,
А я табе песеньку спяю,
Я табе песеньку спяю —
Яравую спарынню:
Яравая спарыння
Зламілася з карня,
Зламілася з карня.
Сыйдзі з нівушкі далоў,
Сыйдзі з нівушкі далоў
Ў Якушаў агарод,
Ў Якушаў агарод,
У высокі азярод.
Ой, там спарыння
Гняздзечушка савіла,
Гняздзечушка звіла,
Дзяцей выседзіла,
Дзяцей выседзіла,
Пшаном выкарміла,
Пшаном выкарміла,
Сытой выпаіла.
Ну й пусціла дзяцей
Па новым жа клецям,
Па новым клецям,
Па высокім закрамам.

## 349ш. ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Ішоў бог дарогаю,
А пан стараною.
Просіць пан у бога, шапку зняўшы:
— Увайдзі, божа, у маё гумно:
Маё гумно навенька,
Накладзена паўненька,
Стораны шырокія,
Стоўпачкі высокія,
Накладзена паўнюсенька,
Загладжана гладзюсенька.

## 349э. ХАДЗІЎ РАЮ ПА ВУЛІЦЫ

Хадзіў раю па вуліцы.
Ніхто раю ў хату не просіць,
Толькі папрасіла наша імасць:
— Хадзі, раю, ка мне ў пакой.
У маім пакою, як у святліцы:
Мае столікі цясовыя,
Мае скацеркі бялёвыя,
Мае кубачкі залатыя
Мёдам налітыя,
Мае жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя,
Пад зарою жалі,
Сярпы пазламалі.

## 349ю. ІШОЎ БОГ ДАРОГАЮ

Ішоў бог дарогаю,
А за богам Тодарка:
— Ка мне, божа, ка мне
І з густымі капамі,
З вялікімі стагамі.
У мяне гумно вялікае,
Азяроды высокія,
Пераплёты шырокія,
А засекі глыбокія;
Ёсць дзе павярнуцца
З густымі капамі,
З вялікімі стагамі.

## *349я. ІШОЎ РАЁК

Ішоў раёк
Дарогаю.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Зайдзі, раёк,
У наш дварок.

Нашы двары
Мяцёныя.

Нашы сталы
Дубовыя,

Настольнічкі
Бялёвыя.

Зайдзі, раёк,
У наш дварок.

Наша паня
Спужалася,

У святліцу
Схавалася.

Выйдзі, паня,
У атласе.

Прымі вянок
У золаце.

## 350. МІЛЫ МАЕ ТАЛАЧАНАЧКІ

Мілы мае талачаначкі,
Садзіцеся радком
Да частуйцеся мядком,
Мядком саладзенькім,
А віном зеляненькім.

## 350а. ГАСПАДАР ЖНЕЯМ РАД

Гаспадар жнеям рад:
— Садзіцеся, жнейкі, ў рад.
А жнеечкі за ложкі,
Гаспадынька ў слёзкі:

— А божа ж мой, хлеб паелі!
Накрышыла буракоў,
Наварыла клёцак,
Накідала почак,
Наварыла кашы,
Насыпала сажы.

## 351. ІВАНАВЫ ПЧОЛКІ ПА ПОЛІ ЛЯТАЛІ

Іванавы пчолкі па полі ляталі.
Чэсць яму, хвала яму, па полі ляталі.
Па полі ляталі, мядок сабіралі.
Чэсць, яму, хвала яму, мядок сабіралі.
Мядок сабіралі, ў кубкі налівалі.
Чэсць яму, хвала яму, у кубкі налівалі.
У кубкі налівалі, жнеек частавалі.
Чэсць яму, хвала яму, жнеек частавалі.

## 352. ПАХІЛІЎСЯ ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК У СІНЮ ДУБРОВУ

Пахіліўся зялёны дубочак
У сіню дуброву,
Пакланіўся малады малойчык
Да свайму татульку:
— Закладайце вараныя коні,
Каваныя колы,
Пайду шукаць багатага цесця,
Харошай паненкі.
Ой, не знайшоў багатага цесця,
Харошай паненкі,
Толькі знайшоў я мізэрнага цесця,
Ласкаву паненку.

### 352а. ПАХІНУУСЯ ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Пахінуўся зялёны дубочак
З гары да ў далочак,
Пахінуўся.
Пакланіўся малады малодчык
Для роднай матулі,
Пакланіўся.
Паехаў ён долам-далінаю,
Чужой стараною,
Паехаў ён.
Да й пашукаць багатага цесця,
Ласкавай паненкі,
Пашукаць ён.
Праездзіў ён жалезныя колы,
Вараныя коні,
Праездзіў ён.
Не знайшоў ён багатага цесця,
Ласкавай паненкі,
Не знайшоў ён.

### 353. КАБ НАМ ТРОМ, ЧАТЫРОМ ШЫРОКАЕ ПОЛЕ

Каб нам тром, чатыром шырокае поле,
Хоць ба ж мне пажынаць.
Каб нам тром, чатыром
Бочка з віном,
Хоць ба ж мы палівалі.
Каб нам тром, чатыром
А рэшатка пірагоў,
Хоць ба ж мы паядалі.
Каб нам тром, чатыром
Скрыпачка з дударом,
Хоць ба ж мы пагулялі.

## 353а. КАЛІ Ж БЫ НАМ ЧАТЫРОМ

Калі ж бы нам чатыром
Гарэлачкі з імбаром,
Калі ж бы нам чатыром
Каробачка пірагоў.
Калі ж бы нам чатыром
Ды скрыпачка з цымбалом,
Калі ж бы нам чатыром
Малойчычак чапурэнь,
Каб і піпкі не курыў
Й табакі не нюхаў,
Чужых жонак не любіў
І сплётак не слухаў.

## 353б. А КАБ НАМ ЖА ЧАТЫРОМ

А каб нам жа чатыром
Па коніку вараном,
Мы ж бы сабе паязджалі.
А каб жа нам чатыром
Гарэліцу з каўбуром,
Мы ж бы сабе папівалі.
А каб жа нам чатыром
Па вячэраньцы смашнай,
Мы ж ба сабе паядалі
А каб нам жа чатыром
Па скрыпачцы з дударом,
Мы ж бы сабе пагулялі.
А каб жа нам чатыром
Па малойцу маладом,
Мы ж бы сабе жартавалі.
А каб жа нам чатыром
Пасцеленька мякка,
Мы ж бы сабе паспалі.

## 354. ОЙ, У САДЗЕ, У САДОЧКУ

Ой, у садзе, у садочку
Птушачкі шчабяталі,
Зязюлечкі кукавалі.

Каго ж яны пацяралі
І нікому не сказалі?
Пацяралі ж яны салавейку.
— Каго ж пашлём у пагонку?
Пашлём, пашлём верабейку:
— Вярнісь, вярнісь, салавейку,
Без цябе ж няма вяселля ў садочку,
Без цябе не сядзіць гаспадар у дамочку.
Без цябе і птушачкі не шчабечуць,
Зязюлечкі не кукуюць.
А ў дому, у дамочку
У Васілька на дварочку,
Там жнеечкі пяюць і іграюць,
Дажыначкі памінаюць.
— Да каго ж яны пацяралі?
— Пацяралі гаспадарочка.
Каго ж, каго пашлём у пагоню?
— Пашлём, пашлём яго сыночка:
— Вярнісь, вярнісь, татачка.
Без цябе ўдому невясёлая матачка,
Без цябе жнеечкі невясёла пяюць,
Без цябе гарэлачкі не п'юць.

## 355. ДЫ ХАДЗІЛА КАРАЛЁВА ЖОНКА

Ды хадзіла каралёва жонка
з каралём па полі,
Ды прасіла каралёва жонка за
караля бога.
— Дай божа, каб майго караля
на вайне забілі,
А я вышла б за другога ды за
маладога.
Малады ўмееці і чытаць, і пісаць,
і ў скрыпачку граць,
А я ўмею і скакаць, і плясаць,
і ў ладошкі пляскаць.

## 355а. ДА ХАДЗІЛА КАРАЛЕВА ЖАНА ПА ЧЫСТАМУ ПОЛЮ

Да хадзіла каралёва жана па чыстаму полю,
Да насіла каралёва жана маладога дзіцяцю,
Да прасіла каралёва жана да госпада бога:
— Дай, дай, божа, каб майго караля на вайне забілі,
Тагды б я, малада, за другога пашла, ды за маладога,
Каб умеў і чытаць, і пісаць, і ў скрыпачку іграці,
А я б, малада, і скакаць і плясаць,
І ў далоні пляскаць.

## 356. ЖАЛІ-РАДЗЕЛІ — ГАРЭЛКІ ХАЦЕЛІ

Жалі-радзелі — гарэлкі хацелі,
Жнеі нашы малы снапы паламалі,
Сярпы паламалі — ў постаць закідалі,
Калі б наша змога, нажалі б мы многа,
Калі б наша сіла, ў кучу знасілі.
А ці рада наша гаспадыня,
Што мы ёй пажалі?
Калі б яна рада, яна нас сустрэла
З хлебам і соллю,
З салодкай гарэлкай.

## 357. У НАШАГА ПАНА

У нашага пана
Гарэлачка купа,
Даець жнеям скупа,
Па адной чарачцы
І не няволіць.
Спасіба, ямосці,
Што пазваў у госці.
У нашага гаспадара
Кудрава галава,

Кудзерчыкі патрасець —
Гарэлачкі напрасець,
Кудзерчыкам пакалоціць —
Гарэлачку пасалодзіць.
Нам тром-чатыром
Гарэлачкі лапуром.

### 358. ПАВАЛАМ, ЖНЕЙКА, ПАВАЛАМ

Павалам, жнейка, павалам
За нашым панам нядбалым,
Каб жа наш пан а то дбаў,
Даўно жытанька ў гумне мяў.
Ходзе наш пан па полю:
— Дадому, жытка, дадому,
Настаялася на полю,
Нагулялася ды ў волю.
Да дадому, жытка, ў гасціны,
Пойдзеш на поле на зіму.
— Лепей мне ў полі зімаваці,
Анеж у гумне ваяваць.

### 359. ЗДАРОУ БУДЗЬ, ПАНЕ, ЖЫТА ЗЖАУШЫ

Здароў будзь, пане, жыта зжаўшы,
У снапочкі павязаўшы
І ў копачкі паскладаўшы.
Табе, пане, дажыначкі,
А нам яшчэ па чарачцы гарэлачкі.

### 360. У НАШАГА ПАНА

У нашага пана
Харашэнька на двара
Пабудованы свірнэ,
Да й гонтамі пакрываны,
Сабалямі пабіваны.

Да й гонцікі беленькія,
Саболікі чорненькія.
Да цераз двор Дунай плыве
Трыма ручаямі:
Да ў першым ручаю
Гарэліца горка,
А ў другім ручайцу
Вінцо зеляненька,
А ў трэцім ручайцу
Мядок саладзенькі.
Вінцо зеляненька
Самому пану піці,
Гарэліцу горку
Яго жнейкам даці,
Мёдзік саладзенькі
Яго слугам даці.

### 360а. У НАШАГА ПАНА ХАРАШЭНЬКА НА ДВАРЭ

У нашага пана харашэнька на дварэ,
Харашэнька на дварэ пабудаваны свірнэ:
Гонтамі пабіваны, саболямі пакрываны.
Каля таго будыначка не сокал палятае —
Наш пан пахаджае
Да за ім дзеткі, як рой высыпае,
Як мак зацвітае.

### 360б. ДА Й У НАШАГА ПАНА

Да й у нашага пана
Харашэнька на дварэ
Пабудована свірнэ:
Да з цясовага лесу,
З салаўёвага голасу.

А наш пан маладзенькі
Ходзіць у аксаміце,
Жонка яго ў золаце,
А дзеткі яго ў кітайцы.
Ой, скацілася зара
Да із панскага двара,
Да не есць гэта зара,
Гэта панская жана.

## 361. А У НАШАГА ПАНА

А ў нашага пана
Ды на двары куна йграла,
На двары куна йграла,
З сабалямі размаўляла:
— Ой, саболю, саболю,
Пагуляйма з табою,
Пагуляйма з табою,
Як рыбанька з вадою.
Як шчука-рыба з плотачкамі,
А я, маладая, з дзевачкамі,
Я ж, малада, з малайцамі.

## 361а. У НАШАГА ПАНА НА ДВАРЭ

У нашага пана на дварэ
Куна іграла,
Сабаля вызывала:
— Саболю, саболю,
Пагуляем з табою,
Развесялім пана
І паню маладую,
Чэлядзь яго коланую,
Дзеткі яго маленькія,
Служкі яго вярненькія.

## 361б. ОЙ, САБОЛЮ, САБОЛЮ

Ой, саболю, саболю, *
Пагуляем з табою.

— Як я маю гуляці,
Вяліць пан застраляці.

Жане шубу пашыці,
Сабалём аблажыці,

А з лапачак шапачку,
Жане на галовачку.

## 362. А НАШ ПАНОК МАЛАДЫ

А наш панок малады,
Пад ім конік вараны,
Ён паехаў палявацъ,
А бог яму шчасце даў:
Дзевяць лісаў ўпаляваў,
Дзевяць лісаў ўпаляваў,
Дзесятага сабаля,
Чым дарыці караля.
— А йдзі, жонка, ў піўніцу,
Утачы мёду даніцу,
Наша сям'я нямала,
Вып'ем мёду два вара.
А йдзі, жонка, ў піўніцу,
Утачы мёду даніцу,
Наша сям'я нямала,
Вып'ем мёду тры вара...

## 363. У НАША ПАНА ЗЛОТЫ ЗБАН

У нашага пана злоты збан, **
Ён дажаўніваньку ў добры час,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

** Кожны радок паўтараецца двойчы.

А чужыя паны лянівы,
У іх стаіць ніванька да зімы,
Спусціла калоссе да зямлі.

## 364. ЖЫВЕШ, НАШ ПАН, У ДАБРЫ

Жывеш, наш пан, у дабры,
Нясі нам гарэлку ў вядры.
Жывеш, наш пан, у павазе,
Нясі нам гарэлку ў баклазе.
Жывеш, наш пан, у дамоўцы,
Нясі нам гарэлку ў яндоўцы.
Наш пан кудрамі патрасець,
Нам гарэлачкі прынясець.

## 365. У НАШАГА ПАНА ДАЖЫНАЧКІ

У нашага пана дажыначкі.
Закалоў ён дзве свіначкі,
Трэцяга качэра,
Каб была добра вячэра.

## 366. А У НАШАГА ГАСПАДАРА

А ў нашага гаспадара
Кудравая галава,
Ён кудрамі патрасе,
Нам гарэлкі паднясе,
Ой, люлі, люлі,
Нам гарэлкі паднясе.

## 367. А ХТО У НАС КУДРАВЫ

А хто ў нас кудравы *
Кудрават, кудрават?

— Іван у нас кудрават,
Кудраваты, кудрават.

Ён кудрамі патрасець,
Патрасець, патрасець,

Нам гарэлкі прынясець,
Прынясець, прынясець.

Мы гарэлачку пап'ем,
Пап'ем, пап'ем,

Яму кудры абарвем,
Абарвем, абарвем.

## 367а. У НАШАГА ГАСПАДАРА КУРЧАВАЯ ГАЛАВА

У нашага гаспадара курчавая галава,
Курчавая галава, шаўковая барада,
А ён кудзеркамі патрасець —
Нам гарэлкі прынясець,
Ён бародкай патрасець —
Нам салодкай прынясець.

## 367б. У НАШАГА ГАСПАДАРА

У нашага гаспадара
Кудравая галава,
Шаўковая барада.
Кудзюрачкам патрасець,
Гарэлкі прынясець.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

А ён нясці не хочыць,
А вып'ем — захочым.
А ён нясець нехаця,
А мы п'ём хахача.

## 368. НАШ ХАЗЯІН ДУНАЙ

Наш хазяін Дунай,
Хазяюшка, як маліна,
Хазяіна абманіла.
Наш хазяін сыту сыціць,
Хазяічка — гарэлачку,
Наш хазяін гасцей поіць,
Хазяюшка — сямеюшку.
Госці будуць да паедуць,
А сямейка са мною будзець!

## 368а. ГАЛУБОК БАБОК ШЧЫПІЦЬ

Галубок бабок шчыпіць,
А галубка — сакавіцу.
Наш панок мядок сыціць,
А імасць гарэліцу.

## 369. ДЫ ЗЯЛЁН НАШ БОР, ЗЯЛЁН

Ды зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі,
Ды багат наш пан багат
Над усімі панамі.
Ды кола яго двору
Цячэць тры ручаёчкі:
Першы ручаёчак —
То зялёнае віно,

Другі ручаёчак —
То салодкі мядок,
Трэці ручаёчак —
То пшанічнае піва.
Ды зялёнае й віно
То для самаго яго,
А салодкі мядок
То для дзетачак яго,
А пшанічнае піва
То для жнеечак яго.

## 369а. ДА ЗЯЛЁН ЯВАР, ЗЯЛЁН

Да зялён явар, зялён
Ў агародцы на градоццы!
Да вясёл наш пан, вясёл,
Усё жыта пажаўшы
Да ў копы паклаўшы.
Нашы копы капавасты,
Нашы сцірты верхавасты.
Судзіў бог пазбіраці,
Судзі, божа, спажываці
У міры, у пакою,
У добрым здароўі!
Судзіў бог пазбіраці,
Судзі, божа, спажываці.

## 369б. А НАШ БОР ЗЯЛЁН-ЗЯЛЁН

А наш бор зялён-зялён. *
А за што ж ён зялён-зялён?

За тое ён зялён-зялён,
Што ў яго дуб'я многа,
Бярэзнічку маладога.

А наш хазяін багат-багат.
А за што ж ён багат-багат?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

А за тое ён багат-багат,
Што ў яго дабра многа:

Арэшанога, яравога
Арэшанога, яравога,
Пшанічнага, ярышнага.

### 369в. ДА ЗЯЛЁН ЯВАР, ЗЯЛЁН

Да зялён явар, зялён
Над усімі яварамі.
Да багат наш пан, багат
Над усімі панамі.
Да становіцца два двары
З цясовага цесу,
З кралявецкага лесу.
Гонтамі пабівае,
Да золатам высыпае,
Да золата, золата!
На таку змалочана,
Ў святліцу прынесена
Да на стале насыпана.
Хто золата пералічыць,
Той на вайну не пойдзе.
Наш панічак маладзенькі,
Ён золата пералічыць,
Ён на вайну не пойдзе,
Пашле каня варанога,
Чалавека маладога,
Пашле каня ўбранага,
Чалавека каханага.

### 369г. ДА БАГАТ НАШ ПАН, БАГАТ

Да багат наш пан, багат, *
За ўсіх багацейшы.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Выкаціў бочку піва,
А другую гарэлкі,

А другую гарэлкі,
Упаіў свае жнейкі.

Жнейкі паўпіваліся
І жаць завіваліся.

## 369д. ВЯЛІК НАШ БОР, ВЯЛІК

Вялік наш бор, вялік
Над усімі барамі,
Багат наш пан, багат
Над усімі панамі.
Няма-такі пана дома,
Паехаў ён у Шклова
Чарачак пакупаці,
Жнеечак частаваці.
Нашы жнейкі маладыя,
Іх сярпочкі залатыя,
Па месячку жыта жалі
І сярпочкі паламалі.

## 369е. ОЙ, БАГАТ НАШ ПАН, БАГАТ

Ой, багат наш пан, багат *
Над усімі панамі:

А што ў нашага пана
Маляваная брама,

Залатыя вароцейкі,
За тымі вароцейкамі
Плывуць тры ручаёчкі:

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Першы жа ручаёчак —
Там салодкі мядочак,

Другі ручаёчак —
Краснае віно,

Трэці ручаёчак —
Горкая гарэліца.

### 369ж. ОЙ, ЗЯЛЁН ЯВАР, ЗЯЛЁН

Ой, зялён явар, зялён,
Над усіх ён й зеляней,
Ой, багат наш пан, багат,
Над усіх ён багацей:
Выкаціў бочку віна,
Папаіў дзевак і дваран,
Абжаў поле і курган.

### 369з. ЗЯЛЁН НАШ БОР, ЗЯЛЁН

Зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі,
А за што ж ён зялён?
Поўна красачак па ём.
Славен наш пан, славен
Над усімі панамі,
А за што ж ён славен?
Адно гумно жыта нажаў,
А другое ярыначкі,
А выкаціў бочку піва,
А другую гарэлачкі.
— Пійце, дзевачкі піва,
А жонкі гарэлачку.
А дзіва ж нам, дзіва,
Што пшоннае піва.
Чаго таму дзівіціся,
Што можна напіціся?

### 369і. ЗЯЛЕН НАШ БОР, ЗЯЛЕН

Зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі,
Хвалён наш пан, хвалён
Над усімі панамі:
Зняў шапачку, стаў на ганачку
Ды выкаціў бочку піва,
А другую гарэлкі,
Напоіць свае жнейкі.
Нашы жнейкі не жаўнеркі —
Не п'юць гарэлкі!

### 369к. ЗЯЛЕН БАРКУН, ЗЯЛЕН НАД УСЕ АГАРОДЗЕ

Зялён баркун, зялён над усё агародзе,
Харош наш пан, харош на вайне над усё пане:
На ём сукні ззяюць,
Пад ім коні граюць.
Да выкаць, пане, выкаць
Тры купе гарэлкі,
А чацвёртую мёду
Сваім жнейкам угоду.

### 369л. ЗЯЛЕН БАРКУН, ЗЯЛЕН БАРКУН

Зялён баркун, зялён баркун
Над усімі баркунамі,
Да багат наш Янка
Над усімі гаспадарамі.
Да дажаў жыта, да дажаў жыта
Да і ў чысценькаму полі,
Пасажаў жанцы да і ў новенькаму доме,
А сам пайшоў ў гумно спаці,
Вялеў жанцам пагуляці.

## 369м. ДА ЗЯЛЁН БАРОК, ЗЕЛЯНЕНЕК

Да зялён барок, зеляненек,
Зелен да над усімі барамі,
Да харош наш пан, харош
Да над усімі панамі.
Да барок сільна цвіце
Да шырокімі лістамі,
Да наш пан трахтуе
Да белымі вінамі,
Да разнымі сырамі,
Да віном зеляненькім,
Да мядком саладзенькім.

## 369н. А ЗЯЛЁН НАШ ГАЙ, ЗЯЛЁН

А зялён наш гай, зялён
Над усімі гаямі,
А хвалён наш пан, хвалён
Над усімі панамі:
Як выкаціў бочку мёду
А другую гарэлачкі:
Бочку мёду для дзевачак,
Гарэлачку для жоначак.
А дзевачкі гуляць будуць,
А жоначкі пяяць будуць...
У нас сення вайна была:
Усё поле зваявалі,
Усе жыта пажалі,
Змялі поле мяцёлкаю,
Пашлі дамоў вясёлкаю.

## 369о. А ЗЯЛЁН НАШ БОР, ЗЯЛЁН

А зялён наш бор, зялён
Над усімі барамі,
А славен наш пан, славен
Над усімі панамі.

Яго жнейкі маладыя,
Іх сярпочкі залатыя.
— А выкачу бочку мёду
А барылку гарэлкі,
А папаю свае жнейкі.
Мы бы мёду не хацелі,
Да мы б дамоў паляцелі.
У нас дамы далёкія:
Сем міль борам ісці,
А восьмаю Дунаем плысці.
А я Дунай пераплыву
Белаю лябёдкаю,
А бор пералячу сіваю зязюлькаю,
У свёкра на дварэ стану малодкаю.

## 369п. ОЙ, ВЫСОК НАШ БОР, ВЫСОК

Ой, высок наш бор, высок *
Над усімі барамі,

Ой, багат наш пан, багат
Над усімі панамі.

А ў нашага пана
Маляваная брама.

А з-пад той жа брамкі
Ручайкі працякаюць.

У адным ручаёчку
Горкая гарэліца,

А ў другім ручаёчку
То зялёнае віно,

А ў трэцім ручайку
Салодкі мядочак.

Той салодкі мядочак —
Ён для дзетачак яго,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

А зялёнае віно
То для пана нашага,

Горкая гарэлачка
Для работнічкаў яго.

## 369р. ЗЯЛЁН НАШ БОР, ЗЯЛЕН

Зялён наш бор, зялён,
Славён наш пан, славён.
Да зялён жа наш бор
Над усімі барамі,
Да славён жа наш пан
Над усімі панамі.
Па двару куна іграе,
Саболю вызывае:
— Да саболю, саболю,
Да выйдзі па полю,
Пагуляем з табою,
Развесялім свайго пана.
Наш пан вялікую думу мае,
Тры двары будуючы:
Адзін двор у Вальшанове,
А другі двор у Львове,
А трэці двор ў сваім доме.
Да Альшан дачку дае,
А ў Львове сына жэніць,
А ў сваім доме сам жывець.

## 370. НАШ ГРЫГОРКА БАГАТ, БАГАТ

Наш Грыгорка багат, багат,
Купіў жонцы кабат, кабат,
У кабаце жыта жаці,
А ў золаце танцаваці.

## 371. ЖЫТА МАЁ, ЖЫТА, ЖЫТА ЗАЛАТОЕ

Жыта маё, жыта, жыта залатое,
На таку малочана, на століку пакочана!
Хто ж яго пераліча,
Той на вайну не пойдзе,
Пашле служку вярненькую.
Тая служка ваяваць будзе,
А ён сам панаваць будзе,
Служка будзе на коніку,
А сам будзе ў пакоіку,
Служка будзе паязджаць,
А ён будзе пахаджаць.

## 371а. ЗОЛАТА, ЗОЛАТА НА ТАКУ МАЛОЧАНА

Золата, золата на таку малочана,
Да святліцы прынесена,
На століку насыпана.
Хто золата пералічыць,
Той на вайну не паедзе.
Наш панічак маладзенькі
Ён золата пералічыць,
Ён на вайну не паедзе,
Пашле каня воранога
І сядзелка залатое.

## 371б. ДА ЗОЛАТА, ЗОЛАТА

Да золата, золата
На таку малочана,
А на стале насыпана.
А хто золата пералічыць,
Той на вайну не паедзе.
Абазваўся Сымонка:

— Я золата паралічу,
А на вайну не паеду.
Вышлю сына маладога
І коніка варанога:
Конік будзе гарцаваці,
Сынок будзе ваяваці,
Я сам молад панаваці.

### 371в. ЗОЛАТА, ЗОЛАТА

Золата, золата,
Усё яно не вората.
Хто золата пераліча,
Той на вайну не паедзе.
Абазваўся сужанька:
— Я золата паралічу,
На вайну не паеду.
Узяў каня варанога,
Вазнічаньку маладога.
Конік будзе гарцаваць,
А вазнічанька ваяваць,
А сужанька піць, гуляць.

### 371г. ОЙ, ЗОЛАТА, ЗОЛАТА

Ой, золата, золата
На таку малочана,
Па скамлі пакочана.
А хто золата пераліча,
Той на вайну не паедзе.
Наш паніч маладзенькі,
Ён золата паралічыць,
Ён на вайну не паедзець,
Пашле служку верненькага
І коніка вараненькага,
Пашле слугу каханага
І коніка прыбранага.

Служка будзе ў акопіку,
А наш пан у пакоіку,
Служка будзе ваяваці,
А наш пан панаваці.

### 372. ДА СМУТНА НАША ПАНІ, СМУТНА

Да смутна наша пані, смутна,*
Да згубіла яна ключы,

Па шырокай вуліцы
Да з каралямі танцуючы.

Да ішлі жанцы маладыя
Да нашлі ключы залатыя.

— Ой, калі б яны знайшлі,
То бы заране дамоў прышлі.

Ой, а то ж бо іх нету
Да й да беленькага свету.

— Да не журыся, наша пані,
Усё залатымі ключамі,

Бо йшлі жанцы маладыя
Да знайшлі ключы залатыя.

### 372а. ЧАС-ПАРА ДАХАТЫ

Час-пара дахаты
Да баюся войчанька:
Пагубіла ключыкі,
На турэцкай вуліцы
З кавалерам танцуючы,
З панічом жартуючы.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

А хто мае ключы найдзе,
Пераём таму будзе,
Чашку мёду залатую
І паненку маладую.

## 373. ОЙ, РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЕЛКА

Ой, рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала,
Рада, рада...
Ой, рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажала,
Рада, рада...
Рада, рада, што не трэба па сялу хадзіць,
Жнеечак прасіць,
Рада, рада...

## 373а. РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЕЛКА

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала.
Радзей таго наша гаспадынька,
Што жыта дажала.
— Буду па двара хадзіць і ключыкі насіць,
Буду цяпер служачкі будзіць:
Уставайце, служкі, вы мае дачушкі!
Есць каму парадкі вадзіць,
А некаму работкі рабіць!

## 373б. РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЁЛКА

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта дажала.

Перамёрзла шэра перапёлка
Глыбока ў крыніцы,
У сцюдзёнай вадзіцы.

Перамёрзла наша гаспадынька
Без жытняга хлеба,
Без кіслага квасу.

Радзей таго наша гаспадынька,
Што жнеек сабрала
І жыта дажала.

### 373в. РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЁЛКА

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала,
Рада, рада.
Й рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта пажалі,
Рада, рада.
Й надаела па полю хадзіці,
Гаршочкі насіці,
Надаела, надаела.

### 373г. РАДА, РАДА ПЕРАПЁЛАЧКА

Рада, рада перапёлачка,*
Што лета даждала,
Рада, рада гаспадынька,
Што жыта пажала.
І пажалі, павазілі
І ў торпачкі палажылі.
Сягоння ў нас дажыначкі,
Дасць гаспадар гарэлачкі,
Белы сыр на талерку,
Закусіць нам гарэлку.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 373д. РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЕЛКА

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета дождала,
Рада, рада.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта сажала,
Рада, рада.
Рада, рада, што жыта сажала,
У снапочкі павязала,
Рада, рада.
Рада, рада, у снапочкі павязала,
У бабачкі пастаўляла,
Рада, рада.
Рада, рада, у бабачкі пастаўляла,
У копачкі пасчытала,
Рада, рада.
Досыць, досыць нашай
гаспадыньцы
Па полі хадзіці,
Досыць, досыць,
Досыць, досыць па полі хадзіці,
Гаршчочкі насіці,
Досыць, досыць,

## 373е. РАДА, РАДА ШЭРА ПЕРАПЁЛКА

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала,
Рада, рада.
Рада, рада наша гаспадынька,
Што жыта сажала,
Рада, рада.
Досыць, досыць шэрай
перапёлцы
Па полі лятаці,
Досыць, досыць
Па полі лятаці,
Крылейкамі махаці,
Досыць, досыць.

Досыць, досыць нашай
гаспадыні
Па полі хадзіці,
Досыць, досыць
Па полі хадзіці,
Гаршочкі насіці,
Досыць, досыць.

## 374. АХ ВЫ, СТОЛІКІ МАЕ

Ах вы, століці мае,
Вы цясовенькія,
Ох, і што ж вы стаіцё
Незасцеленыя?
Ах, вы жнеечкі мае,
Вы маладзенькія,
Ах, і што ж вы сядзіце
Невясёленькія?
Ці мой хлебушка пушон,
Ці хазяін не вясёл?
Калі хлебушка пушон,
Дык я выпалую,
Калі ж муж мой невясёл,
Дык я выпытаю.
Бабровыя кажухі
Ды на сценцы вісяць,
Мужычковы норавы
Ды на плечках ляжаць.

## 375. ДУБОЧАК ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Дубочак зеляненькі,
Наш пан маладзенькі.
Ляшчына зелянейша,
Наша пані маладзейша.
Шчасце, долю маюць,
Рана з поля збіраюць.

## 376. НАША ПАНІ ДАБРАДЗЕЙКА

Наша пані дабрадзейка,*
Да злавіла верабейку,
На тры кухні гатавала,
На сем сталоў выдавала,
На сем сталоў выдавала,
Яшчэ й пану пакідала.

## 376а. НАША ПАНІ ДОБРА, ДОБРА

Наша пані добра, добра
Да забіла бобра, бобра,
На тры кухні гатавала,
На тры сталы выдавала.
Трое госці частавала:
Першы госці — ратайнічкі,
Другі госці — то косчыкі,
Трэці госці — то жанчыкі.
Пасаджалі радком,
Частавалі мядком
Да ў новенькай каморы
Да вялелі пагуляці.
А наш пан маладзенькі
П'е мёд саладзенькі,
А яго дзеткі —
Да зялёнае віно,
Маладыя жанчыкі —
Да горку гарэлку.

## 377. СІВАЯ ЗЯЗЮЛЯ

Сівая зязюля
Да не дома зімавала.
Зімаваў наш пан дома,
А цяпер ў дарозе.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

Вярні яго, божа,
На цёплую вячэру,
На гарачую гарбату,
На мяккія падушачкі,
Да пані душачкі.

### 378. ЧЫЕ ГЭТА КОНІКІ

Чые гэта конікі
Прышлі з дарожачкі,
Падбілі ножачкі?
Да не так яны ішлі,
Да дарагі тавары вязлі.
Да Андрэйкі коні
Прышлі з дарожачкі,
Падбілі ножачкі.
Да не так яны ішлі,
Да дарагі тавары вязлі:
Вязлі скрынку каваную
І паненку каханую,
Вязлі скрыпку залатую,
Для паніча паненку маладую.

### 379. ГАВАРЫЛА ПОЛЕ ШЫРОКАЕ

Гаварыла поле шырокае,
Жыта ядронае:
— Не магу я на полі стаяці,
Каласочкам махаці,
Толькі магу на полі капамі,
У гумне стагамі.
Гаварыла сужанькава маці:
— Не магу я па двару хадзіці,
Ключыкі насіці,
Толькі магу за сталом сядзеці,
Чарачкі налівацi,
Гасцей частаваці
Віном зеляненькім,
Мядком саладзенькім.

## 379а. ШТО МОВІЛА ЯДРАНОЕ ЖЫТА

Што мовіла ядраное жыта,
На полі стоячы:
— Я не магу на полі стаяці
І каласкоў трымаці,
Толькі магу на полі капамі,
А ў гумне стагамі.
Што мовіла наша гаспадынька,
Па двару ходзючы:
— Я не магу па двару хадзіці,
Ключыкаў насіці,
Толькі магу за сталом сядзеці,
Віно, мядок піці,
З мілым гаварыці.

## 379б. ГАВАРЫЛА ПОЛЕ ШЫРОКАЕ

Гаварыла поле шырокае
Жыта яравое:
— Не магу ж я ў полі стаяці
Каласоў дзяржаці,
Толькі ж я магу
А ў полі снапамі,
А ў гумне стагамі,
А ў гумне стагамі,
У закрамах зярнамі.
Гаварыла маладая Манечка
Свайму татульку:
— Не магу я ў татулькі жыці,
Работку рабіці,
Толькі ж я магу
У свёкра жыці,
Свёкарку гадзіці.

## 379в. У ПОЛІ ПШАНІЦА

У полі пшаніца
Каласочкам кліча,
Коласам махае,
Голасам гукае:

— Хоць мяне сажніце,
Хоць у ствол пусціце,
Не магу стаяці,
Коласу дзяржаці.
Красная дзяўчына
Па двару хадзіла,
З бацькам гаманіла:
— Хоць мяне аддайце,
Хоць зяця прымайце,
Не магу хадзіці,
Русых кос насіці.

## 379г. ШТО КАЗАЛА РЖАНОЕ ЖЫТА?

Што казала ржаное жыта,
У полі стоячы,
Што казала?
То казала ржаное жыта,
У полі стоячы,
То казала:
— Я й не магу ў полі стаяці,
Калоссямі махаці,
Я й не магу,
Толькі магу ў полі снапамі,
У гумне тарпамі,
Толькі магу!
Што казала наша пані маладая
З вялікага двору,
Што казала?
То казала наша пані маладая
З вялікага двору,
То казала:
— Я й не магу ў полі стаяці,
Жнеек даглядаці,
Я й не магу,
Толькі магу за сталом сядзеці
Мёд, віно піці,
Толькі магу.

Толькі магу мёд, віно піці,
З панам гаварыці,
Толькі магу.
Тольку магу з панам гаварыці,
Золата лічыці,
Толькі магу.

## 379д. ГАВАРЫЛА БОЧАЧКА

Гаварыла бочачка,*
Па двару качаяся:

— Калі мяне не вып'еце,
Я сама разаб'юся.

Я сама разаб'юся...
На двару разліюся...

Гаварыла Волечка
Свайму роднаму татку:

— Калі мяне не выдасі,
Я сама замуж пайду,

Я коскамі апушчуся,
Я слёзкамі аблiюся.

## 379е. ГАВАРЫЛА ПШАНІЦА, У АГАРОДЗЕ СТОЯЧЫ

Гаварыла пшаніца, ў агародзе стоячы:
— Ой, жніце ж мяне да не спяліце ж мяне,
Бо не магу я стаяці, коласа судзяржаці,
Коласа ядранога да зярнятка залатога.
Гаварыла дзевачка, да ў царкве стоячы:

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Ой, вянчайце ж мяне, не закахайце,
Бо не магу я стаяці,
Не магу састаяці да вянка судзяржаці,
Вяночка руцвянога ля хлопчыка маладога.

## 379ж. ГАВАРЫЛА ЖЫТА ЯДРАНОЕ

Гаварыла жыта ядраное,
Ў чыстым полі стоячы, гаварыла:
— Авой, не магу ў полі стаяці,
Каласком махаці, ой, не магу.
Толькі магу ў полі капамі,
У гумне стагамі, толькі магу.
Гаварыла Маруська, у свёкра
быўшы:
— Авой, не магу у свёкаркі быці,
Свякроўцы гадзіці, ой, не магу.
Толькі магу у татулькі быці,
Мамульцы гадзіці, толькі магу.

## 379з. ОЙ, У ГАРОДЗЕ ПШАНІЦА

Ой, у гародзе пшаніца
Сама жаць просіцца:
— Або вы мяне сажніце,
Або касою скасіце.
Бо я вам уроны нараблю,
Залатыя зёрна пагублю.
— Ой, устань, мілы, не ляжы
Ды ідзі пшанічаньку скасі.
— Не устану, мілая, не пайду,
Бо я галоўкі не падыму.
Ой, пайдзі, мілая, да гаю,
Накапай зелля размаю.
Ой, пашла міла да гаю
Капаці зелле размаю,
Стала яна размай капаць,
Пачало зелле капаць...

## 379і. САКАТАЛА БОЧАЧКА

Сакатала бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не вып'еце,
Я сама разліюся
Па дварэ расіцаю,
За варота крыніцаю.
Гаварыла дочачка
Сваёй роднай мамачцы:
— Калі мяне не аддасцё,
Я ад вас сама пайду
Па двары мяцёлкаю,
Да мілога пчолкаю,
Па дварэ расіцаю,
Да мілога сініцаю.

## 379к. ГАВАРЫЛА ГАРЭЛАЧКА

Гаварыла гарэлачка *
Да на сваіх піваварaў:

— Калі мяне не ўварыце,
То вы мяне не ўдзержыце

Ні ў дубовых бочачках,
Ні ў зялёных абручыках.

Гаварыла ж Марусенька
На свайго бацюхна:

— Калі ж мяне не жэніце,
То вы мяне не ўдзержыце

Ні ў цёмнай цямніцы,
Ні ў светлай святліцы.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 379л. ГАВАРЫЛА СПЕЛА ЖЫТА

Гаварыла спела жыта:
— Жніце мяне, не спаліце,
А мне, жыту, не ўстаяці,
Каласочка не ўдзяржаці,
Каласочка ядранога
І зернятка спелага.
Гаварыла дзевачка:
— Вянчайце, не трымайце.
Мне, маладой, не ўстаяці,
Вяночка не ўдзяржаці,
Вяночка руцвянога,
Пярсцёначка залатога.

## 379м. І ГАВАРЫЛА ЯДРАНОЕ ЖЫТА

І гаварыла ядраное жыта
У полі стоючы,
Гаварыла:
— Я й не магу ў полі стаяці,
Каласком махаці,
Я й не магу.
І толькі магу па полю капамі,
Па таках тарпамі,
Толькі магу.
І гаварыла малада Верачка
Сваёй роднай мамцы,
Гаварыла:
— Я й не магу ў цябе, мамка, быці,
Вяночак насіці,
Я й не магу.
Толькі магу ў Алёшкі быці,
Чэпачак насіці,
Толькі магу.

## 379в. ПРАМОВІЛА ЯДРАНОЕ ЖЫТА

Прамовіла ядраное жыта,
У полі стоячы, прамовіла:
— Я не магу ў полі стаяці,
Каласоў дзяржаці, я не магу,
Толькі магу ў полі капамі,
У гумне тарпамі, толькі магу.
Толькі магу у гумне тарпамі,
У свірні гарудамі, толькі магу.
Толькі магу у свірні гарудамі,
На млыне прудамі, толькі магу,
Толькі магу на млыне прудамі,
А ў печы баханамі, толькі магу,
Толькі магу у печы баханамі,
На стале скібамі, толькі магу.

## 379о. САКАТАЛА БОЧАЧКА

Сакатала бочачка,
У піўніцы стоячы:
— Калі мяне не вып'еце,
Я сама разліюся,
Па лугу пакачуся.
Плакала дзяўчыначка,
У матулькі седзячы:
— Мамачка, аддай замуж,
А калі не аддасі,
Я сама замуж пайду:
А з хаты пехатою,
А з двара карэтаю,
А з двара карэтаю,
Маладой кабетаю.

## 379п. ЯРАЯ ПШАНІЦА ГАВАРЫЛА, У ПОЛІ СТОЯ

Ярая пшаніца гаварыла, ў полі стоя,
Што не магу ў полі стаяці, коласам махаці,
Толькі я магу ў гумне стагамі,
У полі капамі.

33. Зак. 713

Дзе лог — там стог,
Дзе гара — там капа.
Гаварыла гаспадыня свайму мужу,
Што я не магу жнеек вадзіці,
Толькі я магу з ключам па двару хадзіці,
Амбары адмыкаці, сталы задвігаці,
І скацерці рассцілаці, кублі наліваці
І жнеек прывітаці,
Зялёнае віно піці
І з мілым гаварыці — гэта я магу.

## 379р. А Ў ГАРОДЗЕ ПШАНІЦА КОЛАСАМ СТАЯЛА

А ў гародзе пшаніца коласам стаяла,
Ой, рана, рана, коласам стаяла.
Коласам стаяла, голасам крычала,
Ой, рана, рана, голасам крычала:
— Хоць вы мяне сажніце, хоць у ствол пусціце,
Ой, рана, рана, хоць у ствол пусціце,
Не магу я стаяці, колаcа дзяржаці.
Да мой каласок, як мескі піражок,
Да маё зярнятка, як праскурнятка.
Красная дзевачка па двару хадзіла,
Татачку прасіла: — Татачка родненькі,
Хоць за двор аддавайце, хоць у прымы прымайце,
Не магу хадзіці, русай касы насіці,
Белага ліца змываці;
Да мая каса да шолкава пояса.

## 380. А ЦІ ПОУНА АРЭХАВА ЧАШКА САЛОДКАГА МЕДУ?

А ці поўна арэхава чашка салодкага мёду?
— Так поўна, што не калыхнецца, не пальецца.
А ці поўна Грыгорава гумно жыта ядранага?
— Так поўна, што канём не ўехаць, пяшком не выйсці,
Толькі можна сокалу ўляцець дабра паглядзець!

## 380а. А ЦІ ПОЎНА АРЭХАВА ЧАРА?

А ці поўна арэхава чара
Ядром налівана?
— Поўна-поўненька арэхава чара
Ядром налівана.
А ці поўна Іванькава гумно
Дабра накладзена?
— Поўна-поўненька Іванкава гумно
Дабра накладзена:
А некуды конны праехаць,
Ні пехатой прайсці,
Толькі ёсць куды,
Толькі ёсць куды,
Салаўю лятаці, дабро наглядаці.

## 380б. ПОЎНА, ПОЎНА АРЭХАВА ЧАРА

Поўна, поўна арэхава чара
Ядром налітая,
Паўней таго Янкава гумно
Дабром налажона.
У яго нету ні сцежкі, дарожкі,
Куды ў гумно прайціць,
Толькі сцежка, толькі дарожка
Салаўю прылятаць.
— Што за дзела салаўю прылятаць,
Майго дабра прыглядаць,
Я сам маладзец: салаўём абярнусь,
Свайго дабра дагляджусь.

## 380в. ПОЎНА, ПОЎНА АРЭХАВА ЧАРА

Поўна, поўна арэхава чара
Мёдам налітая.
Паўней таго Міхалкава гумно,
Хлебам навезена.

Ды не можна ні пехатой прайсці,
Ні канём праехаць,
Толькі можна сокалу ляцець
І хлеба паглядзець.

## 380г. АЙ, ЦІ ПОУНА ЗАЛАТАЯ ЧАРА?

Ай, ці поўна залатая чара,
Віном налівана?
Ай, так поўна, што не скалыхнецца
Да й не разальецца.
Ай, ці поўна Колечкава гумно,
Добра навязёна?
Ай, так поўна — не ўвайці,
Не ўехаць дабра паглядзець.
Ай, ёсць у яго Колечка-сыночак,
Ясны сакалочак.
А ён у яго сакалом лятаець,
Дабро даглядаець.

## 381. ВЫХАДЗІЛА ЦЁМНАЯ ТУЧА

Выхадзіла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Выхадзіла,
Ды не вышла цёмная туча
З-за цёмнага лесу,
Ды не вышла.
Толькі ціхім прыгнала ветрам
Дробненькага дажджу,
Толькі ціхім.
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па шырокім полі!..
Ах, павейце!
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па ядраным жыце,
Ах, павейце!..

Выхадзіла к нам гаспадынька
Раненька на ніўку,
Ды не вышла.
Толькі слала сыноў-сакалоў,
Дачок-перапёлак,
Толькі слала.
Толькі слала дачок-перапёлак,
Нявестак-лябёдак,
Толькі слала.
Пажынайце, нявесткі-лябёдкі,
Дочкі-перапёлкі,
Пажынайце!
Паспрыяйце шыроканькай
ніўцы,
Ядранаму жыту,
Паспрыяйце!

## 381а. ОЙ, ЦІ ВЫШЛА ЦЁМНАЯ ТУЧА?

Ой, ці вышла цёмная туча
З вялікага лесу?
Да не вышла цёмная туча,
Да выслала буйныя ветры,
Буйныя ветры, дробныя дажджы.
Ой, ці вышла наша пані
З вялікага двору?
Ой, не вышла,
Да выслала жнейкі-сакол кі,
Дочкі-перапёлкі:
— Пажынайце малыя жнейкі,
Сярпы залаценькі,
Пастаўляйце па тры капы
І чатыры снапы.
— Не аддавайце мяне,
маладзеньку,
Да за старога.
Калі аддасце мяне, маладу,
Не бывайце ў мяне, маладзенькай,
Часта ў госцiках.

Калі будзеце ў мяне, маладзенькай,
Часта ў госцiках,
Пасаджу да стала плячыма,
Да сцяны вачыма,
Буду трактаваць гаркавым півам,
Дубовым кіем.
Калі аддасце мяне, маладзеньку,
Да за маладога,
То прыбывайце да мяне
Часта ў госцікі.
Пасаджу я вас да стала вачыма
Да сцяны плячыма,
Буду частаваць да мядовым слодам
Да зялёным вінам.

### 3816. ДА ЦІ НЕ ВЫШЛА

Да ці не вышла
Цёмная туча
З-пад цёмнага лесу,
Да ці не вышла?
Да й не вышла цёмная туча
З-пад цёмнага лесу
Да й не вышла,
Да высыпала дробнага дажджочку
І буйнага ветру.
Да й ці вышла наша гаспадынька
З сярпочкам на ніўку,
Да ці вышла?
Да й не вышла наша гаспадынька
З сярпочкам на ніўку,
Да й не вышла,
Да й выслала сыноў-сакалоў,
Дочак-перапёлак,
Да й выслала:
— Жніце, жніце сынкі-сакалкі,
Дочкі-перапёлкі, жніце, жніце.
Што знойдзеце ў жыце,
То сабе вазьміце.

## 381в. ВЫЙДЗІ, ВЫЙДЗІ, ЦЁМНАЯ ТУЧКА

Выйдзі, выйдзі, цёмная тучка,
Дый з-пад цёмнага лесу!
Дый не выйшла цёмная тучка
Дый з-пад цёмнага лесу,
Дый не вышла!
Дый выслала дый дробны дожджык,
Дый буйны вецер, дый выслала:
— Павей, павей, павей, буйны вецярок!
Выйдзі, выйдзі, наша гаспадынька,
Наша гаспадынька, дый сама трэцяя!
Дый не выйшла наша гаспадынька
Сама трэцяя на ніўку.
Дый выслала трох сынкоў-сакалкоў,
Дочак-перапёлак, дый выслала:
— Жніце, жніце, тры сынкі-сакалкі,
Дочкі-перапёлкі, дый жніце!
Дый нажніце дзевяць коп жыта,
Дзесяту — пшаніцы.
Дый выкачу дзевяць бочак піва,
Дзесяту — віна!

## 381г. ДА ЦІ ВЫЙШЛА ДА ЦЁМНАЯ ТУЧА?

Да ці выйшла да цёмная туча
З-пад цёмнага лесу?
Да не выйшла да цёмная туча,
Да не вышла,
Да высыпала да дробнага дождҗу
Да буйнага ветру.
Да ці выйшла наша гаспадынька
Раненька на ніўку,
Да ці выйшла?
Да не выйшла наша гаспадынька
Раненька на ніўку,
Да не выйшла,
Да высылала трох сынкоў-сакалкоў,
Дачок-перапёлак,
Да высылала мілых жней:

— Жніце- жніце, сынкі-сакалкі,
Дочкі-перапёлкі,
Жніце, жніце, мае мілы жнейкі,
Вам прынясу гарэлкі.
Жніце, жніце па халадочку —
Прынясу мядочку.
Жніце, жніце па шырокай ніве —
Прынясу вам піва.

## 381д. ЦІ НЕ ВЫШЛА ЦЕМНАЯ ХМАРА?

Ці не вышла цёмная хмара
З-пад цёмнага лесу?
Ці не вышла,
Да выслала дробны дождзык
Да буйныя ветры.
Ці не вышла наша пані
К жнейкам на падвор'е,
Да выслала сыноў-сакалкоў,
Дочак-перапёлак.
Падавала сынкам па канёчку,
Дочкам па вяночку,
Пасаджала сынкоў на парадзе,
Дочак на пасадзе.

## 381е. ВЫЙДЗІ, ВЫЙДЗІ, ЦЕМНАЯ ХМАРА

Выйдзі, выйдзі, цёмная хмара,
З вялікага лесу!
А не вышла цёмная хмара,
З вялікага лесу,
А выслала буйныя вятры,
Дробныя дажджы.
Выйдзі, выйдзі, маладая пані,
З новага пакою!

А не вышла маладая пані
З новага пакою,
А выслала сынка-пісарка,
Дачку-самадурку,
Сынка-пісарка — копы папісаці,
Дачку-самадурку — жнейкі палічыці.

## 381ж. ОЙ, ЦІ ВЫШЛА ЦЕМНАЯ ХМАРА З ВЯЛІКАГА БОРУ

Ой, ці вышла цёмная хмара з вялікага
бору,
Ой, ці вышла?
Ой, не вышла цёмная хмара з вялікага
бору,
Ой, не вышла.
Толькі выслала ціхія ветры і буйныя
дождж ы
Да й казала вятрам павяваці,
Дажджам паліваці,
Толькі казала.
Ой, ці вышла нашая пані з вялікага двору,
Ой, ці вышла?
Ой, не вышла нашая пані з вялікага двору,
Ой, не вышла.
Толькі выслала сыноў-сакалоў,
Толькі выслала.
Да й казала сынкам паляваці,
Дочкам вандраваці,
Толькі казала.

## 381з. ДЫ ЧЫ ВЫШЛА

Ды чы вышла
Цёмная туча
З-пад цёмнага лесу?
Ды чы вышла?

Ды не вышла
Цёмная туча
З-пад цёмнага лесу,
Ды не вышла.

Ды чы вышла
Наша гаспадынька
Раненька на ніву?
Ды чы вышла?

Ды не вышла
Наша гаспадынька
Раненька на ніву,
Ды не вышла.

Чы выслала
Буйныя ветры
І дробныя дождждзы?
Чы выслала?

Ды не выслала
Буйныя ветры
І дробныя дожджы,
Ды не выслала.

Ды выслала
Сем сынкоў-сакалкоў,
Дачок-перапёлак,
Ды выслала:

— Жніце, жніце,
Сынкі-сакалкі,
Дочкі-перапёлкі.
Жніце, жніце.

## 382. ДА УЖО СОНЦА ПА ПАЛУДНЮ

Да ўжо сонца па палудню,
Ужо жыта дажынаем,
Свайго пана выглядаем.

Ідзе панок маладзенькі,
За ім едуць фурманенкі,
Вязуць піва барэлкамі,
Гарэлку да й глячкамі,
Сыры й хлеб начоўкамі.
Вяліць жа пан палуднаваць,
Трэба ж яму да заспяваць.
Да наш панок маладзенькі
Да збыт жа ён дабрэнькі:
Яго піва шумны, смачны,
Ой, то яны да пшанічны,
Гарэлачка чыста, п'яна,
Бо яна да аржаная.
Сыры яго тлусты, сытны,
Хлябы яго да і смачны.
Дзякуй быў за дажынкі,
Табе, панок, за пасілкі,
Ужо мы поле зваявалі,
На дажыначках гулялі.

## 383. ЗАЛАТАЯ ДА МЯЦЁЛАЧКА

Залатая да мяцёлачка
Усё поле пазмётвала
І ў снапочкі звязала,
І ў капочкі паскладала,
І хазяіну вянок звіла,
І на голаў прынясла.

## 383а. ЗАЛАТАЯ МЯЦЁЛАЧКА

Залатая мяцёлачка
Усё поле падмятала,
Пазамятала, пасушыла,
У гуменцы павазіла.
Дай бог за год прыждаці,
Зноў вясёлым жыта жаці,
Свае лета праслаўляці.

## 383б. ШАУКОВАЯ МЯЦЁЛАЧКА

Шаўковая мяцёлачка
Памяла, папратала,
У сцірты паскладала.
Сцірты мае шырокія,
Стагі мае высокія.

## 383в. ЗАЛАТАЯ МЯЦЁЛАЧКА

Залатая мяцёлачка
Памяла й папратала
Да ў гуменца паскладала.
Судзі, божа, спажываці,
Да за рок прычакаці,
У радасці, ў весялосці,
У добрым здароўі.

## 384. ДА ПАДЗЯКУЙМА

Да падзякуйма богу
Да за яго выгоду:
Да за ціхае лета,
Да за буйнае жыта.
Да мы усё лета жалі,
Да не ляжалі,
Да не ляжалі,
Усё каласкі збіралі,
Да мы поле рачком сышлі,
Да пад мяжой вянок нашлі,
Да прынеслі на галоўцы,
Палажылі на талерцы.

## 384а. ПАДЗЯКУЙМА БОГУ

Падзякуйма богу
Да за ціхае лета,
Да за буйнае жыта,
Што мы жалі, пажыналі
І ўсё ў сцірты паскладалі,
І каб здаровы спажывалі.

## 384б. ХВАЛА ТАБЕ, БОЖА

Хвала табе, божа!
Хвала табе, божа,
Што мы дажаліся,
А суседзі нашы засталіся!
Нашы жнейкі маладыя,
Ў нас сярпы залатыя;
Мы на сонейку жалі,
Свае сярпы пазубралі.
У суседа жнейкі старыя,
Ў іх сярпы ламаныя;
Яны па месяцу жалі,
Свае сярпы паламалі.
Ды ў нас дажыначкі,
Хазяіну пажытачкі.

## 384в. ДЫ ХВАЛА БОГУ

Ды хвала богу:
Мы дажаліся,
А Пётрыны засталіся!
Нашы жнейкі маладыя,
Ў іх сярпочкі залатыя.
Яны жалі — спявалі,
Сярпы пазлачалі.
У Пётрыных жнейкі старыя,
Ў іх сярпы ламаныя,
Яны жалі — драмалі,
Сярпы паламалі.

## 384г. СЛАВА ТАБЕ, БОЖА

Слава табе, божа,
Што мы ўсё пажалі,
У копы паклалі.
У полі капамі,
На гумне тарпамі,
У клеці чацвярцямі.
У печы пірагамі.
Мы прыйдзем дамоў жа,
Напечана пірагоў,
Наварана кашы,
Набрана гарэлкі.
Кабы чарка гарэлкі,
Пірог на талерку!
Чые ж гэта жнеі,
Жнеі маладыя,
Сярпы залатыя?
Сярпочкі бразгочуць,
Гарэлкі хочуць.
Мы жалі, радзелі,
Гарэлкі хацелі,
Мы жалі, паспяшалі,
На край паглядалі.
Жнеі маладыя,
Сярпы залатыя!

## 384д. ДА СЛАВА ТАБЕ, БОЖА

Да слава табе, божа,
Што мы жыта пажалі,
Што мы жыта пажалі,
У снапочкі павязалі,
У снапочкі павязалі,
У бабачкі пастаўлялі.
Ой, раўняйцеся, копы,
У роўным полі стоячы,
У роўным полі стоячы,
На гуменца гледзючы.

## 384е. ОЙ, ХВАЛА ТАБЕ, БОЖА

Ой, хвала табе, божа,
Што мы жыта пажалі *
І ў снапочкі павязалі.
Як жа ж ніўка мая зжата,
Да снапочка звязата.
І звію 'шчэ снапочак,
Павязу яго ў точак,
Там цапамі змалачу
І снапочак патрасу
І ў багатыра не прашу.

## 385. ДЗЯКУЙ БОГУ ЗА ДАЖЫНКІ

Дзякуй богу за дажынкі,
Было піва і гарэлкі.
Што спілі і з'елі — прыспарай, божа,
Што каму далі — напаўняй, божа.

V

## 386. ДА НА ГАРЭ ВЕЦЕР ВЕЕ

Да на гарэ вецер вее,
Гаспадар жыта сее,
Да сеючы бога просіць:
— Зарадзі, божа, жыта,
На прышлае лета,
Да на корань караніста,
Да на колас каласіста,
Да на ядро ядраніста,
Да на таку умалотам,
А у млыне прымалотам,

---

* Гэты і далей кожны радок паўтараецца двойчы.

А ў дзяжы падыходам,
А ў печы румяна,
Да на стале кахана,
Да на стале, як сонейка,
Гаспадарам на здаровейка.

# ПЕСНІ ЗАЖЫНКАВЫЯ

## ЗАКЛІНАЛЬНЫЯ (1—3)

№ 1 *Да тэксту 1б*

♩≈72-80

Ра_дзі, по_ле, жы_ та, ра_ дзі п(ы)_ша_

_ні _ цу, ўся_ ку_ ю я_ ры_ цу.

№ 2 *Да тэксту 1в*

♩=108

(і) За_ ра_ дзі, бо_ жа,

жы_ та, за_ра _ дзі, бо_жа,

жы_та да напры_ шла_е ле_ та.

№ 3

Lento


Ой, ле_ та, ле_ та,


за_ра_дзі, бо_жа, жы_ та. Каб


з ад_ на_ го ка_ла_ со_ чка бы_


_ло жы_та бо_ чка. А


з яд_ ро_ чка— ка_ ро_ ба_ чка.

## № 4

Risoluto

♩ = 92

Ра_дзі, сон_ ца, жы_ та, жы_та і пша_

_ні_ цу, жы_та і пща_ ні_ цу

і у_ ся_ ку_ ю я_ ры_ цу.

## № 5 *Да тэксту 1*

Moderato

Ра_ дзі, сон_ ца, жы_ та і пша_ ні_ цу,

ра_дзі я_ ры_ ну ка_ па_ мі.

№ 6 *Да тэксту 2*

♪ = 138

1. Пой_дзем, дзеў_кі, пой_дзем, дзеў_кі, ка_ ля жы _ та,

ка _ ля жы _ та.

2. Ці не пой _ дзем,

ці не пой_дзем ка _ го ў жы_це, ка _ го ў жы_ це.

№ 7

Allegro moderato

Пой _ дзем, дзеў_кі, пой_дзем, дзеў_кі,

ка_ ля жы _ та, ка _ ля жы_ та.

№ 8

Moderato

Ой, ся_гон_ня за_жы... (ы)_на_ ч(ы)_кі,

дасць нам па_нок га_рэ_

_ла_ чкі.

№ 9 *Да тэксту 3е*

♪=72

Га_ ва_ ры_ ла по_ ле шы_ ро_ ка_ е,

жы_ та я_ дра_ но_ е.

# ПЕСНІ ЖНІЎНЫЯ

## СТРУКТУРА АА (10—44)

№ 10 *Да тэксту 43л*

Moderato

А я ўпо – лі жы – та жа – ла,
а я ўпо – лі жы – та жа – ла.

№ 11

♪=120

А я ўпо – лі жы – та жа – ла,
А я жа – ла, за – жа – ла – ся,
а я ўпо – лі жы – та жа – ла.
а я жа – ла, за – жа – ла – ся.

№ 12

♩=56

А я ўпо – лі жы – та жа – ла,
а я ўпо – лі жы – та жа – ла.

№ 13 *Да тэксту 48а*

Moderato



Ды я жа _ ла да ве _ ча _ ра,



ды я жа _ ла да ве _ ча _ ра.

№ 14 *Да тэксту 48*

Lento




1. А мы ў по _ лі жы _ та жа _ лі, а мы у по _




_ лі жы _ та жа... 2. І ў сна _ поч _ кі па _ вя _ за _ лі,




а і ў сна _ по... чкі па _ вя _ за...

№ 15

Andante



Да мы жа _ лі не ля _ жа _ лі,



да мы жа _ лі, не ля _ жа _ лі.

№ 16 *Да тэксту 47л*

♩=120

1. Жы_ та ма_ ё рэ_дзень_ ка_

_ е, жы_та ма_ ё рэ_ дзень_ка_ е.

2. Ба_літ жа мне ся_ рэ_ дзін_ ка,

ба_літ жа мне ся_ рэ_ дзін_ ка.

№ 17 *Да тэксту 250в*

♩=100

1. Ой ты, сон_ ца жар_ ка_ е, ой ты, со...

_нца жар_ ка_ е. 2. Ка_ла ле_ су ніз_ка хо_ дзіш,

ка_ ла ле_ су ніз_ ка хо_ дзіш.

№ 18 *Да тэксту 129*

♪=63

Ах ты, сон_ца, сон_ца жар_ ка_ е,
ах ты, сон_ца, сон_ ца жар_ ка_ е. (У!)

№ 19

♩=48–54

1. Яр_ка сон_ца за бор, за бор,
яр_ка сон_ца за бор, за бор. 2. Пус_ці, ніу_ка, у
двор, у д(ы)_вор, пус_ці, ніу_ка, у д(ы)_вор, у д(ы)_вор.

№ 20

Lento

Сон_ ца ні_ зень_ ка, ве_ чар блі_
_зень_ ка, не да_ жнуць, сон_ ца ні_
_зень_ ка, ве_ чар блі_ зень_ ка, не да_ жнуць.

№ 21

Lento


1. Да ўжо ж ве – чар ве – ча – рэ – е,


да ўжо ж ве – чар ве – ча – рэ – (й)...


2. Да ўжо ж наш пан ве – ся – ле – е,


да ўжо ж наш пан ве – ся – ле – (й)...


3. Сва – е жней – каў пад – га – ня – е,


сва – е жней – каў пад – га – ня – (й)...


4. Жні – це, жней – кі, не ста – і – це,


жні – це, жней – кі, не ста – і – (ць)...

№ 22

♩=100

А я сён_ ня за_ жа_ ла_ ся,

а я сён_ ня за_ жа_ ла_ ся.

№ 23 *Да тэксту 82г*

Moderato

Па_ ра, жон_кі, да_ моў іс_

_ці, да_ моў іс_ ці.

№ 24

♪=132

1. Ой, па_ ра да_моў, па_ ра,

ой, па_ ра да_моў, па... (ра).

2. Ха_лод_ на ра_ са па_ ла,

ха_ лод_ на ра_ са па... (ла).

№ 25

**Lento**

Ўжо(й) па – ра да – моў, па – ра,

ўжо(й) па – ра да – моў, па – (ра)...

№ 26 *Да тэксту 82i*

**Moderato**

1. Па – ра жне – ем да – моў іс – ці,

па – ра жне – ем да – моў іс – ці.

2. Па – ці – ра – ла за – ра клю – чы,

па – ці – ра – ла за – ра клю – чы.

№ 27

Moderato

Ой, ба‿ба‿чкі — ля‿бё‿ дач‿кі,

ба‿ба‿чкі — ля‿бё‿дач‿кі.

№ 28

Andante

На ба ло‿це ка‿сец

ко‿ сіць, на ба‿ло‿це

ка‿ сец ко‿ сі(ць).

№ 29

Moderato

1. За ба‿ло‿там кас‿цы ко‿ сяць,

за ба‿ло... ‿там кас‿цы ко‿сяць.

2. Я_ мы ко_ сяць і га_ ло_ сяць,

я_ ны ко... _сяць і га_ ло_ сяць.

## № 30

Allegro moderato

А ў по_ лі жы_ та не я_ рыц_ ца,

а ў по_ лі жы_ та не я_ рыц_ ца.

## № 31 *Да тэксту 2356*

Moderato

А ў по_ лі жы_ та не я_

Варыянт:

_рыц_ ца, а ў по_ лі жы_ та

не я_ рыц_ ца.

№ 34

♩=120



1. За – ра ма – я вя – чэр – ня(е) – я,



за – ра – ма – я вя – чэ – рня(е) – я.



2. Ўзый – дзі ра – на, па – стой по – зна,



ўзый – дзі ра – на, па – стой по – зна.

№ 35

♪=136



Ай, цё – мен бор вя – лік, вя – лік,



ай, цё – мен бор вя – лік, вя – лік.

№ 36 *Да тэксту 43з*

Andante

Што за ель- ніч- кам, за бя- рэз- ніч- кам, што за ель- ніч- кам, ых, за бя- рэз- ніч...-

№ 37 *Да тэксту 47і*

Allegro moderato

Ка- лых, ка- лых бя- ро- зань- ка. ка- лых, ка- лых бя- ро- зань- ка.

№ 38 *Да тэксту 244з*

Moderato

Як пай- ду я ка- ла лу- гу, як пай- ду я ка- ла лу- гу.

№ 39 *Да тэксту 43і*

♩=52

А ў нас сён_ ні бя_ да ста_ ла,

а ў нас сён_ ня бя_ да ста_ ла.

№ 40

♪=120

1. А на два_ рэ смяр_ ка_ ец_ ца,

а на два_ рэ смяр_ ка_ ец_ ца.

2. Ся_ м'я ў ха_ ту збі_ ра_ ец_ ца,

ся_ м'я ў ха_ ту збі_ ра_ ец_ ца.

№ 41 *Да тэксту 70д*

Moderato







№ 42

Andante


















№ 43

♩=76

1. Ка_ ля ле_ су ту _ ман, ту _ ман,

ка _ ля ле _ су ту _ ман, ту _ ман.

2. А на по_ лю па _ го_ дань_ ка (й),

а на по... _ лю па _ го _ дань _ ка.

3. Там гу _ ля _ ла ма _ ло _ дань _ ка (й)

там гу _ ля... ла ма _ ло _ дань _ ка.

4. Се_ я _ ла ра _ су — кра _ су,

се _ я _ ла (і) ра _ су — кра _ су.

№ 45 *Да тэксту 35г*

Andante

Па_ луд_ ніч_ кі за_ гу_ дзе_ лі, па_

_луд_ на_ вацъ за_ ха_ це_ лі.

№ 46 *Да тэксту 35э*

♩=104

Па_луд_ ніч_ кі за_ гу_ дзе_ лі

(і) жней_кі_ (е) піць за_ ха_ це... (лі).

№ 47 *Да тэксту 300б*

Moderato

Ой, я ў ба_ ры жы_ та _ жа_ ла,

ой, я жа_ла, не ля_ жа_ ла.

№ 48

♩=100

Ой, жа_ла я жы_цей_ка пры да_ро_ зе,

па_ве_сі_ла ка_лы_ сач_ку на бя_ро_ зе.

№ 49

Lento

А я жа_ла, пры_ жа_ ла_ ся,

мя_ дзве_дзі_ ка спу_ жа_ ла_ ся.

№ 50

Andante

А я ў по_лі жы_ та жа_ ла,

пры_шла да_моў — бя_ да ста_ ла.

№ 51 *Да тэксту 85п*

Moderato

Па_вей, па_вей, ве_ця_ро_чак,

пад мой бе_лы па_ла_жо_чак.

№ 52

♩ = 69

1. Ты не за_ха_дзі, (і) ой ты жар_ка_е сон_ца, _ца, (а)й а на пе_ра_дзе мя_не,

2. Ты ж не за_ця_кай ма_ё це_ла бе_ла_е і лі_чань_ка ру_мя_на_е.

№ 53 *Да тэксту 41*

Moderato

Па_слаў мя_не ж мой свё_кар_ка,

ай, на дуб_ро_ву жы_та жа_ці.

